ніякага сэнсу цягнуць далей лямку, якая завецца жыццём. У маёй смерці нікога не вінавачу. Прымі-ж, родны Дняпро, у сваё прадонне незадачлівага твайго сына».

Напісаўшы такую запіску, Дзячэнка прыехаў у Верхань да Віктара і жывіўся ад дароў а. Уладзімера.

Айцец Уладзімер быў у меру выпіўшы і ў добрым гуморы.

— Ты што-ж гэта так расскакаўся. Скуль у цябе гэты цялячы настрой? — запытаў ён Лабановіча.

— Эх, бацька Уладзімер: скачуць не толькі з радасці, але і з гора, — заўважыў настаўнік.

— Чуў, чуў, дружа... Эх, вы, мала сабе пад ногі глядзіце, вось і спатыкаецеся, — паўшчуваў баця Лабановіча, а ў яго асобе і ўсіх неасцярожных маладых людзей. Потым запытаў: — Што-ж цяпер рабіць будзеш?

— Падумаю, разгледжуся.

— Не прападзе! — упэўнена буркнуў Дзячэнка.

— Ведаеш, што я табе скажу, — гаварыў далей баця ні то сур'ёзна, ні то жартліва: — Падавайся ў папы. Вось тут у маім прыходзе і аставайся. Будзем удвух бога хваліць і капейку заганяць, і ніякі нам чорт не брат.

— Кепскі з мяне божы служка, — жартам адказаў Лабановіч.

— Вельмі добрым і не трэба быць. Не дужа ўдавайся ў святасць, бо лішняга і свінні не ядуць, але і лайдаком празмерным не трэба быць, а так сабе: сярэдзінка на палавінку. А ўрэшце як сабе хочаш, — заключыў баця, махнуў рукою, падняўся і пасунуўся ў папоўскія харомы.

— А вам трэба звязацца з партыяй сапраўдных рэвалюцыянераў, — сказаў Лабановічу Дзячэнка, — і стаць членам партыі. Партыя паможа вам у многім. У яе ёсць сувязі, праз яе можна і работу знайсці.

— А ў якую партыю вы мне раіце пайсці? — спытаў Лабановіч.

— У партыю социялістаў-рэвалюцыянераў. Яна, як ніякая іншая партыя, выражае інтарэсы сялянства.

Лабановіч усміхнуўся.

— Кепскі быў-бы той сват, які не пахваліў-бы сваю маладую. Ну, што-ж? Паглядзім, ды паслухаем, як яно што. А за добрыя словы — дзякую.

## XXXIV

Лабановіч ужо звыкся з думкаю, што ён — адрэзаная скіба ад школы, што хлеб трэба здабываць нейкім іншым спосабам. Ды галавы ён не вешаў. Няўжо-ж у гэтым вялікім і шырокім свеце не знойдзецца прытулку для адзінокага чалавека, пакуль ён вольны і нічым не звязаны? Абнадзеіў яго і Дзячэнка, калі раіў шчыльней звязацца з партыяй рэвалюцыянераў, дзе можна мець падтрыманне. Справа толькі ў тым, якую выбраць партыю, каб яна цалкам задаволіла ўсе твае запатрабаванні. А з гэтага выходзіла, што перш чым звязваць сябе з той ці іншай партыяй трэба ўважліва прыглѐдзецца, каб правільна выбраць дарогу. А пакуль што важна адно: не застойвацца на месцы, ні ў якім разе не апускацца ўніз, а ісці наперад, насустрач жыццю і не загубіцца ў ім. У жыцці-ж прыгод многа, яно багатае рознымі падзеямі, за якімі расчыняецца нязведаны і нябачаны свет.

У гэты час Лабановічу ўпадабалася бадзянне без рэальнай мэты. Гэтае пачуццё падагрэў прыяцель, Янка Тукала. Сягоння Лабановіч атрымаў ад яго пісьмо. Янку таксама звольнілі з настаўніцтва, але і ён не сумаваў і бадзёра пазіраў наперад. У пісьме ён прыслаў такі верш:

Глупец! где посох твой дорожный?
Бери его, пускайся в путь!
Пойдешь ли ты через пустыни,
Иль в город пышный и большой,
Не оскверняй ничьей святыни,
Нигде приют себе не строй.

Верш гэты адпавядаў настроям маладых настаўнікаў і захапляў іх сваёю рамантычнаю туманнасцю.

Тым часам надыходзіла восень. Не за гарамі быў і верасень, калі настаўнікі збіраліся пасля канікул у свае школы, як птушкі ў вырай. Толькі яму, Лабановічу, зачынены дарогі ў гэты вырай. Час падумаць аб здачы школы — валасці або непасрэдна свайму заступніку, які мог з'явіцца тут кожны дзень, а самому выбірацца за добрае надвор'е.

Вярнуўшыся аднойчы са сваіх нядоўгіх вандровак па ваколіцах Верханя, Лабановіч сустрэўся з Іванам Ан-

цыпікам. Ён за лета паружавеў, загарэў і нагуляў сабе трохі жырку. Рыжаватыя, невялікія яго вусікі падраслі, і ён часта разгладжваў іх пальцамі. Гэтая аздоба ў вачах Лабановіча рабіла Анцыпіка падобным да гогалеўскага вінакура: вусы былі такія, што здавалася, нібы ўладар іх трымаў у зубах мыш. Анцыпік меў выгляд чалавека, задаволенага сабою, сваім жыццём і сваімі далейшымі планамі. Ён ужо ведаў, якое ліха напаткала яго калегу.

«Вось як дарэчы прыехаў: не будзе клопату са здачаю школы!» — узрадаваўся Лабановіч.

У засмучэнні, як і належыць у такім выпадку, і ў тоне спачування Анцыпік сказаў:

— Сумныя навіны, нядобрыя справы, Андрэй.

Анцыпік меў на ўвазе звальненне Лабановіча.

— А што здарылася, Іване? — прыкінуўся Лабановіч.

— Са мною нічога не здарылася, — зашчоўкаў Анцыпік: — Наадварот, я атрымаў назначэнне ў лепшую школу, у Клінкі. А вось ты... падгуляў ты, брат. А-я-яй! — з дакорам і са спачуваннем паківаў галавою Анцыпік. — Чыя-ж праўда? — з выглядам пераможцы запытаў ён і дадаў: — Лезці на ражон нікому не рэкамендуецца. Не чапай нічога, не бойся нікога. Сядзі ціха, не чапай ліха.

— Ведаеш, Іване, расчараваў ты мяне ўшчэнт: я-ж думаў, што ты застаешся тут, і я здам табе школу, каб не вазіцца з рознымі людзьмі... Ну, але раз так, дык так. Пажадаю табе не ўступаць у канфлікты на новым месцы са станавым прыставам. А што да праўды, дык наўперад выведзем куранят, а палічым іх увосень.

Анцыпік чмыхнуў у нос і шчоўкнуў.

— Не ведаю, што ты будзеш лічыць, — з насмешкаю сказаў ён.

Самазадаволены Анцыпік выяўна адчуваў зараз сваю перавагу над выгнаным са школы Лабановічам.

Яны разышліся. І ніколі больш нічога не чуў аб ім Лабановіч у далейшым.

Пакуль школа не была яшчэ здадзена, Лабановіч адчуваў пад нагамі нейкі юрыдычны грунт, меў законную падставу заставацца там. А здай школу і гэтай падставы, няхай сабе ілюзорнай, не будзе. Вось чаму здачу ён адкладаў да апошняга часу. Трохі затрымлівала яго тут і Ліда, бо трэба-ж было закончыць справу з яе паступлен-

нем у новую школу. Не хацелася таксама і разлучацца з дзяўчынкай, да якой ён прывык, а можа быць, і болей, чым прывык, хоць у гэтым ён і сам сабе не хацеў прызнацца. Апроч таго, ён не ашукваў сябе і не цешыў ніякімі ілюзіямі ў дачыненні да Ліды, бо ведаў, што калі ён выедзе, дык болей з ёю не сустрэнецца. Дый нашто? Яна яшчэ толькі-толькі распускаецца ў прыгожую кветку, з мілага нявіннага падлетка перараджаецца ў маладую дзяўчыну, якая потым на яго, бяздомніка, можа, і глядзець не захоча. Не дужа прыемна было думаць аб гэтым. Ды Ліда ўсё-ж-такі стаяла ў яго вачах.

Ужо некалькі дзён не хадзіў ён да свае вучнёўкі. А яны там яшчэ не ведаюць, што ён ужо не настаўнік Верханскай школы і наогул не настаўнік. Але гэтага не ўтоіш. І які сэнс таіцца?

Настаўнік, узяўшы кій, сябра свайго вандравання, накіраваўся на хутар Антаніны Міхайлаўны. Быць можа, гэта апошняя вандроўка туды.

Вясёлая, бестурботная Ліда гуляла на сваім дворыку, ганялася за кацяняткам, лавіла яго, туліла да шчакі, штось ласкавае гаварыла яму і цалавала. Маленькі каток, як толькі Ліда пускала яго на дол, задзіраў хвосцік і кідаўся бегчы. Тады Ліда ізноў гналася за ім. Каток хаваўся пад жэрдачкаю плота і перабягаў за плот. Лёгка, як дзікая козачка, Ліда пераскоквала праз плот, каб злавіць хітрага катка.

Лабановіч стаіўся ў сукромным куточку, адкуль яго не відаць было, і цешыўся гульнёю Ліды з дураслівым катком. Ніколі не бачыў ён яе такой жвавай, такой вясёлай, лёгкай і спрытнай і па-дзіцячы бестурботнай, і ніколі не здавалася яна яму такой мілай і чароўнай. Некалькі хвілін любаваўся ён Лідачкаю, стаяў, не варушачыся, каб не заўважыла яна, што на яе глядзяць і цешацца гледзячы. Катку, як відаць, надакучыла гульня, і ён, выгнуўшы спіну дужкаю і задраўшы хвосцік, стралою паімчаўся да хаты і схаваўся пад ганкам. І Ліда таксама палічыла, што хопіць гэтай забаўкі, бо ёсць у яе болей важныя справы. Уся бестурботнасць і дураслівасць сышлі з яе твару. Яна адразу змянілася, пасталела, як дарослая жанчына, у якой ёсць куды болей важныя інтарэсы, чым гульня з кацяняткам. Адкінуўшы з ілба назад цёмнакаштанавыя

пасмы густых хвалістых валасоў, яна азірнулася ў бок дарожкі, што ішла з бальшака — наезджанай дарогі на станцыю, да іхняга хутара. Тут звычайна хадзіў Лабановіч. Лідзе прыходзілася глядзець супроць сонца, і яна зрабіла сабе шчыток рукою, каб засланіць вочы. Гэта вельмі ўзрушыла Лабановіча: ці не яго выглядае Ліда? Але Лабановіча не было на дарозе: ён стаяў тут, непадалёку, і ўсё гэта бачыў, сам застаючыся незаўважаным.

Ліда, як сталая жанчына, павольна накіравалася да хаты, на ганак, пад якім схаваўся каток. Лабановіч пастаяў яшчэ некалькі хвілін, абышоў будыніну, каля якой туляўся, і не спяшаючыся пайшоў у двор.

Антаніна Міхайлаўна і Ліда былі ў хаце. Яны ветла і гасцінна сустрэлі настаўніка.

— Расказвайце, што добрага чуваць, — звярнулася Антаніна Міхайлаўна.

— Як вам сказаць? Добрага нічога, — адказаў ён: — Ды гэта ўсё глупства. Не было-б толькі горшага.

— Дык расказвайце ўсё, — не адступалася Антаніна Міхайлаўна.

— Многа і расказваць няма чаго: выгналі мяне са школы, вось і ўсё. І цяпер я магу сказаць: «Чист кругом я, лёгок и никому не нужен», — дадаў ён, прыгадаўшы сказ, калісь прадыктаваны ў пачатковай школе яго былым настаўнікам.

— Вас звольнілі з настаўніцтва? — са здзіўленнем перапытала Антаніна Міхайлаўна. У яе голасе нават чулася нотка суму і спачування. — Ну, і што-ж з вамі будзе?

— А што-ж будзе? Вазьму лахі падпахі — маёмасць мая невялікая — ды пайду шукаць шчасця па свеце. Дзенебудзь прыпынюся. Ёсць такая прыказка: «Адзін Сцяпан — заўсёды пан, а калі і нястача, дзіця не плача», — бойка адказаў настаўнік.

Некалькі хвілін у хаце было ціха, нібы яна была пустая. Што адчувала Ліда, Лабановіч не ведаў. Здавалася, што ўсё гэта яе мала кратала. Цішыню парушыла Антаніна Міхайлаўна.

— Ну, а як-жа будзе з маёю Лідаю? — запытала яна і дадала: — Збілі вы яе з тропу.

Словы Антаніны Міхайлаўны балюча адгукнуліся ў сэрцы Лабановіча. Чым-жа ён збіў Лідачку з тропу?

Няўжо тым, што хацеў вывесці яе ў людзі? Не зводзіў яе, залатых гор не абяцаў.

— З Лідаю вось што будзе, — сказаў Лабановіч: — Сягоння напішам прашэнне начальніцы Мінскай гарадской школы. Праз тыдні два там пачнуцца экзамены. Ліда паедзе і будзе экзаменавацца. Для гэтай школы яна падрыхтавана болей, чым трэба.

— Не паеду я трымаць экзамены, — забунтавала Ліда.

— Чаму? — запытаў Лабановіч.

Ліда адказала:

— Не хачу паступаць туды. Я буду лепей тэлеграфісткай.

Як відаць, яна гутарыла аб гэтым з маткаю, а можа, маці і навяла яе на такія думкі. Але прашэнне Ліда ўсё-ж-такі напісала.

На развітанні, пакідаючы дом і хутар Антаніны Міхайлаўны, Лабановіч запытаў Ліду:

— Мілая Лідачка, калі я прышлю табе пісьмо, дык ці будзеш ты пісаць мне?

Ліда апусціла вочкі.

— Можа, і напішу, — ціха прамовіла яна, а потым у сваю чаргу запытала: — А што я буду пісаць? Дый нашто гэта?

Развіталіся даволі суха.

«Не быў-бы я зволены, яна так не сказала-б мне», — падумаў Лабановіч, ідучы ў Верхань. Потым сказаў сам сабе: «Сягоння-ж здам пісару школу. Няма больш ніякай патрэбы заставацца тут».

## XXXV

«Ну, што-ж? — думаў Лабановіч. — Апошнія мае часіны тут. Школу здаў, і зараз я чужы ў ёй. Рубеж праведзены. Цяпер я — вольны казак, покі яшчэ не падрэзаны крыллі». На памяць прышлі радкі верша Мельшына (Якубовіча):

В колосьях желтеющих нив утопая,
По узкой меже, сквозь редеющий мрак,
В убогой сермяге, кряхтя и вздыхая,
Проходит свободный батрак.

Такім «свабодным» батраком уяўляўся сабе адстаўны настаўнік Верханскай школы.

Усе гэтыя дні бабка Параска хадзіла невясёлая і часта плакала. Калі-ж яна даведалася аб здачы школы, жалю яе не было канца, бо ўжо болей не заставалася ніякай надзеі, што настаўнік, можа, яшчэ застанецца.

— Ты, бабка, так плачаш па мне, нібы я — нябожчык, а я жывы і жывучы.

— Ох, галубок мой! — бабка Параска выцерла слёзы. — Шкада-ж мне вас. Здаецца, і роднага сына не было-б так шкада, як вас.

— Добрая ты, слаўная ты, бабка Параска, і я буду памятаць цябе, як сын. Развясельвя-ж і не плач па жывым чалавеку.

Але бабка заплакала яшчэ мацней і, выціраючы слёзы, запытала:

— Калі-ж думаеце пакідаць нас?

— Доўга заставацца тут мне цяпер ужо не выпадае. Той-жа пісар, якому я здаў школу, можа сказаць: са школы звольнены, школу здаў, дык будзь ласкаў выбірацца. Значыцца, трэба збірацца і падавацца ў свет. А свет вялікі і прастору ў ім многа.

Бабка Параска цяжка ўздыхнула і вышла з пакоіка. Не сядзелася ў ім і Лабановічу. Перад тым як пакінуць сваё трэцяе і апошняе настаўніцкае месца, яму захацелася яшчэ раз абысці ўсе тыя дарогі і сцежкі, дзе не адзін раз вандраваў ён у вольныя хвіліны. Такія вандроўкі шмат прыносілі яму радасці і задаваленне, і многія мясцінкі ў ваколіцах Верханя сталіся блізкімі і дарагімі. Не раз паўставалі і не раз паўстануць яны ў вачах Лабановіча, вабячы да сябе, як самыя прыязныя сябры. Дык як-ж не развітацца з імі?

Лабановіч узяў кій, вышаў на высокі ганак. Без усякага разважання і пэўнага плана накіраваўся ён улева, на шырокую дарогу, што ішла міма валасці і царквы ў зялёным вянку бяроз, і ў ціхім задуменні падаўся ў бок лесу. Калі-б хто запытаў у гэту хвіліну, аб чым ён думае, ён напэўна не даў-бы адказу. Апамятаўся ён толькі тады, калі апынуўся на могілках. Выходзячы з дому, каб развітацца з верханскімі ваколіцамі, ён зусім не думаў заходзіць туды.

«Як-жа я папаў сюды і чаму? — здзівіўся Лабановіч. — Якая прычына прывяла на могілкі? Могілкі — сімвал канца чалавечага існавання. Канец — простае слова, а заключае ў сабе багаты змест: часамі чалавек рады яму, а часамі канец набывае характар трагізму».

Вось і для яго, Лабановіча, настаў канец настаўніцтва і побыту ў Верхані. Але ён прыгадаў тое здарэнне на могілках — спатканне незнаёмых людзей, мужчыны з жанчынаю. Як высветлілася потым, гэта былі памочнік пісара Лапіцкі і пісарава швагерка, якая хутка пасля таго выехала адсюль.

На могілках было ціха, глуха і маркотна. Лабановіч павольна пасунуўся знаёмаю дарожкаю да знаёмага ўжо вала. Кусты, запаўшыя ў памяць настаўніка, страцілі сакаўную зеляніну, красу свае маладосці. Сям-там калыхалася на іх пажоўклае лісце, і ў павяўшай траве валялася яго нямала. Прадвосенскі час накладаў адбітак засмучэння на ўсё, куды ні глянеш. Нават неспакойны вецер і той гаманіў на сумны лад, прыпадаючы да зямлі, нібы для таго, каб падслухаць яе нямоўчныя песні. Эх, песні, адвечныя песні зямлі! Калі заспяваюць вас на вясёлы, радасны тон?

Лабановіч спыніўся і акінуў вачамі могілкі—як-бы для таго, каб запамятаць іх назаўсёды. Струхлелыя драўляныя крыжы, пахіленыя над зямлёю, сівыя купінкі моху на іх, надмагільныя пліты, уросшыя ў дол, — як усё тут закінута, забыта і запушчана, як усё гэта ўбога і журботна! Настаўніку зрабілася так нявесела і сумна, што заставацца тут далей было цяжка. Ён пакіраваўся назад на дарогу, яшчэ раз азірнуўся.

«Напэўна не пабачу вас болей ніколі. Ну, бывайце!» — сказаў у думках на развітанне.

З могілак Лабановіч падаўся ў бок лесу. Ускрайкам, не спяшаючыся, пакіраваўся на Тумель, дзе быў ставок і старасвецкі двухпавярховы млын. Гэта было ўлюбёнае месца, куды часта хадзіў Лабановіч у вольныя хвіліны на пагулянку. Прышоўшы сюды, ён запыніўся. Цэлая чарада ўспамінаў паўстала прад ім. Прыгадаўся той дзень, калі ранічкаю ехаў ён праз грэбельку каля млына са сваімі вучнямі на экзамены. Дарога зараз-жа, мінуўшы грэблю, увaходзіла ў лес. З краю на лясных прагалах

стаялі маладыя бярозкі, толькі-толькі выпускаючы маладзенькія пахучыя лісточкі і прыдаючы лесу асаблівую чароўнасць. Здавалася тады, што стары, пануры лес наўмысня развесіў тонкую празрыстую покрыўку, сатканую сонцам і зямлёю з тысячы тысяч маладых, кволых бледназялёных лісточкаў бярэзін і кустоў, росшых на ўскрайку лесу, каб упрыгожыць сябе гэтымі дарамі вясны і прыкрыць сваю панурасць. Іншыя мыслі і іншы настрой былі тады ў настаўніка, што зараз прышоў сюды ўжо на парозе восені, каб апошні раз азірнуць усе гэтыя мясціны, так глыбока асеўшыя ў памяці, і таксама сказаць ім: «Бывайце!».

Стары млын стаяў нерухома. Не было каля яго ні людзей, ні фурманак. Не рухалася і велічэзнае, многаступянёвае кола, ажыўляўшае млын і ўвесь яго нескладаны механізм. Толькі дзесь з непрыметнай шчылінкі прабіваўся струменьчык вады і аднастайным цурчаннем парушаў спакой анямеўшай будыніны. З-пад гаці спакойна цякла рэчка, несучы далей тую порцыю вады, якую прызначалі ёй будаўнікі. Зараз-жа за млыном яна апісвала прыгожую дужку, падаючыся наўперад управа, а потым, забіраючы ў бок поля, хавалася пад навіссю старых вербаў, што схіліліся над вадою, і затым зусім знікала з вачэй. І рэчка і крывыя вербы над ёю яшчэ болей падкрэслівалі спакой і цішыню аднаго з закінутых і малавядомых утульных куткоў старажытнай Беларусі.

Лабановіч доўга пазіраў на рэчку. У памяці ўсплывалі падобныя-ж блізкія і дарагія сэрцу малюнкі, якія даводзілася яму сустракаць не адзін раз. А колькі ёсць малюнкаў, яшчэ не бачаных ні разу! І колькі ў іх прывабнага, заспакойваючага душу хараства! Дык наперад, брат, наперад! Пракладай сабе дарогу ў жыццё, не зважаючы ні на якія нягоды, дарогу прасторную, ясную, з бясконцымі краявідамі і далячынямі і склікай народ на гэту прасторную дарогу!

Увесь панылы настрой, пад уплывам якога быў нядаўна Лабановіч, развеяўся, як ранішні туман перад гарачым летнім днём. Ён адчуў прыліў бадзёрасці, новай сілы, жаданне змагацца за сваё месца ў жыцці і за ўсіх добрых людзей, пакрыўджаных нядоляй і рознаю злыбедаю, што загароджвае ім дарогі. Чаго-ж сумаваць? На каго спа-

дзявацца?.. Заставайцеся-ж тут шчаслівыя, мае мілыя вербачкі, і ты, неўгамонная рэчка! У другім месцы сустрэнуся з такімі-ж дарагімі, як і вы.

Апошні раз акінуў Лабановіч вачамі ўсе ваколіцы. Зірнуў і на той узвышак, адкуль першы раз уявіўся яму прывідны замак, на сяло, што выцягнулася ў адну доўгую стракатую істужку, з убогімі загарадкамі каля запушчаных будынкаў, на двор а. Уладзімера, на царкву з процілеглага боку і непадалёку ад яе будынкі валаснога праўлення і школы. Вось ён, увесь Верхань перад ім і ўсе яго ваколіцы...

Той самы дзядзька Нічыпар Кудрык, што зімою прывозіў Лабановіча, цяпер вёз яго на станцыю з тымі-ж двума невялікімі чамаданамі, дзе быў зложан увесь незамыславаты скарб настаўніка. У вачах Лабановіча яшчэ стаяў заплаканы твар бабкі Параскі і ўся яна, такая жычлівая і добрая, нізенькая, сухенькая, маршчыністая. Мімаволі прыгадаўся выезд з Цельшына, Ядвіся, з-за якой ён і пакідаў сваё першае настаўніцкае месца, шыракаплечы дзядзька Раман і яго апавяданне аб Яшуковай гары.

«Адзін раздзел кнігі прачытан і загортваецца», — думаў Лабановіч, пакідаючы Цельшына. А зараз прачытан і другі раздзел яшчэ далёка не дачытанай да канца кнігі.

# ЧАСТКА ДРУГАЯ

## НА КРЫЖОВЫХ ДАРОГАХ

Колісь, яшчэ ў дні юнацтва, мяне зачароўвалі прасторы зямлі з іх шматлікімі гаманкімі дарогамі, шырокімі і вузкімі, роўнымі і крывымі, наабапал якіх сям-там вынікалі купчастыя ліпы, стромкія таполі або старыя кучаравыя хвоі. Мяне вабілі неакрэсленыя далечы, маўклівыя і мудрыя ў сваёй задумлёнасці, з іх узгоркамі, далінамі і крыніцамі, з тонкімі палоскамі лясоў на небасхіле, дзе зямля нібы сходзіцца з небам. І ўсё гэта прыкрывалася празрыстаю заслонаю сіняватай смугі.

Што хаваецца за заслонаю сінечы-смугі? Якія праявы, якія людзі сустрэнуцца мне на шляху вандравання? Праз якія абшары зямлі пройдуць пуцявінкі і куды яны прывядуць?

Нічога цікавейшага на свеце не было тады для мяне, як прыўзняць заслону сінечы і зазірнуць за яе рубяжы. Там, думалася, я знайду ўсе адказы на пытанні, пазнаю таямніцы жыцця. Жыццё-ж такое складанае і так многа ў ім нечаканасцей, крутых паваротак, што неспакушанаму юнаку цяжка было разабрацца ва ўсіх рознастайных праявах і ацаніць іх так, як яны таго заслугоўвалі. Вось чаму так радасна было ісці ўсё далей і далей, каб зведаць невядомае, убачыць нябачанае.

З таго часу шмат прайшло гадоў. Многа дарог перамералі мае ногі. Розныя людзі сустракаліся ў маім вандроўніцтве. Шмат хто з іх стаўся мне блізкім і дарагім, і шмат каго з іх сягоння я не далічваюся. І сам я прыта-

міўся за гэты час і ўсё болей і мацней адчуваю спрадвечную і непераможную сілу прыцягнення зямлі.

Але шумяць і гамоняць несупынныя хвалі жыцця, і ўсё тыя-ж шырокія, яшчэ болей прывабныя далечы разгортваюцца перад вачамі.

Новыя прасторныя дарогі расчыніліся перад нашымі народамі. І не гасне нястомнае жаданне зірнуць за заслону заўтрашніх дзён.

Будзьце-ж вы светлыя і радасныя, наступныя дні людства!

## I

Каля чыгункі, што злучае Мінск і Брэст, непадалёку ад станцыі, у малапрыметным кутку сярод высокага цёмнага лесу, тулілася леснікова сядзіба. Належала яна лясніцтву князя Радзівіла. За доўгі час будынкі пачарнелі, пастарэлі, пакрывіліся. Дый што гэта былі за будынкі! Нізкая, падслепаватая хата з закуранымі вокнамі і збуцвелым ганкам пазірала ў бок чыгункі. Хоць чыгунка праходзіла тут і блізка, але яе не відаць было: высокі вал, зарослы хвайняком і кустамі арэшніку, закрываў яе. Старасвецкае гуменца з угнутаю саламянаю страхою тулілася бліжэй да лесу — здавалася для таго, каб схавацца ад холаду і вятроў, бо яны для яго былі ўжо небяспечныя. Цёмны хлевушок, таксама пашарпаны часамі, гаротна прыпадаў да зямлі. Па адзін і па другі бок сядзібы раскінулася невялікая палянка. Калісь была тут смалярня. Ад яе засталіся толькі глыбы гліняных пячэй, дзе парыліся смалякі ды дробныя рэшткі пранятых смалою карчоў. Яшчэ і цяпер адчуваўся тут душок дзёгцю і тарпатыны. Назва «Смалярня», як спадчына, перайшла на леснікову сядзібу. У ёй на сягонняшні час за лесніка быў брат Андрэя Лабановіча, Уладзімер. Яшчэ з маленства браты жылі ў згодзе. Сустракаліся зрэдку і тады, калі ўзмужнелі, а дарогі іх разышліся, сустракаліся ветліва і прыязна. Даведаўшыся, што Андрэя зволілі з настаўніцтва і ён цяпер без пасады, Уладзімер паспачуваў яму, а потым запытаў:

— Дык што-ж ты, брат, рабіць будзеш цяпер?

— А вось разгледжуся трохі, прыслухаюся. З кімколечы параюся, як яно, дзе і што — можа, што-небудзь і надарыцца.

Браты памаўчалі.

— Ды пэўна-ж, не ў школе свет сышоўся клінам, — заўважыў Уладзімер: — А гэтакіх, як ты, зараз многа: час такі — за праўду стаяць людзі пачалі, а начальства праўды не любіць.

— Гэта верна, — азваўся Андрэй.

Уладзімер крута павярнуў гутарку ў другі бок.

— Покі знойдзеш сабе прыпынак і работу, перабірайся да мяне. Куток зацішны. Ты адзін, замінаць не будзеш мне. Вялікай раскошы, праўда, няма, але кідацца сяк-так можна.

Андрэй шчыра падзякаваў брату і згадзіўся спыніцца тут.

Пасля таго як Лабановіч выбраўся з Верханя і прыехаў да сваіх родных, яму ўсё здавалася, што людзі пазіраюць на яго па-іншаму і ў душы нават радуюцца, што ён без месца, без работы, — адным словам — басяк!

Лабановіч асталяваўся ў Смалярні, у брата.

Не болей тыдня прайшло з таго часу, калі ён з'явіўся ў свае родныя мясціны. У першыя дні адчуваў ён у сэрцы і ў думках такое засмучэнне, нібы насіў жалобу па цяжкой страце. У мінулыя гады ў такую пару ўсе настаўнікі, у тым ліку і ён сам, ужо былі ў сваіх школах і пачыналі заняткі. Меншыя дзеці, вольныя ад хатніх работ, напаўнялі класы сваімі звонкімі галасамі. Які гэта слаўны быў час! Сустрэцца непасрэдна з малечаю, якая потым вырасце, пойдзе ў жыццё — ці то дарогамі сваіх бацькоў, ці то новымі, болей прасторнымі і шчаслівымі. Хіба-ж не цікава пазнаёміць яе са школаю, са школьнымі парадкамі, навучыць чытаць і пісаць, пазнаваць кніжную мудрасць і гутарыць з ёю так, каб тваё слова дайшло да розуму і сэрца малечы!

Перад вачамі Лабановіча выразна, як жывыя, усплывалі малюнкі школьнага жыцця і тыя школы, у якіх яму давялося пабываць за нядоўгі час настаўніцтва. Цельшына, яго ваколіцы, людзі і ўсё, што там пераўжыта і перачута. І бясконца дарагі вобраз Ядвісі зноў ажыў у памяці, як чароўная кветка палескай глушы, як незварот-

ная страта. Прыгадалася і выганаўская школа, і шырокая нізіна пінскага зарэчча, заросшая высокім густым чаротам, і Пінск, які быў вельмі добра відаць, калі спусціцца са школьнай пляцоўкі ўніз на рэчку Піну. Як нейкі востраў на агромністым блюдзе чаратовых балот, маляўніча выступаў старадаўні горад, важнейшы цэнтр неабсяжнага Палесся.

Яшчэ жывей і ярчэй вырысоўваўся ў думках Верхань, бо-ж толькі некалькі дзён прайшло з часу развітання з ім. Прыгадаліся і хутарок Антаніны Міхайлаўны і Лідачка... Слаўная дзяўчынка, здольная, вясёлая, па-дзіцячы дураслівая. Ці паедзе яна здаваць экзамены ў гарадскую школу? Які будзе далейшы лёс яе? Ці напіша яму пісьмо?

Лабановіч даў ёй свой адрас. Дарэчы, да пошты адгэтуль шмат бліжэй, чым з Мікуціч. Напэўна, ёсць на пошце пісьмо і ад каго-небудзь з сяброў, такіх-жа выкінутых са школы гарапашнікаў і бяздомнікаў, як і Лабановіч.

Дык вось ён які, новы паваротак у жыцці! У якім жыцці? У бяздомніцтве, у блуканні паміж небам і зямлёю. Спадзявацца няма на каго. Пакладайся толькі на самога сябе, ні адкуль не чакай дапамогі... Не, няпраўда: брат Уладзімер ужо дапамог, паправіў самога сябе Лабановіч. А людзі? Хіба свет без добрых людзей? А таму, пакуль ты яшчэ вольны, пакуль служаць ногі, ідзі! Ідзі ўперад па бездарожжы, па цаліне, пракладай новы след. Адно толькі памятай: не збочвай з вернай дарогі. Але дзе яна, верная дарога? А гэта дарога прыбітага, заціснутага народа, які марыць аб праўдзе, аб справядлівасці і ў меру сваіх сіл і мажлівасцей змагаецца за іх, народа, які жыве думкамі аб зямлі, што пазабірала казна, паны, цэрквы і манастыры, і аб сваім чалавечым праве. Шмат на гэтай дарозе ям і калдобін, розных патырчак і злыдняў. Але калі ты чэсны і свядомы чалавек, і перад табою паўстаюць цяжкасці, уразумей іх сваім розумам і адчуй сэрцам, не бойся, не адступайся ад праўды і ніколі, ні пры якіх умовах, не пагаджайся з тымі, хто зневажае народ і чыніць здзекі над ім. Не паддавайся ні на якія спакусы і абяцанні, накіраваныя на крыўду народа.

Такімі думкамі і такімі добрымі намерамі жыў зараз бяздомны Лабановіч. У гэтых думках чэрпаў ён падтры-

манне сабе самому і простым людзям, што стогнуць у ярме беспрасветнага прыгнёту. Ды ў жыцці падзеі ідуць не тымі дарогамі і не так, як хацелася-б нам. Пачыналася веснавое разводдзе новага жыцця, ды не вылілася з берагоў — скавалі яго халады. Але будзе жаданы час усенароднай вясны.

## II

Каля Смалярні, між сядзібаю лесніка і чыгункаю, праходзіла лясная дарога. Мінуўшы сядзібу і не даходзячы да пераезду, яна разгаліньвалася, дзялілася на дзве: адна перасякала чыгунку, а другая забірала ўлева, некаторую адлегласць ішла пад густою навіссю старых ялін, па карэннях, па выбоінах, праз лужыны чорнай, як дзёгаць, вады. Тут было змрочна і сыра, шмат калдобін і лужын, якія рэдка калі высыхалі. Выбіўшыся з лесу, дарога выходзіла ў Цёмныя Ляды, а потым забірала ўправа, прымаючы кірунак на лясніцтва князя Радзівіла. На цяперашніх Цёмных Лядах не так даўно стаяў густы, вялікі змрочны лес. Час-ад-часу велічэзныя лясныя абшары высякалі дачыста. Адборная драўніна сплаўлялася купцамі за граніцу, а грошы пераходзілі ў княжацкі скарб ды ў кішэні лесапрамыслоўцаў. Аголеныя лапіны лясоў прыбіралі сяляне навакольных вёсак. Рэшткі дрэва складалі ў стусы і ў шуркі, а галлё і ламачча проста палілі. Пасеку раскарчоўвалі і на ёй засявалі жыта, ярыну. Траціна ўраджаю паступала ў лясніцтва, усё таму-ж князю Радзівілу.

Зараз пасекі зноў былі запушчаны пад лес. Ніхто яго не засяваў тут, апроч ветру. На агромністай пасецы-плешыне, акружанай магутнай сцяной старога лесу, выступалі з травы вялізныя пні старадрэвін, многа вякоў стаяўшых тут, сям-там падніманіся ў неба стромкія яліны і сосны. Іх пакінулі знарок — абсемяняць аголены плех і заводзіць новы лес. Яны так і называліся — насеннікі. Запушчаныя ляды паволі засяваліся маладымі дрэўцамі: асіннікам, бярэзнікам, сасоннікам, ельнікам і living розными іншымі дрэвамі. Густая трава, дзікія кветкі закрывалі маладое пакаленне новага лесу, але ён падымаўся ўгору, глушыў слабейшыя расліны.

Бязлюдна і сцішна было ў Цёмных Лядах. І асабліва панура выглядалі запушчаныя, маладаступныя нізінылужкі, заваленыя галлём і сатлеўшымі верхавінамі ссечаных старых дрэў. Напалову згніўшыя пні і парыжэлая сухая трава яшчэ болей падкрэслівалі паныласць гэтай пустэлі сярод кашлатай сцяны старадаўняга лесу, шырокім колам атачаўшага Цёмныя Ляды.

Зусім іншы характар мела тая мясціна, па якой праходзіла дарога, перасекшы чыгунку. З двух бакоў разлягаліся лагодныя, светлыя прасторы палёў, пясчаныя ўзгоркі, на якіх асталяваліся нізкія, але даволі пышныя кусцікі ялоўцу і разложыстыя прыземістыя хвойкі. Вузкія даліны між узгоркаў вабілі вока. Невялічкія лясы і далёкія гаі, прыкрытыя покрывам восенскай смугі, — усё гэта было для Лабановіча новым, яшчэ не бачаным.

Каля самай дарогі, за высокаю мураванаю агарожаю, раскінуўся двор з багатым садам нейкага малавядомага землеўласніка Сцяпанава, царскага вайскоўца — ні то палкоўніка, ні то генерала. Ні сам Сцяпанаў, ні яго патомкі не жылі тут ніколі. Маёнтак гэты зварачаў на сябе ўвагу, асабліва кідаўся ў вочы сад, які выглядаў нейкім прыгожым востравам. Рады стромкіх таполяў, як вартаўнікі, стаялі высокаю шарэнгаю паўздоўж чатырох сцен агарожы. І дзіўным здавалася, як маглі гэтыя магутныя таполі і гэты цудоўны сад разрасціся тут і забраць такую сілу на мізэрнай пясчанай зямлі? І вось тут прыгадаліся Лабановічу яго не такія ўжо даўнія думкі аб Мікуцічах, калі ён наведваўся ў свой кут над Нёманам і марыў аб пераўтварэнні глебы.

«Можа, гэта былі і верныя думкі, — разважаў Лабановіч: — Чорнае, тлустае балота перанесці на пясчаныя землі сялянскіх палеткаў, каб падняць ураджайнасць. Ды што гэта дасць, калі пераважная большасць зямлі і прытым найболей ураджайнай знаходзіцца пад панамі! Ці не працей павыганяць паноў, адабраць ад іх зямлю і перадаць тым, хто працуе на ёй? Была такая спроба, ды скончылася яна няўдала. Аказалася, што паганае дрэва, Міколка другі, яшчэ трывала сядзіць на троне, хоць трон гэты моцна пахіснуўся. Колькі праліта крыві! Колькі людзей пайшло на катаргу, у высылку і колькі сядзіць па астрогах! І можа, сам ён, Лабановіч, ёсць кандыдат на адно

з гэтых месцаў спачынку царскага самаўладства. Але, што не ўдалося цяпер, тое ўдасца ў чацвер, — паўтарыў Лабановіч прыказку дзядзькі Марціна, — верыць народ, што прыдуць лепшыя дні. Вось і трэба жыць гэтай верай, не зважаючы на тое, што «покі сонца ўзыйдзе, раса вочы выесць».

Ён яшчэ раз акінуў вокам панскую сядзібу, паважны рад стромкіх таполяў, багаты сад. Белы палац прасвечваўся ў глыбіні праз галіны абступаўшых яго купчастых яблынь і іншых дрэў. І сад і панскі дом засланяліся з поўночнага і з усходняга бакоў узгоркамі і падстаўлялі ўсю сваю пляцоўку пад цёплыя праменні поўднёвага сонца.

Прайшоўшы яшчэ колькі крокаў, Лабановіч параўняўся з брамаю, жалезнымі, наглуха зачыненымі варотамі, што якраз прыходзіліся насупроць панскага дома. Адгэтуль дом быў добра відаць. Вароты, па ўсім прыметна, даўно не расчыняліся, і ніякія панскія брычкі не ўязджалі і не выязджалі ні туды, ні сюды. Маленькая брамка была адамкнёна. Вытаптаная сцежачка вяла ў сад. Відаць, сюды заходзілі людзі, каб купіць або папрасіць яблыкаў.

Лабановіч злёгку таўкануў брамку. Яна паслухмяна расчынілася. Непадалёку, сярод яблынь, стаяў просценькі буданок-шалашык, галоўны штаб вартаўніка панскага саду. З большасці садовых дрэў плады ўжо былі пазніманы, і толькі на позніх гатунках спакусліва красаваліся буйныя, чырвоныя яблыкі — здавалася для таго, каб завабіць сюды падарожніка. Лабановіч, пастаяўшы крыху каля брамкі, паволі накіраваўся да шалашыка. Там нікога не было. У адным кутку ляжала прымятая салома, прыкрытая дзяружкаю, пэўна, гэта была пасцель вартаўніка. З другога боку ў шалашы на саломцы нерухліва ляжалі яблыкі, перабраныя чыеюсьці стараннаю рукою і разложаныя ў тры кучкі: лепшыя, сярэднія і горшыя. Адразу кідалася ў вочы, што чалавек, які жыве тут, любіць парадак і не задарма есць панскі хлеб.

Не паспеў Лабановіч як мае быць разгледзець гэтыя ўбогія апартаменты вартаўніка, як зараз-жа выплыла з-за дрэў яго постаць. Гэта быў каротка падстрыжаны пасівелы чалавек з пышнымі сівымі вусамі, у старым зано-

шаным салдацкім мундзіры мінулага веку. У руках нёс ён таксама старую салдацкую шапку, поўную яблыкаў. За плячамі вартаўніка вісела стрэльба. Усё гэта прыдавала вартаўніку нейкую ўладнасць і ўпэўненасць.

Лабановіч пачціва зняў шапку і прыязна пакланіўся. Захацелася пажартаваць з бывалага ваякі, не зніжаючы яго ганарлівасці.

— Даруйце мне: ці не вы ўладар гэтага маёнтка?

Стары салдат сурова акінуў поглядам Лабановіча, змераў яго з ног да галавы: брэша, ці сапраўды прыняў за гаспадара?

— А чаму табе прышло ў галаву, што я тут гаспадар? — запытаў салдат.

— Выгляд у вас господскі, такі, што можна палічыць за гаспадара, тым болей, што ўласнік гэтага двара, як чуў я, з ваенных.

Стары салдат відавочна памякчэў.

— Не, дружок, памыляешся: іх высокаблагародзіе, палкоўнік Сцяпанаў, у Пецербургу жывуць, а я толькі давераная асоба іх высокаблагародзія... Разам супроць турка ваявалі, разам усю ваенную службу прайшлі. З таго часу мы так і не разлучаемся. Дастойны чалавек,— заключыў стары салдат. Ён яшчэ хацеў штось сказаць, ды, відаць, палічыў нязручным пускацца ў гутарку з незнаёмым чалавекам, яшчэ, можа, якім-небудзь забастоўшчыкам.

— А колькі вам палкоўнік за службу плаціць?

— Што ён мне плаціць, таго мне на мой век хваціць, — ухіліўся салдат ад простага адказу і сам запытаў Лабановіча:

— Ты-ж сам хто такі будзеш?

— Проста падарожны. Угледзеў сад і падумаў сабе: дай, зайду, можа, на яблыкі ці не разжывуся. І вось сустрэў вас, чалавека адданага і, па ўсім відаць, разумнага.

— Як разжыцца: за грошы ці так? — пацікавіўся салдат.

— Ды хоць-бы і купіць.

— Гэта іншая справа!

Бравы салдат павёў Лабановіча да яблыні, на якой віселі буйныя чырвоныя яблыкі, сарваў самы спелы і самы буйны.

— Вось табе, дружок, вазьмі. І памятай, што я — даверaная асоба іх высокаблагародзія.

Лабановіч падзякаваў. Такога вялікага яблыка яму яшчэ не даводзілася бачыць. Ён развітаўся з салдатам і пайшоў далей сваёю дарогаю.

### III

Быць можа, шмат каму з вас, дарагія сябры, нецікава запыняцца такі доўгі час на падарожжах Лабановіча і разглядаць разам з ім тыя малюнкі і тыя мясціны, што даўно прыгледзеліся вашым вачам, бо гэта ўжо старадаўнія дарогі і не новыя малюнкі. Калі-б сягоння давялося мне яшчэ раз прайсціся па іх, дык я і не пазнаў-бы ні тых дарог, ні мясцін, ні малюнкаў, што разгортваліся перад вачамі поўвека таму назад. Усё карэнным чынам змянілася, адышло ў прошласць і захавалася толькі ў памяці, як успаміны аб далёкіх днях юнацтва. Мне-ж так прыемна ўспомніць і хоць у мыслях перажыць іх яшчэ раз. А мінулае і цяперашняе моцна злучаны паміж сабою.

Двор палкоўніка Сцяпанава, таполі і сад засталіся ззаду. Лабановіч узыходзіў на ўзгорак, самы большы па дарозе са Смалярні ў Стаўбуны. Па правую руку раскінуўся невялікі лясок, светлы і празрысты, як тонкая, лёгкая тканіна. Дарога крута падымалася ўгору праз жоўты сыпучы пясок. Даядаючы ёмкі, надзвычай смачны малінавы яблык — дар старога вартаўніка — Лабановіч узышоў на самы высокі пункт пагорка. Шырокі, рознастайны краявід, што агароджваўся толькі бязмежным небам, расчыніўся перад падарожнікам. Гэта было так неспадзеўна, так прыгожа і ў той-жа час так знаёма, што вандроўнік мімаволі спыніўся.

Новыя малюнкі!.. Не, не новыя: новае толькі тое, што паўсталі яны з другога боку і з другой пазіцыі. Так бывае і з чалавекам, калі пазнаеш яго ў новым праяўленні.

Акінуўшы вокам увесь краявід, Лабановіч стаў прыглядацца да паасобных, найбольш знаёмых яго частак. Вось станцыя з усімі збудаваннямі — вакзал, дэпо, возера за вакзалам, заросшае па краях густым, высокім сітняком і аерам. Правей — млын, дарога на Мікуцічы. Як

гаманіла яна, калі не так даўно, улетку, шумная грамада настаўнікаў ішла ў школу Садовіча абмеркаваць пытанні палітыкі і заснаваць ядро рэволюцыйнай настаўніцкай арганізацыі... І як гэта ўсё няўдала скончылася!

Не, дарога на Мікуцічы не вабіць зараз вока. Густы хвойнік і яловец з аднаго боку і альховы хмызняк з другога засланялі яе. Дарога знікала з вачэй, не дайшоўшы да гасцінца, абапал якога стаялі, як старэнькія бабулькі, парадзелыя бярозы. Лабановіч зірнуў правей вакзала. На высокай горцы стаяў прыземісты, добра адбудаваны, з замахам на хараство вятрак, адзінокі і нібы забыты. Лабановічу рэдка калі даводзілася бачыць, каб вятрак гэты махаў крылламі, і таму ён рабіў сумнае ўражанне, як асірацелая будыніна. Зірнуўшы перад сабою, Лабановіч згледзеў стромкія вежы белай царквы мястэчка Стаўбуны. Само мястэчка і яшчэ адна, жоўтая, царква засланяліся другім пагоркам. Затое-ж была добра відаць Панямонь і яе ваколіцы, хоць гэтае мястэчка вярсты на паўтары стаяла далей за Стаўбуны, па другі бок Нёмана. Сіняўскі гай, выцягнуты тонкаю палоскаю з прыўзнятым адным канцом, як заліхвацкі вус маладога зуха, прыкрываў Панямонь з поўночнага захаду. Лявей і бліжэй да мястэчка сурова ўзнімалася вапельная гара. Называлі яе Драздоваю — ад імя панямонскага жыхара Драздоўскага, які арандаваў гару і здабываў вапну.

Самымі высокімі будынкамі ў Панямоні былі — царква, касцёл і сінагога. Царква і касцёл стаялі ў цэнтры мястэчка і на самым высокім месцы, сінагога тулілася на задворках, воддаль. Калі Лабановіч яшчэ ў дзяцінстве першы раз пабачыў панямонскі касцёл здалёку, то сваёю формаю гэты будынак нагадаў малому Андрэю вялікага сядзячага ката з задраным угору носам. Так гэтае першае ўражанне назаўсёды і засталося ў памяці. Запомнілася таксама і маленькая рачулка, якая выцякала з-пад вапельнай гары, купчастыя вербачкі над ёю, Хаімава кузня над рачулкаю і сам Хаім, спрытны і здатны каваль з чорнаю барадою. Прыгадаўся і стары млын, гнілое возера каля яго, алешнік над возерам, густа затканы гнёздамі гракоў, і несціханы іх крык.

Лабановіч глядзіць туды. Вунь ён, той алешнік, кудзерка абцярэбленага гракамі гайка! А далей, крыху лявей, той самы старасвецкі гасцінец шыбуецца з панямонскай роўнядзі на больш высокую пляцоўку, беручы кірунак на Нясвіж. Знікшыя на некаторай адлегласці бярозы, мінуўшы Панямонь, зноў ідуць побач гасцінца прыгожымі прысадамі, няясна вырысоўваючыся ў сіняватых хвалях далечыні. Як добра знаёмы ўсе гэтыя малюнкі, і як моцна яны звязваюць з дзяцінствам, шчаслівым і непаўторным!

«А можа, будзе такі час,— падумаў Лабановіч,— калі я і гэтыя дні свайго бяздомнага вандроўніцтва ўспомню з прыемнасцю і ўздыхну па іх».

Ён рушыў далей, спусціўся ў глыбокую і вузкую далінку паміж двума пагоркамі. І стромкія вежы белай царквы, і вятрак, і Панямонь засланіліся другім узгоркам. Калі Лабановіч мінуў яго, адразу вынікла перад вачамі ўсё мястэчка Стаўбуны з яго цэрквамі, з мураванымі будынкамі і з плошчаю, дзе звычайна адбываліся шумныя, многалюдныя кірмашы. Вузкая пясчаная вулачка, паабапал якой убога туліліся старасвецкія халупы местачковай беднаты, і кузня, дзе заўсёды стаяла некалькі сялянскіх фурманак і чуўся галасісты звон молата, вяла ў сярэдзіну мястэчка. Бліжэй да цэнтра часцей пападаліся акуратныя і з густам пабудаваныя домікі заможных жыхароў з пафарбаванымі аканіцамі, з разьбою над вокнамі і з прыгожа адштукаванымі высокімі ганкамі. Крыху далей пайшлі крамы розных гатункаў і з рознымі таварамі, пачынаючы дзёгцем і газаю і канчаючы іголкамі і ніткамі.

Малапрыметная спачатку вулачка чым далей, тым болей прымала выгляд сапраўднай вуліцы. Выводзіла яна на прасторную выбрукаваную плошчу ў цэнтры мястэчка, праходзячы непадалёку ад белай царквы і пакідаючы яе збоку ўлева. Дзень быў некірмашовы, і плошча амаль што пуставала, калі не лічыць адзіночных сялянскіх каламажак, дзвюх-трох гандлярак, якія цярпліва сядзелі каля просценькіх столікаў пад такімі-ж убогімі, як і самі яны, стрэшкамі, ды коз, што вандравалі па плошчы ў пошуках спажывы. Найболей спрытныя з іх запыняліся каля вазоў і, стаўшы на заднія ногі, выбі-

ралі сена з палу́кашкаў, а іншыя прымайстраваліся каля коней і памагалі ім хрумстаць смачную віку або канюшыну.

Мінуўшы плошчу і валаснное праўленне, Лабановіч узышоў на ганак пошты. Яна была якраз па суседству з воласцю. Даволі прасторны пакой падзяляўся невысокаю дзервяною перагародкаю і драцянаю сеткаю над ёю на дзве няроўныя часткі: саму пошту і пярэднюю для наведвальнікаў. За перагародкаю пры стале сядзеў начальнік пошты, сярэдніх год чалавек з кароткім і шырокім на канцы носам, падобным да цяслы́. Там-жа пакручваўся памочнік начальніка, знаёмы Лабановічу белабрысы хлопец, якога за вочы называлі Цвілым. Гэта быў малаадукаваны чыноўнічак, але з прэтэнзіямі на інтэлігента і з замахам на дасціпнасць і жарты, якія, праўда, мала ўдаваліся яму. За перагародкаю стаяла некалькі шафаў з паштовымі справамі і паперамі, з рознага роду карэспандэнцыяй. У драцянай сетцы былі зроблены невялікія акенцы, праз якія прымаліся заказныя пісьмы, прадаваліся маркі, выдаваліся пісьмы і пасылкі.

У пярэдняй таўклося некалькі наведвальнікаў. Лабановічу кінулася ў вочы адна бабка. З разгубленым выглядам яна зварачалася то да аднаго, то да другога з наведвальнікаў, але ад яе адмахваліся, як ад надакучлівай мухі. А ёй проста трэба было, каб хто прачытаў пісьмо, што прышло ёй па пошце. Яна звярнулася і да Лабановіча. Прышлося задаволіць бабчыну просьбу. Стаўшы ў зацішнейшае месца, Лабановіч ціха, каб толькі чула бабка, прачытаў ёй пісьмо. Бабка слухала і плакала, хоць прычын для плачу ў пісьме не было.

Улучыўшы зручную хвіліну, Лабановіч аклікнуў Цвілога:

— Іван Паўлавіч, дзень добры!

Іван Паўлавіч падняў вочы з-пад тоўстых прыпухлых павек. Відаць, ноч правёў ён у вясёлай кампаніі.

— А! — ажывіўся ён, убачыўшы Лабановіча. — Дзень добры, дзень добры, педагог без педагогікі!

Іван Паўлавіч вясёлым смехам сам ухваліў сваю дасціпнасць, трапныя словы.

— Паглядзіце, калі ласка, ці няма мне пісем да запатрабавання.

— Паглядзім!

Іван Паўлавіч перагарнуў стопку пісем.

— Няма!—сказаў ён і насмешліва дадаў:—Пішуць... Пэўна, ад кралі, калі да запатрабавання?

Лабановіч быў расчараваны, як-бы яго пакрыўдзілі тым, што не аказалася пісем і асабліва аднаго — ад Ліды.

«Куды-ж цяпер падацца?» — запытаў у мыслях самога сябе Лабановіч, апынуўшыся на той-жа малалюднай плошчы. Зірнуўшы ў бок вуліцы, што выходзіла да Нёмана, ён угледзеў постаць чалавека, які вельмі нагадваў Янку Тукалу. Чалавек ішоў унурыўшыся, у задуменні. Лабановіч паўзіраўся пільней — так: гэта Янка Тукала! Лабановіч ціхенька падкраўся і пайшоў за Янкам у некалькіх кроках. Заняты сваімі думкамі, Тукала нічога не зважаў.

— Ахэ! Ахэ! — кашлянуў Лабановіч.

Янка азірнуўся. У яго вачах наўперад адбілася палахлівасць, а потым твар засвяціўся, як сонца.

— Андрэй! А бадай-жа ты скіс! — радасна выгукнуў Янка.

Сябры кінуліся адзін да аднаго і моцна абняліся.

— Дай, брат, пацалую твой імбрычак! — Янкаў нос нагадваў рыльца чайніка.

— Пойдзем туды! — кіўнуў Янка ў бок Нёмана.

Яны вышлі на пустыр, дзе нікога не было, і спыніліся каля яруса акуратна зложаных бярвенняў.

## IV

— Давай сядзем тут, — прамовіў Янка, паказваючы рукою на сасновыя круглякі.

Перш чым сесці, Янка спасцярожліва зірнуў на мястэчка, кінуў погляд перад сабою.

— Эге, брат Янка, ты стаў штосьць баязлівы і падазроны, — заўважыў Лабановіч і адною рукою крэпка прыгарнуў прыяцеля.

Янка Тукала жартліва адказаў у евангельскім тоне:

— Блюдите, како опасно ходите!

Прыняўшы сур'ёзны выгляд і панізіўшы голас, ён сказаў:

— Трэба, браце, быць асцярожнымі: усе мы, зволеныя настаўнікі, што збіраліся ваяваць з царом, знаходзімся на вялікім падазрэнні ў начальства і аддадзены пад патайны нагляд паліцыі. Разумееш, васпане?

— Тут і разумець няма чаго, — спакойна азваўся Лабановіч, хоць тое, што сказаў Янка, яго моцна затрывожыла. — Гэтага і трэба было чакаць, ды гэта — толькі ўступ да далейшых рэпрэсій. Так-жа нас не пакінуць, — дадаў Лабановіч і запытаў: — Але адкуль ты ведаеш, што мы пад наглядам паліцыі?

Янка хітра зірнуў на Андрэя, падняў палец угору і сказаў:

— О, гэта, брат, тонкая палітыка! Аказваецца, што ў лагеры нашых ворагаў ёсць і нашы прыхільнікі.

— Што ты кажаш! — здзівіўся Лабановіч.

— Ты толькі маўчы: гэтыя весткі пачуў я з ураднікавага дому, таго сівага даўжэразнага Кашчэя, што першы кінуўся на наш пратакол у часе налёту пристава са стражнікамі.

— Ну, гэта ўжо зусім цікава. Няўжо гэты Кашчэй — наш прыхільнік?

— Не ён, а яго дачка Аксана!

— Здзівіў ты мяне, Янка! І як-жа я зараз паверу, што да цябе не горнуцца дзяўчаты! — пажартаваў Лабановіч.

— Ну, гэта яшчэ нічога не значыць. Справа тут не ва мне, а ў тым, што ўраднікава дачка спачувае нам, спачувае той справе, за якую нас павыганялі са школ.

— Вось яно што! Дзівосныя справы, браце Яне! І навіны якія! — азваўся трохі здзіўлены і зацікаўлены Лабановіч. — А якая яна, гэта Аксана, прыгожая?

— Як на чый густ, — абыякава сказаў Янка. Відаць было, што ён хацеў заінтрыгаваць прыяцеля і не адказваў проста на яго пытанне.

— А ўсё-ж-такі? — не адступаўся Лабановіч.

Янка адказаў усё ў тым-жа тоне:

— Каму падабаецца поп, каму пападдзя, а каму папова дачка.

— А каму ўраднікава, — падражніў Янку Лабановіч. Янка весела засмяяўся.

— Ну, і назола-ж ты, Андрэй, — сказаў ён. — І няхай

сабе. Сам пабачыш яе. А калі ўжо так хочаш ведаць, дык скажу: нішто дзяўчына, русявая, танклявая, высокая, белы твар, носік даўгаваты, але твару не псуе. На шчоках румянак сухотніцы. Ну, што — цяпер ты задаволены?

— Калі-б я быў мастак-маляр, дык я напісаў-бы яе партрэт з тваіх слоў: так добра і падрабязна апісаў ты Аксану, — жартліва заўважыў Лабановіч і падміргнуў прыяцелю.

— Эх, брат! — махнуў рукою Янка. — Няважныя мы з табою цяпер кавалеры-жаніхі: хто на нас пагáліцца, бяздомных басякоў?

— Ну, гэтага ты не кажы, — запратэставаў Лабановіч, — сякую-такую цану маем і мы. Па-першае: у нас маладосць. Мы здаровыя, любім жыццё і моцна чапляемся за яго. Па-другое: новыя дарогі расчыняюцца перад намі — няхай сабе неакрэсленыя, трудныя і няпэўныя. Дык няхай жыве наша вандроўніцтва па свеце!

— Я заўсёды адчуваю сябе добра, калі ў мяне ёсць апора і ёсць друг, з якім можна адвесці душу, запазычыць сілу ў хвіліны занятаду. Вось я і зараз рад, што сустрэў цябе, бо я ўжо быў закіс трохі.

— Дзе-ж ты зараз жывеш? Чым і як мацуешся?

— Жыву я, можна сказаць, паміж небам і зямлёю. Вандрую з Ячонкі ў Стаўбуны. Сталага месца покі што яшчэ не маю. Хаджу ды прыглядаюся да зямлі, праўдзівей пад ногі сабе: мне ўсё здаецца, што я знайду тысячу семсот сорак рублёў і пяцьдзесят чатыры капейкі. Ні болей, ні меней!

Лабановіч засмяяўся і патрос прыяцеля за плячо.

— Ты не смейся, далі-бог, думаю, што знайду тысячу семсот сорак рублёў.

— А чаму-ж яшчэ і пяцьдзесят чатыры капейкі?

— А чорт іх ведае, убіліся мне ў вочы: срэбраны поўрубель з «Міколкам-дзве палачкі», медны траяк і адна капейка! Так і стаяць яны ў маіх вачах... А можа, я вар'яцець пачынаю? — спытаў самога сябе Янка ды тут-жа дадаў: — Дык не, з глузду мне цяжка з'ехаць, бо яго ў мяне не так ужо багата.

— Эй, Янка, не паважаеш ты самога сябе: глуздоў у цябе — больш як на аднаго чалавека.

— Нічога я не ведаю, — адказаў Янка, — табе збоку відней. Ёсць глузды, то і дзякуй богу!

Лабановіч павярнуў гутарку ў другі бок.

— Што-ж мы сядзець будзем тут, на гэтых бярвеннях: давай падамося куды-небудзь ды пагутарым, як таго вымагае наша становішча.

Янка ўскочыў з бервяна, гатовы падацца хоць на край свету, і прадэкламаваў:

Казак, любі мяне,
Куды хочаш вядзі мяне!

— Го! Бачыш, які ты спрытны, — вядзі яго! А можа-б, васпан павёў мяне? Ты-ж гаспадар і жыхар тутэйшых мясцін, — заўважыў Лабановіч.

— Быў конь, ды з'ездзіўся, — журботна прызнаўся Янка, але раптам набраўся смеласці, падняў угору правую руку і выгукнуў: — Ёсць яшчэ порах у парахаўніцах — гайда да Шварца! Гуляць, дык гуляць: давай на капейку квасу!

Да сяброў вярнуўся добры гумор і дурасьлівы настрой. Яны забыліся нават, што знаходзяцца пад патайным наглядам паліцыі, і пра Аксану, ад якой даведаўся Янка пра гэта. Ідучы глухімі закавулкамі ў шынок да Шварца, Янка прыгадаў семінарскі велікапосны спеў:

Покаяния отверзи ми двери, жизнедавче,
Утренюет бо дух мой ко храму святому твоему...

Удвух пачалі яны перайначваць царкоўны тэкст, прыстасоўваючы яго да шынка Шварца. Атрымалася так:

Заведения отверзи ми двери, отче Шварче,
Утренюет бо дух мой к шинку святому
твоему.
Живот носяй поджарый, весь опустошен,
Но яко щедр, напой мя благоутробною
твоею гнилостию.

— Добра, яй-права, добра! — сказаў у захапленні Янка.

Прыяцелі засталіся задаволенымі вынікамі свае творчасці. Яны напоўголаса спявалі перайначаную песню. Людзі, якім давялося сустрэцца з імі і пачуць матыў свя-

тога спеву, зычліва пазіралі на іх, як на маладых набожных хлопцаў.

— Ну, вось і напаткалі мы новую прафесію! — смяяўся Янка Тукала.

— А што-ж? Зложым цэлы рэпертуар такіх песень ды пойдзем па фэстах. Сядзем на цвінтары каля царквы і будзем даваць канцэрты, а людзі не паскупяцца на медзякі спевакам.

Прыяцелям было весела і смешна. У такім настроі ступілі яны на парог Шварцавага прытулку. Прытулак гэты быў для іх не новы. Шварц, увішны чалавек сталых гадоў, заўсёды быў рады гасцям, асабліва такім, як настаўнікі. Шварц трохі чуў пра здарэнне з імі, але што яму да таго? Зайшлі, значыць, дадуць утаргаваць.

У шынку пахла гарэлкаю, селядцамі, дзёгцем, і быў яшчэ такі пах, якога не вызначыць самы напрактыкаваны нос. Падлога была ўся ў плямах, затаптаная мокрымі лапцямі і ботамі.

— Дзень добры, ойча Шварча! — прывіталі госці гаспадара.

Шварц ускінуў на іх чорныя вочы, усміхнуўся.

— Дзень добры! Але што гэта такое «ойча Шварча»? — пацікавіўся ён.

— Гэта значыць — дзень добры, бацька Шварц!

— Го, гэта добра!

Гаспадар, як відаць, застаўся задаволены такім зваротам. Ён павёў гасцей у глыб свае хаты, у чысты пакойчык, хоць і неправетраны. Але госці былі людзі непатрабоўныя, — пакойчык у поўнай меры задавольваў іх, як задавольвала і гасціннасць самога гаспадара.

— Ну, чаго-ж загадаеце падаць, якіх трункаў і якой закускі?

Госці паглядзелі адзін на другога. Ім пачулася некаторая іранічнасць у словах Шварца, хоць ён і не меў гэтага ў думках.

— Ну, чаго-ж? — перапытаў Янка. — Дайце на першы пачатак па бутэльцы піва на брата, сяледчыка замарынаванага. Гаспадыня пана Шварца вялікая мастачка марынаваць селядцы.

Шварц задаволена засмяяўся.

— Ну, добра! — сказаў ён і вышаў.

Былыя настаўнікі многазначна пераглянуліся.

— Бачыш, Янка, — сказаў Лабановіч, — а ты нядаўна гаварыў, што нікудышныя мы людзі. А вось Шварц ставіцца з павагаю да нас. А гэта, дружа, значыць, што мы нешта важым.

— Не ведае Шварц, што «в нашем кармане вошь на аркане», — заўважыў Янка.

— А хіба нашы кішэні так ужо спусташыліся? — запярэчыў Лабановіч. — А хто нядаўна казаў: ёсць яшчэ порах у парахаўніцах? А твае тысяча семсот сорак рублёў пяцьдзесят чатыры капейкі?

— Ведаў-бы, то не казаў-бы пра сваё багацце...

Іхняя гутарка на гэтым спынілася. У дзвярах паказалася Шварцава служанка з падносам у руках, на якім было піва і закуска. За служанкаю ўвайшоў і сам Шварц.

— Будзьце ласкавы, вось піва, а вось сяледчык і хлеб. За хлеб Шварц грошай не бярэ, — сказаў гаспадар і ўрачыста вышаў з бакавушкі.

«Госці» сядзелі, частаваліся. Хутка ад марынаванага селядца засталася адна толькі галава ды хвосцік. Заказалі яшчэ пару піва і пару селядцоў. Настаўнікам стала яшчэ весялей. Іх не палохала зараз ніякая прыгода невядомых наступных дзён. Са Шварцам развітваліся па-людску і моцна ціснулі яму руку на развітанне.

Ідучы з прыяцелем у Смалярню, Янка гаварыў аб яўрэйскай інтэлігенцыі, з якой пазнаёміўся ён і якой у Стаўбунах было даволі многа. Яму абяцалі падшукаць неблагі заработак па спецыяльнасці. З ліку гэтай інтэлігенцыі можна ў першую чаргу назваць Міру Савельеўну, дантыстку. Някепска развіты і малады парыкмахер Мітэльзон. Ёсць і студэнты, у якіх можна раздабыць добрых кніг. Уся гэта інтэлігенцыя шчыра спачувае выгнаным настаўнікам і гатова падтрымоўваць іх чым толькі можа.

## V

Смалярня стала на некаторы час галоўным штабам двух закадычных прыяцеляў, Лабановіча і Тукалы. Невялікія, вузенькія сенцы разгароджвалі хату лесніка на дзве палавіны; чысцейшую Уладзімер адвёў для брата Андрэя.

Больш глухі і зацішны куток, як тут, цяжка было знайсці. Але глухмень і зацішак не забяспечвалі ўпэўненасці ў тым, што сюды не зазірне вока непатрэбнага чалавека, асабліва цяпер, калі настаўнікі знаходзяцца пад наглядам паліцыі. Сябры не забываліся на гэта і нічога «крамольнага», недазволенага паліцэйскімі прадпісаннямі, не трымалі ў лесніковай хаце. Розную-ж недазволеную літаратуру — брашуркі, лісткі, адозвы — яны хавалі ў нетрах глухога густога лесу. Літаратуру прыносіў потайкам Янка з мястэчка, у якім ён з дапамогаю рэвалюцыйна настроенай моладзі знайшоў сабе аселасць і невялікі заработак.

Сябры сустракаліся часта — ці то ў мястэчку, у цеснай каморцы Янкі, ці тут у Смалярні. Удвух было весялей дый шмат паўставала пытанняў, якія вымагалі свайго вырашэння. Для такіх спраў болей надавалася Смалярня, а таму сябры тут часцей і сустракаліся. Аб чым толькі не гаварылі яны ў доўгія восенскія вечары і ночы ў зацішнай хатцы! Першым чынам трэба было дамовіцца, як трымацца на допыце — не толькі ім, але і ўсім звoленым настаўнікам. А што допыту не абмінуць, сябры ў гэтым не сумняваліся.

Яшчэ ў тую пару, калі пратакол настаўніцкага сходу папаў у рукі паліцыі, хтось з яго ўдзельнікаў падаў думку: у выпадку непрыемнай гутаркі з начальствам гаварыць, даводзіць, што сход быў выпадковым і не ставіў сабе ніякіх рэвалюцыйных мэт. Гэты варыянт і прынялі за аснову сваіх паказанняў саматужныя юрысты — Янка і Андрэй. Але яго трэба было абмеркаваць з усіх бакоў, каб усё было падобна да праўды.

Сябры пачынаюць рэпетыцыю. То той, то другі з іх бярэ на сябе ролю следчага. Наўперад выступае Янка. Следства вядзе ён па ўсіх правілах юрыдычнай навукі. Пасля некаторых трафарэтных пытанняў, як: імя, па бацьку, прозвішча, колькі гадоў, ці быў пад судом ці не быў, «следчы» пераходзіць да допыту па сутнасці справы. «Паддопытны» Лабановіч у сваіх адказах займае тую пазіцыю, аб якой дамовіліся. «Следчы» ставіць пытанне:

— Вы сцвярджаеце, што не мелі намеру склікаць недазволены з'езд настаўнікаў і не ставілі перад сабою крамольных, злачынных мэт. А як-жа пагадніць вашы сцвер-

джанні з тым, што запісана вось у гэтым богамерзкім пратаколе, дзе стаіць і ваш подпіс?

«Следчы» сурова пазірае на «паддопытнага».

Лабановіч напускае на сябе выгляд нявіннага чалавека.

— Я не ведаў, што было запісана ў пратаколе, гаспадзін следчы, — адказвае ён.

«Следчы» пацiскае плячамі. Злая ўсмешка крывіць яго губы.

— Як-жа вы падпісвалі тое, што вам невядома? — цікавіцца «следчы». — А калі-б у пратаколе было напісана: гэтым я абавязуюся ўсунуць у пятлю галаву, каб мяне павесілі. Што, вы і тады падпісаліся-б? — насядае ён.

«Паддопытны» адказвае ў журботным тоне:

— Вядома, калі-б я не чытаў пратакола і не ведаў, што ў ім напісана, дык і пад такім пратаколам падпісаўся-б.

— Вось гэта міла! — выгуквае «следчы». Ён ізноў яхідна, як і сапраўдны следчы, пасміхаецца. — Растлумачце — я вас не разумею, — зварачаецца ён да «паддопытнага».

«Паддопытны» сарамяжліва і вінавата апускае вочы, хвілінку думае.

— П'янаму, гаспадзін следчы, і мора па калена, — журботна прызнаецца ён і дадае: — А за кампанію, як кажуць, цыган павесіўся.

Янка не датрымаў ролі і весела зарагатаў.

— А ведаеш, — сказаў Янка, — някепска атрымоўваецца, далі-бог!

— Ты-ж, трэба аддаць табе справядлівасць, пытанні ставіў казуістычныя, — хваліць следчыцкі талент Янкі Андрэй.

Тут не абышлося без таго, каб сябры не пахвалілі адзін аднаго за ўдала праведзеныя ролі. Але гэта толькі пачатак. Добры-ж пачатак — палавіна справы. Дык трэба прадоўжыць следства. На гэты раз «следчым» робіцца Лабановіч, і ролі мяняюцца.

Спачатку паўтараецца той-жа ўступны допыт, а затым працяг па сутнасці справы.

— З вашых слоў выходзіць, што вы падпісалі прата-

кол, не ведаючы, што ў ім запісана, толькі таму, што вы былі п'яны і не зналі, што рабілі. Так я вас разумею? — пытае «следчы» Лабановіч «паддопытнага» Янку Тукалу.

— Так, — смела пацвярджае Янка.

— А дзе вы напіліся і з якога поваду?

Янка напускае посны выгляд, збіраецца з думкамі.

— Выпілі на сяброўскай маёўцы, спачатку, як кажуць, на ўлонні прыроды за сялом, а потым дадалі яшчэ і ў Мікуціцкай школе, на кватэры свайго калегі Садовіча.

— Стала быць, мелася нейкая рэальная прычына для такой выпіўкі. Вось вы і скажыце, якая гэта была прычына?

«Паддопытны» спачатку крыху мнецца, а потым кажа:

— Асноўная прычына, гаспадзін следчы, была ў тым, што і нашаму брату, вясковаму настаўніку, часамі хочацца выпіць, тым болей, у такой вялікай кампаніі.

— Гэта праўда, кампанія вялікая, задужа нават вялікая для сяброўскай маёўкі, як сцвярджаеце вы, — іранічна заўважае «следчы».

«Паддопытны» не крыўдзіцца за гэту заўвагу і прадаўжае сваё тлумачэнне.

— Сяло Мікуцічы, гаспадзін следчы, славіцца тым, што з яго выходзіць многа настаўнікаў. Дык нічога дзіўнага няма ў тым, што летам іх з'язджаецца многа ў сваё сяло, да бацькоў.

— А вось з іншых мясцін былі тут настаўнікі? — вядзе сваю лінію «следчы».

— Іх было мала, гаспадзін следчы, дый то гэта ўсё блізкія прыяцелі, аднакашнікі настаўнікаў, вышаўшых з Мікуціч.

— Ну, а вы — таксама з Мікуціч? — пытае «следчы».

— Я тут па суседству. Мая вёска вярсты дзве адгэтуль. Летам я ўвесь час праводзіў з сябрамі ў Мікуцічах.

— Так весела там? — іранічна падае рэпліку «следчы».

— Мы ўтварылі там, на кватэры Садовіча, пры школе, гурток настаўнікаў і займаліся падгатоўкаю да экзаменаў на атэстат сталасці, — дае тлумачэнне Янка.

— Вашу «сталасць» вы засведчылі ў сваёй крамольніцкай рэзалюцыі, — кажа бязлітасны «следчы», потым рэзка мяняе тон. — Давайце кінем гуляць у хованкі, —

сурова гаворыць ён. — Факт ёсць факт, а дакумент застаецца дакументам! — «Следчы» падымае ўгору ліст паперы, які павінен азначаць «дакумент», і ўжо болей спакойна гаворыць: — Прызнавайцеся — хто пісаў тэкст гэтага паскуднага пратакола?

Пасля кароткай паузы ён дадаў:

— Памятайце, што шчырае ўсведамленне злачыннасці і праўдзівае прызнанне свае віны толькі зменшыць ступень справядлівага пакарання.

«Паддопытны» спачатку маўчыць, а потым лагодна заяўляе:

— Мне няма ў чым прызнавацца, бо я не толькі не ведаю, хто пісаў пратакол, але і не ведаю, што ў ім напісана.

— Кіньце дурака валяць! — грыміць «следчы». — Гаварыце праўду, хто складаў пратакол?

— Калі хочаце ведаць праўду, дык скажу: пратакол напісаў бог Бахус! — адказвае таксама крыху ўзлаваны «паддопытны».

Прыяцелі не датрымліваюць далейшай камедыі і весела рагочуць.

— А няхай ты скісні! Замарыў мяне, аж лабаціна ўпрылася, — гаворыць Янка і выцірае хустачкаю лоб.

— Што скажаш, Яне? Па-мойму — някепска. Калі мы ўсе разыграем такую «божскую камедыю», дык яй-права, добра будзе!

— Шлях працярэблены! — весела адзываецца Янка: — Застаецца толькі пашліфаваць некаторыя дробязі. Можа, «следчы» — ты ці я — не так часамі запытваў, а «паддопытныя» часамі не так адказвалі.

— А як ты мяркуеш, можа «Бахуса» трэба зняць, а тую-ж думку выказаць трохі іначай, — асцярожна заўважае Лабановіч.

— Справа, браток мой, не ў дакладнай тэрміналогіі, была-б толькі верна і не рознабойна вызначана лінія агульных паводзін, а рэшту, вядома, трэба падгладзіць, падчысціць.

— Я ў прынцыпе не супраць Бахуса, Янка, быць можа, гэта наша знáходка. Тысячы людзей ускладалі віну на беднага Бахуса, і гэта часта памагала ім. А ну-ж і нам ён саслужыць службу.

Прыяцелі пераходзяць да канчатковага афармлення «допыту» і апошніх заключэнняў. Застаецца толькі пазнаёміць усіх удзельнікаў настаўніцкага з'езду ў Мікуцічах, каб усе зволеныя настаўнікі ігралі ў адну дудку — ніякага раней абдуманага намеру не было. Паўстала другое пытанне: якім спосабам паведаміць сябрам аб прынятай лініі паводзін на допыце. Адказ быў адзін: толькі вусна і ўпотайку.

У заключэнне Лабановіч сказаў:

— Трымайся, Янка, нас яшчэ лёсы невядомыя чакаюць. Падаць духам не будзем!

— Не будзем!.. — падхапіў Янка. — Мы яшчэ пакажам, што такое «агаркі-санкюлоты» — сцеражыцеся, багацеі, бедната гуляе!

Пасля таго, як настаўнікаў павыганялі са школы, яны называлі сябе «агаркамі», гэта значыць людзьмі, выкінутымі за парог жыцця.

## VI

Праз колькі дзён пасля рэпетыцыі допыту да Лабановіча зайшоў брат.

— Для цябе, браце, наклёўваецца школа, — весела прамовіў Уладзімер. На яго губах красавалася хітраватая ўсмешка.

Лабановічу здалося, што брат хоча пакпіць з яго — напэўна, пад'язджае з нейкім жартам.

— У які бок ты ківаеш, Уладзік? Якая можа быць для мяне школа? — недаверліва азваўся Андрэй.

— Маленькая школка, тут у Смалярні!

— Не разумею, што ты хочаш сказаць, — прызнаўся Андрэй.

А Уладзімер казаў далей:

— Справа залежыць зараз ад цябе — згодзішся вучыць, і вучні будуць, — па тры рублі ў месяц з носа!

— Было-б добра, каб яны былі, але дзе ўзяць іх?

Тут Уладзімер раскрыў карты. Некаторыя бацькі з суседніх вёсак, дачуўшыся, што тут пад бокам ёсць настаўнік, прасілі Уладзімера перагаварыць з братам, ці не ўзяўся-б ён вучыць іхніх хлопцаў. Везці іх у Стаўбуны

далекавата, ды яшчэ трэба знайсці кватэру, плаціць за яе, пасылаць харчы. А так было-б зручней: лягчэй прайсці дзве-тры вярсты да Смалярні, чым ехаць вёрст дзесяць да мястэчка.

— Дык як ты глядзіш на гэта? — запытаўся Уладзімер.

— Ахвотна ўзяўся-б вучыць — рабіць-жа мне няма чаго. Колькі набярэцца вучняў?

— Сем-восем хлопцаў, а то, можа, і болей.

— Што-ж? Гэта добра. Не ведаю толькі, як размясціць школу.

— Пра гэта ты не думай, — сказаў Уладзімер.

Яшчэ дні праз два «школа» была зусім гатова прыняць непрадбачаных вучняў. Змайстравалі просты доўгі стол, паставілі дзве лаўкі па адзін і па другі бок, а ў адным канцы табарэцік, «прафесарскую» кафедру.

Такая гісторыя адчынення «школы» ў Смалярні — на вялікую радасць Лабановіча і задаваленне вяскоўцаў, бацькоў дзевяці вучняў.

Хоць Лабановіч зараз быў далёка няпоўнапраўны настаўнік, ад начальства не пастаўлены, але ён адчуў вялікае задаваленне, калі ў леснікову хату прышло дзевяць хлапчукоў рознага ўзросту і рознай адукацыі. Даволі было палавіны дня, каб устанавіць ступень падгатаванасці вучняў. Самаму старэйшаму з іх, Тодару Бярвенскаму, было ўжо каля шаснаццаці гадоў. Гэта быў рослы дзяцюк. Некалькі зім хадзіў ён у школу, але з вялікімі перапынкамі. Са школьнай праграмы ён сёе-тое ведаў, а наогул быў малапісьменны. Яго ўжо болей займалі дзяўчаты, чым кнігі. Але жыццё прымушала ўзяцца за навуку, хоць-бы здаць экзамен за курс пачатковай школы. У школе, сярод шумнай грамады невялікіх хлапчукоў, Бярвенскі пачуваўся не дужа ёмка. Вось чаму з вялікаю ахвотаю пайшоў ён у зацішную Смалярню да Лабановіча. У Тодара была і асаблівасць гаворкі: калі дзеяслоў канчаўся на «аў», ён вымаўляў «оў»: браў — броў, араў — ароў, баранаваў — баранавоў і інш.

Усе астатнія вучні былі ад адзінаццаці да трынаццаці гадоў. Яны таксама вучыліся ўрыўкамі, прапускалі заняткі, слаба ведалі навуку ў межах школьнай праграмы. Па азнаямленні Лабановіч падзяліў іх на тры групы, па тры

вучні ў кожнай: вышэйшая група, у якую ўваходзілі Тодар Бярвенскі, Якім Пракопік і Паўлюк Глушка, сярэдняя і група найболей адсталых.

З усёю адданасцю заўзятага настаўніка пачаў Лабановіч заняткі са сваімі нешматлікімі вучнямі. Перш за ўсё іх трэба было забяспечыць належнаю колькасцю пісьмовых прыналежнасцей, кнігамі-падручнікамі і іншымі дапаможнымі рэчамі школьнага ўжытку. Усё гэта было раздабыта стараннем самога настаўніка і дзякуючы некаторым грашовым выдаткам яго выхаванцаў, якія загарэліся шчырым жаданнем вучыцца.

З ранку да вечара крукам сядзелі вучні і настаўнік за сталом, то ўткнуўшыся ў кнігі, то ў сшыткі, то глыбокадумна падымалі ўгору вочы, калі рашалі задачы. Тут не было такога распарадку, як у звычайных школах. Перапынкі рабілі ў меру патрэбы, не лічачыся з тым, колькі часу адводзілася заняткам па тым ці іншым прадмеце.

Саматужная школа ў Смалярні абмежавала час Лабановіча, што ніколькі не турбавала яго, бо гэта была жывая і прывычная яму справа.

Янка Тукала шчыра парадаваўся за прыяцеля.

— Го, брат! — жартліва казаў ён. — Нашага брата голымі рукамі не возьмеш: ён жывучы, як палын, і жыць будзе, пакуль карэння з зямлі не вырвеш!

Каб не замінаць прыяцелю ў занятках, ён таксама абмежаваў свае наведванні ў Смалярню. Але не было ніводнага тыдня, каб яны не сустрэліся — ці на кароткі, ці на болей доўгі час, — не пагаманілі аб розных рэчах і справах. Гэта ўжо сталася патрэбаю, доўга заставацца адзін без другога яны не маглі. Пагаманіць-жа заўсёды было пра што. Жывучы ў мястэчку і сустракаючыся з мястэчковаю інтэлігенцыяй, Янка быў да некаторай ступені ў курсе розных палітычных плыняў, але ніводнаю з іх не захапляўся, стаяў збоку ад іх, прыглядаўся і прыслухоўваўся да ўсяго, што гаварылася, каб усё ўзважыць сваім уласным розумам, прапусціць праз свае думкі. Часамі ён нават пасмейваўся з мястэчковых лідэраў дробнабуржуазных партый і з іх бясстрашнасці.

Янка казаў:

— Кожны гэткі цыган сваю кабылу хваліць. Мяне яны ўсе хочуць залучыць на свой бок. Я слухаю, і мне прыходзяць на памяць местачковыя крамнікі, што стараюцца зацягнуць у сваю краму пакупніка, каб прадаць яму тавар і зарабіць на продажы. Кожны разрываецца, даводзячы, што самая сапраўдная партыя ёсць тая, да якой ён сам належыць. Ды хто бачыў тую праўду? Дзе яна і якая яна? Я, прызнацца, не бачу яе. Помніш, як мы вывучалі ў Новым завеце: Пілат пытаўся ў Хрыста: а што ёсць ісціна? І адказу не пачуў.

— Унь куды завярнуў ты, Янка! — крыху здзівіўся Лабановіч. — Залезеш, браце, у такія нетры, што і не выберашся.

— А ўсё-ж-такі, што такое праўда? — упёрся Янка.

— Калі Хрыстос не здолеў даць адказ Пілату на запытанне, што ёсць ісціна, дык я табе скажу. Праўда, гэта, брат, тое, у што ты веруеш так, што і другіх прымусіш паверыць.

— Гм! — патрос галавою Янка. — Завілавата і неакрэслена. Це діло треба разжувати, як кажуць украінцы.

— Бяда наша, Янка, у тым, што мы непадкаваныя, невялікая наша адукацыя, каб правільна падысці і крытычна паставіцца да праграмы розных палітычных партый.

— У іх сам чорт нагу зломіць, — заўважыў Янка. — Слухаеш аднаго здольнага прамоўцу, дык здаецца, што ён гаворыць праўду. А паслухаеш другога, яшчэ болей здольнага і красамоўнага, які будзе абвяргаць першага і давodзіць правату сваіх поглядаў, дык выходзіць, што праўда на баку гэтага другога... Можа, і правільна, што такое хістанне ёсць вынік невялікай адукацыі,—згадзіўся Янка, але тут-жа запярэчыў: — Не, браце, не ў адукацыі справа! Вось кадэты — вельмі адукаваныя людзі. Гэта ўсё прафесары, адвакаты, рэдактары газет і часопісаў. Дык няўжо-ж ісці за імі і прызнаць, што яны кажуць праўду?

— Не варты кадэты таго, каб гаварыць аб іх нават у маёй Смалярні, — зняважліва сказаў Лабановіч. — Справа ў тым, што кадэты — манархісты, хоць афарбоўка ў іх

трохі іншая, чым, скажам, у акцябрыстаў і ў другіх падобных партый. Раз яны стаяць за манархію, якую-б там ні было, дык цвілы грош цана ім.

— Што праўда, то праўда, — згадзіўся з сябрам Янка. — Усё-ж большасць партый сходзіцца ў адным: яны стаяць за тое, каб скінуць цара. Калі-ж гэта так, то я згодзен тут ісці з імі ў ногу і бяру ад іх усё, што спрыяе пагібелі цара і самадзяржаўнага ладу. У гэтым выпадку я падобен да пчалы, што збірае мёд з розных кветак, абы толькі паўнейшы быў вулей. Вось яны, гэтыя кветкі!

Янка выняў з-за пазухі жмут пракламацый, згорнутых у трубку.

— Перш за ўсё, — кажа Янка, — трэба занесці іх у лес і схаваць у нашай «скарбонцы».

Лабановіч узяў пракламацыі.

— І ты не баішся насіць іх? — спытаў ён, падміргнуўшы.

Янка засмяяўся.

— Бог не папусціць, свіння не з'есць. А калі-б пабачыў, што мяне запыняць і зробяць вобыск, дык сказаў-бы: а я іду якраз у паліцыю — недазволеную літаратуру знайшоў!

— Так-бы яны табе і паверылі?

— Ну, што-ж? Купіў, не купіў, а патаргаваць можна, — у тым-жа вясёлым тоне адказаў Янка.

— Гэта таксама правільна. Але ці думаў ты, збіраючы вось гэтыя «кветкі», што сярод іх могуць быць і атрутныя?

— Покі што пра гэта не думаў. Я, брат, зыходжу з прынцыпу: што бог даў, тое ў торбу. Будзе зручная часіна, пераглядзім іх і тады аддзелім плёвелы ад пшаніцы. Плевелы спалім, а чыстую пшаніцу паложым у жытніцу, як вучыць Хрыстос.

— Здорава засвоіў ты евангельскую навуку, — пажартаваў Лабановіч.

— Без бога ні да парога.

— А з богам хоць за выварат, — у тон прыяцелю дадаў Лабановіч, намякаючы на патайное сховішча забаро-

ненай літаратуры ў лесе пад карэннямі вывернутай старой яліны.

Прыяцелі добра зразумелі адзін аднаго і накіраваліся ў лес да патайнога сховішча.

## VII

Амаль кожную суботу надвячоркам, калі Лабановіч адпускаў сваіх вучняў дахаты, Янка Тукала прыходзіў да прыяцеля ў Смалярню. Янка любіў цішыню і спакой, якія панавалі ў глухім кутку сярод лесу, дзе праводзіў заняткі Лабановіч. Спатканні заўсёды былі жаданымі, радаснымі, вясёлымі. Бадай кожны раз, прыходзячы да сябра ў адведзіны, Янка захапляўся прытулкам свайго прыяцеля, утульнасцю, глухменню.

— Тут, брат, як у бога за пазухаю і не бачыш ніводнай паліцэйскай морды. Проста — рай!

Звычайна Янка прыносіў сякія-такія навіны, цікавыя кніжкі, раздабытыя ў мястэчку, чуткі, звязаныя з палітычным становішчам у Расіі, весткі аб намерах прагрэсіўных людзей — імёны іх не называліся — выдаваць новыя газеты, часопісы. Расказвалі, што нібыта рыхтуецца выпуск беларускай газеты, чаго яшчэ амаль ніколі не бывала. Усе гэтыя навіны прыемна хвалявалі сяброў і служылі багатаю страваю для гутарак. Размовы часта цягнуліся за поўнач, калі прыяцелі ўжо ляжалі ў цвёрдай сялянскай пасцелі пад адною коўдраю. Гаворка часамі пераходзіла ў звычайнае фантазёрства, у жарты, у неіснуючыя сітуацыі, поўныя дасціпных, смешных выдумак. Прыяцелі шчыра заліваліся такім смехам, якога ў іх даўно ўжо не было. З гэтай прычыны Янка аднойчы заўважыў:

— Я ніколі так весела не смяяўся, як цяпер, калі страціў школу і бадзяюся адзін, як воўк, па глухіх дарогах.

— Вось гэта і добра, Янка, — падтрымаў яго Лабановіч. — Смех не грэх, а галавы не вешай.

— Але, глядзі, брат, каб не давялося нам паплакаць.

— Калі надыдзе такі час, дык што-ж? І паплачам. Слёзы, кажуць, ачышчаюць чалавека.

— Няхай лепей нашы ворагі плачуць, — азваўся Янка.

Пасля такіх вечароў і начлегаў, калі прыяцелям падыходзіла пара развітацца, Янка непрыметна цішэў, замыкаўся ў сабе, і ўся яго вясёласць знікала.

— Што зажурыўся, мой дружа? — пытаў яго Лабановіч.

Янка нібы абуджаўся ад сну, падымаў на прыяцеля шэрыя, удумлівыя вочы.

— А чаго мне журыцца? — казаў ён. — Жонкі няма, дзеці дома не плачуць, дый дому няма. Я вольны, як вецер у полі. Дык чаго журыцца?

— Не, брат, не хітруй! Прызнавайся, кажы праўду!

Янка прымаў паставу акцёра і трагічным голасам казаў:

— Праўда можа забіць чалавека, калі яна не ў часе выяўляецца!

— Хто табе сказаў гэта?

— Такі сказ я вычытаў у Артура Шніцлера, — адказаў Янка і ўжо натуральным голасам дадаў: — Умеюцьжа людзі выказваць такія цікавыя думкі. Чаму яны не прыходзяць у маю галаву!

— Каб ты паставіў сабе задачу складаць такія сказы-афарызмы, дык, можа, не горш, чым у Шніцлера атрымлівалася-б.

— Чорт яго ведае! Хіба, можа, папрабаваць, — згаджаўся павесялеўшы Янка.

Ён яшчэ болей павесялеў, калі Лабановіч раптам захвоціўся прайсціся разам да мястэчка Стаўбуны.

— Вось гэта голас! Чаму не прайсціся? — падхапіў Янка. — Я, можа, таму і зажурыўся, як ты кажаш, што мне прышоў час развітацца з табою, — прызнаўся ён і дадаў: — Можа, на пошце і пісьмы будуць для цябе, — спакушаў ён сябра.

А Лабановіч і сам думаў аб пісьмах, але прыяцелю сказаў:

— Без цябе і мне аднаму сумна.

Яны сабраліся і вышлі з леснікоВай сядзібы.

— Я павяду цябе новаю дарогаю, па якой ты яшчэ ніколі не хадзіў. Праўда будзе трохі далей, затое-ж но-

выя малюнкі разгорнуцца перад табою, — сказаў Лабановіч, беручы кірунак улева ад пераезду.

— Ну, што-ж? Давай! — адгукнуўся Янка. — Я люблю ўсё новае, нябачанае і ўсё, што павялічвае дарогу.

Вышлі ў Цёмныя Ляды, з вярсту ішлі паўздоўж старога яловага лесу, крута павярнуўшы ўправа. Лабановіч часта спыняўся, зварачаў увагу Янкі на цікавыя мясціны.

— Зірні, Янка, бачыш — кудзерка лесу сярод высечанай агромністай лясной прагаліны, нібы зялёны астравок у пустэлі. Праўда, прыгожы гаёк?

— Сапраўды, прыгожы, — пацвердзіў Янка. — Ведаеш, гэтая кудзерка пакінутага лесу нават выклікае такі жаль, нібы яна — адзінокая сірата.

— А паглядзі, колькі на гэтых лядах пераспелай травы, ды якой травы! І вось гіне марна. Ды аддай яе людзям, у якіх няма сенажаці! Сярпамі павыжыналі-б яе. Дык не, няможна — скарбовая, княжацкая, — абураўся Лабановіч.

— А што князю мужык, беззямельнае сялянства! Быў-бы напханы свой трыбух... Вешаць трэба такіх гадаў! — злосна заключыў Янка.

Восенскі дзень, шэрае неба, засланае роўным аднастайным покрывам суцэльных воблакаў, і самі Цёмныя Ляды з пажаўцелаю высокаю травою, дзе пагульваў неспакойны вецер і шаптаў ёй нікому не вядомыя казкі, — усё казала аб заміранні жыцця прыроды і наводзіла неакрэслены смутак на сэрцы двух вандроўнікаў. Навокал было глуха, маўкліва, панура.

Ляды скончыліся. Вандроўнікі вышлі на пустое, запушчанае поле, ужо колькі гадоў гаспадары перасталі засяваць яго, бо з засеву ледзь-ледзь збіралі насенне. На поле наступаў маладзенькі хвойнічак, усё болей і болей займаючы яго закінуты разлог. З правага боку — маленькая вёсачка, лявей выступаў вакзал і ўжо вядомы нам вятрак на горцы.

Тым часам прымоўкшыя вандроўнікі вышлі на добра знаёмую дарогу, што вяла ў Мікуцічы.

— Стой, Янка, спынімся і паклонімся дарозе, што прывяла нас да пакуты. Памятаеш у Дастаеўскага? «Я не табе пакланіўся, а тваёй пакуце».

Янка паглядзеў на дарогу і ўздыхнуў.

— Чаго ўздыхаеш, браце?

— У мяне нарадзіўся афарызм, — адказаў Янка.

— Ну, кажы!

— Ідучы рабіць сур'ёзную справу, не забывай узяць з сабою розум, калі ён у цябе ёсць.

Лабановіч громка зарагатаў.

— Ну, вось бачыш, Янка, афарызм не горшы за Шніцлераўскі. Толькі не зусім арыгінальны: нешта падобнае сказана ў Ібсена.

— Ну, што-ж? — сказаў спакойна Янка. — Жабрак жабраку відзён па кійку.

Сябры развесяліліся і накіраваліся ў мястэчка, зрабіўшы вярсты тры лішніх. Нікуды не заходзячы, падаліся на пошту. Пошта была зачынена. Янка бачыў, як прыкра было прыяцелю. Андрэй-жа і праводзіў яго з-за пошты.

— Што за свінства! — абурыўся Янка: — Зачыняць у святы дзень, калі бедным людзям зручней за ўсё завітаць сюды!.. Але пастой, сходзім на кватэру Івана Паўлавіча, гэтага цвілога балбеса.

Іван Паўлавіч толькі што вылез са свайго бярлогу, памыўся, апрануўся. Наведвальнікаў сустрэў прыязна. Яму ўчора пашчаслівіла: ён выйграў у карты сем рублёў трыццаць капеек. Ахвотна пайшоў на пошту, бо яна была зачынена па яго віне.

— Да запатрабавання? — запытаў Іван Паўлавіч, стоячы за перагародкаю, і хітра падміргнуў Лабановічу. Ён перакінуў некалькі пісем і падаў адно Лабановічу.

— Пэўна, гэтага чакалі? — пасміхнуўся паштавік.

Быстра зірнуўшы на пісьмо, Лабановіч палажыў яго ў кішэню, не падаючы і знаку, што гэта яго ўзрушыла.

Сябры развіталіся з Іванам Паўлавічам. На гэты раз Лабановіч заклікаў Янку да Шварца. Пасядзеўшы з гадзіну і выпіўшы па бутэльцы піва, прыяцелі разышліся.

— Прыходзь-жа вольным часам да мяне, дарагі мой Янка. Ды прынось афарызмы.

— Прыду і афарызмы прынясу. На мяне цяпер наплыла афарызмавая хваля, — пажартаваў на развітанні Янка.

Апынуўшыся ў дарозе адзін, Лабановіч выняў з кішэні пісьмо.

«Дарагі Андрэй Пятровіч! — так пачыналася яно. —

Я доўга не пісала Вам: не было і няма чым пахваліцца. У гарадскую жаночую школу не прынялі мяне, хоць экзамены здала шмат лепей, чым многія паступаўшыя са мною. Не было каму закінуць за мяне слова. Можа, мне не варта было гаварыць загадчыцы школы, што да экзаменаў рыхтавалі мяне Вы. Што буду рабіць далей, пакуль што не ведаю. Хутчэй за ўсё пайду па бацькавай дарозе. У мамы ёсць знаёмыя, калегі майго таты. Паступлю на работу і буду вучыцца на тэлеграфістку. Мы з мамаю часта ўспамінаем Вас. Мама пасылае Вам паклон.

Пішыце, як Вы жывяце. Што ў Вас чуваць?

Бывайце здаровы! Ваша вучнёўка Ліда».

Цэлы клубок думак і пачуццяў выклікала гэта кароценькае, акуратна і граматна напісанае пісьмо. Балюча разанулі па сэрцу словы: «Можа, мне не варта было гаварыць загадчыцы школы, што да экзаменаў рыхтавалі мяне Вы». Што гэта — дакор ці шчырасць? Горкі жаль і смутак па Лідачцы агарнулі Лабановіча. Ён некалькі разоў перачытаў пісьмо, і вобраз Ліды, якуюналучыла першая прыкрая няўдача і, можа быць, з-за настаўніка, як жывы, паўстаў перад яго вачамі. Цяпер стала ясна, што дарогі іх не сыдуцца.

Спахмурнелы, адзінокі ішоў ён у Смалярню.

## VIII

Заняткі ў саматужнай школе ішлі сваёю чаргою. Яны дапамагалі Лабановічу вызваляцца ад лішніх думак і непатрэбных настрояў. Праз некаторы час выявілася, што вучні старэйшай групы настолькі пасунуліся наперад у навучанні, што ўжо можна было гаварыць і пра іх экзамены. Гэта акалічнасць асабліва ўзрадавала Тодара Бярвенскага, і хлопцы сталі займацца яшчэ старанней. Паўставала адно пытанне: ад якой школы пасылаць іх на экзамены? Выпадак з Лідачкаю прымушаў Лабановіча ставіцца болей прадбачліва і адказна да сваіх выхаванцаў. Найлепшае выйсце — перагаварыць з мясцовым настаўнікам і заручыцца яго згодаю прадставіць на экзамены хлопцаў Лабановіча, як сваіх, як вучняў Стаўбуноўскай школы. Не было падставы думаць, што

стаўбуноўскі калега не згодзіцца з гэтым. Але наперадзе была яшчэ ўся зіма, хопіць часу, каб вырашыць гэта пытанне, абы толькі нішто не парушала наладжанай работы і тых планаў, што былі ў Лабановіча.

Вечарам, калі ён заставаўся адзін, апаноўвалі розныя думкі. Ён выходзіў з дому праветрыцца і ў самоце аб усім падумаць, усё абмеркаваць. Неразлучна спадарожыў яму ў думках вобраз Лідачкі і ўсе тыя падзеі і малюнкі, што злучаліся з ёю. І дзяўчына была для Лабановіча зараз такой мілай, такой прывабнай і дарагой, як і ўсё, што адыходзіць ад нас і не варочаецца. Ёй трэба напісаць пісьмо, напісаць прыязна, шчыра, праўдзіва. Вечарам ён сядзе за стол, запаліўшы просценькую сялянскую лямпу, і будзе пісаць пісьмо. Яно ўжо складалася ў мыслях.

З пагулянкі Лабановіч вярнуўся ў змярканне. Пераступіўшы парог свае «школы», ён заўважыў постаць чалавека за вучнёўскім сталом. У хаце было зусім ужо цёмна, і пазнаць незнаёмага было трудна. І як-жа здзівіўся Андрэй, калі пачуў так добра знаёмы голас і словы прывітання:

— Няхай не падзе на цябе цень бярозы, пад якой сядзеў грэк!

— Янка! — выгукнуў Лабановіч і на прывітанне прыяцеля адказаў:

— Няхай не апынешся ты ў становішчы сабакі, што сядзіць на плоце!

Такія былі ў іх «агаркаўскія» прывітанні.

— Не чакаў мяне? — запытаў Янка, выходзячы з цемнаты насустрач Лабановічу.

— Прызнацца, такі і не чакаў, — з ноткаю здзіўлення сказаў Андрэй.

— А я, бачыш, тут як тут.

— Маладзец, што прышоў: заўсёды рад бачыць цябе. Пэўна не з пустымі рукамі, а з афарызмамі прышоў?

— Не, брат, не з афарызмамі, а з нечым болей важным.

Лабановіч пачаў крыху трывожыцца. Янка дастаў з бакавой кішэні ліст паперы, сеў бліжэй да цьмяна гарэўшай лямпы. Да яго падсеў і Лабановіч. Угары на разгорнутым лісце паперы былі напісаны ад рукі, а потым ад-

біты на шапірографе два словы: «Таварышы настаўнікі!» А далей ішоў тэкст звароту:

«Група нашых таварышаў-настаўнікаў, якія сабраліся летам гэтага года ў сяле Мікуцічы для абмеркавання сваіх прафесіянальных інтарэсаў, асабістых і школьных, звolena з настаўніцкіх пасад бяздушнымі чыноўнікамі-бюракратамі. Ні расследавання, ні суда над імі не чынілі, угледзеўшы, як відаць, у сходзе настаўнікаў бунтарства і крамолу. Мы самым катэгарычным чынам пратэстуем супраць такой паліцэйска-бюракратычнай расправы над нашымі таварышамі і калегамі. Мы зварачаемся да ўсіх настаўнікаў Мінскай губерні — выказаць самы рашучы пратэст з повади расправы над нашымі калегамі. Пасады зволеных настаўнікаў аб'яўляюцца пад байкотам. З пачуцця таварыскай салідарнасці ніхто з настаўнікаў не павінен займаць месцы зволеных таварышаў, каб не перахадзіць у лагер іх ворагаў».

Унізе было напісана:

«Ад групы настаўнікаў Мінскай губерні».

Скончыўшы чытаць адозву, Янка запытаў:

— Што? Бачыў, кум, сонца?

Лабановіч паківаў галавою, і трудна было зразумець, ці рад ён быў, ці не рад.

— Не ведаю, браце, якое гэта сонца.

— А як усё-ж-такі расцэньваеш ты гэты дакумент?

— Дадатна, — крыху падумаўшы, адказаў Лабановіч. — Справа, браце, у тым, што, як кажуць, не звяліся яшчэ багатыры на нашай зямлі. Нас пазвальнялі, а вось знайшліся паміж нашаю братвою людзі, аб якіх мы нічога не ведаем і якія не мірацца з нашым звальненнем, заступаюцца за нас, пратэстуюць. І наша справа такім чынам набывае пэўны водгук. Вось у чым дадатнасць адозвы, невядома чыёю рукою напісанай. Для нас-жа асабіста... Як табе сказаць, быць можа, гэты дакумент пагаршае наша становішча.

— Усё, што ні робіцца, робіцца к лепшаму, — заўважыў Янка: — Але ты кажаш праўду — нам гэта адозва можа пашкодзіць. Мне ўжо казаў цвілы паштавік: «А ці не ваша, васпане, гэта работа? Ці не вы самі напісалі адозвачку?» Так могуць паставіцца і нашы следчыя, а

таму трэба ўсё гэта ўлічыць і ўнесці некаторыя дадаткі ў наш «допыт».

— У кожным разе адозву трэба занесці пад выварат: нядобра будзе, калі яна пападзе ад нас у рукі паліцыі.

Сябры зараз-жа апрануліся і пашыбавалі ў лес, каб палажыць у «скарбонку» тое, «што бог даў». Скарбонкаю называлі яны дзервяную невялікую скрынку, залітую зверху смалою, каб не гніла.

Як толькі звярнулі яны з дарогі ў лес, Лабановіч раптам спыніўся.

— Пастой, — сказаў ён ціха, — скажы, якім чынам папала да цябе адозва? Дзе ты яе ўзяў?

— Хацеў сказаць табе пра гэта і сказаў-бы, ды ўсё не было зручнага моманту. Быў я сягоння на пошце. Гэты самы паштар Уласік адвёў убок і перадаў мне яе. Пытаюся, дзе ўзяў? Ён толькі падняў палец угору і прашаптаў: «Маўчы!» А потым пачаў пасмейвацца, ці не самі мы пісалі зварот да настаўнікаў.

— Гм!.. Цікава! — прамовіў Лабановіч: — А ці не думаеш ты, што гэты паштавік — паліцэйскі агент? Можа, знарок далі яму адозву з тым, каб ён падсунуў нам?

— А навошта ім так рабіць? Які сэнс у гэтым?

— А сэнс можа быць такі. Калі паліцыя дазнаецца, што ён перадаў адозву табе і нам яна стала вядома, дык зробіць вобыск, каб мець супраць нас уліку.

— Чорт іх ведае, — сумеўся Янка, — усё можа быць. А мо' проста гэты паштавік — праўнук гогалеўскага поштмайстра, які любіў свежыя весткі, — з адценнем жарту сказаў Янка.

— Адным словам, дружа, так ці сяк, але вуха будзем трымаць чуйна, а вочы зорка. А калі павядзецца з боку следства гутарка аб звароце да настаўнікаў, дык гавары: адозву бачыў і чытаў. А спытаюць, дзе ўзяў, кажы: на пошце чыноўнік даў.

— Чыноўніка, браце, замешваць сюды не трэба: а можа, ён хлопец шчыры і толькі прыкідваецца дурачком? — заўважыў Янка.

— Ты праўду кажаш, — згадзіўся Лабановіч, — лепш сказаць тады, што адозву прыслалі па пошце ў канверце, як пісьмо. А да чыноўніка будзем прыглядацца і ў гутарцы з ім лішняга слова не гаварыць. Калі-ж ён —

паліцэйскі агент і правакатар, тады можна сказаць, што адозву даў ён.

У лесе было ўжо зусім цёмна, калі прыяцелі прышлі пад выварат. Лабановіч добра ведаў патайны куточак, дзе была схована скрынка. Янка стаяў тут-жа, хацеў выказаць нейкую думку, але ўстрымаўся. Сілуэт Лабановіча ледзь-ледзь вырысоўваўся з цемры. Некалькі хвілін увіхаўся ён каля патайнога закавулачка пад вываратам, пакуль не намацаў скрынку. Ён злёгку падцягнуў яе, каб зручней было адчыніць вечка. Нарэшце, адозва была схована ў «скарбонцы». Лабановіч наўгад, бо нічога не было відаць, прыгладзіў пясок, вылез з-пад выварата і сказаў:

— Гатова!

— Ведаеш, Андрэй, — парушыў лясную глухмень Янка: — Крыху нават рамантычна. — Потым ён змяніў тон і прамовіў: — А што было-б, каб у гэтую хвіліну наскочыла паліцыя і гаркнула: «Рукі ўгору! Дык вось дзе вы, галубчыкі!» І асвятлілі-б нас ліхтарыкамі!

— Так бывае ў прыгодніцкіх раманах, а жыццё стварае такія сітуацыі, што і прыдумаць нельга, — адказаў Лабановіч.

— А ўсё-ж-такі, Андрэй, цікавы твой куток, далі-бог!

Не спяшаючыся, асцярожна прабіраліся сябры густым лесам на дарогу.

— Заўтра завідна прыду сюды наводзіць парадак пад вываратам, каб надаць яму першапачатковы выгляд, — сказаў Лабановіч і дадаў: — Усё-ж-такі, Янка, цікава жыць на свеце!

— На гэты выпадак я прыдумаю афарызм, — азваўся Янка.

Ранічкаю назаўтра ён падаўся ў Стаўбуны і, паціскаючы на развітанні руку сябра, выказаў афарызм:

— Смерць — пачатак новага жыцця.

## IX

Праз некаторы час, напярэдадні двух святочных дзён, зноў прышоў Янка Тукала. Хоць Лабановіч успрымаў «афарызмы» свайго сябра, як больш-менш трапныя жарты, але над апошнім: «Смерць — пачатак новага жыцця», — ён мімаволі задумаўся. Што меў на ўвазе Янка,

выказваючы такую мысль? Чым яна выклікана? І прышоў да заключэння, што пад смерцю, напэўна, разумеўся вывават, як рэштка паваленай ветрам яліны, дзе яны хавалі забароненую літаратуру, сама-ж гэта літаратура засявала пачаткі новага соцыяльнага ладу.

Ці верна разгадан «афарызм», Лабановіч так і не запытаў Янку, бо ён прынёс болей важную навіну. Якраз на адзін святочны дзень у Мінску назначаўся канспірацыйны сход прадстаўнікоў розных рэволюцыйных падпольных арганізацый. Запрашаліся і зволеныя настаўнікі. За два дні свят можна было лёгка з'ездзіць і вярнуцца назад. Сябры параіліся, варта ці не варта ехаць, хоць паслухаць, што будуць гаварыць людзі з падполля, дужа хацелася. Непакоіла тая акалічнасць, што яны пад наглядам паліцыі і сваёю паездкаю могуць «засыпаць» сход. Але іх браўся завезці адзін падпольшчык, які меў практыку ў справах канспірацыі. Была ў яго партыйная мянушка «Шэра-Сенька». Сябры вырашылі ехаць. Янка для храбрасці і большай смеласці сказаў:

— Пусціўся Мікіта ў валакіту, дык ідзі — не аглядайся, як добра казаў Нічыпар Янкавец.

З некаторым хваляваннем сябры селі ў вагон поезда, што раніцою адыходзіў на Мінск. Шэра-Сенька даў ім інструкцыі, як трымацца сярод незнаёмай публікі ў поездзе, каб нічым не звярачаць на сябе ўвагі: паводзіцца проста, натуральна, не напускаць на сябе сур'ёзнай заклапочанасці і не пачынаць гутаркі з рознымі пранырамі, аматарамі пагаманіць.

А паўдні нашы вандроўнікі прыехалі ў Мінск. Шэра-Сенька даў адрас таго дома, дзе павінен быў праходзіць сход. Ён параіў дабірацца паасобку, наўперад конкаю, а далей ісці пехатою. Дом знаходзіўся на Камароўцы. Тады гэта быў ужо край горада, яго ваколіца, дзе стаяў высокі бор, а з-за хвой выглядалі сям-там ладныя простыя домікі, пабудаваныя на гарадскі лад. Гаспадары здавалі іх пад дачы. У адным з такіх домікаў і мелася адбыцца патайная нарада. Шэра-Сенька даў і пароль, каб увайсці ў канспірацыйны дом: «Паклон ад Шэра-Сенькі».

Першым сеў на конку Янка Тукала. Андрэй пачакаў другой. Сябры дамовіліся спаткацца каля дома, каб увайсці туды разам. Яшчэ здалёк заўважыў Лабановіч сябра.

Янка бестурботна шпацыраваў па вуліцы, адышоўшыся на значную адлегласць ад запаветнага доміка, які ён нагледзеў загадзя. Хоць сябры трохі пабойваліся і падазрона кідалі потайкам позіркі на людзей у кацялках, але Лабановіч не мог утрымацца, каб не пажартаваць:

— Паклон ад Шэра-Сенькі, — сказаў ён ціха сябру.

— Глядзі, каб не было паклону ад «кацялка», — яшчэ цішэй заўважыў Янка, намякаючы, што тагочасныя шпікі царскіх ахранак звычайна хадзілі ў кацялках.

Сябры трохі патупалі, а потым, украдкам азірнуўшыся, шмыгнулі ў двор. Сустрэў іх сам Шэра-Сенька.

— Трэба перадаваць паклон ці не? — сказаў жартам Янка, каб надаць сабе крыху смеласці.

— Можна і без паклону, — усміхнуўся Шэра-Сенька.

На вешалцы ў пярэдняй вісела чыёсьці ладнае паліто з добрай матэрыі, жаночы капялюшык, два «буржуйскія» капелюшы і некалькі кепак. Госці таксама пазнімалі свае мізэрныя паліто і шапкі. Шэра-Сенька павёў сяброў у пакой, наўперад пастукаўшы ў дзверы. Дзверы зараз-жа злёгку прыадчыніліся. У росчыну дзвярэй паказаўся даўгаваты тонкі нос і чорныя вочы. Убачыўшы Шэра-Сеньку, даўгаваты нос расчыніў дзверы шырэй.

— А, калі ласка! — сказаў малады хлопец, уласнік тонкага носа, чорных брывей і вачэй.

За сталом у пакоі, на самым відным месцы, сядзеў стары чалавек, гадоў пад семдзесят, з пышнаю сіваю барадою. Ён найболей кінуўся ў вочы ўвайшоўшым сябрам. Барада і аблічча гэтага чалавека ў некаторай ступені рабілі яго падобным да Льва Талстога. Пра гэта ведаў сам барадаты стары і дужа ганарыўся такім падабенствам. Гэта быў вядомы ў той час народаволец. Уся сям'я яго належала да розных рэвалюцыйных плыняў. Стары народаволец арганізаваў нелегальны гурток сялян з бліжэйшых навакольных вёсак. Апроч самога народавольца, у пакоі былі яго сын, хваравіты на выгляд чалавек, маўклівы, нібы нечым незадаволены, і дачка. Сын безуважна глядзеў кудысь у неакрэсленыя прасторы, а дачка з цікавасцю пазірала на новых людзей. Яна была ўжо не першай маладосці, працавала дакторкаю ў адной з земскіх бальніц. Быў тут яшчэ незнаёмы, даволі малады чалавек, з зыркімі цёмнымі вачамі і рухавым тварам. У часе гутаркі, а гаварыць ён

любіў і гаварыў громка і ўпэўнена, весела пасмейваўся, а калі ён смяяўся, то смяяўся ўвесь яго твар, вочы і губы, прычым верхняя губа падымалася ўгору і расчыняла дзясны з буйнымі крэпкімі зубамі. Прозвішча яго было Кандаковіч. Калі народаволец ганарыўся падабенствам да Льва Талстога, то Кандаковіч славіўся асабістым знаёмствам з Караленкам.

Тон гутарцы, як відаць, задаваў стары народаволец. Было такое ўражанне, што размова нейкая тут вялася і спынілася толькі з прыходам новых у гэтай кампаніі настаўнікаў. Шэра-Сенька пазнаёміў іх з народавольцам і з іншымі асобамі, што былі ў пакоі. Стары падняў вочы з-пад навіслых сівых брывей, агледзеў настаўнікаў беглым поглядам.

— Прашу садзіцца, — прамовіў ён і паказаў на канапу.

— Так, настаўніцтва — сіла, — заўважыў Кандаковіч. — Нямецкія настаўнікі наладзілі французам Седан — яны перамаглі Францыю.

Заўвага была зусім недарэчы, і думкі Кандаковіча ніхто не падтрымаў. Народаволец памяшаў лыжачкаю ў шклянцы чаю, палыкнуў глыток, цмокнуў разы два губамі, лізнуў языком куточкі губ.

— Гэта верна, — азваўся ён: — Усякая разрозненая сіла, сабраная ў адно, звязаная крэпкім абручом і накіраваная ў адзін пункт, робіць цуды. Гэта заўсёды трэба мець на ўвазе.

Для Кандаковіча словы народавольца былі тою саломінкаю, якая зараз-жа пераходзіць у цэлы мост да вялікай гаворкі. Ён лічыў сябе высока інтэлігентным чалавекам і выдатным прамоўцам. Кандаковіч часамі казаў, што калі выступае з прамоваю, то гаворыць узрушана і горача, і яго сяды-тады трэба стрымліваць.

— Святая праўда! — падхапіў ён словы народавольца, — і бяда толькі ў тым, што не так лёгка згуртаваць разрозненыя, як вы слушна кажаце, сілы. Вось, да прыкладу, нас, рэволюцыйна настроеных людзей, сабралася тут не так многа, а такой бясспрэчнай, для ўсіх яснай і прымальнай асновы, на якую сталі-б мы ўсе, як адзін чалавек, няма. Адзін разумее справы грамадскага жыцця так, другі іначай. Адгэтуль і розных плыняў

у нас многа. Больш таго: вось, скажам, я належу да беларускай сацыялістычнай грамады. У нашай арганізацыі свая спецыфіка: сюды далучаецца нацыянальны момант. Але і мы, грамадаўцы, не ва ўсіх поглядах сходзімся. Ды гэта, можа, і не бяда: чым болей у букеце кветак розных адценняў, тым багацейшы букет.

— Ну, а калі ў букеце будуць адны толькі чырвоныя ружы, то як, па-вашаму, такі букет будзе бедны? — падала прамоўцу рэпліку дачка народавольца.

Кандаковіч весела засмяяўся ўсім сваім тварам, паказаўшы буйныя жаўтаватыя зубы.

— Пытанне, Вера Анатолеўна, і дамскае і ў той-жа час філасофскае, — адказаў ён.

Кандаковіч хацеў пагаварыць шмат болей, але ў пакой увайшлі яшчэ два чалавекі. Абодва яны былі здаравякі, шырокія, грамозныя. Адзін чарнявы, плячысты, з пышнымі чорнымі вусамі, крыху касавокі: адно вока пазірала, як кажуць, на Маскву, другое на Варшаву. На выгляд яму можна было даць гадоў за трыццаць. Другі быў яшчэ шырэйшы ў плячах і ростам вышэйшы, з добрадушным тварам, з вялікай святлявую галавою. Абодва яны збіраліся рэдагаваць розныя выданні. Чарнявы намячаўся, калі не ў рэдактары, дык у намеснікі рэдактара першай беларускай газеты, якая мелася выходзіць у бліжэйшыя дні. Прозвішча яго было Уласюк. Ні да якай партыі ён не належаў, называў сябе незалежным хутаранінам, хоць цалкам падзяляў праграму беларускай сацыялістычнай грамады. Другі, таксама будучы рэдактар новага часопіса, але ўжо іншага кірунку, быў сацыял-дэмакрат Кастогін. У мінскай прагрэсіўнай газеце ён змясціў сваю алегарычную казку пад назваю «Пень». Людзі згуртаваліся і вывернулі з зямлі пень, які дужа замінаў ім. Пад пнём разумеўся цар. Царскія чыноўнікі дайшлі да сэнсу казкі. Газету закрылі, выдаваць новую не дазволілі, а сам Кастогін на час дзесь знік.

З прыходам рэдактараў двух новых выданняў, што, праўда, яшчэ толькі наклёўваліся, усе прымоўклі. Рэдактары павіталіся з прысутнымі, як з добрымі знаёмымі, а на былых настаўнікаў зірнулі спачувальна, даведаўшыся, хто яны такія.

— Што-ж, панове, — сказаў стары народаволец, зноў пажаваўшы губамі і аблізнуўшы іх кончыкам языка, — болей мы нікога не чакаем, то давайце пагутарым. Прашу бліжэй да стала!.. Хто хацеў-бы ўзяць слова? — запытаў ён прысутных.

— Вы, Анатоль Іосіфавіч, як самы старэйшы сярод нас, павінны пачаць сход, — адказаў Кандаковіч. Яго падтрымалі.

— Ну, добра, — згадзіўся народаволец. — Аб чымжа нам гаварыць сягоння? — звярнуўся ён да прысутных. Памаўчаўшы, казаў далей: — Справа сягоння не ў тым, што мы не маем такой агульнай асновы, на якую сталі-б мы ўсе, як гаварыў паважаны Ігар Сяргеевіч, — кіўнуў народаволец на Кандаковіча. — Справа, сябры мае, у тым, што полымя рэвалюцыі асядае і гасне. Нажаль, верх узяў агульны вораг наш — самадзяржаўны царскі лад. Наша задача: не даць патухнуць агню рэвалюцыі.

Старому народавольцу папляскалі.

— Адгэтуль, сябры мае, вынікае і спосаб, метад барацьбы прагрэсіўных людзей Расіі за народ, за яго правы і інтарэсы ў новай абстаноўцы. Якія-ж спосабы — шляхі — можам азначыць мы? Прашу выказацца.

— Для мяне ясна адно, — узяў слова Кастогін, — нам трэба заняць адну найболей правільную пазіцыю і з гэтай пазіцыі пасылаць свой агонь у адзін пункт. Гэта — пазіцыя рабочага класа, пролетарыяту. На гэтай пазіцыі стаім мы, марксісты. А таму наша стаўка на рабочы клас, як на адзіны паслядоўны і рэволюцыйны клас у дзяржаве, здольны стаяць на чале рэволюцыйнага руху і кіраваць ім...

— А сялянства вы скідаеце з рахунку? — узрушана перапыніў прамоўцу Шэра-Сенька. — Яно — самы шматлікі клас у Расіі. Яно папаўняе рады рабочых на фабрыках і заводах. Яно дае салдатаў у царскую армію. А покі мы не адарвём яе ад царска-паліцэйскага рэжыму, да таго часу не возьме верх рэволюцыя. А таму ўсю ўвагу трэба накіраваць на сялянства.

Спрэчкі разгарэліся. Кожны з прысутных адстойваў свой погляд. Маўчалі толькі два сябры і не таму, што не было чаго сказаць, а проста не асмельваліся высту-

паць перад такімі бойкімі прамоўцамі. Выступіў і Уласюк.

— На маю думку, сягоння ў нас можа быць адзін верны шлях. Гэта — шлях культурна-асветнай работы як сярод сялянства, так і сярод рабочых у гарадах.

— А якую мэту ставіце перад імі вы? Якую перспектыву даеце ім? — запытаў Кастогін.

— Не будзем зараз забягаць наперад. Час і абстаноўка пакажуць, што рабіць далей, — нічога лепшага адказаць не патрапіў Уласюк.

— Нашы рознагалоссі нагадваюць мне адзін расказ, — сказаў ён у заключэнне: — Вёз мужык у горад прадаваць капусту. Па дарозе быў круты ўзгорак. З узгорка воз пакаціўся ўніз і перакуліўся. Капуста выкінулася, і кожная галоўка пакацілася куды папала. На гэты час ішоў падарожны. Ён спыніўся і глыбокадумна прамовіў: «Глядзі ты яе — у кожнай галоўцы капусты, аказваецца, ёсць свой розум, адна коціцца туды, другая сюды». Ці-ж не тое самае наглядаецца і ў нас? Дык вось чаму патрэбна культурна-выхаваўчая работа сярод шырокіх пластоў народа, каб усе галовы каціліся ў адзін бок.

Нельга сказаць, каб гэты расказ дужа спадабаўся прысутным.

— Сябры мае! — сказаў народаволец на зачыненні сходу. — Думкі ў нас розныя, а мэта адна: не даць заглухнуць рэвалюцыйнаму руху ў народзе. Усё, што можам рабіць для яго, будзем рабіць. І нашы намаганні не прападуць. Жадаю ўсім нам поспеху! Заўтра нашу нараду прадоўжым у іншым месцы.

## X

Апынуўшыся па-за сценамі дачнага дома, сябры ўздыхнулі лягчэй. Спачатку яны там адчувалі сябе нібы звязанымі, пакуль не прыгледзеліся да новых і незнаёмых ім людзей і не перакінуліся з сім-тым з іх некалькімі словамі. Удзельнікі патайной нарады, як людзі, рабілі добрае ўражанне, а асабліва Кастогін. У ім самім і ў яго словах адчувалася ўнутраная сіла і праўда. Най-

болей супярэчлівым здаваўся стары народаволец: буйны землеўласнік, рэвалюцыянер, а чаму не аддае зямлі сялянам? У цэлым-жа гаворкі прадстаўнікоў розных рэвалюцыйных плыняў крыху расчароўвалі: у галовах неспакушаных у грамадскіх справах былых настаўнікаў стваралася яшчэ большая блытаніна.

Было ўжо зусім цёмна, калі сябры вышлі на вуліцу. Слаба свяцілі ліхтары. На ўскрайку горада руху было мала. Зрэдку праходзіла парачка, занятая сваімі справамі, далёкімі ад усяго, што пачулі і аб чым думалі зараз сябры. Калі-ні-калі праязджала павольна калымага, пагрукваючы коламі па няроўным бруку, пацоквалі падкаваныя конскія капыты.

— Блажен муж, иже не иде на совет нечестивых, — сказаў Янка, нібы падводзячы гэтым царкоўна-славянскім выслоўем падрахункі патайной нарады.

— А я не каюся, што пабыў там, — адказаў Лабановіч. — Праўда, нічога новага не пачуў, а ўсё-ж цікава. Шмат новых думак абуджана ў галаве, ды аб гэтым, Яне, пагамонім потым.

— А як заўтра? — спытаў Янка. — Пойдзем ці не?

— Я не пайду, паеду дахаты: «школа» чакае мяне.

Мінуўшы мост цераз Свіслач, сябры развіталіся. Янка накіраваўся да знаёмага, дзе і думаў заначаваць. Лабановіч хацеў сесці на конку і паехаць да таварыша па семінарыі, з якім яны сябравалі і пісалі адзін аднаму. Выглядаючы конку, Лабановіч не заўважыў, як да яго непрыметна падышоў высокі чалавек і палажыў на плячо руку.

Ад нечаканасці Лабановіч здрыгануўся.

— Што, перапалохаў? — спытаў высокі чалавек і жычліва засмяяўся. Лабановіч зірнуў: перад ім стаяў чарнявы рэдактар.

— Пазнаёмімся — маё прозвішча Уласюк.

— Ды мы бадай што знаёмыя, — адказаў Лабановіч, падаючы руку.

— То было знаёмства здалёку, можна сказаць, безыменнае, а я хачу пазнаёміцца з вамі бліжэй. Што?

Уласюк меў звычай часта ўжываць слова «што» ў форме запытання, на якое можна і не адказваць.

— Мне вельмі прыемна, — пачціва адказаў Лаба-

новіч, крыху засаромеўшыся і ў той-жа час таксама трохі і насцярожыўшыся.

— Вось і добра. Тады пойдзем да мяне: я спыніўся тут непадалёку.

— Дзякую і не пярэчу... Прабачайце: як ваша імя і па бацьку?

— Мікіта Аляксандравіч, — адказаў Уласюк і дадаў: — Я, прызнацца, шукаў вас, каб пагаварыць і прыцягнуць да работы ў нашай беларускай першай газеце, што?

Дом, у які Уласюк прывёў Лабановіча, сапраўды быў непадалёку. Тут кватэраваў нейкі адвакат-ліберал. Зараз яго дома не было, ён уступіў кватэру на пэўны час свайму добраму знаёмаму Уласюку. Аканіцы ў кватэры былі шчыльна зачынены. Уласюк запаліў агонь. Адвакацкі кабінет быў прасторны. У ім стаяла некалькі шафаў з кнігамі, галоўным чынам па адвакацкай спецыяльнасці.

— Сядайце, дзядзька Андрэй! — паказаў Уласюк на мяккае крэсла каля стала. — Я хутка прыстараюся чаю, ці гарбаты. Як лепей называць па-беларуску: чай ці гарбата?

— Як ні назавеш, — усё будзе добра, абы смачна, — адказаў жартам Лабановіч.

— Ды не адным чаем жыў будзе чалавек. Пашукаю чаго-колечы і да чаю — на патрэбу чалавеку. Што?

Уласюк то знікаў, то з'яўляўся, гатуючы вячэру. Кожны раз ён казаў што-небудзь, адпускаў жарты, сам смяяўся густым басам.

— Дом гэты якраз змяшчаецца на Паліцэйскай вуліцы, пад носам, можна сказаць, у паліцыі, а бліжэй да паліцыі — яно смялей і спакайней, што? — гаварыў Уласюк і бестурботна смяяўся.

Нарэшце, вячэра была прыгатавана. Гаспадар паставіў на стол чайнік, а каб чай лепей настояўся, накрыў чайнік старым адвакацкім капелюшом. Потым дастаў з шафы талерку з падсохлымі лустачкамі хлеба, выцягнуў кавалак каўбасы, як відаць, немалой даўнасці, парэзаў яе на тонкія скрылікі.

— Усякая ежа куды смачнейшая, калі з густам пададзена, што? — казаў Уласюк, не дужа спяшаючыся

з вячэрай. Ужо ў самым канцы паставіў кручок гарэлкі, разліў яе пароўну ў чаркі.

— Вячэра небагатая, затое дэмакратычная, што? Дык вып'ем і за наша знаёмства і за новую беларускую газету! — урачыста сказаў Уласюк, паднімаючы ўгору чарку.

Выпілі. Узялі па кавалачку хлеба і па скрыліку каўбасы.

— Як глядзіце вы, дзядзька Андрэй, на выхад у свет першай беларускай газеты? — запытаў Уласюк.

— Для мяне гэта такая радасць, такое шчасце, што я баюся нават верыць у тое, што газета такая можа выйсці, — усхвалёвана азваўся Лабановіч.

— Выйдзе, выйдзе, — упэўнена сказаў Уласюк, — ужо і матэрыялу сабрана столькі, што і ў нумар не ўмесціш.

— Рад, вельмі рад і ад усяго сэрца вітаю нараджэнне новага выдання, першай газеты, якая будзе выходзіць на беларускай мове. Я не раз думаў, што для беларускага народа даўно патрэбен такі часопіс, які моваю народа, матчынаю моваю, звярачаўся-б да яго са словам праўды. Але якое слова праўды скажаце вы яму, калі за праўду ў астрогі саджаюць? — запытаў Лабановіч, і ў тоне яго запытання чулісе страх і трывога за лёс роднага слова.

Уласюк пагладзіў свае пышныя, чорныя вусы, зірнуў на Лабановіча касымі вачамі.

— Нічога, дзядзька Андрэй, не клапацецеся і не бойцеся: мы, беларусы, хітрыя — чорта абдурым. Кожны артыкул, прызначаны для друку, мы будзем узгадняць з юрыстамі: можна яго змяшчаць, ці няможна, каб захаваць газету. Будзем пісаць так, каб камар носа не падсунуў. Мы збіраем і згуртоўваем вакол нашай заўтрашняй газеты свядомых беларусаў, лепшыя сілы народа. Вось я і вас запрашаю да нашай талакі.

— Я з мілаю душою гатовы працаваць, як толькі здолею, на карысць агульнай грамадскай справы, — адказаў Лабановіч. Яму было дужа прыемна, што яго запрашаюць на такую важную працу. Толькі брала сумненне, ці няма тут якой-небудзь памылкі, непаразумення. І ён запытаў: — Але чым я заслужыў, што вы

запрашаеце мяне на работу ў газеце? І чаму вы іменна шукаеце мяне — вы так гаварылі?

Уласюк закурыў папяросу, пакасіўся на цёмны куток пакоя.

— Сёе-тое мы чулі і ведаем пра вас, — сказаў Уласюк. — Мы ведаем і некаторыя вашы творы. Яны не надрукаваны, а ходзяць у народзе, нібы зложаныя народам. Вось хоць-бы гэта:

Давялося раз Гаўрыле
З вёскі ў горад завітаць.
Чхаў пяхотай вёрсты, мілі,
Каб той праўды пашукаць.

Вы гэта пісалі, што?

— Калі-б такое пытанне я пачуў ад следчага, дык сказаў-бы, што не я, — пасміхнуўся Лабановіч. — Праўда, нешта падобнае калісь складаў я. Ад вас-жа я пачуў новы варыянт.

— Такі ўжо лёс гуртовай, народнай творчасці, — заўважыў Уласюк. — Важна, што народ прымае аснову, а рабіць змены ў тэксце — яго права. Ніякі юрыст пад гэта не падкапаецца, што?

— Супраць гэтага і я нічога не маю, — сказаў узрадаваны Лабановіч. А потым шчыра і прастадушна прызнаўся:

— Ведаеце, Мікіта Аляксандравіч, я прабаваў пісаць і па-руску і па-беларуску — ёсць такое моцнае жаданне. Ды сам я адчуваю, што па-руску пісаць мне цяжэй і напісанае выходзіць нязграбна. Апроч таго, руская мастацкая літаратура такая багатая, што пракласці сабе дарогу на гэтым шляху цяжка. І як моцна трэба напісаць, каб напісанае табою чыталі з цікавасцю пасля Пушкіна, Лермантава, Крылова, Гогаля! Пісаць мне па-беларуску шмат лягчэй і прасцей, бо сваё роднае, матчына слова мацней закранае струны сэрца. Даруйце мне такі кніжны выраз. Дарогі-ж для напісанага беларускаю моваю не было. У выніку ўсяго гэтага я адчуваў горкі смутак. І сапраўды: навошта пісаць, калі напісанае табою не дойдзе да сэрца людскога?

Лабановіч гаварыў шчыра, хвалюючыся, а таму і га-

ворка яго была блытаная, няроўная, нібы ішоў п'яны або кульгавы чалавек.

— А зараз, дзядзька Андрэй, вы можаце выйсці на дарогу, — заўважыў Уласюк. — І я не мыляўся, калі казаў, што шукаю вас.

— Я вельмі і вельмі дзякую вам, Мікіта Аляксандравіч. Вось, як-бы я ізноў на свет нарадзіўся... Скажыце, калі гэта не сакрэт, якія мыслі, ну, праграму мае на ўвазе праводзіць газета і якая назва ёй? — запытаў Лабановіч.

— Мы яшчэ не ахрысцілі яе. Мы ставім сабе задачу — служыць беларускаму народу, змагацца за яго грамадскія і нацыянальныя правы, абуджаць яго свядомасць. А рэшту я гаварыў на сходзе. Вы чулі мяне?

— Я слухаў вас уважна... Удалы прыклад прывялі вы — аб капусце.

— Што, здорава? — запытаў Уласюк і засмяяўся.

— Вельмі трапна. Толькі не ведаю, як спадабаліся капусцяныя галовы слухачам.

Уласюк ізноў засмяяўся.

— Гэта ім не пашкодзіць.

Далёка за поўнач Лабановіч і Уласюк леглі спаць.

Доўгі час не мог заснуць Лабановіч. Ён прыгадваў усе падзеі дня. Беларуская газета разганяла яго сон. У галаве складалася казка аб тым, што жывой мыслі народа не могуць знішчыць ніякія царскія рэпрэсіі.

## XI

Адшумелі свой час неспакойныя восенскія вятры. Нізкія, разарваныя ветрам мітуслівыя хмары выплакалі халодныя слёзы.

Кароткія, змрочныя дні наводзілі паныласць і смутак, прыгняталі добры настрой і адчуванне. Быў той час, калі людзі прасілі: «Прыходзіла-б ужо зіма. Няхай-бы падсушылі марозікі зямлю, каб яна не тапілася ў гразі і ў балоце».

І вось у адзін дзень бязладныя, неспакойныя хмары, нібы спалоханыя птушкі, падняліся вышэй, зрабіліся болей тугімі. Падзьмула з поўначы здаровым халадком.

Зямля сушэла, пакрывалася цвёрдаю скарынкаю. А пад поўнач пасыпаў сняжок, заложны, спорны, густы і сухі. Снег ішоў усю ноч і ўвесь заўтрашні дзень. Пад вечар снег суняўся. На захадзе бліснула журботная, ласкавая ўсмешка сонца і патухла. У небе засвяціліся першыя зоркі. Прыціснуў мароз. Назаўтра як толькі разднела і праз густыя шаты высокіх ялін, убраных снегам, пачалі ледзь-ледзь прабівацца халодныя праменні сонца, Лабановіч вышаў з хаты. Пругкае марознае паветра абняло яго сваім дыханнем. Зусім іншы малюнак вынікаў перад вачамі павесялеўшага Лабановіча. Кругом было так чыста, такая бель, што сляпіла і адбірала вочы. Лес пасвятлеў, пабялеў і пазбыўся свае хмурай панурасці пад белаю чысцюткаю посцілкаю. Кашлатыя лапы ялін гнуліся пад халодным пластом снегу, а маленькія елачкі на ўскрайку лесу і пні панадзявалі пышныя белыя скругленыя шапкі-башлыкі і хаваліся пад імі. І нельга было ўтрымацца, каб не памераць сваімі нагамі глыбіню снегавога покрыва, як не адзін раз рабіў Лабановіч яшчэ ў дзяцінстве. Снег даходзіў амаль да калена.

«Можна будзе і на лыжах пахадзіць», — падумаў Лабановіч. У брата Уладзімера якраз і лыжы былі.

Праходзіў час. Усталявалася зіма з маразамі і завеямі. У жыцці нашых сяброў нічога асаблівага не здарылася, і пакуль што ніхто іх не патрывожыў і не патурбаваў. Заняткі з хлопцамі праходзілі сваёю чаргою. Лабановіч заручыўся згодаю настаўніка Стаўбуноўскай школы прыняць вучняў да экзамену, як сваіх. Вялікую радасць перажыў Лабановіч, калі яму прыслалі першы нумар першай беларускай газеты. Ён чытаў і перачытваў кожны артыкул, кожны верш і карэспандэнцыю. Усё гэта было так нова, так нязвыкла. Найбольш сардэчны водгук на з'яўленне беларускай газеты пачуў ён ад сялян свайго сяла Мікуцічы, куды знарок хадзіў пачытаць людзям напісанае іх простым, родным мужыцкім словам. І сам Лабановіч стаў гарачым і адданым прыхільнікам і прапагандыстам свайго роднага слова, на якім друкавалася газета. Але кожны нумар газеты падпадаў пад рэпрэсіі царскіх чыноўнікаў і цэнзуры. Газету затрымлівалі, штрафавалі, канфіскавалі і, нарэшце, зусім забаранілі, а рэдактара засудзілі на год заключэння ў крэ-

пасць. Замест забароненай пачала выходзіць газета болей памяркоўная, з ліберальна-буржуазным ухілам. Аднак і гэтую рахманую газету царскія чыноўнікі заціскалі рознымі прыдзіркамі, прыгняталі штрафамі і белымі плямамі.

Некалькі пісем напісаў Лабановіч Лідачцы. Разы два ці тры яна адказвала на пісьмы і ў адным з іх прыслала нават сваю картачку. Лабановіч з замілаваннем часта разглядаў фатаграфію. Потым Ліда перастала адказваць на пісьмы, і далейшы лёс яе для яго стаў невядомы. Адна толькі фатаграфія засталася на памяць аб мінулых днях побыту ў Верханскай школе, аб вандроўках на хутар Антаніны Міхайлаўны. Лабановіч моўчкі перажываў і гэтую сваю страту. «Жыццё, і падзеі, і людзі ў ім праходзяць, нібы тыя рачныя хвалі», — думаў ён у самоце.

Аднойчы, калі ў Смалярню прышоў Янка Тукала, сябры дамовіліся схадзіць у Панямонь да сваіх знаёмых настаўнікаў. Ім даўно хацелася паказацца сярод былых калег, пабачыць, як паставяцца яны да бяздомных бадзяг і выгнаннікаў. Пайшлі пад вечар у суботу з тым, каб заначаваць у Панямоні. Ім мала абыходзіў клопат, у каго заначаваць. З гэтай прычыны Янка нават прадэкламаваў вядомы з школьных чытанак таго часу верш:

Бог и птичку в поле кормит
И кропит росой цветок...

Другія-ж два радкі верша: «Бесприютного сиротку не оставит также бог» ён перайначыў на свой лад:

Беспрытульнага «агарка»
Не пакіне Базылёк,

намякаючы гэтым на Базыля Трайчанскага, які меў уласную камяніцу.

Правілам паводзін сяброў было: не вешаць нос на квінту. Вось чаму яны заўсёды, асабліва на людзях, былі вясёлыя, жартаўлівыя, прыдатныя да розных штук і забавак. У іх былі песні, выдуманыя імі самімі. Яны прыдумалі нават адзін балетны нумар і назвалі яго танец «зялёнага асла». Сябры станавіліся спінамі адзін да ад-

наго і адначасова падгіналі правую або левую нагу. Янка браўся рукою за падагнутую нагу Лабановіча, а Лабановіч за Янкаву, а на другой назе яны скакалі, як вар'яты, прысвістваючы або падпяваючы ў тахт скокам. Потым яны мяняліся месцамі і адпаведна з гэтым мянялі і ногі па камандзе: «З другой!»

І песні, і жарты, і танец «зялёнага асла» мелі на мэце — высмеяць местачковы мяшчанскі быт з усімі яго цырымоніямі. Публіка, перад якою час-ад-часу выступалі саматужныя артысты, успрымала іх выступленні па-рознаму: адны крывіліся, другія гучна адаралі іх воплескамі. А наогул-жа іх лічылі самымі вясёлымі і пажаданымі людзьмі, якія нікому нічога благога, апроч саміх сябе, не зрабілі.

Ужо адвячоркам сябры прышлі ў Панямонь. Мінулі будынак валаснога праўлення, фельчарскі пункт, дзе фельчарам быў той-жа самы Найдус, і накіраваліся ў двухкласную школу да Тараса Іванавіча Шырокага. Ён таксама трывала сядзеў на сваёй пасадзе.

— Добры вечар вам! Ці рады вы нам? — дружна, у адзін голас прывіталі сябры гаспадара, пераступіўшы парог кватэры.

Гаспадар стаяў перад імі. На яго твары адбілася здзіўленне і тое няўлоўнае пачуццё, якое можна было назваць неспакоем, страхам і нечаканасцю бачыць перад сабою такіх гасцей. Але гэта быў адзін толькі момант. Тарас Іванавіч авалодаў сабою і прышоў у стан звыклага прыўзнята-бурнага настрою.

— А браточкі мае! А пакутнікі вы нашы! Заходзьце, заходзьце! Распранайцеся! Даўно-ж я не бачыў вас, а як хацелася пабачыцца, пагутарыць! — шумна выказваў ён сваю радасць, моцна паціскаючы рукі гасцям. — І як рады я, што бачу вас, галубчыкі, качанчыкі мае, — сыпаў, як з мяшка, Тарас Іванавіч.

Знімаючы паліто, Лабановіч спытаў Шырокага:

— Але не баіцеся вы, Тарас Іванавіч, што прымаеце нас, адшчапенцаў, крамольнікаў, ды яшчэ з такім энтузіязмам?

У вачах Тараса Іванавіча бліснула на момант пужлівасць, няўпэўненасць, ды ён зараз-жа перамог іх.

— Хто забароніць мне прымаць у сваёй хаце лепшых

з лепшых настаўнікаў? Злачынцы вы ці што? Казнакрады ці канакрады? Ды такі-ж адшчапенец і крамольнік я сам і сотні тысяч гэтакіх крамольнікаў!

Каб не даць астыць пачуццю дружбацкасці і салідарнасці, ён голасна крыкнуў:

— Вольга! Жонка, стань перада мной, як ліст перад травой: ідзі сустракаць маіх прыяцеляў!

Не паспела паказацца ў пакоі Вольга Сцяпанаўна, як Тарас Іванавіч закамандаваў:

— Смаж яечню!

— Дай-жа прывітацца з людзьмі, — весела прамовіла Вольга Сцяпанаўна. На яе твары свяцілася сапраўдная радасць і прыязнь. Яна памятала, як Лабановіч забаўляў яе малога сына Лёню і расказваў яму такія цікавыя казкі, што хлопчык часта ўспамінаў і пытаў пра дзядзю Андрэя.

— Ну, як-жа вы жывяце? — пытала яна гасцей. У яе голасе чулася шчырае спачуванне і засмучэнне.

— Ды жывем так, што дай божа: то скокам, то бокам, часам з квасам, парою з вадою, — адказаў Лабановіч.

Янка дадаў:

— Мы людзі бестурботныя, на ўсё добрае ахвотныя, хлопцы вясёлыя, хоць пяткі нашы голыя. Ні аб чым не тужым і цару не служым.

Тарас Іванавіч замахаў рукамі: так гаварыць небяспечна, але гучна засмяяўся.

— Раешнік, сапраўды раешнік! — пахваліў ён Янку, а той прызнаўся:

— Мы з Андрэем падзялілі ролі: ён пачынае, а я падбрэхваю яму, і ў нас выходзіць складна.

— Што вы вясёлыя і ні аб чым не тужыце, гэта вельмі добра, але ўсяго гаварыць уголас не варта, — добрадушна заўважыла Вольга Сцяпанаўна.

— Ідзі, ідзі, жонка, каля скаварады ды каля буфета пахадзі! — паўтарыў свой загад Тарас Іванавіч.

Вольга Сцяпанаўна вышла. Гаспадар і госці перайшлі ў кабінет.

— Ах, галубчыкі мае! — не збіваўся з тону Шырокі. — Дык вось яно як!

Нягледзячы на бурнае выказванне радасці, Тарас Іванавіч, заўважалася, быў нібы звязаны, і сапраўднай буры, уласцівай яго характару, не атрымлівалася.

— А скажыце, Тарас Іванавіч: што пра нас ваша асяроддзе гаворыць, як расцэньвае самы факт нашага няўдалага сходу? — спытаў Лабановіч.

— Якое тут асяроддзе! — абурыўся Тарас Іванавіч. — Разумныя людзі спачуваюць вам, дурні, прахвосты ганяць, а болей хітрыя і подлыя маўчаць. Ды ведаеце вы! — раптам ён перайшоў на новую пазіцыю. — Толькі, хлопцы, маўчок! — прыцішыў ён голас. — На вас данёс наш гад, валасны старшыня Язэп Брыль! Сам асабіста хадзіў да станавога прыстава з даносам! А як ён даведаўся? Шмат хто з маладых настаўнікаў, удзельнікаў сходу, не лічыў патрэбным трымаць язык за зубамі... Толькі, браткі, ні шэп! Нікому ні гу-гу, што гэта я вам казаў!

Сябры пераглянуліся.

— Тарас Іванавіч, мы — магіла! — запэўніў Шырокага Лабановіч, а Янка пацвердзіў.

У кабінет прасунула галаву Вольга Сцяпанаўна.

— Прашу да стала! — прамовіла яна.

— Пойдзем!

Тарас Іванавіч узяў пад руку гасцей і павёў у сталовую. Стол быў акуратна накрыты. На ім стаялі прыборы, чаркі, бутэлька наліўкі, вяндліна і ёмкая скаварада яечні з дзябёлымі, сакаўнымі скваркамі.

— Да не оскудевает рука дающего! — сказаў Янка.

Выпілі па чарцы, па другой, павесялелі. Завялася гутарка аб Панямоні, аб панямонскіх людзях, аб зменах. Выявілася, што Тамара Аляксееўна вышла замуж за Найдуса, і такім чынам на гарызонце «неба Італіі» пагасла адна зорка. Затое-ж з'явіліся тры новыя. Сюды прыехаў ветэрынарны фельчар Адам Ігнатавіч, а з ім дзве дарослыя дачкі. За старэйшаю ўчашчае Базыль Трайчанскі. Ёсць і трэцяя, Аксана... Нішто дзяўчына, хоць і ўраднікава дачка. Выявілася таксама, што сягоння ў Адама Ігнатавіча дзень нараджэння і што Тарас Іванавіч з Вольгай Сцяпанаўнай запрошаны на вячэру. Тарас Іванавіч у прадчуванні «банчка» пасля наліўкі прышоў у экстаз.

— Пойдзем да Адама Ігнатавіча! — загарэўся ён, зва-

рачаючыся да гасцей. — Там будуць не толькі рады вам, вас на руках насіць будуць!

У доказ гэтых слоў на парозе паявіўся Ёсель з пісьмом. Адам Ігнатавіч запрашаў яшчэ раз Тараса Іванавіча з жонкаю і гасцямі.

## XII

Па малалюднай вуліцы Панямоні спаважна ішлі госці — Тарас Іванавіч з Вольгай Сцяпанаўнай і нашы прыяцелі. Прысыпаная свежым снегам вуліца была ўжо ўтоптана людскімі нагамі, палазамі саней і конскімі капытамі. Вокны ўздоўж вуліцы былі шчыльна зачынены аканіцамі.

Кампанія ішла не спяшаючыся, сяды-тады перакідаючыся кароткімі словамі або заўвагамі. Лабановіч маўчаў і думаў свае думкі. Шмат уплыло часу з тых веснавых дзён, калі ён з Садовічам заходзіў у Панямонь. Не так даўно было ад яго пісьмо з Балціморы: як ён там жыве, Садовіч не піша, відаць, не дужа салодка. Аб адным толькі паведамляе — дзесь ходзяць з Нічыпарам на нейкія курсы, каб вывучыць англійскую мову.

Мала што змянілася ў Панямоні за гэты час. Той-жа шумны і яшчэ болей тоўсты Тарас Іванавіч, тыя-ж вечары местачковай так званай інтэлігенцыі з карцёжнаю гульнёй, той-жа Ёсель з яго ранейшымі абавязкамі. Чым жывуць тут людзі? Аб чым яны мараць?

Пазіраючы на ледзь прыметныя палоскі святла, што прабівалася праз шчыліны аканіц, Лабановіч думаў, як цьмяна і скупа прабіваюцца на свет з зацятага мроку мыслі тутэйшых людзей. У чым-жа іх радасць і шчасце? У затхлай цішыні, у нерухомым спакоі, засланым тоненькаю плёнкай вадзяной каросты, што пакрывае стаячую ваду ціхіх затокаў. Якія-ж патрэбны навальніцы і громы, каб ускалыхнуць гэтую цішыню і абудзіць чалавечыя думкі, пачуцці, імкненні! Абуджаў калісь местачковых абывацеляў саматужны рэдактар Бухберг, але яго запраторылі ў вар'яцкі дом, хоць ён вар'ятам, можа, і не быў. А вось шкурнікі, паразіты, даносчыкі, накшталт язэпаў брылёў, жывуць. Успомніліся Лабановічу такія-ж пустыя вечарынкі ў Хатовічах, у Верхані. Як-жа яны па-

добны адны да другіх! Вядомая старая песня на той-жа забраснявелы лад. Праціўна ўся гэтая музыка. Тым часам кампанія падыходзіла да кватэры Адама Ігнатавіча, які жыў на другім канцы мястэчка.

З'яўленне гасцей на чале з Тарасам Іванавічам у доме Адама Ігнатавіча асаблівага ўражання не зрабіла. Некаторыя з прысутных, праўда, са здзіўленнем і нават недаўменнем акінулі поглядам былых настаўнікаў, нібы яны прышлі з таго свету, а потым узяліся за свае справы, як дужа занятыя: адны гулялі ў прэферанс, другія ў шэсцьдзесят шэсць, а трэція проста сядзелі і мянцілі языкамі. Сярод гуляўшых у прэферанс быў і той стары, даўгі, як жэрдка, ураднік, што схапіў пратакол са стала ў часе неспадзяванага налёту на школу ў Мікуцічах. Ён зрабіў выгляд, што не заўважыў настаўнікаў.

Гаспадар дому захапіўся гульнёю ў шэсцьдзесят шэсць і натужліва абмяркоўваў свой ход. Гэты чорнавалосы чалавек гадоў пад пяцьдзесят, інтэлігентны з выгляду, нагадваў правінцыяльнага адваката. На момант ён адарваўся ад гульні, каб выслухаць ад Тараса Іванавіча павіншаванне, павітаўся з былымі настаўнікамі, пасля чаго ізноў сеў на сваё месца. Тарас Іванавіч абразліва заўважыў, спыніўшыся каля ігракоў:

— Гуляць у шэсцьдзесят шэсць — усё роўна, што блох лавіць.

— На ўсё будзе свой час, — павучальна азваўся ўжо вядомы нам сядзелец Кузьма Скаромны.

Жанчыны — праўда, іх было не так многа — займалі пазіцыю ў другім пакоі, а некаторыя з іх памагалі гаспадыні накрываць стол, бо ўжо ўсе госці былі ў зборы.

Лабановіч акінуў вокам прысутных. Пераважная большасць з іх яму была ўжо вядома. Не было толькі Язэпа Брыля і Міколы Зязюльскага. Базыль Трайчанскі зараз-жа вынырнуў з таго пакоя, дзе сядзелі жанчыны. Ён быў такі-ж лагодны, як і заўсёды, прыемная ўсмешка не сходзіла з яго твару, па-ранейшаму ківаў ён галавою, ускідваў то адно вока, то другое. Розніца была толькі ў тым, што на гэты раз твар Базыля ззяў радасцю. Ён вельмі ветла паздароўкаўся з Лабановічам і з Янкам Тукалам. Аб тым, як жывуць выгнаныя са школ калегі, ён палічыў тактоўным не распытвацца.

— Ну, што-ж, Базыль: камяніца ёсць, а душы гэтай камяніцы няма, — зрабіў тонкі намёк на жаніцьбу Янка.

Базыль Трайчанскі зразумеў. Ён прасвятлеў яшчэ болей і яшчэ лагодней пасміхнуўся. Яму прыемна было пачуць з боку намёк — зрабіць у сваім жыцці той важны крок, без якога жыццё чалавека не ёсць поўнае, пры гэтым перад вачамі яго паўстаў вобраз Надзеі Адамаўны, якая была тут, за дзвярамі. Але прызнавацца ў сваіх сардэчных справах Базыль не хацеў. Ён толькі ўзяў Янку пад руку, кіўнуў галавою Лабановічу і сказаў:

— Калі ласка, — пойдзем! Пазнаёмлю з дзяўчатамі, а заадно павітаецеся з жанчынамі.

Захоўваючы этыкет, Базыль падвёў сяброў наўперад да жонкі Кузьмы Скаромнага, як самай старэйшай з жанок. Гэта была з выгляду нецікавая і сярдзітая кабета. Можа, настрой ёй псавала тая акалічнасць, што ў яе было многа дачок, такіх-жа белабрысых і кірпатых, як і маці, і ніводная з іх не вышла яшчэ замуж. Паўліна Сямёнаўна звысоку зірнула на Янку і яго прыяцеля — карысці з іх для яе няма, — але падала руку. Дзячыха Памахайлічыха таксама павіталася суха, паглядзела на сяброў уважна, каб лепей разгледзець «забастоўшчыкаў». А потым, добра прыгледзеўшыся да іх, шапнула Паўліне Сямёнаўне:

— А яны нішто сабе хлопцы!

Паўліна Сямёнаўна таксама ціха адказала:

— Галадранцы, ды яшчэ, можа, астрожнікамі будуць!

— Ну, гэта яшчэ як бог каму паспрыяе, — заўважыла пакорліва дзячыха.

Чуткае вуха Янкі Тукалы падслухала гутарку жанчын. Ён пакланіўся дзячысе і сказаў:

— Вашымі вуснамі гаворыць прамудрасць. Няхай станецца па вашаму слову!

Жанчыны крыху збянтэжыліся і не знайшлі чаго сказаць. Базыль-жа накіраваўся з былымі калегамі далей. Дзяўчаты — іх было трое — сядзелі ў цесным гуртку за столікам. То адна, то другая, то трэцяя падымалі ўкрадкам свае вочкі на хлопцаў.

Базыль падышоў з Лабановічам наўперад да Надзеі Адамаўны, прычым твар яго асвятліўся лагоднаю ўсмешкаю. Янка, як ужо знаёмы, здароўкаўся з Аксанаю.

— Надзея Адамаўна, Марыя Адамаўна Смалянскія, — называў Базыль кожную сястру, прадстаўляючы ім па чарзе Лабановіча. — Будзьце знаёмы і не цурайцеся адны другіх, — сказаў у заключэнне Трайчанскі, пераходзячы на вясёлы, жартаўлівы лад, але дасціпныя жарты яму не ўдаваліся.

Аксана пазнаёміла Янку з сёстрамі Смалянскімі і сама пазнаёмілася з Лабановічам. Гэта была бялявая, высокая дзяўчына. Лабановіч азірнуў яе кароткім поглядам: яе партрэт, напісаны Янкам, зусім адпавядаў сапраўднасці.

— Сядайце, пасядзіце, калі ласка, з намі, — прамовіла Надзея Адамаўна нізкаватым, крыху нібы сіплым голасам.

З трох дзяўчат яна была самая мілавідная. Рысы твару былі даволі буйныя, вочы карыя, добрыя. Маня была не падобна да сястры: у яе шэрых вачах блукаў вясёлы, гарэзлівы агеньчык. Наогул-жа ўсе тры дзяўчыны рабілі добрае ўражанне, і кожная з іх у паасобку пасвойму была прывабная. Ускідваючы зрэдку погляд на Аксану, Лабановіч прыгадваў бацьку яе, старога, даўгавязага ўрадніка, які каршуном наляцеў на пратакол. Не верылася, што яна — дачка гэтага злога кашчэя.

— Чаму вы так рэдка бываеце ў нашым мястэчку? — запытала настаўнікаў Надзя.

— Часта бываць тут нам небяспечна, — адказаў Лабановіч і прыняў міну сур'ёзнага чалавека.

— Чаму? — зацікавіліся дзяўчаты.

Аксана, як здалося яму, з некаторым неспакоем чакала адказу.

— Быць у Панямоні і не пабачыць вас, трох грацый, панямонскіх красунь, было-б злачынствам з нашага боку, — пажартаваў Лабановіч.

— А пабачыць вас разы два-тры, дык лёгка можна і сэрца пакінуць у Панямоні, — падхапіў Янка Тукала.

Дзяўчаты трохі засаромеліся, а потым і засмяяліся.

— Ну, і што-ж такога? — бліснула хітра шэрымі вачамі Маня.

— Вам, вядома, усё роўна: нашы пакуты не крануць вас, а як нам, бедным «агаркам»? — тужліва-напускным тонам прамовіў Янка.

— А вам адкуль вядома, як паставімся мы да вашых пакут, калі-б яны здарыліся? — спытала Аксана, і на яе шчочках выступіў хваравіты румянак.

Янка сказаў:

— Выпадкам я пачуў, як адна жанчына казала тут па нашаму адрасу: — «Галадранцы — ды яшчэ, можа, і астрожнікамі будуць».

Аксана апусціла вочы. Румянак яшчэ ярчэй выступіў на яе шчоках.

— Так магла сказаць дурная і злая жанчына. Плюньце на яе, — сказала Аксана.

Далейшую гутарку спыніла гаспадыня. Лабановіч заўважыў, што калі Надзея дажыве да яе гадоў, дык кропка ў кропку будзе падобна да маці.

— Прашу да стала! — запрасіла яна гасцей.

Для гаспадароў, да якіх прыходзяць госці, не малая турбота пасадзіць іх за стол. Госці звычайна таўкуцца некаторы час, не спяшаюцца, каб захаваць тактычнасць, пакуль гаспадар або гаспадыня не возьмуць пад руку госця ці госцю і не пасадзяць на болей пачэсным месцы. Тады ўжо астатнія, захоўваючы этыкет, размяшчаюцца самі.

Па суседству з гаспадаром селі Тарас Іванавіч, Найдус — Тамара Аляксееўна не магла прысці, — Кузьма Скаромны,ураднік. Базыль Трайчанскі сеў у закутку з дзяўчатамі і з былымі настаўнікамі.

Тарас Іванавіч падняў тост за здароўе гаспадара.

— Панове, увага! — гучным голасам грымнуў ён, падняўшыся з месца і трымаючы высока чарку. — Наша дружная сям'я панямонскай інтэлігенцыі папоўнілася новым выдатным членам, Адамам Ігнатавічам, чалавекам высока-інтэлігентным, можна сказаць, прафесарам ад ветэрынарыі, высока гуманным, бо яшчэ ў святым пісанні сказана: «Блажен муж, иже скоты милует». Гэта першы чалавек, які ўзначальвае ў нас ветэрынарыю. Дык вып'ем-жа да дна за Адама Ігнатавіча і пажадаем яму поспехаў, здароўя і шмат гадоў жыцця.

Дружна выпілі за гаспадара, потым пілі за гаспа-

дыню, за гаспадарскіх «ясных зорак» — дачок. Выпілі і за Базыля Трайчанскага, за павелічэнне насельніцтва ў яго камяніцы. З кожнаю чаркаю госці ўсё болей і болей весялелі, а гутарка станавілася ўсё болей і болей шумнаю. Першапачатковая сталасць, з якою госці садзіліся за стол, парушылася. Яны шумелі, крычалі, рагаталі, адпускалі не зусім прыстойныя жарты, падымаліся са сваіх месцаў, падыходзілі да тых, хто сядзеў далей, чокаліся, выпівалі, выказвалі самыя прыязныя прызнанні.

Першым падышоў да дзяўчат, з якімі сядзелі Базыль і нашы прыяцелі, Тарас Іванавіч. Тут было найболей ажыўлена і весела. Жарты і самы шчыры смех не змаўкалі ні на хвіліну. Асабліва разышоўся Янка Тукала і зусім закасаваў Базыля, як-бы яго тут і не было.

Тарас Іванавіч чокнуўся.

— За нашых красунь! — сказаў ён. — Лёс не крыўдзіць нашу Панямонь і пасылае такіх краль, як Надзея і Марыя Адамаўны, як Аксана Анісімаўна. Дык няхай жыве харaство, няхай красуе маладосць! — Шырокі зрабіў агаворку: — Праўда, Базыль Антонавіч ужо вышаў з кругу маладосці, але даць жару яшчэ можа.

Тарас Іванавіч доўга не затрымліваўся; яго болей цікавіў «банчок», які ўжо арганізоўваўся. Калі госці павылазілі з-за стала, да Лабановіча падышоў ураднік і сеў каля яго, ветла павітаўшыся.

— Вы, напэўна, думаеце пра мяне, як пра злога паліцэйскага служаку. Што зробіш? Такая наша служба, на свеце жыць трэба. І не мы самі, трэба вам сказаць, надумаліся накрыць вас у Мікуцічах: з боку нам падказалі, а наш абавязак — выпаўняць. Вы думаеце, — казаў далей стары ўраднік, — я не бачыў, як вы, седзячы на канапцы, скублі нейкі недазволены рукапіс? Ён, можа, быў горшы за ваш пратакол. А я і пальцам не павярушыў, каб вам перашкодзіць.

— Значыцца, у вас зоркае вока, а ваша сэрца не зусім адзервянела, — заўважыў Лабановіч.

Ураднік палічыў, што чалавечы доўг ім выканан, і далучыўся да карцёжніцкага гуртка. Дзяўчаты на развітанне доўга пацiскалі рукі «агаркам».

— Каб усе былі такія, як вы! — з некаторым засмучэннем сказала Надзея. — Не забывайце нас.

## XIII

Надыходзіў час веснавога бездарожжа. Глыбокі снег асеў і пачарнеў, а пад снегам набывала вада. У небе, нібы срэбраныя званочкі, звінелі песні жаваранкаў. Крыху спозненая, але дружная вясна забірала ўсё болей і болей жыватворнай сілы.

Лабановіч даведаўся ад настаўніка Стаўбуноўскай школы, што экзамены назначаны на пятае красавіка: заставалася ўсяго тры тыдні. Гэта вестка ўсхвалявала і ў той-жа час і парадавала трох вучняў Лабановіча, якія меліся здаваць экзамены за курс пачатковай школы. Тыдні два яны старанна паўтаралі пройдзенае за зіму, пісалі дыктоўкі, практыкаваліся ў граматычным разборы, рашалі задачы. Нарэшце настаўнік даў ім перадышку і час разабрацца самім у тых пытаннях, якія здаваліся для іх найболей труднымі.

Непрыметна прайшоў час, і настаў дзень экзаменаў. Лабановіч загадзя даставіўся з вучнямі ў Стаўбуноўскую школу, каб яны азнаёміліся з новаю для іх абстаноўкаю і пачуваліся болей упэўнена і смела. Сам-жа Лабановіч на гэты раз, як бяспраўны настаўнік, сядзеў далей ад стала экзаменатараў у якасці староннягa і пасіўнага наглядальніка. Яго настаўніцкае сэрца адчувала нейкую неакрэсленую крыўду. Затое яго вучні шчаслівымі варочаліся пад вечар дамоў. З радасці яны выпілі піва, і Тодар Бярвенскі, ідучы, спяваў песні сваім хрыпаватым, як у маладога пеўніка, голасам.

Бацькі вучняў сумленна расплаціліся з настаўнікам, а сам ён падзяліўся сваім заработкам з Уладзімерам, чыім хлебам карміўся. Некалькі дзесяткаў зробленых рублёў зараз здаваліся Лабановічу значным капіталам, з якім весялей заглядалася ў заўтрашні дзень. Але разам з гэтым надыходзіў і той трывожны неспакой, звязаны з пытаннем, — а што будзе далей? Заставацца ў гэтай глухой Смалярні, дзе заработкі скончыліся, не выпадала, сядзець-жа на хлебе брата, а хлеба таксама было ў абрэз, нязручна. Такім чынам трэба было збіраць манаткі і падавацца ў іншае месца. Вось толькі-б падсохнулі дарогі.

Але ў дарогу прышлося рушыць раней, чым прасохла зямля. У Смалярню прышоў нечакана Янка.

— Сам бог пасылае цябе да мяне! — радасна сустрэў прыяцеля Лабановіч. — І як гэта адважыўся ты ў бездараж пускацца ў вандроўку?

— Для смелых людзей няма бездарожжа! — горда заначыў Янка. — Але чаго гэта богу раптам спатрэбілася пасылаць мяне да цябе?

— Стаю, брат, я на ростанях. Адзін мой этап скончыўся. Трэба кудысь падавацца, а куды, не ведаю. Вось чаму я і рады параіцца з табою, — прызнаўся Лабановіч.

— А што тут доўга думаць, куды падавацца! Падаўся і ўсё. Для таго я і прышоў да цябе, каб рушыць у дарогу, — у словах Янкі чулася нешта сур'ёзнае.

— Аб якой дарозе гаворыш, Янка?

Замест адказу Янка дастаў з кішэні пісьмо. Пісаў Уладзік Сальвэсяў. У пісьме, прысланым праз аднаго надзейнага чалавека, гаварылася аб засульскай настаўніцы Фідрус. Яна напісала інспектару народных вучылішчаў, што яе запрашалі ў Мікуцічы на настаўніцкі сход. Уладзік настойліва прасіў перагаварыць з гэтай настаўніцай, і як найхутчэй, каб яна адмовілася ад сваіх слоў, а не — дык і прыстрашыць. І гэты абавязак ускладаўся на Янку і Андрэя.

— Дык што скажаш? — спытаў Янка.

— Якому-ж дурню прышло ў галаву запрашаць на сход гэтую дурную саву? — абурыўся Лабановіч. — Ужо адно яе прозвішча чаго варта!

Янка вінавата спусціў вочы.

— У гэтай справе ёсць і майго кусок дурня, — прызнаўся ён.

Лабановіч крыху памякчэў.

— А ты ведаеш яе?

— Сустракаўся аднойчы. Яна здалася мне прагрэсіўнаю жанчынаю.

— Маладая ці старая?

— Стараватая, — нясмела адказаў Янка.

— Ды проста кажы: грыб стары. І пэўна з духоўнага звання?

— А чорт яе ведае! Савою-ж ты назваў яе правільна.

— Ну, дык ідзі і цалуйся з ёю.

— Не, брат, — справа грамадская, пойдзем разам.

Лабановіч яшчэ крыху пазлаваўся, а нарэшце адпусціўся і сказаў:

— Калі ісці, дык з музыкаю!

— Вось гэта голас! — падхапіў павесялеўшы Янка: — Пад музыку, пад барабан і салдатам весялей хадзіць. А з якою музыкаю мы пойдзем?

— Наша музыка безгалосая, а чуваць будзе далёка.

— Дык і ты пачаў гаварыць афарызмамі? — крыху здзівіўся Янка: — Што-ж гэта за музыка такая?

— Музыка наша зачнецца ад выварата, — сказаў Лабановіч.

— Во! Цяпер я разумею, пра якую музыку гаворыш ты. Пара, пара, браце, музыкантам нашым па свеце пахадзіць ды пайграць добрым людзям.

Сябры намовіліся захапіць з сабою лісткі і брашуркі, што ляжалі пад вываратам, і раскідаць сям-там, каб людзі чыталі іх. Але наўперад гэтыя брашуркі і лісткі трэба было прагледзець, адабраць, бо шмат якія з іх ужо аджылі свой век і страцілі надзённую актуальнасць.

Запаветны выварат верна і сумленна выпаўніў свой абавязак ахоўніка літаратуры: ні адна кропля вады не прасачылася ў засмоленую скрынку, усё было цэла. Тое, што ўжо страціла цікавасць ці застарэла, або проста не адпавядала палітычным поглядам двух сяброў, было тут-жа спалена, а болей важнае — узята ў дарогу. Рэшту зноў схавалі пад выварат.

Узяўшы на ўсякі выпадак маленькіх цвічкоў і малаток, сябры рушылі ў дарогу. У полі па нізінах і па ўскрайку лясоў яшчэ бялеў снег. З узгоркаў па дарозе беглі ручайкі, а пад нагамі хлюпала вадкая гразь, і толькі на высокіх пясчаных узгорках зямля падсыхала: там ісці было лёгка і прыемна.

— Як добра ў полі на прыволлі, калі з зямлі сходзіць снег! — захапляўся Лабановіч веснавым прасторам зямлі.

— Вось бачыш, а ты не хацеў ісці, — азваўся Янка.

Вярсты праз тры вандроўнікі вышлі на другую дарогу. На ростанях стаяў высокі крыж, агароджаны дзервянымі штакецінамі, пападгніваўшымі і пахіленымі. Да крыжа была прыбіта фігурка Хрыста, зробленая з дрэва

невядомым разбярom. Галава фігуркі была гаротна схілена ўніз, яе аздабляў вянок, таксама выразаны з дрэва. Выцвіўшы, пашарпаны вятрамі і нягодамі хвартушок закрываў ніжнюю частку фігуркі Хрыста.

— Спынімся тут, — сказаў Лабановіч і азірнуў наваколле.

Нікога нідзе не было відаць.

— Ведаю, што хочаш ты рабіць, — дагадаўся Янка.

— А што?

— Прыбіць да крыжа пракламацыю!

— Угадаў, брат Янка.

— Гэта будзе нова і арыгінальна, — захапіўся Янка. — І ведаеш што! Надрукуем угары на пракламацыі чырвоным алоўкам некалькі слоў.

— Якіх? — запытаў Лабановіч.

— А вось такіх: «І кажа вам Хрыстос — чытайце і рабіце так, як напісана тут».

— А гэта, бадай, будзе някепска, — згадзіўся Лабановіч.

Яны дасталі пракламацыю, зварот да сялян. У ёй гаварылася, каб сяляне не слухалі папоў, ксяндзоў і царскіх чыноўнікаў, бо ўсе яны хлусяць, ашукваюць простых людзей. А таму не трэба плаціць падаткаў для ўтрымання дармаедаў, не даваць сваіх сыноў у салдаты, наладжваць забастоўкі, патрабаваць ад землеўласнікаў справядлівай аплаты працы работнікаў і работніц. Не патрэбен цар, улада павінна належаць народу.

Янка сеў на камень, узяў газету, на яе палажыў пракламацыю і стаў выводзіць друкаванымі літарамі прадмову ад імя Хрыста. Калі ўсё было выдрукавана, Лабановіч пачаў прыбіваць пракламацыю да крыжа пад фігуркаю.

— Ты, брат, глядзі, каб не насунуўся хто, бо мы робім падвойнае злачынства: разносім пракламацыі і чынім блюзнерства, — казаў Лабановіч, прымацоўваючы даўгаваты лісток.

— Дарма, — адказаў смеючыся Янка: — У гэта злачынства замешан і сын божы.

— А ўсё-такі, давай, браце, замяцём свае сляды і звернем з гэтай дарогі і пойдзем унь тою сляпою сцежкаю, абагнем вёсачку і выйдзем на свой шлях з другога боку.

— Тваімі вуснамі мудрасць гаворыць, — згадзіўся Янка.

Праходзячы міма вёсачкі, сябры ціхенька падкраліся да магазіна, дзе хавалася збожжа, і прыбілі на сценах некалькі лістовак і брашур. Не заходзячы ў вёсачку, яны далі яшчэ адзін круг, а затым накіраваліся далей.

Сябры вышлі ізноў на засульскую дарогу. Зрэдку пападаліся падарожныя людзі. З адным сустрэчным селянінам вандроўнікі нашы жычліва прывіталіся.

— Спыніцеся, дзядзька, на хвілінку, — звярнуўся да яго Лабановіч.

Селянін спыніўся. Гэта быў чалавек сярэдніх гадоў, у суконным добрым пільчаку хатняга вырабу, у ботах. Відаць, не бедны гаспадар. Ён спакойна і ўважліва зірнуў на сяброў.

— Скажыце, калі ласка, ці далёка да Ячонкі? — спытаў яго Лабановіч.

— Ячонка засталася ўлева, ззаду, — адказаў крыху здзіўлены селянін і яшчэ больш уважна паглядзеў на вандроўнікаў.

— А, як-жа гэта мы далі зевака, — пачухаў патыліцу Янка.

— А вы ідзіце вунь тою сцежкаю, — паказаў селянін на малапрыметную дарожку ў полі: — Пройдзеце з поўвярсты і выйдзеце на бітую дарогу і тады павернеце ўлева — там ужо недалёка Ячонка.

— Дзякуем за добрую параду, — сказаў Лабановіч. — Вазьміце ад нас вось гэтую кніжачку і пару лістовак. Прачытайце самі і другім дайце пачытаць. Ды чытайце іх уважна, як святую малітву.

Селянін крыху замяўся, яшчэ раз недаверліва зірнуў на сяброў, але ўзяў кніжачку і пракламацыі. Ён пайшоў сваёю дарогаю, раз-по-разу аглядаючыся назад. Сябры звярнулі на сцежку, хоць у гэтым патрэбы не было.

— Ведаеш, Андрэй, ці не ўліплі мы з гэтым дзядзькам: нешта ён не дужа прыязна пазіраў на нас, — заўважыў Янка.

— І мне ён здаецца небяспечным, — азваўся Лабановіч.

Як толькі дзядзька знік з вачэй, сябры павярнулі з глухой дарожкі, прайшлі зараснікамі, беручы кірунак на

сухі ялоўцавы груд. У лагчыне дарогу перагароджвала неглыбокая, але даволі быстрая рачулка, на дне якой ляжаў лёд. Сябры спыніліся. Варочацца назад небяспечна.

— Наперад, Янка!

Сябры разуліся, знялі нагавіцы і патупалі па слізкім лёдзе на другі бок. Вада апякала ногі, па лёдзе ісці было цяжка, але яны шчасліва перабрылі рэчку, выскачылі на бераг. Адзеліся, абуліся. Потым зашыліся ў яловец, выбраўшы такую пазіцыю, з якой можна было аглядаць усё наваколле.

— Давай крыху перачакаем, — параіў Лабановіч.

— Музыка безгалосая, а пачуецца далёка, — з некаторым непакоем і з насмешкаю з саміх сябе сказаў Янка.

Ісці зараз да Мальвіны Фідрус не выпадала. Сябры абмяркоўвалі новы план. І раптам бачаць — дарогаю імчыцца нехта верхам на кані! Падскакаў да сцежкі, якую паказваў сябрам селянін, і павярнуў на яе.

— Ураднік, стаўбуноўскі ўраднік! — ціха вымавіў Янка.

— Няхай ловіць ветра ў полі. Разумна зрабілі, Янка, што пераправіліся за рэчку.

Толькі надвячоркам сябры прышлі ў Панямонь, адмераўшы дзесяткі лішніх вёрст, каб замесці свае сляды.

Сустрэцца і пагаварыць з настаўніцай Фідрус Янку і Андрэю давялося ўжо другім разам.

## XIV

Ёсць свой дадатны бок у пэўнай абмежаванасці твайго дабра і багацця, калі ты можаш спакаваць яго ў скрынку або ў чамадан, закінуць за плечы і ісці, узяўшы кій у рукі, куды табе трэба. Такое становішча было зараз і ў Лабановіча.

Як толькі пацяплела надвор'е і падсохла зямля, сабраў ён сваю маёмасць, а ўсё лішняе і не дужа патрэбнае пакінуў у брата, развітаўся з ім і рушыў у дарогу. На ўскрайку лесу Лабановіч прыпыніўся і акінуў вокам Смалярню, двор і хату, невялічкі садок, дзе ўжо збіралася зацвітаць маладая дзікая груша. «Можа, не давядзецца болей пабачыць мне гэты часовы прыпынак», — падумаў ён.

Мінуўшы глухія Цёмныя Ляды, Лабановіч павярнуў улева, трымаючы кірунак на Мікуцічы. Малапрыметнымі ляснымі дарожкамі і сцежкамі абышоў засценак, дзе было лясніцтва і дзе амаль усе людзі ведалі яго, выгнанніка. Дарога ішла праз лес, чысты, высокі, стромкі бор. Бор гэты меў назву — Сустрэнаўка. «Чаму яго назвалі так? Відаць, тут адбылася нейкая сустрэча», — разважаў Андрэй, падаючыся далей у бок Мікуціч. І раптам заўважыў—уперадзе, крыху ў бок ад дарогі, стаіць вялізны стары лось, гарбаносы, з цёмнаю шэрсцю на спіне, са здаравеннымі лапчастымі рагамі. Знянацку Лабановіч спыніўся, углядаючыся ў лася. Лось таксама стаяў і пазіраў на яго.

«Дай-жа напалохаю!», — сказаў сам сабе Лабановіч і рынуўся на лася. Калі паміж імі заставалася крокаў сорак, лось стаў у баявую позу, адкаціўшы цёмны хіб, і не крануўся з месца. Лабановіч спалохаўся і ад наступлення перайшоў у адступленне. Схаваўшыся за тоўстай хвояй, ён стаў ляскаць па ёй палкаю. Лось трохі занепакоіўся, але не траціў свайго гонару. Ён паставіў на месца грозны хіб, прыняў звычайны выгляд і, не спяшаючы, падаўся ў глыб лесу.

«Вось табе і Сустрэнаўка», — сказаў сам сабе Лабановіч, не на жарты напалоханы. Ён пайшоў далей, пазіраючы направа і налева. Але лася нідзе не было відаць. Лес скончыўся, і перад вачамі вандроўніка вынікла пясчанае, узгоркаватае поле мікуціцкіх сялян.

Маці і дзядзька Марцін больш са смуткам, чым з радасцю, сустрэлі бяздомнага і безработнага вандроўніка. Але яго добры гумор і настрой трохі развесялілі іх абоіх. Дзядзька Марцін заўважыў нават, бестурботна махнуўшы рукою:

— Не ўдалося цяпер, то, можа, удасца ў чацвер. Толькі не загналі-б куды за свет.

Ні маці, ні дзядзька не папікнулі Андрэя за прыкрае здарэнне на сходзе настаўнікаў. А Якуб шчыра быў рады прыходу брата. Калі-ж ён даведаўся, што Андрэй збіраецца жыць тут усё лета, дык Якубава радасць яшчэ павялічылася. За апошні час ён значна падрос і быў праваю рукою дзядзькі Марціна.

— Без Якуба я проста як без рук, — сказаў дзядзь-

ка: — Ён і ў гумне памагае мне, і ў полі, і ў лесе. То пойдзе ўкрадкам высеча ялінку на грабільна або на кассё, то заскочыць у дубняк і, калі выбера біч, дык толькі падымай цэп: біч сам будзе малаціць.

Ведаў дзядзька Марцін, чым і як дагадзіць пляменніку. А Якуб слухаў і ўвесь расцвітаў ад задаваленння. Каб не выявіць свайго ўзрушэння, шчаслівы Якуб сказаў, зварачаючыся да брата:

— Я пакажу табе, Андрэй, адно месцейка на Нёмане ў Бервянцы — вось там рыбы, дык рыбы! Часамі як плюхне, ці то сом, ці шчупак, дык аж булбаткі ўстаюць на вадзе. А язёў там, а галаватняў! Так і ходзяць чародамі.

— А ты-ж часамі не прабаваў падчапіць на вуду язя? — пацікавіўся Андрэй.

— Цяжка ўзяць яго там, — безнадзейна прызнаўся Якуб: — Карчаўё, карэнне. Не адзін кручок мой застаўся там.

— А можа, мы з табою ўдвух ці не далі-б рады? — спытаў Андрэй.

Якуб запэўніў, што і ўдвух нічога не зробяць. Дзядзька Марцін слухаў і пасміхаўся ў вус.

— Ужо калі Якуб сказаў, значыць так яно і ёсць, — падтрымаў малога пляменніка дзядзька Марцін. Яны былі вялікімі дружбакамі.

— Вось калі пацяплее, дык яны сеткамі, таптухамі наловяць з пуд рыбы, — заўважыла маці і пайшла да печы: пэўна-ж Андрэю з дарогі захацелася падсілкавацца.

Дзядзька Марцін, Андрэй і Якуб вышлі на двор агледзець гаспадарку.

Чымсьці блізкім, родным патыхнула на Лабановіча, калі ён аглядаў двор, будынкі і ўбогі скарб нескладанай сялянскай гаспадаркі, дзе кожная рэч нагадвала далёкае, бестурботнае дзяцінства. І ў той-жа час яшчэ з большай сілай абуджаўся ў душы пратэст супраць несправядлівага ладу жыцця, дзе беднаму чалавеку адведзен такі цесны куток. Адно толькі цешыла сэрца: народ не хоча зміры́цца з такім ладам. І ў гэтым — зарука перамогі.

Андрэй ніколі не цураўся сялянскай работы і ў кожны зручны час ахвотна памагаў дзядзьку Марціну. Калі ён быў настаўнікам, дык часта пасылаў сваім хатнім

грошы. А цяпер ён у гэткім становішчы, што такой дапамогі аказаць не можа, хоць яна вельмі патрэбна. Прамільгнула невядома адкуль вынікшая думка аб тым, колькі новых месцаў прыходзіцца змяніць чалавеку на сваім жыцці. Не болей чвэрці веку пражыў на свеце Лабановіч, а пабыць яму даводзілася шмат дзе. І якія мясціны чакаюць яго наперадзе! Але зараз не было як затрымацца на гэтых разважаннях: рухавы, гаваркі Якуб звінеў, як званок, і ўсё стараўся як мага болей паказаць і расказаць брату аб розных рэчах і праявах. У гумне ён падвёў Андрэя да шырокага дубовага шула. На ёмкім гвазду гэтага шула паважна адпачывалі цапы. Якубу хацелася паказаць цэп з тым хвацкім біčом, пра які расказваў дзядзька Марцін: біч, высечаны ў дубняку самім Якубам!

— Сапраўды, біч хвацкі, — азваўся Андрэй, зняўшы з гвазда цэп і разоў пару падняўшы яго ўгору.

З хаты выйшла маці, руплівая, працавітая, заўсёды заклапочаная жанчына. Яна паклікала Андрэя снедаць. Дзядзька Марцін і Якуб у хату не пайшлі, спаслаўшыся на тое, што яны нядаўна добра пад'елі.

Маці палажыла на стол дзерваны кружок і паставіла на яго скавараду з яечняй, засмажанай на тлустых скварках.

— Ведаеш, мама, — звярнуўся да яе Андрэй, — і дым з кадзіла, што пускае поп у царкве, не пахне так прыемна, як гэта скаварада са скваркамі.

— Не трэба, сынок, гаварыць лішняга, — з журботнаю ўсмешкаю заўважыла маці.

Пасмакаваўшы яечні, Андрэй ізноў азваўся:

— Такой яечні не толькі губернатар, але і наш дурань-цар, Міколка другі, не еў.

— Еш, сынок, і глупства гаварыць не трэба, — запярэчыла маці: — Вось вы пайшлі супраць начальства, зняважылі цара, а зараз сядзіце без месца. Забыліся вы прыказку: не чапай гною, бо смярдзець будзе.

Лабановіч громка зарагатаў:

— Вось гэта, мама, праўда. Але раз гэта гной, што зусім справядліва, дык яго трэба ў зямлю закапаць, каб угнойваў яе.

Андрэй падышоў да маткі, пацалаваў яе ў руку.

— Дзякую, мама, за снеданне. Даруй мне за непрыемнасці, за прыкрасці, што я прычыніў вам. Смуткаваць-жа і плакаць няма чаго. Вось калі-б я зрабіў злачынства людзям, простым людзям, дык тады можна было-б адвярнуцца ад мяне і ў хату не пусціць, хоць я і родны ваш сын. Я-ж хачу, і многія-многія сотні тысяч такіх, як я, хочуць каб простым людзям жылося добра, каб самі яны былі гаспадарамі над сабою і каб не чынілі над імі здзекаў паны, чыноўнікі, пачынаючы ад урадніка і губернатара і канчаючы царом. У імя-ж цара і ад імя цара творацца ўсе гэтыя несправядлівасці: мужыкам на зямлі, рабочым на фабрыках і заводах. А ці маем-жа мы права сядзець, злажыўшы рукі, і спакойна пазіраць на ўсю гэту пачварнасць? Калі-б праменні сонца не знішчалі вясною снегу і лёду, дык зямля-б не вызвалілася ад холаду, і не было-б вясны. Няхай мяне выгналі, няхай я сяджу без работы, хоць, праўда, работу сякую-такую знаходжу, няхай мяне судзяць і засудзяць, я ніколі здавацца не буду, бо ведаю, у імя чаго змагаюся.

Маці слухала і плакала.

— Ох, сынок, калі ўжо так трэба, дык трэба.

І выцерла хвартухом слёзы.

## XV

За Мікуцічамі ўгору па Нёману, за поўвярсты ад сяла, ёсць высокі прыгожы груд, дзе раслі пышныя, разложыстыя хвойкі. Уся гэта мясціна мела адну назву — Клешчыцы. Тут быў тады малады яшчэ лясок і маляўнічыя зацішныя далінкі, куды любілі сыходзіцца летам мікуцкія настаўнікі лавіць рыбу і наладжваць таварыскія маёўкі. Глыбока ўнізе, пад зрывістым пясчаным берагам, струменіўся быстры Нёман, праносячы па чыстым жолабе веснавыя воды і падразаючы высокі свой бераг. Тут, як расказвалі старыя людзі, знаходзілі чалавечыя чэрапы і косці. Тыя-ж людзі сцвярджалі, што тут быў калісь курган, магіла забітых на вайне са шведамі салдатаў.

Нёман яшчэ не ўвайшоў у свае берагі. Даволі шырокая даліна была заліта веснавою вадою. Там, дзе вада

спадала, прабівалася і жаўцела буйная шырокалістая лотаць. На процілеглым баку даліны раскінуліся палеткі, вузкія палоскі ўзгоркаватай зямлі занямонскіх сялян, дзе туліліся закрытыя пагоркамі невялікія вёскі, якія мелі агульную назву — Сёлы. Якраз насупраць Клешчыц, на тым баку даліны, узнімаўся досыць высокі курган. На самым версе кургана красаваўся выступ, нібы круглая шапка. У Мікуцічах яго называлі Дзямянавым Гузам.

Лабановіч стаяў на самым высокім пункце берага, адкуль яму вельмі добра быў відаць Дзямянаў Гуз, Мікуцічы, мястэчкі Панямонь, Стаўбуны і сіняя палоска Сіняўскага гаю — малюнак, якім нельга было не залюбавацца. Але вочы Андрэя Лабановіча пільней узіраліся ў Дзямянаў Гуз: там зараз павінна была з'явіцца постаць чалавека, імя якому Янка Тукала.

Перш чым пакідаць Смалярню і перабірацца ў Мікуцічы, Андрэй паведаміў аб гэтым Янку і сказаў:

— Без цябе, Янка, мне горка на свеце жыць, давай не будзем разлучацца і надалей. Дык вось што, мой дружа: зрабі і ты сабе канікулы, тым болей, што не за гарамі вялікдзень, і перабірайся да бацькоў у Нейгертава, за Нёман, у вашы славутыя Сёлы.

Янка на гэта ўзнёсла азваўся:

— Твая радасць — мая радасць, тваё гора — маё гора, твой бог — мой бог, няхай будзе благаславёна імя яго! І няхай станецца па слову твайму.

— Адчуваю, Янка, і ведаю, што ты — мой сапраўдны друг. А калі так, дык давай наладзім наша наступнае спатканне ў вялікую пятніцу і наладзім яго... у прасторах!

— Да гэтага я ўсё разумеў, а вось спатканне «ў прасторах» не дайшло, — заўважыў Янка.

— Растлумачу табе. Ведаеш Дзямянаў Гуз? — запытаў прыяцеля Андрэй.

— Ведаю, добра ведаю.

— А пра Клешчыцы ты чуў?

— І Клешчыцы ведаю. І гарэлку там піў і смачную юшку еў.

— Ну, дык так, мой браце: у дванаццаць гадзін у вялікую пятніцу ты ўзыдзі на гару высокую, сірэч — на Дзямянаў Гуз. Я-ж у гэты час буду стаяць над Нёманам, на высокім беразе ў Клешчыцах. З гэтага берага добра

відаць Дзямянаў Гуз, а з Дзямянавага Гуза яшчэ лепей відны Клешчыцы. Калі ты ўзыдзеш на Дзямянаў Гуз, я два разы махну табе хваёваю галінаю. А гэта будзе азначаць: «Здароў, Янка!» А паколькі лесу ў раёне Дзямянавага Гуза няма, дык ты прымацуй да ёмкага кія дзяружку, хустку ці проста анучу і такім саматужным сцягам памахай мне. І я буду ведаць, што ты пабачыў і зразумеў мой сігнал і ў адказ пасылаеш мне сваё прывітанне.

Янку Тукалу ў высокай ступені было ўласціва захапленне. Яму дужа спадабалася Андрэева выдумка.

— Цікавейшая думка! — весела адгукнуўся Янка: — Арыгінальная выдумка! Ды ты ведаеш, брат: мы створым цэлую сістэму сігналаў, каб гаварыць на адлегласці, або, як трапна ты сказаў, — наладзім спатканне ў прасторах.

Прыгадваючы гэтую гутарку з прыяцелем, Лабановіч зрэдку паглядаў на Дзямянаў Гуз. Пяці хвілін не хапала да дванаццаці. І раптам з-за схілу кургана паказалася чалавечая постаць. Не было ніякага сумнення, што гэта Янка. Узыходзячы на самую макушу Дзямянавага Гуза, ён трымаў добра прыметны саматужны сцяг, хоць адлегласць паміж сябрамі была не меней вярсты. Паветра было празрыстае. На фоне неба фігура Янкі вырысоўвалася вельмі выразна. Узрадаваны Лабановіч падняў угору даволі ёмкую хваёвую галіну і павольна махнуў ёю два разы. Зараз-жа над Дзямянавым Гузам узвіўся Янкаў сцяг, ён таксама пасігналіў, як было дамоўлена раней. Сябры абмяняліся прывітаннямі. Тады Лабановіч зноў падаў сігнал, зрабіўшы галінай круг над галавою. Тое самае зрабіў і Янка на Дзямянавым Гузе. А гэта азначала: здаровы, новага пакуль не чуваць. Наступны сігнал быў такі: Лабановіч адной рукою падняў над галавою галіну, а другую руку працягнуў убок. Янка адказаў такімі-ж рухамі. Гэта значыла: з аднаго боку — хачу пабачыць цябе зблізку, а з другога — я таксама хачу. Пасля гэтага Лабановіч дзвюма рукамі падняў галіну ўгору і стаў махаць ёю ў свой бок, даючы гэтым знак, каб Янка сыходзіў з кургана і накіроўваўся да грэблі, што пачыналася зараз-жа за Нёманам насупраць Мікуціч і пралягала праз усю нёманскую даліну. Другім сваім

канцом грэбля ўсутыч падыходзіла да занямонскага поля; зараз яна была заліта вадою. Пабачыўшы сігнал, Янка падняў свой сцяг і некалькі разоў махнуў ім у бок Андрэя: зразумеў, іду і буду чакаць пераправы.

Лабановіч шпарка накіраваўся ў сяло, каб узяць лодку і плысці да Янкі. На ўсе Мікуцічы было не болей трох лодак, хоць у сяле налічвалася каля двухсот двароў. Былі, праўда, чаўны, але каб плысці на чаўне, трэба мець спрыт, бо пры такой вадзе перапраўляцца на ім небяспечна. Якраз насупраць грэблі, над самым Нёманам, на грудку стаяла хата старога Базыля, у якога была лодка. Да яго і звярнуўся Лабановіч. Праўда, сам Базыль ужо не мог упраўляцца з лодкаю, ёю распараджаўся старэйшы сын Паўлюк. Але павага да старасці вымагала звярнуцца наўперад да Базыля. Стары сядзеў на прызбе ў кажусе і пасмоктваў сваю піпку, якой ён ніколі не выпускаў з рота, хіба толькі тады, калі садзіўся за стол пасілкавацца або калі спаў.

Лабановіч ветліва павітаўся, прыпаднёс старому пачак махоркі. Базыль паўглядаўся ў Лабановіча. Вочы не дужа добра свяцілі старому.

— А чый-жа ты? — запытаў Базыль.

Лабановіч сказаў, чый ён і хто такі. Стары Базыль яго добра ведаў, а зараз не пазнаваў, бо не дабачваў.

— Ну, што-ж? Вазьмі. Унь там Паўлюк на дрывотні. Ідзі да яго, дзеткі, няхай дасць ключ ад лодкі.

З Паўлюком справа была зроблена хутка, і хвіліны праз дзве Лабановіч сядзеў у лодцы. Шмат прышлося яму памахаць вяслом і затраціць сілы, пакуль не прызвычаіўся да кіравання. Быстрая вада, шырока выліўшыся з берагоў, несла лодку ўніз па плыні. Часамі на пераралах, дзе разводдзе бушавала з нястрымнаю сілаю і кідала лодку, як трэску, прыходзілася налягаць на ўсю змогу на вясло, каб выбрацца з небяспечных віроў. Пераезд на той бок даліны аказаўся не такім лёгкім і простым, як здавалася наўперад. Нарэшце большая частка вадзяной дарогі была пераадолена. Бліжэй да поля вада струменілася спакайней, а часамі і зусім не рухалася. Лабановіч уздыхнуў лягчэй. Зірнуўшы перад сабою, ён убачыў Янку. Сябар стаяў каля саменькай вады, выбраўшы найбольш зручнае месца для «прыстані». Калі

Андрэй падплыў да яе, Янка зняў шапку і памахаў ёю ў паветры.

— Ура! Перамога! — крычаў ён, як відаць, маючы на ўвазе ўдачнае спатканне «ў прасторах».

— Не адна, а дзве, — азваўся з лодкі Лабановіч, выціраючы рукавом спацелы лоб.

Лодка зусім блізка падышла да берага і насавою часткаю кранулася долу. Янка ўхапіўся за нос лодкі і падцягнуў яе так, каб можна было зручна апынуцца ў ёй. Сябры радасна павіталіся. Колькі моманту яны моўчкі ўглядаліся адзін у аднаго, а на іх тварах свяцілася вясёлая ўсмешка.

— Ну, што скажаш, мой жывы афарызм?

— Няма на свеце такога невясёлага становішча, дзе-б вясёлыя людзі не знайшлі сабе весялосці! — зразу адказаў Янка.

## XVI

Не меней дванаццаці маладых настаўнікаў, звоненых са школ, паз'язджалася ў Мікуцічы святкаваць вялікдзень, а заадно пагутарыць аб сваіх справах і, галоўным чынам, аб тым, як трымацца на допыце. Але тая акалічнасць, што да гэтага часу нікога з настаўнікаў не турбавалі, заспакойвала большасць з іх. Калі-б тут была сур'ёзная справа, разважалі яны, дык іх даўно ўзялі-б у абаротак. Тым не меней цвёрдай упэўненасці ў гэтым не было. Вось чаму тая рэпетыцыя допыту, што правялі ў Смалярні Лабановіч і Янка, зрабіла ўражанне на іх сяброў, прымусіла затрывожыцца і цалкам прыняць спосаб абароны, распрацаваны прыяцелямі.

Некаторыя настаўнікі знайшлі работу не па сваей спецыяльнасці. У гэтых адносінах асабліва вылучаўся Мілеўскі. Ён справіў сабе сіні доўгаполы сурдут, запусціў яшчэ большую бараду, з разгаліненнем у левы і ў правы бакі, і бàкі, а падбародак для большай важнасці галіў. Нібы клешч учапіўся ён за пасаду памочніка валаснога пісара, маючы на мэце зрабіцца пісарам. Уся яго рэвалюцыйнасць выказалася ў падпісанні пратаколу, у чым ён зараз каяўся, хоць нікому пра гэта не гаварыў.

Хадзіла нават такая пагалоска, што Мілеўскі потайкам паслаў просьбу да земскага начальніка. Ён пісаў пакаянную, прасіў закінуць за яго слова перад адпаведным начальствам. З сябрамі-ж ён трымаўся так, што цяжка было дагадацца аб яго патайных захадах.

На першы дзень вялікадня настаўнікі ўсёй шумнаю грамадою рушылі ў Панямонь аддаваць велікодныя візіты мясцовым інтэлігентам. Тут быў і Адам Мілеўскі ў сінім сурдуце і з маляўнічай барадою.

— Прапалі мы з табою, брат Янка, — жартаваў Лабановіч: — Закасуе нас Мілеўскі сваім сурдутам і барадою.

— Яго барадою — прыпек падмятаць, — азваўся Янка Тукала.

Усе зарагаталі.

Настаўнікі жартавалі, смяяліся — ім было весела. Забаўляла іх і сама думка аб тым, які страх нагоняць яны на гаспадароў і гаспадынь і якую шкоду прычыняць іх велікодным сталам, калі ўваляцца ў хату гэткаю грамадою.

— Стойце, валачобнікі, сціхніце! Паслухайце песню, што мы злажылі з Андрэем, — выгукнуў Янка Тукала.

— Ну, давайце песню! — аклікнуліся настаўнікі.

— Пачынай, Андрэй, твая першая скрыпка. Так ужо мы дамовіліся: ты пачынаеш, я падбрэхваю. А вы, валачобнікі, далучайцеся да нас: прыпеўку спяваем усе! — не сунімаўся Янка.

— Што-ж? Давай, — згадзіўся Лабановіч, — якраз наша песня і ёсць валачобная.

Андрэй адкашляўся і пачаў:

Ходзяць валачобнікі без дарог...

Янка падхапіў:

Яны не шкадуюць ні горла ні ног.

— Прыпеўку! — звярнуўся да ўсіх запявала:

Памагай, божа,
Прыспарай, божа, —
Хрыстос васкрос,
Сын божы.

Лабановіч:

Ходзяць валачобнікі з дому ў дом,

Янка:

А хто іх не пryme, таго забі гром!

Усе:

Памагай, божа,
Прыспарай, божа, —
Хрыстос васкрос,
Сын божы.

Лабановіч:

Скіньце, дзяўчаткі, сцясненне ярмо!

Янка:

За ваш пацалунак яечка дамо!

Усе:

Памагай, божа,
Прыспарай, божа, —
Хрыстос васкрос,
Сын божы.

Песня наладзілася, і ўжо далей яе спявалі з захапленнем у тым-жа парадку.

Прывітанне ў хату вам, дзядзька Тарас!
Не шкадуй гарэлкі нам і кілбас!

Пад Тарасам разумеўся Тарас Іванавіч Шырокі. З яго натоўп настаўнікаў пастанавіў пачаць свае візіты. Апошні куплет меў варыянт — на той выпадак, калі прыдзецца зайсці з павіншаваннем да Базыля Трайчанскага:

Жыві і красуйся, Трайчанскі Базыль!
Вісся каля Надзенькі, як матыль!

Для сядзельца Кузьмы Скаромнага быў зложан асобны куплет:

У Кузьмы Скаромнага дом, як сад.
Нібы майскіх кветак нарасло дзяўчат.

Складальнікі песні не мінулі таксама і ўрадніка, што схапіў пратакол.

Ёсць у Панямоні ўраднік-кашчэй,
Але мы не пойдзем да яго дзвярэй.

Не забыліся «валачобнікі» і пра валаснога старшыню Язэпа Брыля, што данёс на настаўнікаў земскаму начальніку.

Ёсць у Панямоні Брыль — старшыня.
Маленькі сабачка быў і ёсць шчаня.

Канчалася валачобная песня так:

Што-ж? Канчаем песню, бо канчаць пара.
Добрым панямонцам выгукнем — ура!

Песня яшчэ болей узняла вясёлы настрой «валачобнікаў». Некаторыя куплеты яе выклікалі дружны смех. Складальнікаў песні — Андрэя Лабановіча і Янку Тукалу — не адзін раз віталі па-сяброўску прыязнымі словамі адабрэння:

— А бадай вы папруцянелі!

Былі, праўда, і крытычныя заўвагі. У ролі крытыка выступіў Мілеўскі Адам.

— Ну, якія там у Кузьмы Скаромнага майскія кветкі! Ды яго дочкі проста пудзілы!

Супроць такой знявагі абурыўся Янка Тукала.

— Няхай сабе сядзельцавы дочкі не дужа прыгожыя. Дык ці-ж пра гэта казаць ім у вочы, галава твая капусцяная? А калі мы пахвалім іх у песні, дык і самі яны і бацькі іх будуць на сёмым небе і пачастуюць цябе так, што і сурдута на пупе не зашпіліш.

— Брава, Янка!

— Каб крытыкаваць нашу песню, — сказаў заахвочаны пахвалою Янка, — табе трэба падмесці сваёю барадою не прыпек, а цэлы двор.

Янку зноў падтрымалі громкім смехам.

«Валачобнікам» было весела ў дарозе не столькі ад жартлівай песні, колькі ад цеплыні і яснасці веснавога дня, калі ўсё, што трапляла на вочы, выглядала так ласкава, молада, утульна і хіліла да сябе. Асабліва было прыемна зірнуць з дзервянога моста на шырокую наднямонскую даліну ўгору па Нёмане. Рака ўжо амаль што ўвайшла ў берагі. На лугавых нізінах сям-там яшчэ стаяла вада, а над ёю лапушнымі кусцікамі жаўцела лотаць, рассцілаючы буйныя лісты. З лугу патыхала веснавою вільгаццю. Берагі Нёмана, багата напоеныя разводдзем, яшчэ не прасохлі. Там прабівалася густая жаўтавата-зялёная, яшчэ кволенькая мурожная траўка, як

сведка ажывання і аднаўлення зямлі. Над нёманскай далінай узвышалася поле з глыбокімі равамі, пракладзенымі снегавою і навальнічнаю вадою, з высокімі пагоркамі, заросшымі хмызам. Далёка на поўдні выступала блакітная вежа мікуціцкай царквы.

Колькі хвілін стаялі на мосце настаўнікі-«валачобнікі», любаваліся Нёманам, яшчэ многаводным і быстрым, лугамі, полем і лесам. Шмат разоў бачыў іх Лабановіч, але ніколі не дакучалі яны, бо выразна гаварылі, хоць без слоў, аб волі, аб вялікіх прасторах зямлі, аб маладым жыцці.

— Эх, хлопцы! — прамовіў ён. — Як добра было-б жыць на свеце, калі-б чалавека не гналі, не крыўдзілі, не пазбаўлялі волі, не звязвалі крылляў.

## XVII

Амаль поўвеку прайшло з таго часу, калі мае «валачобнікі», а з імі і я, хадзілі ў Панямонь з велікоднымі візітамі і павіншаваннямі. Шмат каго з тых людзей, аб якіх расказваецца тут, ужо няма на свеце. І калі я сягоння трывожу іх памяць, то мне робіцца сумна: быць можа, не так сказаў пра іх, як гэта было ў сапраўднасці, часамі, можа, недарэчы пасмяяўся або не ў меру зганьбіў каго. Яны не напішуць мне і не прыдуць да мяне, каб сказаць: «Ты адступіў ад праўды, бо мы не такія, як ты нас паказваеш». Калі-б яны былі жывыя, дык мы паразумеліся-б і прышлі да згоды. А так я магу толькі сказаць: «Прабачце! Я-ж хацеў і хачу аднаго — праўды».

Як ужо было дамоўлена, «валачобнікі» накіраваліся да Шырокага, бо так зручней: кватэра Тараса Іванавіча стаяла тэрытарыяльна першай. «Валачобнікі» ўвайшлі ў двор школы і пасталі каля акна. Лабановіч і Янка вышлі наперад. Астатнія выстраіліся ў два рады.

Лабановіч, колькі хапала сілы, пачаў:

Прывітанне ў хату вам, дзядзька Тарас!

Янка таксама на ўвесь голас падхапіў:

Не шкадуй гарэлкі нам і кілбас!

І ўсе разам грымнулі вядомую прыпеўку, ды грымнулі так, што шыбы задрыжалі. Акно расчынілася, паказаліся дзве галавы — жаночая і мужчынская. Вольга Сцяпанаўна ўсміхнулася, згледзеўшы натоўп «валачобнікаў», большасць якіх была ёй вядома. Тарас Іванавіч таксама прасвятлеўся. З уласцівай яму імклівасцю ён рушыў на ганак.

— Браточкі мае! Хрыстос васкрос! — выгукнуў Тарас Іванавіч і рынуўся да «валачобнікаў». Кожнага ён ветла абнімаў і са словамі: «Хрыстос васкрос!» цалаваў тры разы ў губы; валачобнік на момант амаль што знікаў у магутных абнімках Тараса Іванавіча. Толькі калі чарга дайшла да Адама Мілеўскага, гасцінны гаспадар пацалаваў яго ўсяго адзін раз і заўважыў:

— Барада твая, брат, як дзяркач!

«Валачобнікі» зарагаталі. Смяяўся і сам уласнік барады. Ён нават ганарыўся, што меў такую жорсткую бараду, бо гэта — сведчанне цвёрдага характару.

Тарас Іванавіч зараз-жа запрасіў сяброў у кватэру. Самы большы пакой, — а ён знаходзіўся пры ўваходзе ў кватэру, — быў прыстасаваны спецыяльна для велікодных візітаў. На вялікдзень звычайна ў госці не запрашалі, хто хацеў, прыходзіў сам. Такі быў звычай, заведзены дзядамі і прадзедамі.

Пасярэдзіне пакоя стаяў доўгі стол, засланы белым абрусам і ўсцяж застаўлены багатаю і рознастайнаю закускай, выпіўкаю, пасудаю. Нажы і відэльцы ляжалі ў некалькіх кучках. Госці самі ў меру патрэбы бралі пасуду, нож і відэлец і, выпіўшы добрую чарку, нацэльваліся на закуску, якая найболей адпавядала іх густу. Самае пачэснае і віднае месца на стале займала шынка, запечаная ў хлебным цесце. Па велічыні яна нагадвала добрую падушку і ляжала на адмысловым дзервяным крузе, убраная сцяблінкамі брусьнічніку і вянком з дзеразы. Гэта шынка была ўкрасаю стала і гордасцю Вольгі Сцяпанаўны і Тараса Іванавіча.

Янка Тукала адразу-ж заўважыў:

— Вось гэта дык шынка! Не шынка, а Дзямянаў Гуз!

На стале красаваліся засмажаныя парасяты, скруткі каўбас, мяса розных гатункаў, пара індычак, бабкі, мазуркі і цэлая горка афарбаваных яечак.

— Вось як буржуі жывуць! — добрадушна сказаў хтосьці з «валачобнікаў», акінуўшы поглядам стол.

— Хопіць работы нам, безработным, на доўгі час, — жартаваў Янка.

— Сядайце, сядайце-ж за стол, — запрасіла гасцей Вольга Сцяпанаўна.

Тарас Іванавіч прынёс некалькі крэслаў з другіх пакояў, бо для ўсіх не хапала месца.

«Валачобнікі» расселіся. Гарэлку наліваў кожны сам сабе, яе было многа. Выпілі па чарцы, па другой, прапусцілі па трэцяй. Шынка найболей прышлася да спадобы «валачобнікам» і на вачах мізарнела ў сваіх памерах. За сталом было шумна, весела.

Лабановіч ціхенька падышоў да Янкі Тукалы.

— Ведаеш, Янка, трэба ў нашу валачобную песню дадаць прысвячэнне Вользе Сцяпанаўне.

— А гэта было-б дарэчы,—падтрымаў прыяцеля Янка.

Яны трошкі пашапталіся, падбіраючы найлепшыя варыянты. Калі куплеты былі знойдзены, Янка гукнуў:

— Увага! Хлопцы! Уславім у валачобнай песні нашу мілую гаспадыню, Вольгу Сцяпанаўну.

— Уславім! Уславім! — дружна азваліся «валачобнікі».

Усе пападымаліся са сваіх месцаў. У пакоі зрабілася ціха. Лабановіч прыняў позу рэгента і запявалы. Побач з ім стаяў Янка Тукала.

Песня загрымела з вялікім уздымам.

Мілейшай дружачцы гаспадара...
Воленьцы Сцяпанаўне жадаем дабра!

Памагай, божа,
Прыспарай, божа, —
Хрыстос васкрос,
Сын божы.

Жывіце на свеце сорак тысяч дзён,
Калі мы не любы, ганіце нас вон!

Вольга Сцяпанаўна зацвіла, як ружа. Яна падышла да запявалы і падпявалы і пацалавалася з імі, астатнім нізка пакланілася. Тарас Іванавіч ускочыў са свайго крэсла.

— Браточкі мае, «валачобнікі»! Вып'ем і будзем спяваць усю вашу валачобную песню! Яны-ж і пра мяне не забыліся, — сказаў ён да жонкі: — Я хачу спяваць з вамі!

— Заспявайце, заспявайце! — з радасным узбуджэннем далучылася да мужа Вольга Сцяпанаўна.

— Чуеш, Янка, і вы, вахлакі: які вялікі поспех мае наша песня! — звярнуўся Лабановіч да свае кампаніі.

Дружна выпілі, закусілі. Лабановіч выцер губы.

— Ну, Янка, пачнем!

«Валачобнікі» збіліся ў гурт. Уперадзе зноў сталі Андрэй і Янка, пачалі песню. Куплеты, у якіх гаварылася пра дзяўчат, каб яны скінулі «сцяснення ярмо», пра сядзельца Кузьму Скаромнага і пра старшыню, выклікалі бурнае захапленне Тараса Іванавіча. Ён смяяўся, пляскаў у далоні і ўвесь быў у руху. Асабліва вясёлае ажыўленне было, калі па шчаслівай выпадковасці, якраз тады, як меркавалі заспяваць пра Базыля, увайшоў сам Трайчанскі. Лабановіч падаў яму знак спыніцца, маўчаць і слухаць. Для Тараса Іванавіча, для Вольгі Сцяпанаўны і для самога Базыля гэты куплет быў невядомы. Вось чаму, калі запявала і падпявала выканалі радкі, прысвечаныя Трайчанскаму, Тарас Іванавіч сарваўся з месца і, як рэгент, замахаў рукамі ўсім, каб яны падхапілі прыпеўку.

Базыль таксама стаяў вясёлы і шчаслівы, а твар яго свяціўся, як велікодны пірог, намазаны яечным жаўтком. Калі скончылі песню, у якой прыняў удзел і Базыль, ён пахрыстосаваўся з гаспадарамі і з «валачобнікамі» па ўсіх правілах велікоднага этыкету. Базыль сеў за стол, і хоць ён і да гэтага трохі выпіў, але выпіў і тут. На вялікдзень дазвалялася піць, колькі хто можа. Калі-ж хто і перап'е, таго не судзілі. Крыху пасядзеўшы, пагаманіўшы, пасмяяўшыся, Базыль звярнуўся да гаспадара, да «валачобнікаў», запрашаючы ўсіх да сябе. Вольга Сцяпанаўна як гаспадыня, засталася дома прымаць наведвальнікаў.

Тарас-жа Іванавіч нават быў рады пакінуць свой дом і вывесці з яго «вусеняў» (так называў ён у думках «валачобнікаў»), каб выратаваць хоць рэштку шынкі, ад якой заставалася адна касцяная рама і култышка свінога сцягна.

На вуліцы каля Базылёвай камяніцы ляжала з дзесятак ёмкіх камянёў. Яны прызначаліся для падмуроўкі і засталіся нескарыстанымі пры збудаванні дома. Па нейкай неакрэсленай прычыне Лабановіч звярнуў на іх увагу — можа, таму, што яшчэ ў дзяцінстве ён любіў сядзець на кучы камення ў полі (гэта куча называлася крушня), слухаць і пазіраць, што адбываецца навокал. Вось і цяпер яму хацелася прыпыніцца каля камення і пасядзець, але гаспадар і Тарас Іванавіч узялі цвёрды курс на Базылёў велікодны стол, які таксама абяцаў быць багатым і рознастайным.

У пакоі за сталом сядзелі нейкі чыноўнік родам з Панямоні па прозвішчу Булах, маці Базыля, нізенькая і тоўстая, як кадушка, дзве сястры Смалянскія і «Кашчэева» дачка Аксана. З'яўленне такога натоўпу зрабіла ў доме цэлы пераварот. Старая маці Базыля паважна паднялася з месца. Чыноўнік Булах, не трацячы свае годнасці, павольна прыўзняўся. Дзяўчаты-ж узляцелі і, як матылі на агонь, кінуліся сустракаць гасцей.

Лабановіч даў знак «валачобнікам» спыніцца, каб заспяваць ужо вядомую песню. Калі дайшлі да куплета, у якім гаварылася, каб дзяўчаты «скінулі сцяснення ярмо», Базыль кінуўся да Надзі. А Надзя адапхнула яго і сама кінулася да Янкі Тукалы з тым, каб потым ужо на законнай падставе пахрыстосавацца з Андрэем, якога яна проста па-дзявочы пакахала. Счакаўшы, Надзя і Лабановіч выйшлі з-за стала і прыселі ў больш-менш зацішным куточку. Госці падгулялі, шумелі і не зварачалі на іх увагі. Толькі Базыль зрэдку паглядаў у той бок. Ён не дужа быў упэўнены, што Надзя не адмовіцца ад яго, хоць ён і ўласнік знатнай камяніцы.

— Калі-ж выходзіце вы замуж? — запытаў Лабановіч Надзю.

— За каго? — таксама запытала і Надзя.

— Яшчэ і пытаецеся! Вядома за каго: за Базыля! Пра гэта ўсё Панямонне гаворыць. Чалавек ён добры і ня-

брыдкі, мае такі слаўны дом. Вось бачыце, буду вашым сватам.

Надзя паглядзела на Андрэя, хітравата пасміхнулася.

— Каб за свата, дык пайшла-б, а за Трайчанскага не пайду.

У гэты час падышоў Базыль.

— Як бачыце — сон у руку, — заўважыў Лабановіч, — але даруйце, мяне мучыць прага.

Лабановіч пайшоў да стала, дзе стаяў велічэзны збан, вядра на паўтара, з квасам. Збан і квас былі хатняю гордасцю Базылёвай маці.

Больш за ўсіх шумеў за сталом Янка Тукала, жартаваў і выраблаў розныя штукі, што не зусім падабалася старой Трайчанісе. Лабановіч вывеў сябра з хаты.

— Пасядзімо на каменьчыках, — сказаў ён сябру.

— Я зараз у такім стане, што, здаецца, перавярнуў-бы Базылёву камяніцу.

— Бачу, брат, што імпэту ў цябе вельмі многа. Дык пайдзі і прынясі збан з квасам, — паміраю ад прагі.

Янка прытарабаніў збан. Лабановіч напіўся, у яго ў галаве таксама быў празмерны шолам.

— Ты памятаеш — пра Сценьку Разіна, як ён кінуў у Волгу пярсідскую князёўну? — запытаў Андрэй Янку.

Павярнуўшыся да каменя, ён заспяваў, трымаючы ў руцэ збан:

Камень, камень, бацька родны,
Ты красунчыка прымі!

Размахнуўся і ляснуў збан аб камень. Янка рагатаў:

— Знішчылі буржуйскую ўласнасць.

Калі Базылёва маці агледзелася і знайшла чарапы ад збана, яна ўсю віну ўзлажыла на Янку. Але сяброў у гэты час ужо не было ў Базылёвай камяніцы.

## XVIII

Удалы пачатак вясны змяніўся халадамі. Вятры падзьмулі з поўночнага захаду, а потым перамясціліся на ўсход і запыніліся там на доўгі час. Удзень па небе плылі груды разарваных воблакаў, халодных, нішчымных. Пад вечар вецер заціхаў. Над зямлёю звісала яркае, зыр-

кае неба, а пад раніцу на зямлю асядала шэрань. Зямля высыхала, трава не расла, і збожжа ніяк не магло адарвацца ад зямлі. Бедавалі людзі і з непрыязню паглядалі на глухое бясплоднае неба. Не абыходзілася і без таго, каб крыху не пазлаваліся на бога: што яму значыць паслаць пагоду і наогул паспрыяць людзям! А мікуціцкі Сёмка Дзямідаў — цяпер ужо нябожчык — казаў:

— Злавіць-бы гэтага бога ды паашалёстваць пугаю вушы, дык ён ведаў-бы, як рабіць прыкрасць людзям і худобе!

Мікуціцкія жанчыны пайшлі па іншым шляху. Знайшлася адна з іх, Тарэся, што ведала верны спосаб, як расчыніць у небе дзверы для цёплых дожджыкаў. А для гэтага трэба было да ўсходу сонца пераараць упоперак Нёман, яго дно, ды каб саху не конь і не валы цягнулі, а самі жанчыны. Яны так і зрабілі ў адну з халодных майскіх раніц. І ўсё-ж-такі дождж не пайшоў. А каб ён пайшоў напэўна, дык яшчэ трэба было разбурыць плот Міколы Стырніка, што гарадзіўся паміж двума Юр'ямі — каталіцкім і праваслаўным. Раскідалі і плот, хоць гэта каштавала некалькіх касмыкоў на галаве дзвюх кабет, цёткі Тарэсі і Стырнікавай Тэклі: яны пабіліся пры разбурэнні плота. Крыўдней за ўсё было тое, што і гэта мерапрыемства не памагло, а аўтарытэт цёткі Тарэсі, завадыяшчыцы ўсёй справы, зусім упаў. Так і не было дажджу і цяпла аж да самага чэрвеня.

У гэтае сухое, непрыемнае надвор'е, калі вакол чуліся адны толькі скаргі і нараканні, да Лабановіча прышло пісьмо з Вільні. Пісаў яму Уласюк.

«Паважаны дзядзька Андрэй!

Калі Вы не маеце дужа прыбытных заробкаў, дык прыязджайце да нас: работа для Вас знойдзецца. Даволі Вам сядзець у шчыліне, трэба выходзіць у людзі. У гэтым мы Вам можам памагчы і з часам зрабіць з Вас адукаванага чалавека — паслаць Вас туды, дзе вучыцца Цётка-Пашкевічанка. Трымайцеся, дзядзька, і трымайце хвост трубою.

З пашанаю да Вас М. У.».

Невялічкае і крыху дзівакаватае пісьмо павярнула зусім у іншы бок думкі Лабановіча. Перш за ўсё было пры-

емна, што яго запрашаюць у рэдакцыю. «Рэдакцыя» здавалася яму тады самаю высокаю і самаю разумнай установаю ў свеце, дзе сядзяць самыя разумныя людзі. А важней за ўсё — у пісьме быў намёк, што яго пашлюць для навукі ва ўніверсітэт, а гэта была даўняя мара Лабановіча. Сядзець-жа дома, не маючы пэўных заняткаў, было нецікава. Вось чаму пісьмо так усхвалявала яго і падняло настрой. Было моцнае жаданне зараз-жа паказаць каму-небудзь гэтае пісьмо, пагутарыць аб яго змесце. З кім-жа, як не з Янкам, падзяліцца мыслямі і пачуццямі? У гэтыя дні Янка гібеў у бацькоў. Была-б добрая вясна, дык ужо ў такі час вырасла-б цыбуля ў агародзе, шчаўе на лузе і смалуды ў лесе на пасеках. Зараз-жа нічога такога не было, хіба толькі зрэдку перападала яечка, — усё-ж ён быў сын у маці. Наспявала патрэба падацца ў Стаўбуны: там наклёўвалася сякая-такая работа.

Да Янкі і накіраваўся Андрэй Лабановіч, узяўшы невялікі кавалачак сала і кручок гарэлкі.

Вада ў Нёмане апала. Мікуціцкія людзі гаварылі, што зараз і курыца пяройдзе раку ўброд. Лабановіч перабрыў Нёман і хвілін праз сорак падыходзіў да Нейгертава, дзе жыў Янка. Вёсачка тулілася на ўзгорку, малапрыметная і маленькая. У ёй была адна толькі вулачка. Сам жыхар вёскі, Янка, так азначаў даўжыню сваё вуліцы: у пэўны час, на досвітку, з аднаго і з другога канца сяла выходзілі на двор, вылезшы з бярлогу, дзед Мацей і дзед Аўсей. Яны рабілі сваю справу, пазіралі на зоры, на неба, гадалі аб надвор'і. І кожны гук ад аднаго дзеда зараз-жа перадаваўся другому.

Лабановіч пераступіў высокі, амаль на локаць, парог і спыніўся каля дзвярэй. У хаце, апроч Янкі, нікога не было.

— Здароў, Янка! Няхай не падзе на цябе цень бярозы, пад якою сядзеў грэк!

Янка не чакаў прыходу прыяцеля. Ён сядзеў з краю просценькага сялянскага століка і чытаў кніжку «Так гаварыў Заратустра». На покуце над сталом віселі абразы ў просценькіх саматужных асадках, але пад шклом, каб мухі не забруджвалі твары святых угоднікаў. На адным канцы століка ляжаў загорнуты ў даматканы абрус акра-

ец хлеба. Хлеб, як-бы ні было яго мала, не павінен сыходзіць са стала.

Янка здзівіўся і ўзрадаваўся.

— Каго я бачу! Ці не зманьваюць мяне мае вочы! — выгукнуў ён і выскачыў з-за стала. — Вітаю чалавека, які шукае сабе пагібелі, каб стаць чалавекам! — дадаў Янка і горача павітаўся з прыяцелем.

— Вось гэтага ад цябе я не чуў яшчэ. Ці не ад Ніцшэ запазычыў? — спытаў Лабановіч.

— Ад яго, сабачага сына! — прызнаўся Янка і пры гэтым выказаў жаль, што ў хаце нікога няма, усе ў полі, а таму і пачаставаць няма чым і няма каму.

— Не аб адным хлебе жыў будзе чалавек, — азваўся Лабановіч. Ён ведаў, што Янкава сям'я жыла бедна.

— Я прышоў да цябе не для таго, каб ты мяне частаваў, — заўважыў Лабановіч і дадаў: — Можа, і сапраўды кажаш ты праўду, калі гаворыш пра чалавека, які шукае сабе пагібелі, каб стаць чалавекам.

Лабановіч выняў з кішэні пісьмо ад Уласюка.

— Вось прачытай!

Янка ўзяў пісьмо і ўпіўся ў яго вачамі, а Лабановіч пазіраў, якое ўражанне робіць пісьмо на прыяцеля.

Прачытаўшы, Янка моўчкі і доўга глядзеў на Андрэя. Па твару было відаць, што ён узрадаван і ўсцешан.

— Гэта навіна!.. Я-ж табе казаў, што нашага брата, бадзягу-бяздомніка, голымі рукамі не возьмеш і ад зямлі не адарвеш, бо яго карэнні глыбока сядзяць... Валяй, браце. Абедзвюма рукамі благаслаўляю цябе ў дарогу. Няхай будзе яна пасыпана жоўценькім пясочкам!

Янка моцна пацiснуў руку Андрэю.

— Дык ты раіш мне ехаць?

— Ад усяго сэрца! — пацвердзіў Янка.

— Ну, калі так, дык будзем піць барыш!

Лабановіч выняў кручок гарэлкі, паставіў на стол і палажыў сала, загорнутае ў паперу. Янка з захапленнем пазіраў на гэта дабро.

— А, браток ты мой! — громка сказаў ён. — Няхай будзе благаславёны той вецер, што занёс цябе ў маю хароміну! — Ён рухава мятнуўся да дзервянога шафіка і дастаў адтуль дзябёлую сялянскую чарку, борздзенька раз-

гарнуў настольнік, адрэзаў лусты дзве хлеба. Лабановіч тым часам адкаркаваў «мярзаўчык» і наліў чарку.

— Дык давай, Янка, вып'ем за тых, у каго, як сакрамант, ляжыць на стале акрайчык хлеба, з такою любасцю і пашанаю загорнуты ў просценькі даматканы абрусік. Няхай гэтага хлеба стане болей і няхай не дадаюць да яго мякіны або тоўчанай бульбы. Няхай вольна, шчасліва і багата жывуць працоўныя людзі!

— Глядзі ты, які з цябе прамоўца! — заўважыў Янка, а Лабановіч кульнуў чарку, наліў у яе гарэлкі і перадаў прыяцелю.

Янка ўзяў чарку.

— Хоць і вялікае маё жаданне выпіць гэту чарку, але яшчэ большае жаданне таксама сказаць што-небудзь перад тым, як выпіць. Ляці-ж, мае слова, далёка ў свет! Вырвіся з гэтай нізкай хаты, дзе нават няма падлогі, прабіся праз саламяную страху, бомбаю выбухні ў панскіх палацах, у кабінетах царскіх сатрапаў і ў самой царскай рэзідэнцыі і гукні ім: «Падохніце вы ўсе, акаянныя абдзіралы, крыўдзіцелі, каты, на радасць простых працоўных людзей!» — Адным духам Янка апаражніў чарку.

— А здорава ты сказаў! Закасаваў ты мяне, Янка. Малайзец!

Янка ўзяў кавалачак хлеба і сала.

— Пры табе, Андрэй, я магу сказаць прамову, а вось калі-б я выступаў перад натоўпам людзей, дык нічога не вышла-б, — прызнаўся Янка.

— Бо табе-ж і не даводзілася выступаць перад народам. Практыка, брат, патрэбна, — падтрымаў прыяцеля Андрэй.

Хоць кручок і не дужа вялікая мера, ды ўсё-ж сябры значна павесялелі, калі асушылі яго.

— Што-ж, Янка, — сказаў Лабановіч, — ці не пайсці нам шукаць свае пагібелі? Што мы будзем сядзець так?

— А куды мяркуеш ісці? — запытаў Янка.

— Сярод мікуціцкіх ваколіц для мяне малавядомай засталася адна: я ніколі не хадзіў яшчэ ў Панямонь занямонскімі польнымі дарогамі. Давай пройдземся!

— З табою я гатовы ісці хоць якімі сцежкамі, хоць якімі дарогамі на самы край свету, — даў поўную згоду Янка Тукала.

— А ведаеш, чаму я хачу завітаць у Панямонь?

— Можа, і ведаю, але не ведаю, — адказаў Янка.

— Сумленне, браток, не дае спакою мне — з таго дня, калі я пабіў збан старой Трайчаніхі. Мне мала, а можа быць, і не мала абыходзіць тое, што віну яна ўзлажыла на цябе. І ты мне скажы: нашто было крыўдзіць старую і добрую жанчыну, якая даводзіцца нам бабкаю? Гэты-ж збан, можа быць, яе друг, стары спадарожнік яе жыцця, а мы ўчынілі такое свінства! Калі я не выкуплю свайго граху перад добраю цёткаю Саламеяй, дык бог пакарае мяне самога, — жартліва-трагічна вымавіў Лабановіч.

— Бог? — запытаў Янка.

— Ну, няхай не бог, а лёс... Ведаеш, Янка, ніякага глупства, ніякага свінства з боку чалавека, што дапускае ён у адносінах да іншых, жыццё не даруе... Гэта дробязь, але ўсё гэта верна.

— Мне падабаецца, Андрэй, усё, што ты зараз сказаў. Але як мысліш ты сабе выкупіць свой «грэх»? — запытаў Янка.

— А вось як: сягоння кірмашовы дзень у Панямоні. На кірмашы нас болей за ўсё павінны цікавіць ганчары: купім самы вялікі, паліваны збан, які толькі знойдзецца ў іх. На гэтым збане я наклею карталюшку з такім напісам: «Дарагая цётка Саламея! Не гневайцеся Вы на нас і асабліва на Янку: збан пабіў не ён, гэта наша агульная з ім віна». І падпішуся. Яна паверыць, бо ведае мяне з малых дзён.

— А калі мы не знойдзем такога збана? — запытаў Янка.

— Тады мы закажам ганчару вылепіць яшчэ большы збан і з двума вушкамі, — адказаў Лабановіч.

## XIX

Пасажыраў у вагоне было не так многа. Лабановіч прымасціўся на лаўцы каля акна і пазіраў на ўсё новыя і новыя малюнкі, напісаныя шчодраю прыродаю на кожным кавалачку зямлі, а таксама і змайстраваныя рукамі чалавека. Нейкае невыказнае хараство спалучалася ў сумеснай працы чалавека і прыроды і ў тонах іх агульнага настрою.

Адно толькі не радуе: наплыўшыя раптам халады і суш запынілі рост збажыны ў палях і травы ў лузе. Асабліва кідаецца ў вочы сваёй убогасцю ярына па вузкіх шнурах, што падымаюцца на пясчаныя ўзгоркі і, дабегшы да сярэдзіны, хаваюцца па другі бок іх. Іншы выгляд мелі дваровыя палеткі, выкраеныя з лепшых кавалкаў зямлі і сабраныя ў шырокія лавы, што акружалі панскія сядзібы і фальваркі. У часе засеяныя, угноеныя багата, пышна растуць тут збажына і ярына і трывала пераносяць нягоды вясны.

Лабановіч уважна прыглядаецца да ўсяго, што трапляецца на вочы пры шпаркім бегу машыны, якая з кожнай хвілінай імчыць яго далей і далей ад Мікуціч, ад Нейгертава, адкуль яшчэ пазаўчора блукалі яны з Янкам польнай дарогай, дзе хадзіць не даводзілася. Паблізу стаяла тая пышная старая хвоя, верхавіну якой даўно бачыў Лабановіч, праходзячы праз адзін узгорак, непадалёку ад Мікуціч. Не адзін раз прыпыняўся ён там палюбавацца хвояй. Ён глядзеў у падзорную трубу, купленую калісь у Пінску, у той час, як быў настаўнікам у Выганаўскай школе. Да адзінокай хвоі было шэсць вёрст з таго пагорку. І вось нядаўна Лабановіч разам з Янкам усутыч падыходзілі да зачараваўшага яго дрэва. А зараз яно і прыяцель стаяць у Андрэевых вачах.

Чым далей ад'язджаў Лабановіч ад Мікуціч і яго ваколіц, тым меней думаў аб іх. Іншыя мыслі займалі зараз вандроўніка: аб тым горадзе, у якім яшчэ не даводзілася яму быць, аб газеце і яе рэдакцыі, куды запрашалі яго прыехаць. Што пабачыць ён там? Як прымуць яго? Якую работу дадуць у рэдакцыі? Таксама не забываўся ён і аб тым, што знаходзіцца пад патайным наглядам паліцыі. Таму было і рызыкоўна зварачацца па дазвол паехаць у Вільню. Яго могуць запытаць у паліцыі, а чаму ён просіць дазвол? Можа выявіцца, што паднагляднаму вядомы яго стасункі да паліцыі. Дык лепей паехаць цішком, а там што будзе, то будзе, абы не кіснуць на адным месцы.

Ужо зусім добра развіднела, калі Лабановіч пад'язджаў да Вільні. З-за прыгожа акругленага пагорку, якімі так багаты віленскія ваколіцы, паднімаліся ў яснае і халоднае неба, нібы залатыя стрэлы, праменні сонца. Тым часам поезд з кожнай хвілінай набліжаўся да вакзала і

нарэшце спыніўся. Лабановіч з невялічкім чамаданчыкам у руцэ адзін з першых сышоў з вагона і пайшоў следам за народам, з захапленнем пазіраючы на падземныя тунелі, што вялі на вакзал і ў горад. Тут шмат было паваротак і каб не напісы, дык новы чалавек мог-бы лёгка заблудзіцца. Нарэшце Лабановіч вышаў у горад, перасек даволі прасторную плошчу і зараз-жа трапіў да Вострай брамы, дзе была святыня каталіцкага насельніцтва, абраз вострабрамскай божай маці.

Як толькі людзі ступалі пад арку брамы, дык усе яны, і пешыя і конныя, нават важныя чыноўнікі і акалодачныя, знімалі шапкі і капелюшы ды ішлі або ехалі павольным крокам. Па баках вуліцы, не зважаючы на ранні час, стаялі на каленях багамольныя людзі, кабеты і мужчыны, заўзята білі сябе ў грудзі кулакамі і прыпадалі ілбамі да халоднага тарцовага бруку. Было тут шмат жабракоў, якія маліліся з асаблівым стараннем і ўголас. Лабановіч таксама мусіў зняць шапку, прычым яму прыгадаўся адзін паляшук, якога сілаю заганялі ў царкву. Па дарозе ён казаў: «Хоць і пайду, але ні рукою, ні губою не мялну!»

Мінуўшы Вострую браму, Лабановіч стаў разглядацца і ўкрадкам чытаць напісы на скрыжаваннях вуліц, каб напаткаць тую, дзе змяшчалася рэдакцыя газеты. Было яшчэ рана. Горад толькі-толькі абуджаўся, і руху было мала. Зрэдку траплялісл адзіночныя постаці мужчын і кабет, якім не было калі песціцца ў пасцелях ды, можа, не ўсе яны мелі свае пасцелі. Гэта быў пераважна сярмяжны люд з навакольных вёсак ды з глухіх гарадскіх закуткаў, рамеснікі і людзі невядомых прафесій. Худыя, абарваныя, заклапочаныя, яны кудысьці спяшаліся для здабывання кавалка надзённага хлеба. Лабановіч уважліва і са спачуваннем прыглядаўся да іх і думаў: як многа такіх людзей, якім жывецца шмат горай за тых настаўнікаў, што павыганяны са школ. Не спяшаючыся, ён заходзіў у глухія, цесныя закавулкі, на якія быў багаты горад, каб лепей азнаёміцца з імі. Завулкі заводзілі часамі вандроўніка ў тупікі, дзе далей не было дарогі. Ён варочаўся назад і губляў арыентацыю ў горадзе, якога не ведаў, ішоў у другім кірунку ды ізноў упіраўся ў тупікі. Нарэшце ён выбіўся

на болей прасторныя вуліцы. На кожным кроку кідаліся ў вочы манастыры, кляштары, касцёлы, цэрквы, кірхі і капліцы са своеасаблівымі скульптурамі каталіцкіх святых. Гэта былі свайго роду сімвалічныя летапісы, што расказвалі пра многавяковае жыццё горада, пра яго гістарычныя лёсы.

Блукаючы па вуліцах і завулках, Лабановіч забраўся ў такія раёны, дзе ўжо страціў надзею без дапамогі людзей знайсці патрэбную яму Завальную вуліцу. А Вільня тым часам абудзілася і пачала сваё абыклае жыццё ў рэчышчы паліцэйска-чыноўніцкага тагочаснага ўкладу губернскага горада царскай імперыі. Яшчэ праз поўгадзіны Лабановіч, нарэшце, спыніўся каля рэдакцыі. Побач размясцілася даволі вялікая багатая крама з пышнаю размаляванаю шыльдаю, на якой было напісана па-руску: «Торговая фирма Амстердама». Можна было падумаць, — людзі так і думалі спачатку, — што гэта гандлёвы дом, адчынены тут якім-небудзь багатым купцом з Амстэрдама. У сапраўднасці-ж крама належала мясцоваму гандляру, па прозвішчу Амстэрдам, які гандляваў цыкорыяй і кофем.

Нясмела, з некаторым хваляваннем і нават страхам, пераступаў Лабановіч парог дома, дзе была рэдакцыя.

У цеснай каморцы, за просценькай дзеравяной перагародкай з невялікім акенцам без шкла, сядзеў чалавек, малады, хударлявы. Перад ім стаяла бляшанка з клейстарам і памазком. Ён складаў нумары газеты то па адным, то цэлымі пачкамі і наклейваў на іх ярлычкі з тым ці іншым адрасам.

Малады чалавек падняў вочы на незнаёмага наведвальніка. Лабановіч пачціва прывітаў яго па-беларуску: «Дзень добры!» і запытаў:

— Гэта тут рэдакцыя?

— Тут, — адказаў малады чалавек і ў сваю чаргу пацікавіўся: — Вам, уласна кажучы, каго трэба? Па якой вы справе?

Малады чалавек гаварыў па-беларуску, але з моцным польскім акцэнтам. Гэта быў экспедытар газеты, сакратар па гаспадарчай частцы, бухгалтар і справавод. Зваўся ён Стась, а прозвішча яго было Гуляшак.

Лабановіч прызнаўся, што рэдактар прыслаў яму запрашэнне прыехаць на работу ў рэдакцыю.

— Дык будзьце ласкавы, распранайцеся. Рэдактар звычайна прыходзіць а дванаццатай гадзіне.

Цяпер Стась Гуляшак значна гасцінней паставіўся да свайго новага знаёмага. Ён нават выказаў меркаванне, што тут, у рэдакцыі, Лабановічу будзе і пакой. Стась паказаў рукою на пакойчык, што знаходзіўся насупроць перагародкі.

— А самі-ж вы дзе жывеце? — запытаў Лабановіч.

— На кватэры ў горадзе. Са мною жыве і мая маці, — адказаў Стась і дадаў: — Яна ў мяне сталаўнікоў утрымлівае.

Стась аказаўся гаваркім і гатовым на розныя паслугі чалавекам. З дазволу Стася Лабановіч зайшоў у той пакойчык, што меўся стаць кватэрай для яго. Пакойчык быў запушчаны, даўно нябелены, змрочны і няўтульны. Нумар газеты, наклеены на шыбах так, каб можна было чытаць яго з вуліцы, засланяў святло і рабіў пакойчык яшчэ болей цёмным. Пры адной сцяне ў глыбі пакойчыка стаяў ложак, падобны да санітарных насілак. Дзяружка, тканіна сялянскага вырабу, прымацаваная да дзвюх дзервяных бакавінак, была ўціснута ўніз, і ўся пасцель разам нагадвала сабою карыта. Так потым і называў яе Лабановіч.

Неўзабаве ў рэдакцыю прышоў і сам рэдактар, высокі, плячысты, з пышнымі чорнымі вусамі. Відаць, перад адзяваннем рэдактар чапляў на вусы навуснікі, а канцы іх, туга нацягнуўшы, завязваў на патыліцы і так хадзіў з гадзіну, каб прыдаць вусам пажаданы для іх уласніка выгляд. Уся постаць рэдактара, манера трымацца з людзьмі, капялюш і адзенне сведчылі аб тым, што ў яго быў загадзя надуманы намер рабіць на людзей уражанне, пусціць ім у вочы пыл для большай павагі. Свайму знешняму выгляду рэдактар надаваў не малое значэнне. У гутарцы з малазнаёмымі людзьмі ён трымаўся незалежна, любіў ужыць такое слова або сказ, каб паказаць сябе чалавекам самабытным, не падобным да іншых і ў той-жа час жартаўлівым і аптымістычным. Пры кожным трапным сказе ці выслоўі сам смяяўся паважным басавітым смехам.

— Го! — ветла сказаў рэдактар, убачыўшы Лабановіча. — З прыездам вас, дзядзька Андрэй! Працаваць будзем, што?

— Дзякую за жычлівае слова, — пачціва адказаў Лабановіч, — не ведаю толькі, як прыдамся да працы.

— Не святыя гаршкі лепяць, — сказаў рэдактар і махнуў рукою. — Закруцім, пане мой, справу, аж пыл курэць будзе, што?

Рэдактар палажыў на плячо Лабановічу сваю цяжкую руку, даючы гэтым зразумець, што ён, рэдактар, чалавек просты і прадбачлівы, а рэдакцыйная і газетная справа пастаўлены, як лепей не трэба. Рэдактарскі аптымізм захапляў і радаваў Лабановіча, бо яму хацелася, каб гэтак яно і было.

— А скажыце, калі ласка, як разыходзіцца газета ў народзе? — пацікавіўся Лабановіч.

Рэдактар адвёў крыху ўбок вочы, нібы трохі збянтэжыўся, але цвёрда адказаў:

— Добра, зусім добра, дзядзька Андрэй. А будзе разыходзіцца яшчэ лепей, калі пачнем друкаваць яе, — такія меркаванні ў нас ёсць, — кірыліцай і лацінкаю, бо шмат ёсць беларусаў-католікаў.

Гэту навіну Лабановіч успрыняў без асаблівага задавалення, бо тады ўжо хадзілі гутаркі, што да беларускай газеты прымазваюцца польскія клерыкалы. Але ён палічыў за лепшае пакуль што прамаўчаць.

Доўга яшчэ гаманіў рэдактар, пераходзячы з аднаго на другое. Ён не забыў нават сказаць і пра кракаўскі ўніверсітэт. На развітанне рэдактар даў Лабановічу грыўню на падмацаванне.

— Падмацуйцеся і адпачывайце з дарогі.

Рэдактар паказаў рукою на пакойчык, у якім стаяў карыта-ложак.

## XX

Непадалёку ад рэдакцыі была сталоўка-чайная, адчыненая «Союзом истинно-русских людзей». Там можна было за пяць капеек з'есці талерку баршчу і адпаведную порцыю кашы. Аб усім гэтым паінфармаваў Лабановіча паслужлівы Стась.

— Хоць сталоўка і чорнасоценная, але чаму не пакарыстацца ёю таму, у каго мала грошай? — хітра падміргнуў Стась і дадаў:—Не зробяць-жа чалавека чорнасоценцам чорнасоценскі боршч і каша. Як вы глядзіце на гэта?

— Згодзен з вамі, Станіслаў Зыгмундавіч, — падхапіў Лабановіч. У яго вачах бліснуў вясёлы агеньчык: — гэта нават будзе цікава: «истинно-русские люди» па дзяшоўцы падкормліваюць крамольнікаў!

Стась засмяяўся.

— І не толькі крамольнікаў, але і проста... бог яго ведае, каго, — сказаў ён.

Яны пайшлі. Сталоўка была даволі прасторная, але бруднаватая і прымітыўна абсталяваная. Сталы былі тапорнай работы і без настольнікаў. Замест крэслаў каля іх стаялі дзервяныя табарэты ці проста доўгія, вузкія лаўкі. За сталамі сядзела некалькі наведвальнікаў неакрэсленай прафесіі. Лабановічу нават здавалася, што паміж іх ёсць звычайныя торбахваты. Сярод гэтай кампаніі Стась і Лабановіч былі самымі элегантнымі маладымі людзьмі. Вось чаму на іх з падазронасцю паглядзеў чалавек сярэдніх гадоў з шырокай русявою барадою, які сядзеў каля буфета, дзе стаялі ёмкія чайнікі, шклянкі і талеркі незамыславатага вырабу.

Каля буфета і па сталоўцы не спяшаючыся тупала кірпатая, ружовашчокая яшчэ маладая жанчына. Яна разносіла чай і падавала боршч і кашу. Адзін з наведвальнікаў пяшчотна назваў яе «перапёлачкаю», калі яна падышла да яго.

Па суседству з тым сталом, за які селі Стась і Андрэй, прымасціліся два чалавекі, з выгляду мешчанін і селянін. Яны вялі гутарку аб сваіх справах, аб заработках, каму, як і дзе пашчасціла.

— І многа-ж ты зарабіў? — пачуў Лабановіч запытанне мешчаніна, адрасаванае селяніну.

Селянін уздыхнуў, правёў рукою па вусах, зірнуў на мешчаніна і сур'ёзна адказаў:

— Руп і дзве ноздры круп.

Лабановіч не пакаяўся, што зайшоў сюды: тут можна і пасілкавацца і спакойна наглядаць людзей, пачуць трапнае слова ці выслоўе. Можна таксама пабачыць і цікавыя сцэны. Ён успомніў Янку Тукалу. Было-б добра,

каб і ён быў тут. Ужо напэўна не абышлося-б без таго, каб ён не выдумаў які-небудзь афарызм, напрыклад, такі: «І ў чорнасоценным брудзе можна знайсці крупінкі золата». Лабановіч меў на ўвазе выслоўе селяніна аб яго заработку.

Пачынала вечарэць, калі Лабановіч, абышоўшы значныя раёны горада, часамі надзвычай маляўнічыя, апынуўся ізноў у рэдакцыі.

Стась скончыў свой рабочы дзень і падаўся на кватэру. Лабановіч застаўся адзін і таксама пашыўся ў сваю спачывальню, дзе стаяў вядомы ўжо ложак-карыта. Пажылая кабета, што прыбірала ў рэдакцыі, прынесла дзяружку і жмут нейкіх лахманоў замест падушкі. Андрэй паслаўся, лёг і пасміхаўся: ніводзін цар, напэўна, не адчуваў сябе так добра ў сваёй пасцелі, як адчувае ў гэтым карыце Лабановіч. Доўгі час яму не ўдавалася заснуць. Ён прыгадваў розныя падзеі, уражанні пражытага на новым месцы дня, гадаў, думаў, як сустрэне заўтрашні дзень, што новага напаткаецца ў ім. Узнікала шмат пытанняў у сувязі з выданнем газеты, на якія сродкі яна выдаецца, якія перспектывы яе ў будучым.

А неўгамонны горад шумеў. За акном тарахцелі на вуліцы колы цяжкіх павозак. Рытмічна цокалі па бруку падкаваныя конскія капыты, чуліся людскія галасы і залівісты спеў рэек і колаў старамоднай конкі на крутых паваротках. Усё гэта злівалася ў глухі несціханы шум. Пад гэты прыглушаны шум Лабановіч заснуў моцным сном. Але як толькі развіднела і заспявала конка, ён прачнуўся і некалькі часу ляжаў — спяшацца не было куды. Пачынаўся новы дзень з яго клопатамі і турботамі. У першую чаргу трэба было так ці іначай вырашыць пытанне аб тым, як і на якія грошы жыць у рэдакцыі. На рэдактарскіх траяках і пятаках далёка не заедзеш. Стась учора паведаміў, што для выдання газеты спецыяльных грошай няма, што супрацоўнікі газеты, — праўда, іх не так многа, — працуюць больш з-за ідэі, чым з-за ганарару, і сам Стась атрымлівае ўсяго тры рублі ў месяц ды невялікі працэнт ад продажу газет, але ён любіць беларускую газету, спачувае і спрыяе ёй, як можа.

Гадзін у дзесяць раніцы Стась першы завітаў у рэдакцыю. Ён ветла паздароўкаўся з Лабановічам.

— Як-жа адпачывалі? — запытаўся Стась.

— Дзякую. Адпачываў, можна сказаць, не горш за губернатара: губернатар дрыжыць за сваё жыццё, ён баіцца тэрарыстаў. А мне чаго баяцца? Далей высылкі і астрога дарог для мяне няма, — жартам прамовіў Лабановіч.

— Няхай лепш у высылку і ў астрогі ідуць губернатары, — заўважыў Стась.

Яны разгаварыліся. Стась быў больш-менш знаёмы са справамі газеты і яе ўнутраным механізмам, але не ўсё выкладаў: можа, ён і не ўсё ведаў, а можа, проста не хацеў пра ўсё расказваць. Ад Стася даведаўся Лабановіч, што рэдактар Уласюк адыгрывае ў газеце другарадную ролю, з'яўляецца афіцыйнаю асобаю, прадстаўніком рэдакцыі, юрыдычным рэдактарам. Сапраўдныя-ж кіраўнікі і заправілы газеты — браты Ліскоўскія, Стафан і Ясь. Фактычным рэдактарам з'яўляецца Стафан Ліскоўскі. Старэйшы брат, Ясь, — скарбнік газеты. Большую частку свае дзейнасці ён праводзіць далёка за межамі рэдакцыі, галоўным чынам у раз'ездах. Што гэта былі за раз'езды, Лабановіч даведаўся потым. Ясь Ліскоўскі паставіў сабе мэту — сабраць як мага болей беларускіх экспанатаў і адчыніць краявы музей. Не апошнюю ролю ў гэтай справе адыгрывалі і меркаванні пэўнай эканамічнай выгады. Некаторыя экспанаты Ясь Ліскоўскі выменьваў на такія, якіх у яго не было, і пры гэтым з прыбыткам для сябе. Вандруючы па розных кутках Беларусі, па старажытных гарадах і мястэчках, ён не абмінаў кляштараў, касцёлаў і старых цэркваў, заглядаў у панскія двары, у шляхецкія фальваркі, рабіў свае справы і збіраў падпіску на беларускую газету. Ксяндзы, арандатары і фальваркоўцы бачылі ў газеце адзін са сродкаў, што можна выкарыстаць для пашырэння польскасці ў беларускім краі. А можа, на гэтую думку наводзіў іх сам збіральнік беларускай старасветчыны. Ксяндзы і панкі, калі не ўсе падпісваліся на газету, то давалі пэўную даніну на яе выданне. Адгэтуль стала ясна, чаму газету друкавалі некаторы час кірыліцай і лацінкай.

У свой строга вызначаны час прышоў рэдактар. Як і заўсёды, пышныя рэдактарскія вусы стаялі па-баявому на сваёй пазіцыі, не выходзячы за межы той формы, якую

надалі ім навуснікі. І сам рэдактар быў, як і заўсёды, спакойны, ураўнаважаны, з тым-жа выглядам незалежнага, вясёлага чалавека, які любіць пажартаваць і пасмяяцца.

— Ну, як адчуваеце сябе на новай кватэры і ў новай, пане мой, абстаноўцы? — запытаў рэдактар Лабановіча, павітаўшыся з ім і Стасем.

— Дзякую, Мікіта Аляксандравіч, адчуваў-бы сябе зусім па-губернатарску, калі-б у жываце кішкі не спявалі.

Рэдактар зарагатаў добрадушна і раскоціста.

— Люблю беларусаў за тое, што яны не трацяць гумору і маюць апетыт запарожскіх казакоў, што? — азваўся рэдактар. — Я вам, пане мой, найду заробак, — казаў ён далей. — Ёсць у мяне ў кіраўніцтве палескай чыгункі знаёмы інжынер, Блок па прозвішчу. Я з ім перагавару. Ён дасць вам перапіску з добраю аплатаю.

— За гэта дзякую, — шчыра адказаў Лабановіч.

— Мы вас, пане мой, на ногі паставім і свет расчынім перад вамі, — не сунімаўся рэдактар, — а каб кішкі не трубілі, дык мы зараз закоцім баль на ўсю Завальную вуліцу.

Рэдактар даў Стасю некалькі медзякоў і паслаў яго купіць пару пляцак і абаранкаў. Сам-жа ён выцягнуў з кутка прымус і з захапленнем узяўся тупаць каля яго.

— А ў гэты час, покі я буду гатаваць губернатарскае падмацаванне, вы перагледзьце карэспандэнцыю «Марціна з-за рэчкі» і дзе трэба папраўце. Чалавек здольны, толькі мова ў яго пакульгвае.

Рэдактар сунуў у рукі Лабановічу жмуток доўгенькіх паперачак, на якіх была напісана карэспандэнцыя, а сам завінуўся каля прымуса.

Лабановіч прысеў за столік, каб азнаёміцца грунтоўна з карэспандэнцыяй.

«Робяць мне экзамен, — падумаў ён: — Ну, што-ж? або пан, або прапаў. І не святыя-ж гаршкі лепяць», — разважаў Лабановіч пад густы шум прымуса.

## XXI

Зранку, на другі дзень пасля размовы з рэдактарам, Лабановіч надумаўся зайсці да яго і да братоў Ліскоўскіх. Усе яны былі нежанатыя, ці, як тады казалі, кавалеры, і

жылі на адной кватэры. Ранні прыход незнаёмага і нечаканага госця здзівіў Стафана Ліскоўскага. З усіх трох кватарантаў ён устаў раней і прысеў за пісьмовы стол. На нясмелы стук у дзверы Стафан падышоў і спытаў:

— Хто там?

Лабановіч, як умеў, растлумачыў, хто ён такі і чаго прышоў. Дзверы расчыніліся. На парозе стаяў сам сапраўдны рэдактар беларускай газеты, малады, невысокі чалавек з белым, даволі прыгожым тварам, з цёмнашэрымі вачамі. Ён паціснуў руку Лабановічу і з прыемнай усмешкаю павёў яго ў кабінет.

— Ну, сядайце, калі ласка, — Стафан паказаў на крэсла, а сам сеў за стол. На стале было некалькі нумароў газеты, рукапісы, розныя артыкулы і карэспандэнцыя. Стафан апрацоўваў іх да чарговага нумара газеты. Сярод гэтых рукапісаў ляжала і карэспандэнцыя «Марціна з-за рэчкі», папраўленая ўчора Лабановічам. На стале быў поўны парадак: рукапісы і газеты акуратна пакладзены, і кожная рэч на сваім месцы. Лабановіч акінуў вокам кабінет. Ні ў якае параўнанне не ішоў ён з катухом у рэдакцыі, дзе асталяваўся Лабановіч і дзе стаяла яго «карыта». Параю дзвярэй кабінет быў злучаны з другімі пакоямі кватэры.

Стафан Ліскоўскі ўзяў са стала «Марціна з-за рэчкі», лагодна кіўнуў галавою налева і направа, як-бы кладучы гэтым пачатак гутаркі.

— Зусім згодзен з вашымі папраўкамі, — сказаў ён Лабановічу.

— Вельмі рады чуць гэта, — азваўся абнадзеены Лабановіч.

— А як вам падабаецца газета наша? — запытаў Стафан.

— Пра мяне і гаварыць няма чаго: люблю яе. Люблю ўжо таму, што гэта першая беларуская газета. А самае важнае тое, што яе ахвотна чытаюць простыя людзі, для якіх яна прызначаецца.

Такі адказ Лабановіча выклікаў новую ўсмешку на губах Стафана.

— Вельмі, вельмі прыемна чуць гэта і, асабліва, ад вас, — прамовіў Стафан. У яго тоне Лабановічу пачулася нотка фальшу, але ён змаўчаў.

У гэты час дзверы, што былі насупраць, павольна адчыніліся, і адтуль вышаў Ясь Ліскоўскі. Лабановіч паспеў убачыць на сцяне пакойчыка некалькі старасвецкіх шабель і пісталетаў. Але ўсё гэта толькі мільганулася ў вачах, бо дзверы зараз-жа зачыніліся.

Ясь Ліскоўскі быў зусім не падобен да брата і на цэлую галаву вышэйшы за яго. На Ясевым твары ўвесь час блукала ўсмешка, часамі дужа салодкая, лісліваая, а часамі хітрая і няшчырая.

— Пазнаёмся: новы супрацоўнік нашай газеты, таленавіты, — прадставіў Стафан Лабановіча.

Усмешка на Ясевым твары расплылася яшчэ шырэй і прыемней.

— Дужа, дужа рады бачыць вас у нашым асяроддзі,— салодка прамовіў Ясь: — Фактычна я знаёмы з вамі, завочна. Ведаеце, прафесія мая — вандроўніцтва. Я вандрую з аднаго кутка Беларусі ў другі, прыглядаюся да ўсяго, прыслухоўваюся, аб чым гамоняць людзі,—адным словам, шукаю ўсяго таго, што складае асаблівасць беларусаў. І аб вас я таксама шмат чаго чуў, разумеецца, добрага. А зараз вельмі рады, што бачу вас перад сабою.

Лабановіч маўчаў, слухаў гэтага дыпламата і спрытнага чалавека. А Ясь казаў далей:

— Расце наша беларуская грамада, шырыцца і збіраецца вакол нашай газеты гурт свядомых беларусаў. Хутка мы аб'еднаем усе нашы лепшыя сілы.

Гаварыў Ясь з захапленнем. На губах з'яўлялася пераменна то салодкая, то хітрая ўсмешка. Якраз у самы разгар Ясевага ўзнёслага красамоўства з другіх дзвярэй высунуўся Мікіта Аляксандравіч, босы, у адной толькі ніжняй кароценькай сарочцы. Уся яго постаць нагадвала дзябёлую чыгунную тумбу. Нельга было без смеху глядзець на гэтую амаль зусім голую фігуру. Пад носам Уладзюка красаваліся навуснікі, канцы якіх былі завязаны на патыліцы. Такі «ўрачысты» выхад рэдактара абразіў эстэтычны густ Яся Ліскоўскага. Нічога не кажучы, ён шпарка вышаў у свой пакой, зняў са сцяны адну са старасвецкіх шабель. Не вымаючы клінка, пляснуў разоў пару ножнамі па рэдактарскаму заду. Рэдактар ніколечкі не пакрыўдзіўся і толькі сказаў:

— Не паненкі-ж тут сядзяць! — павярнуўся і пайшоў у свой пакой. Там у яго былі гіры і штанга, і ён прыступіў да гімнастычных практыкаванняў, а потым заняўся туалетам.

Браты-ж Ліскоўскія гаварылі многа, з вялікай перакананасцю, гаварылі так, як-бы толькі ў іх адчынены вочы на ўсе праявы жыцця. І ўсё малявалі яны ў ружовых колерах. Не абмінулі таксама і Кракаўскага ўніверсітэта, дзе вучыцца не адна толькі Элаіза Пашкевіч (Цётка), але і шмат іншых беларусаў. Ім дапамагае беларуская грамада, беларускае зямляцтва. Лабановічу таксама не загароджана дарога ў Кракаўскі ўніверсітэт.

— Вы ведаеце, шаноўны сябра Андрэй, — не сунімаўся Ясь Ліскоўскі, — культура ідзе да нас і далей на ўсход з захаду! — на апошнім слове ён зрабіў націск.

— А як акрэсліць межы гэтага захаду? — запытаў Лабановіч.

Ясь Ліскоўскі прабачліва ўсміхнуўся: які-ж ты, браце, невук, калі ставіш такое пытанне!

— Захад гэта — Італія...

— З рымскім папам ці без папы? — кінуў рэпліку «невук» Андрэй.

Ясь Ліскоўскі прапусціў яе міма вушэй і казаў далей:

— Нямеччына, Францыя і, калі хочаце, Польшча. Галоўным чынам культура з захаду ішла і ідзе да нас праз Польшчу.

— Ды Польшчы цяпер, як такой, няма. І калі праз яе ішоў шляхецкі «не пазвалям!» і рэакцыйны каталіцызм і калі гэта называць культураю, дык такую «культуру» — сабаку пад хвост, — адрэзаў Лабановіч.

— Мы гэта і не лічым за культуру, — уставіў слова Стафан, а Ясь, трохі збянтэжаны, палажыў руку на плячо Лабановічу.

— Вы, шаноўны сябра, не зусім разбіраецеся ў тым, што ідзе да нас з захаду. Не з азіяцкай-жа Расіі ідзе культура! Адразу заўважаецца на вас уплыў рускай школы і русіфікатарства, і ў гэтым ваша памылка.

— Вы мне даруйце, шаноўны дзядзька Ян, — лагодна заўважыў Лабановіч: — Вы валіце ў адну кучу рускую школу і русіфікатарства. Русіфікатарства гэта — самаўладная царская нацыянальная палітыка. Не прызнаю яе,

змагаюся супраць яе, як умею. А руская школа для мяне гэта — Пушкін, Белінскі, Грыбаедаў, Гогаль, Лермантаў, непаўторны Іван Андрэевіч Крылоў, якога я вельмі люблю. Вось мая руская школа.

Браты Ліскоўскія яшчэ шмат гаварылі пра культуру з захаду, гаварылі, як палітыкі-дыпламаты.

Вышаў Лабановіч адтуль з неакрэсленым адчуваннем, з непрыведзенаю ў парадак мешанінай у галаве. У яго крыху адчыніліся вочы на ролю братоў Ліскоўскіх. Мяжа, што разлучала іх з Лабановічам, засталася непяройдзенай.

Адно, што было некатораю рэальнасцю, гэта — запіска ад рэдактара Уласюка на імя інжынера Блока. Дайсці да яго Лабановічу ўдалося толькі ў другую палавіну дня, і ўпусцілі яго ў кабінет інжынера не адразу. Нарэшце ўсё-ж-такі ён пераступіў парог кабінета, у якім на мяккім шырокім крэсле велічна, як цар на троне, сядзеў інжынер Блок, уткнуўшыся ў паперы. Ён толькі лыпнуў вачамі на наведвальніка, нічога не сказаў ды ізноў апусціў свой позірк у паперы.

Лабановіч, пачціва пакланіўшыся, стаяў каля дзвярэй, чакаючы, калі Блок звернецца да яго, і разглядаў важнага інжынера. Гэта быў пажылы чалавек інтэлігентнага выгляду, спакойны і салідны. Рэдактар казаў, што Блок — ліберал, кадэт па сваіх палітычных поглядах.

Кабінет быў светлы, прасторны, багата абсталяваны. На сцяне вісеў партрэт міністра шляхоў зносін, але Блок, здавалася, касаваў яго сваёю пярсонаю, сваёй лысінаю на тры чвэрці галавы і пышнаю кароткаю, але шырокаю барадою, у якой прабіваліся срэбраныя ніці сівізны.

Праз некалькі хвілін інжынер адарваўся ад папер, падняў галаву, зірнуў на Лабановіча такім поглядам, нібы ўзважваў яго ў сваіх мыслях.

— Вы да мяне? — спытаў Блок.

— Так, гаспадзін інжынер. У мяне ёсць пісьмо да вас, — адказаў Лабановіч, падышоў бліжэй да стала і перадаў канверт, у якім ляжала запіска ад рэдактара.

Блок прачытаў запіску і ўжо болей уважліва, з зацікаўленасцю паглядзеў на Лабановіча.

— М-да, — неакрэслена мдакнуў інжынер і яшчэ раз зірнуў на наведвальніка.

— Сказаць, такой падыходзячай для вас работы знайсці мне, м-да, труднавата.

Інжынер прымоўк, а Лабановіч усхвалявана чакаў выніку.

— А ўрэшце, бадай што, сёе-тое магу вам запрапанаваць, — сказаў Блок. Ён расчыніў шуфляду ў стале, выняў адтуль жмут папер. Перагарнуў некалькі аркушаў, выбраў адну паперыну памерам з квадратны аршын і другую з накіданымі на скорую руку лічбінамі.

— Вось, малады чалавек, — сказаў інжынер Блок, — тут два аркушы — чарнавы і чысты. На чысты аркуш вы перанесяце папраўленыя лічбы... Гэта так, на першых часах. Перанясіце акуратна лічбы з чарнавога на чысты, і тады прыходзьце. Да таго часу, можа, знойдзецца для вас што-небудзь болей падыходзячае... Ну, усяго добрага!

Інжынер Блок досыць дэмакратычна падаў руку Лабановічу.

Вышаў Лабановіч з сяміпавярховага дома кіраўніцтва чыгунак. Настрой у яго быў добры: жыць на свеце можна і безработнаму выгнанніку-агарку. У гэты-ж вечар ён цвёрда пастанавіў напісаць вялікае пісьмо свайму другу Янку Тукалу. Уражанняў-жа так многа, што пісаць ёсць пра што і напісаць можна вельмі цікава.

З такімі думкамі ішоў Лабановіч у свой прытулак, дзе чакала яго вядомае «карыта». Гэтую кватэру ён ахрысціць, пішучы пісьмо да прыяцеля, «вертэпам Венеры пахавальнай».

## XXII

Тое, што спачатку ўяўлялася Лабановічу вялікаю радасцю, удачаю, потым сталася для яго крыніцаю вялікага клопату і згрызот.

Лабановіч сядзеў у сваім закутку, схіліўшыся над вялізнымі аркушамі разлінаванай паперы. У гэтых аркушах было не меней як па сто клетачак, падобных адна да другое, як дзве кроплі вады. На чарнавым аркушы стаялі лічбы, часамі перакрэсленыя і папраўленыя. Іх трэба было перанесці на чысты аркуш у такім-жа парадку. Як ні

ўзіраўся Лабановіч у клеткі, якія толькі вылічэнні і зверкі ён ні рабіў, каб адна клетка супадала з адпаведнаю другою, але пры напісанні лічбін у чыставым аркушы яны не-не ды пападалі не ў адпаведную графу. Калі памылка выяўлялася, Лабановіч адчуваў непрыемнасць. Напісанае пяром прыходзілася выскрабаць ножыкам, бо сціркa не памагала. На месцы выскрабеных лічбін заставалася плямка, праз якую прасвечвала папера. Некалькі дзён марнаваўся няўдалы перапісчык над простаю, чыста механічнаю работаю і часта збіваўся з тропу. Адна памылка выклікала другую. Як-жа ён будзе глядзець у вочы рэдактару? І як будзе здаваць такую работу інжынеру? Прышлося, як дарадзіў Стась, шукаць па аптэках такія кіслоты, што вытраўлялі сляды чарніла. Гэтыя кіслоты Стась называў «чарнільнаю смерцю». Калі праз тыдзень Лабановіч закончыў перапісванне лічбін у чыставы аркуш, дык гэты «чыставы» выглядаў горай за чарнавы. Цяпер толькі Лабановіч папікнуў самога сябе ў тым, што не папрасіў у Блока запаснога чыстага аркуша паперы. Але тады гэта справа паказалася яму лёгкаю. Або яшчэ лепей: трэба было наўперад лёгенька пісаць алоўкам, а потым, калі лічбіны пападалі не туды, куды трэба, проста сцерці іх і напісаць правільна. Тут Лабановічу прыгадалася польская прыказка: «Мондры поляк, ды па шкодзе». Глянуўшы на стракаты аркуш з павыскрабанымі плямамі, ён сказаў сам сабе: «Гэта табе, брат, не «Марцін з-за рэчкі».

З паніжаным настроем ішоў Лабановіч у кіраўніцтва палескіх чыгунак, каб здаць перапіску, так неахайна выкананую. Інжынер Блок сядзеў у тым-жа крэсле, такі-ж важны і спакойны. Лабановіч пакланіўся. Блок адказаў на паклон лёгкім ледзь прыметным кіўком галавы.

— Ну, што — перапісалі? — запытаў Блок.

— Перапісаў, гаспадзін інжынер, ды толькі першы блін вышаў камяком. Калі-б вы былі ласкавы і далі мне аркуш чыстай паперы, дык я зрабіў-бы гэта добра.

Інжынер нічога не адказаў, узяў скручаныя ў трубку аркушы. Ледзь прыметная ўсмешка адбілася на яго твары.

— М-да, — прамовіў ён: — Перапісчык-бухгалтар з вас няважны.

— Дайце мне чысты аркуш, я перапішу нанова. Я цяпер ведаю, у чым была мая памылка.

Блок нічога на гэта не сказаў, палажыў у стол аркушы, а потым выняў з кішэні бумажнік, даў Лабановічу дзесяцірублёўку і моўчкі кіўнуў галавою, даючы гэтым зразумець, што болей гаварыць няма аб чым і што работы болей не будзе.

«Прынізіў мяне кадэт, — разважаў Лабановіч, выходзячы з кіраўніцтва чыгунак, а на вуліцы сам сабе сказаў: — Дзесяць рублёў не ў яйцы пішчаць». І накіраваўся ў свой бярлог.

Выхад новага нумара газеты прыносіў ажыўленне ў рэдакцыю. Звычайна ў такі дзень пад вечар Стась браў возніка і ехаў у друкарню забіраць выдрукаваны нумар газеты. К гэтаму часу прыходзіў і сам рэдактар. А ў рэдакцыі ўжо было многа вучнёўскай моладзі: гімназісты, студэнты тэхнічнага вучылішча і проста маладыя людзі, якіх трудна было аднесці да якой-небудзь катэгорыі. Усе яны памагалі «фальцаваць» надрукаваныя аркушы газет. Работа часам зацягвалася за поўнач. Было шумна і весела. Рэдактар расказваў розныя байкі, сам смяяўся і другіх смяшыў. А прымус шумеў несціхана, падграваючы адзін за другім закураныя чайнікі.

У такія вечары зрэдку паказваўся ў рэдакцыі і Стафан Ліскоўскі. Ён акідаў памяшканне і прысутных вокам строгага гаспадара, трымаўся падкрэслена важна і незалежна. З яго прыходам Мікіта Аляксандравіч рабіўся адразу болей сталым і не пускаўся ў гутаркі. Стафан прыязна ківаў таму-сяму галавою з лагоднай усмешкаю. Ён спыняўся, бегла пераглядаў некалькі нумароў газеты, а потым заходзіў за перагародку, дзе сядзеў Стась Гуляшак, і меў з ім сакрэтную размову, даваў інструкцыі і забіраў грошы, паступаўшыя ад продажу газет. Потым, таксама важна і велічна, выходзіў з рэдакцыі. Такім чынам навочна пацвярджаліся словы Стася аб тым, што сапраўдны рэдактар газеты ёсць Стафан Ліскоўскі.

На адным з такіх вечароў пазнаёміўся Лабановіч з панямонцам Міхалам Баўдзеем, амаль што сваім земляком. Сустрэцца з ім у Панямоні Лабановічу не давялося. Міхал Баўдзей зараз таксама быў безработным: яго звалілі са службы за ўдзел у забастоўцы чыгуначнікаў.

Як у амаль што землякоў, у іх шмат чаго знайшлося для агульнай гутаркі.

Баўдзей гады на два быў старэйшы за Лабановіча. Ён вельмі ганарыўся тым, што таксама прымаў удзел у рэвалюцыі і страціў у сувязі з гэтым работу. Але ў роспач ён не ўпадаў: рана ці позна зноў прымуць назад, бо работнік з яго быў здольны. Ужо шмат каго са звольненых чыгуначнікаў варочаюць ізноў на старыя месцы.

Міхал Баўдзей па натуры быў скептык, да ўсяго новага ставіўся недаверліва. Бадай што ўсіх ён высмейваў і ў шчырасць чалавечай натуры не верыў. Рэдактара Уласюка называў ён абмежаваным прасцяком, але куды болей чэсным, чым браты Ліскоўскія, бо яны проста — іезуіты, са шляхецкаю афарбоўкаю. Іх трэба асцерагацца. Яны, як казаў ён, умеюць залезці чалавеку ў душу з тым, каб што-небудзь апаганіць у ёй. Баўдзей таксама адмоўна ставіўся і да выдання беларускай газеты: ці патрэбна яна, калі ёсць дасканалая, развітая руская мова, якую беларусы добра разумеюць? На гэтым грунце паміж ім і Лабановічам былі спрэчкі. Ніякіх разумных довадаў супраць існавання беларускай газеты Баўдзей не прыводзіў. Ён толькі высмейваў беларускія словы і тэксты, напісаныя гэтымі словамі, што вельмі абражала ў Лабановічу нацыянальнае пачуццё.

— Па-мойму, Міхал Кірылавіч, вы проста раскольнік, адшчапенец, калі так ставіцеся да свайго народа, да яго мовы і права на развіццё свае культуры, — са злосцю гаварыў Лабановіч.

Баўдзей зняважліва пасміхаўся.

— Што-ж, і школу вы хочаце будаваць беларускую? — пытаў ён насмешліва.

— І школу, і тэатр, і ўсё, што патрэбна народу для культурнага жыцця.

Баўдзей недаверліва хіхікаў і выводзіў Лабановіча з цярпення.

— Такімі адносінамі да свайго народа, забітага, цёмнага, прыніжанага, вы, даруйце мне, выяўляеце свае панямонскае б а ў д з е й с т в а ! — ужо зусім у злосці сказаў Лабановіч і дадаў: — Нездарма-ж зямляк ваш, Маргун, адкусіў палец аднаму з вашых аднафамільцаў, Сымону Баўдзею.

І гэтая спасылка на сапраўдны выпадак не вывела з роўнавагі Баўдзея. Ён толькі азваўся:

— Пятрусь Маргун — чалавек рашучы, але гэта нічога не даводзіць. Не, — крута павярнуў гутарку Баўдзей у другі бок, — нічога з вашых патуг не выйдзе — не на тым грунце вы стаіце. Вось вы, энтузіяст адраджэння беларускага народа, працуеце ў газеце, а што вы зарабляеце? Траяк ды пятак на дзень, а грошы кладуць у кішэню Ліскоўскія, вы нават не ведаеце колькі. Вам-жа з рэдактарам — падстаўным, трэба сказаць, — гула асмаленая.

Міхала Баўдзея цяжка было збіць з пазіцыі. На колкія словы свайго супярэчніка ён не звяртаў ніякай увагі і ніколькі не крыўдзіўся. Наадварот, ён вельмі спачуваў яму.

— Вось вам спяваюць песні пра Кракаў, — пачаў гутарку Баўдзей, — але вы пабачыце гэты Кракаў тады, калі ўкусіце сябе за локаць. Вас проста, выбачайце, водзяць за нос, каб утрымаць пры сабе — вы для іх патрэбны чалавек. А вось вы паслухайце мяне, вашага не зусім блізкага земляка. Тут, на Новым Свеце, — гэта за чыгункаю — ёсць обер-кандуктар. Чалавек ён спрытны, збірае даніну з «зайцаў». У яго ёсць добры домік, набыты за грошы, зробленыя на «зайцах», агарод, старанная жонка і два сыны, якіх трэба падвучыць да паступлення ў гімназію. Я магу закінуць слова за вас, бо вы, мне здаецца, добры настаўнік і будзеце мець добры заработак. І калі вам суджана ад Ліскоўскіх паехаць у Кракаў, — іранічна заўважыў Баўдзей, — дык у вас будуць грошы на дарогу. Згодны?

Баўдзей хітра зірнуў на Лабановіча. А Лабановіч падумаў: «На свеце пажывеш, і Баўдзея другам назавеш».

## XXIII

З запіскаю ад Баўдзея пайшоў Лабановіч на Новы Свет, дзе пераважна жылі чыгуначнікі, шукаць таго спрытнага обер-кандуктара, што жыў на грошы ад правозу безбілетных пасажыраў, або «зайцаў», як іх тады называлі. Обер-кандуктар Эдуард Рымашэўскі збіраўся

ў чарговы рэйс па Палескай чыгунцы. Гэта быў чалавек гадоў сарака, далікатны і абыходлівы. Нічога ў яго аблічча не кідалася ў вочы, усё было ў меру і на сваім месцы. Ён прачытаў запіску і зірнуў на Лабановіча.

— Вы знаёмы з панам Баўдзеем? — запытаў обер-кандуктар, каб пачаць гутарку.

— Ён амаль што мой зямляк, але пазнаёміўся я з ім тут, у Вільні.

— Вы былі настаўнікам у школе? — распытваў далей Рымашэўскі.

— Быў, але зараз я звольнены.

— Не буду пытаць, за што вас звольнілі. Мне важна, каб у маіх дзяцей быў добры настаўнік.

Обер-кандуктар паклікаў сваіх сыноў — Эдзіка і Юзафа.

— Вось вам дарэктар, а вы слухайце і вучыцеся старанна, — сказаў ён: — Асабліва-ж Эдзік.

Хлопчыкі зірнулі на «дарэктара» і зараз-жа апусцілі вочкі ў дол. Яны рабілі ўражанне выхаваных і дысцыплінаваных хлопчыкаў. Эдзіку было дзевяць гадоў, а Юзаф — на год маладзейшы.

— Калі з вашага боку перашкод не будзе, дык я прашу пачаць навучанне сягоння-ж, — звярнуўся обер-кандуктар да Лабановіча. — Час заняткаў вызначце самі, як вам зручней. — А сынам зноў сказаў: — Вучыцеся, дзеткі, слухайце пана дарэктара. А з вамі, пане дарэктар, мы паразумеемся. Я буду плаціць вам пятнаццаць рублёў у месяц, а там будзе відней. Зараз-жа я еду ў сваю дарогу.

Ён падаў руку Лабановічу, пацалаваў сыноў і, узяўшы дарожны чамаданчык, накіраваўся ў кухню развітацца з жонкаю і перакінуцца з ёю параю слоў. У часе гутаркі мужа з «дарэктарам» яна сюды не заходзіла.

Лабановіч паўзіраўся на сваіх вучняў. Яны здаліся яму сімпатычнымі хлопчыкамі.

— Дык што-ж, арляняткі мае, будзем вучыцца? — спытаў ён.

Хлопчыкі маўчалі, а потым Юзаф ціха прамовіў:

— Будзем! — Ён нясмела зірнуў на настаўніка. Таксама зірнуў на яго і Эдзік, і гэта азначала, што ён згодзен з братам.

— А дзе мы будзем займацца? — звярнуўся да іх Лабановіч.

На гэты час увайшла гаспадыня. Яшчэ з парога яна ветліва прывіталася, несучы на пухлявых губах прыемную ўсмешку, уласцівую толькі жанчынам. Лабановіч устаў, пакланіўся.

— А мы вось тут дагаварваемся, дзе займацца, — сказаў Лабановіч, падышоўшы да гаспадыні.

Мальвіна Казіміраўна прыязна зірнула на сваіх хлопцаў, на Лабановіча. Ёй спадабалася, што настаўнік дамаўляецца з сынамі, якіх яна вельмі любіла.

— Калі пан дарэктар не мае нічога супраць, можна займацца і ў гэтым пакоі, — ветла заўважыла обер-кандуктарка, адданая маці для дзяцей, добрая жонка для мужа і дбалая гаспадыня ў доме.

— Лепшага пакоя для заняткаў і не трэба, — згадзіўся Лабановіч.

Сапраўды, пакой быў светлы, чысты, прасторны і ўтульны.

— Дык з вашага дазволу мы і прыступім да заняткаў.

— Калі ласка! — гаспадыня прыязна кіўнула галавою і з той-жа добраю ўсмешкаю пакінула настаўніка і вучняў.

Лабановіч загадаў выхаванцам прынесці кнігі, сшыткі, якія ў іх ёсць, і ўсё, што патрэбна для навучання.

Наўперад хоць збольшага трэба было азнаёміцца з вучнямі, у якой меры яны падрыхтаваны.

— Вось, Эдзік, — звярнуўся Лабановіч да старэйшага вучня, — скажы, як многа ты можаш лічыць?

— Да тысячы і болей, — упэўнена адказаў Эдзік.

— Добра... Вось ты налічыў, скажам, пяцьсот дзевяноста восем. Як ты будзеш лічыць далей?

— Пяцьсот дзевяноста дзевяць, шэсцьсот...

— Маладзец, Эдзік! А цяпер папрабуй лічыць пяцёркамі. Пяць, прылажыць яшчэ пяць?..

— Дзесяць, пятнаццаць, дваццаць.

Выявілася, што Эдзік можа лічыць пяцёркамі і дзесяткамі. Юзаф, хоць яго настаўнік не пытаў, таксама адказваў разам з Эдзікам, часамі апярэджваў яго. Болей за гадзіну гутарыў Лабановіч з хлопчыкамі. Яны аказа-

ліся здольнымі да навучання, умелі лічыць, разбіраліся ў чытанні, маглі напісаць паасобныя словы і простенькія сказы.

Настаўнік і вучні не заўважалі, як хутка праходзіў час. У дзвярах ізноў паказалася Мальвіна Казіміраўна. Яна несла на падносіку шклянку кавы, а на талерачцы некалькі піражкоў з мясам, тоўсценькіх, пухленькіх, яшчэ гарачых.

— Вось, калі ласка, падмацуйцеся трошкі, а дзеці няхай пабавяцца пару хвілінак, — лагодна сказала гаспадыня.

— У нас, праўда, крыху зацягнулася лекцыя, хоць гэта яшчэ не сапраўдныя заняткі. Я проста знаёміўся з вашымі дзеткамі, наколькі яны падрыхтаваны.

— І якое-ж уражанне ў пана дарэктара? — з некаторым неспакоем запытала Мальвіна Казіміраўна.

— Першае, што можна сказаць, — хлопчыкі здольныя. З імі можна займацца з поспехам. А што да Юзафа, дык мне здаецца, што ён можа абагнаць Эдзіка.

Мальвіна Казіміраўна зацвіла, як ружа: Юзаф быў яе любімы сын.

— Ну, то я не буду вам перашкаджаць, — з прыемнаю ўсмешкаю Мальвіна Казіміраўна вышла з пакоя.

Лабановіч зараз-жа прыступіў да падмацавання. Кава была салодкая, араматная, а піражкі самі раставалі ў роце.

«Эх, Янка! — сказаў ён сам сабе, — пакаштаваў-бы ты такога піражка!.. Добра жывуць обер-кандуктары».

Пасля кароткага перапынку Лабановіч даў работу вучням для самастойных заняткаў і дамовіўся, у які час ён будзе хадзіць займацца з імі.

Не адзін раз успамінаў Лабановіч свайго амаль што земляка Міхала Баўдзея: ніхто лепей не паклапаціўся аб ім. Заняткі з малымі Рымашэўскімі прыносілі адно толькі задаваленне. Вучыліся яны старанна, былі паслушнымі, уважлівымі вучнямі. Кожны раз, калі Лабановіч прыходзіў на заняткі, хлопчыкі выбягалі яму насустрач. Адзін браў настаўніка за адну руку, другі за другую, і так усе разам уваходзілі ў свой пакой. Мальвіна Казіміраўна ўзяла за звычай кожны дзень частаваць «дарэктара» пахучаю каваю і смачнымі піражка-

мі. Пасля такіх падмацаванняў і на сэрцы было весялей. Сам-жа Рымашэўскі, паэкзаменаваўшы потайкам сваіх сыноў, застаўся дужа задаволены.

— Вы не толькі вучыце, але і выхоўваеце іх, — прыязна сказаў ён Лабановічу і ўжо сам па сваёй добрай волі накінуў яшчэ тры рублі за навучанне.

Адным словам, жыць можна было. Праўда, і работы хапала. Рэдактары загадалі Лабановічу весці ў газеце раздел аб Дзяржаўнай думе. З усіх прамоў дэпутатаў думы ён выбіраў усё найболей выдатнае і найболей прагрэсіўнае і толькі так сабе, мімаходам, упамінаў аб выступленнях правых і рэакцыйных дэпутатаў, каб не кідалася ў вочы царскім чыноўнікам тэндэнцыйнасць газеты. Час-ад-часу трэба было таксама даць і сваю ацэнку прамоў розных маркавых і падобных ім «ісцінна-рускіх» зуброў. З работай сваёю Лабановіч спраўляўся. За гэта рэдактары аплачвалі абеды ў маці Стася Гуляшака. І жыццё такім чынам сяк-так наладзілася. Пад вясёлую хвіліну Лабановіч складаў песні пра тое, як беспрытульная галота разбурыць царскі трон, скіне цара, а з яго пазалочанай парфіры пашые сабе штаны.

Але нічога не вечна пад ясным месяцам. Не гадаў Лабановіч, што яго віленскаму добрабыту прыдзе нечаканы канец. У адну ноч, калі горад сцішыўся, а Лабановіч сніў сны, смачна сплючы ў сваім «карыце», раптам пачуўся грук у дзверы рэдакцыі. Лабановіч прачнуўся, прыслухаўся, у дзверы загрукалі яшчэ мацней. Не было сумнення, што кулак быў здаравенны і напрактыкаваны па часці груку ў дзверы познім начным часам.

Лабановіч нацягнуў нагавіцы, накінуў на плечы пільчак і пад барабанны бой кулака басанож падышоў да дзвярэй.

— Хто там? — упаўшым голасам запытаў Лабановіч.

— Адчыняй! — уладна пачуўся голас з-за дзвярэй.

— Я-ж не ведаю, каму адчыняць, — можа, вы якія грабежнікі.

— Адчыняй, кажуць табе!.. Не грабежнікі, а паліцыя!

У галаве Лабановіча мільганулася думка: што лепей — грабежнікі ці паліцыя? Ён адамкнуў дзверы, а сам падаўся ўбок. Парог пераступіў жандарскі вахмістр

з ліхтаром у руках, за ім тры гарадавыя, чалавек у цывільным і жандарскі ротмістр. Ён навёў ліхтар у твар Лабановічу.

— Ты што тут робіш? — грозна запытаў ротмістр.

— Служу, — адказаў Лабановіч.

— Пашпарт ёсць?

Лабановіч паказаў. Ротмістр перагартаў пашпарт, а потым зірнуў на Лабановіча. І ўжо болей чалавечна прамовіў:

— Дзе вашы рэчы?

Лабановіч расчыніў свой убогі чамаданчык, дзе ляжала запасная пара бялізны, лёгенькія шкарпэткі, некалькі пісем і спісаных аркушаў паперы. Жандарскі ротмістр усё гэта перагледзеў, вахмістр з гарадавымі пашворыліся ў рэдакцыі. Нічога не знайшлі. Ротмістр пазабіраў пісьмы, аркушы спісанай паперы, некалькі рукапісных вершаў. Усё гэта ён запісаў у пратакол. Калі вобыск быў скончаны, ротмістр строга сказаў Лабановічу:

— Калі вы ў трохдзённы тэрмін не выедзеце самі, дык я вас арыштую і адашлю этапам да месца вашага пражывання.

Ротмістр завярнуўся і накіраваўся да дзвярэй. За ім пайшла і ўся яго капэлія.

## XXIV

Прышлі, панюхалі, пагаўкалі і зніклі... Добра, што хоць так абышлося. І ўсё-ж клопату нарабілі шмат.

Спаць Лабановіч ужо не мог. Вырысоўваўся новы этап жыцця і новая праграма дзеяння. Нечаканы візіт жандараў і гарадавых разбурыў усе планы. Тры дні! За гэты час трэба ліквідаваць усе справы. Па-першае, паведаміць обер-кандуктару, каб ён шукаў для сваіх сыноў новага «дарэктара», і развітацца з яго домам. Па-другое, зайсці да рэдактараў. Можа, яны чым-небудзь памогуць. Ды спадзявацца на іх падтрыманне — марная справа. Меў рацыю Баўдзей, калі гаварыў, што ў Кракаў зямляк яго паедзе тады, калі ўкусіць свой локаць. Дык няхай хоць паклон перададуць свайму Кракаву. Іншыя думкі круціліся ў галаве: як зрабіць, каб ізноў

вярнуцца ў Вільню? І раптам нечакана вырашыў: выкарыстаць орган віленскага генерал-губернатара «Виленский вестник» і пры яго дапамозе адхіліць перашкоды, што паўсталі на дарозе. А для гэтага трэба наведаць рэдакцыю, ды не з пустымі рукамі. Лабановіч сеў за стол і пачаў пісаць невялічкае апавяданне, вельмі памяркоўнае, не было ў ім рэвалюцыйнасці, але не мела яно і нічога агульнага з чорнасоценствам. Да дзесяці гадзін раніцы работа была скончана. Апавяданне спадабалася аўтару, ён падпісаўся «Іван Торба».

Захапіўшы рукапіс, Лабановіч накіраваўся ў рэдакцыю «Виленского вестника», якая змяшчалася ў шыкарным доме. Памяшканне было прасторнае і багата абстаўлянае.

Рэдактара яшчэ не было. Лабановіча прыняў сакратар рэдакцыі, малады, бялявы, прылізаны чалавек.

— Сядайце! — паказаў ён на крэсла і дапытліва зірнуў на наведвальніка.

— Прашу прабачыць мне за ранні візіт, — сказаў пачціва Лабановіч: — Я еду ў правінцыю. Мне-ж хочацца быць карэспандэнтам і наогул супрацоўнікам вашай газеты. На першы пачатак прынёс вам невялічкае апавяданне.

Сакратар узяў рукапіс, прагледзеў яго, зірнуў на подпіс.

— Гэта ваша сапраўднае прозвішча? — запытаў сакратар.

— Не, гэта мой псеўданім.

— Здорава гучыць, — усміхнуўся сакратар і дадаў: — Ваш расказец мне падабаецца. У чарговым нумары газеты будзе змешчан. Толькі напішыце ваша сапраўднае прозвішча і адрас. Яшчэ чым магу служыць?

Узрадаваны Лабановіч прамовіў:

— Мне хацелася-б мець нейкі дакумент, скажам, карэспандэнцкі білет, у якім значылася-б, што я — супрацоўнік або карэспандэнт «Виленского вестника». Гэта памагло-б мне быць болей карысным для газеты супрацоўнікам.

— Гэта можна, — згадзіўся сакратар.

Хвілін праз пяць Лабановіч меў на руках акуратна напісаны на добрай цвёрдай паперы, з выразнаю пячат-

каю, карэспандэнцкі білет ад «Виленского вестника». Гэтая ўдача акрыліла Лабановіча, але ён сам яшчэ не ўсведаміў у належнай ступені яе значэння.

Рэдактары нібыта былі засмучаны вымушаным выездам Лабановіча. Яны паківалі галовамі, выказалі шмат спачуванняў.

— А калі-б замест выезду на месца пражывання ўзяць ды махнуць у Кракаў? — з прытоеным насміханнем запытаў Лабановіч Стафана і Уласюка.

Стафан вінавата апусціў вочы, а Уласюк адвёў іх убок. Стафан прамовіў:

— Час яшчэ не прышоў.

Памаўчаўшы, ён дадаў, палажыўшы руку на плячо Лабановічу:

— Не траццьце надзеі!

Уласюк павярнуў твар да Лабановіча і даў такую дараду:

— Вось што, дзядзька Андрэй: зайдзіце ў Мінску да адваката Семіпалава. Ён свой чалавек і можа параіць вам што-колечы добрае. На тое-ж ён і адвакат... Што?

Уласюка падтрымаў і Стафан. Яны далі Лабановічу пісьмо на імя адваката.

— Калі-ж вы мяркуеце ехаць з Вільні? — пацікавіўся Стафан.

— Чым хутчэй, тым лепей. Можа, нават сягоння ўвечары. Даводзіць да таго, каб жандары павезлі, як арыштанта, не дужа прыемная рэч... А ўрэшце, можа, такім спосабам дабірацца дамоў выгадней: дарога нічога не будзе каштаваць, — сказаў Лабановіч з горкай усмешкай.

— На дарогу мы вам сёе-тое перакінем, — супакоіў Лабановіча Стафан.

Лабановіч нават не падзяліўся з рэдактарамі сваёю ўдачаю. Нашто? Ён цвёрда пастанавіў выехаць з Вільні ў гэты-ж дзень. Зборы невялікія. Зайсці-ж да обер-кандуктара, паведаміць аб усім і развітацца часу хопіць.

Гаспадар і жычлівая Мальвіна Казіміраўна шчыра пашкадавалі, што дзеці іх застаюцца без «дарэктара». Дый самі вучні былі засмучаны — яны прывыклі да свайго настаўніка. Обер-кандуктар сумленна разлічыўся з Лабановічам з накідкаю трох рублёў да пятнаццаці. А на развітанне сказаў:

— Калі-б паехалі па Палескай чыгунцы, дык да Баранавіч я завёз-бы вас бясплатна. — Лабановіч падзякаваў, ехаць на Баранавічы яму было не з рукі.

Развітаўся ён таксама і са Стасем Гуляшакам. Затым зайшоў у свой катушок, дзе стаяла «карыта», прыпыніўся каля яго. «Эх, карыта маё, карыта! — сказаў у думках Лабановіч. — Песціла ты мае мары аб Кракаве, ды ім не суджана здзейсніцца». Ён узяў свой чамаданчык і пехатой падаўся на вакзал.

Поезд з Вільні ў Мінск ішоў не болей шасці гадзін. На ўсходзе сонца Лабановіч прыбыў у Мінск. Сухое і не па часе халоднае надвор'е змянілася цёплымі начамі і гарачымі днямі. З вакзала, па дарозе ў горад, Лабановіч зайшоў да былога сябра Балоціча, з якім ён дружыў у семінарыі і які быў цяпер настаўнікам у школе сляпых. Балоціч трымаўся старых правіл паводзін, з дарогі «добранадзейнага» чалавека не саступаў і рэвалюцыі не спачуваў, але старога прыяцеля сустрэў ветла, хоць і жартаваў з яго няўдачнага ўдзелу ў рэвалюцыі.

— Ты, брат, пастой смяяцца, — сказаў Лабановіч: — А вось што скажаш на гэта? — Ён дастаў з кішэні карэспандэнцкі білет і паказаў сябру. Балоціч уважна разгледзеў білет, а потым перавёў вочы на прыяцеля.

— Значыць, адумаўся і над крамолаю паставіў крыж? — запытаў баском крыху здзіўлены Балоціч.

— Не, браце: крыж мяркую паставіць над дурнямі, але аб гэтым яшчэ рана гаварыць, — заўважыў Лабановіч.

Балоціч нібы крыху збянтэжыўся: на што ківае прыяцель?

— Як разумець твае словы? — запытаў ён Лабановіча.

— Калі-б з намі быў Янка Тукала, дык ён адказаўбы табе якім-небудзь афарызмам.

Балоціч губляўся яшчэ болей.

— Нічога не разумею. Які афарызм сказаў-бы ён?

Лабановіч развёў рукамі.

— Ход яго думак адгадаць не так-та лёгка. Ён могбы сказаць нешта накшталт загадкі біблейскага Самсона, напрыклад: «Ад паяда́ючага вышла тое, што можна есці, і ад дужага атрымалася салодкае».

Цяпер Балоціч развёў рукамі.

— Напускаеш ты мне нейкага туману: чым далей у лес, тым болей дроў. Адно можна сказаць, — усміхнуўся Балоціч, — ты — той заяц, за якім ганяюцца ганчакі, і ты закручваеш петлі, каб збіць іх з тропу.

— Во, во! — падхапіў Лабановіч: — Нарэшце і ты можаш напасці на след.

Яны трохі пасмяяліся.

— А што думаеш рабіць зараз?

— Сказаць табе праўду, і сам не ведаю. Жандары выгналі мяне з Вільні, бо я пад наглядам паліцыі. Дазволу на права жыць у Вільні я не маю. А там я меў сякія-такія заработкі.

— Дык ты зараз з Вільні?

— Адтуль, браце!

— А адгэтуль куды падасіся?

Лабановіч паглядзеў на яго.

— А што, калі ты прытуліш мяне на сваёй кватэры?

Балоціч зірнуў на Лабановіча.

— Што-ж? Дзень-два пажыві ў мяне.

— А вось скажы ты мне праўду. Калі-б я не быў басяком-выгнаннікам, а важным чыноўнікам з акладам у тысячу рублёў, тады колькі дзён туліў-бы ты мяне?

— Атрымай тысячны аклад, і тады пытайся... Ведаеш, Андрэй, што: я прытуліў-бы цябе і больш, але ці вядома табе, што пішуць аб вас, аб такіх, як ты, у «Минском голосе»?

— Гэта ў той газеце, дзе рэдактар чорнасоценец і здраднік радзімы Шмідт?

— Я не ведаю, хто ён такі, ведаю толькі, што ён — рэдактар «Минского голоса» і напісаў у газеце вось што.

Балоціч дастаў са стала, дзе ўсе паперачкі ляжалі кожная на сваім месцы і быў узорны парадак, нумар газеты «Минский голос» і паказаў натапку, у якой удзельнікі настаўніцкага сходу ў Мікуцічах шальмаваліся на ўсе лады.

Лабановіч наскора прагледзеў гэтую натапку і сказаў прыяцелю:

— Можаш даць мне гэты нумар?

— Для цябе я і хаваў яго, — адказаў Балоціч.

## XXV

Падмацаваўшыся ў прыяцеля, Лабановіч падаўся ў горад: яму трэба было знайсці адваката Семіпалава і перадаць пісьмо ад рэдактараў. Адваката дома не аказалася: ён выехаў на неакрэслены час на поўдзень Украіны. Такім чынам надзеі на Семіпалава адпадалі. Дый што ён мог сказаць і якую даць параду? Напэўна, сказаў-бы ехаць на месца пражывання і ад мясцовага паліцэйскага начальства прасіць дазволу жыць і працаваць у Вільні. «Але я і без папа ведаю, што ў нядзелю свята», — прыгадаў Лабановіч старую прыказку.

Ён павярнуў назад. У скверыку насупраць архірэйскага дома выбраў болей зацішнае месца, прысеў на лаўку і выняў з кішэні «Минский голос», у якім была змешчана злая нататка аб народных настаўніках пад назваю: «Без розуму і сумлення». Прачытаў і задумаўся. І тут прышла ў галаву думка — зайсці да рэдактара «Минского голоса», да чорнасоценца Шмідта і ў сувязі з нататкаю пагаварыць з ім у тым плане, у якім яны з Янкам Тукалам праводзілі рэпетыцыю допыту. Спачатку думка гэта здалася недарэчнаю, але чым болей разважаў, тым глыбей яна захапляла яго. І сапраўды: што ён траціць? Калі рэдактар нават не захоча гаварыць з ім — дык што за бяда! Пра Шмідта хадзілі гутаркі, што раней ён быў флоцкім афіцэрам, украў планы Кранштацкай крэпасці і перадаў іх нямецкай разведцы. Яму далі за гэта дзесяць гадоў катаржных работ, але цар Мікалай другі зняў пакаранне і вярнуў рэдактару грамадзянскія правы. А зараз ён — самы аддany «истинно-русский» чалавек. Лабановіч канчаткова замацаваўся ў сваім намеры схадзіць да Шмідта. Хоць паглядзець, што гэта за чалавек і папрабаваць завесці гутарку аб выгнаных настаўніках, якіх шальмавала газета.

У прыёмнай рэдактара «Минского голоса» сядзелі два чалавекі: поп і нейкі занядбаны чыноўнічак. Папа зараз-жа запрасілі ў кабінет. Праз некалькі хвілін ён вышаў адтуль у добрым гуморы. Ён кіўнуў чыноўнічку, даючы яму знак ісці разам. Лабановіч пачуў толькі словы папа ўжо ў дзвярах, сказаныя чыноўніку:

— Скажу табе, чалавеча, галава!

Яны зніклі.

— Як далажыць аб вас гаспадзіну рэдактару? — звярнуўся да Лабановіча прыслужнік з рыжаватаю барodкаю, чалавек без усякай формы і нецікавы на выгляд.

— Скажыце—карэспандэнт «Виленского вестника», газеты віленскага генерал-губернатара, — важна сказаў Лабановіч.

Прыслужнік з павагаю зірнуў на наведвальніка і нават пакланіўся. Лабановіч сам сабе заўважыў: «Клюе!»

Чалавек з рыжаватаю бародкаю ціхенька шуснуў у дзверы рэдактарскага кабінета і зараз-жа вярнуўся.

— Калі ласка! — паказаў ён галавою на дзверы.

У прасторным крэсле за сталом, засланым зялёным сукном, сядзеў рэдактар, без пільчака. Гэта быў невысокі, карэнкаваты чалавек з шырокім тварам, з пранізлівымі выцвіўшымі вачамі, з кучмаю пасівелых валасоў. На ім была руская кашуля з расшпіленым каўняром, з якога выступала тоўстая, як у вала, шыя. На прывітанне Лабановіча ён толькі злёгку зварухнуўся ў сваім крэсле.

— Чым магу быць для вас карысным? — даволі сурова запытаў ён.

— Я хачу пагаварыць з вамі, гаспадзін рэдактар, не толькі аб сваёй справе, але і аб справе сваіх калег, настаўнікаў.

Рэдактар крыху шырэй расчыніў вочы, але маўчаў, нарыхтаваўшыся слухаць далей. Лабановіч зрабіў невялікую паузу.

— Я вас слухаю, — ужо нецярпліва прамовіў рэдактар.

Лабановіч выняў з бакавой кішэні акуратна зложаны нумар «Минского голоса» і разгарнуў яго, знайшоў нататку «Без розуму і сумлення» і паказаў на яе рэдактару.

— Я, гаспадзін рэдактар, і ёсць адзін з тых, што ў нататцы вашай газеты значацца пад такім тытулам.

Рэдактар узяў з рук Лабановіча нумар газеты, зірнуў на нататку. Твар яго адразу змяніўся. У выцвіўшых вачах блiснуў злы агеньчык.

— Дык што вам трэба? — сярдзіта сказаў рэдактар,

як-бы перад ім быў не малады чалавек, а нейкі шкодны гад.

— Калі чалавека незаслужана абліваюць памыямі, — спакойна, з адценнем гарчэчы ў голасе адказаў Лабановіч, — дык зусім натуральна, гаспадзін рэдактар, што гэты чалавек хоча ачысціцца ад такога бруду.

Рэдактара, здалося Лабановічу, кранулі гэтыя словы.

— Я не разумею вас, — сказаў ён.

— Справа вось у чым, гаспадзін рэдактар: тое, што пішацца пра нас у вашай газеце, ні ў найменшай меры не адпавядае сапраўднасці.

Рэдактар недаўменна зірнуў на Лабановіча.

— Як-жа гэта так? — Але-ж быў у вас недазволены, законам забаронены сход? Нават і пастанову напісалі вы! — запярэчыў рэдактар.

Лабановіч зірнуў рэдактару ў вочы.

— Шкада, што прыстаў, якому, вядома, хацелася выслужыцца, забраў адну толькі так званую пастанову. Але чаму ён не патурбаваўся далучыць да яе паўтара дзесятка пустых бутэлек ад гарэлкі. Тады было-б зразумела, адкуль і як магла з'явіцца гэтая пастанова?

Рэдактар недаверліва паківаў галавою.

— Чым-жа растлумачыць той факт, што ў адным сяле сабралася звыш двух дзесяткаў настаўнікаў?

— У гэтым сяле, гаспадзін рэдактар, іх болей трох дзесяткаў. Такое ўжо наша сяло Мікуцічы: скончыў настаўніцкую семінарыю адзін і паказаў дарогу дзесяці.

Як ні стараўся рэдактар падлавіць Лабановіча, яму гэта ніяк не ўдавалася. Усё, што гаварыў Лабановіч, здавалася праўдзівым і натуральным. Тады рэдактар паспрабаваў павесці атаку з другой пазіцыі.

— Скажыце, вы спецыяльна для таго зайшлі да мяне, каб абвергнуць выстаўленыя супраць вас абвінавачанні? — рубам паставіў ён пытанне.

— Паверце, гаспадзін рэдактар: я зайшоў да вас зусім выпадкова. Скажу вам праўду: я еду і не па сваёй волі з Вільні. Там я меў сякі-такі заработак — займаўся з дзецьмі аднаго чыгуначніка. Але пазаўчора мне жандарскі ротмістр катэгарычна заявіў, каб я пакінуў горад, калі не хачу быць высланым па этапу. Таксама

зрэдку даваў я сякія-такія матэрыялы і ў орган віленскага генерал-губернатара, у газету «Виленский вестник».

Лабановіч убачыў, што на стале рэдактара якраз і ляжала гэтая газета. У пацвярджэнне таго, што было сказана, ён дастаў свой «талісман» — акуратна і прыгожа напісаны карэспандэнцкі білет. На вачах у Лабановіча з рэдактарам адбылася перамена: з суровага ён зрабіўся лагодным. Іншым тонам ён сказаў, падняўшы на Лабановіча выцвіўшыя вочы:

— Вось што. Пра ўсё тое, што вы расказалі мне аб настаўніцкім сходзе, напішыце ў «Минский голос», напішыце так, як было ў сапраўднасці. Я змяшчу гэта ў газеце... Думаю, малады чалавек, што гэта паслужыць на вашу карысць і на карысць вашых калег. Я... — не без гордасці заўважыў рэдактар, але перабудаваў свой сказ без «я»: — Да «Минского голоса» прыслухоўваюцца і лічацца з ім і яго прэвасхадзіцельства мінскі губернатар, і яго прэасвяшчэнства епіскап Мінскі і Тураўскі, і ўсе вышэйшыя чыноўнікі губерні.

Лабановіч заўважыў схільнасць рэдактара да самавыхвалення і вырашыў скарыстаць гэта.

— Гаспадзін рэдактар! Мне давялося чытаць маладомага пісьменніка Лейкіна. Адзін з яго герояў на банкеце сказаў: «Любили правду мы сызмальства и награждены за это от начальства». Я хачу сказаць, што і ваша любасць да праўды начальствам заўважана.

Рэдактар соладка ўсміхнуўся. Было відаць, што гэтыя словы прыйшліся яму да спадобы. А калі Лабановіч падзякаваў за гуманны прыём, рэдактар устаў са свайго шырокага крэсла і моцна паціснуў руку наведвальніку.

— Дык так, чакаю вашага артыкульчыка.

Калі Лабановіч ішоў з «Минского голоса», яму здавалася, што за плячамі разгарнуліся крыллі. Без дапамогі Ліскоўскага і Уласюка, без адваката Семіпалава ён сам патрапіў зрабіць справу на карысць сабе і таварышам. Не затрымліваючыся нідзе, ён шпарка ішоў на кватэру Балоціча: там ён наважыўся напісаць «артыкульчык».

За гэты час Балоціч упыніў свае справы, сядзеў у кабінеце, наводзіў парадак у пісьмовым стале, хоць гэты парадак быў і без таго на належнай вышыні. Калі Ла-

бановіч увайшоў, Балоціч адразу заўважыў вясёлы, узбуджаны настрой свайго сябра.

— Ну, як, Андрэй? «С победой, Гришка, поздравляю и с расцарапанной щекой?» — спытаў ён.

— Вось што, Балоцімус-Балота. Дай мне пару-другую аркушаў паперы, і ты паглядзіш, што я на іх напішу, куды і для каго.

Балоціч шчыра і весела смяяўся, выслухаўшы апавяданне Лабановіча аб гутарцы з рэдактарам і аб выніках спаткання.

— Гэта называецца — правесці папа ў рэшаце, — жартліва заўважыў Балоціч. Ён выняў са стала з дзесятак аркушаў добрай, гладкай паперы. — Пішы, колькі ўлезе, — не пераставаў жартаваць Балоціч.

Лабановіч выбраў спакойны куток у кватэры і сеў за работу.

## XXVI

Артыкул Лабановіча пад назваю «Як яно было» быў надрукаваны праз дзень у «Минском голосе» за подпісам «Кудесник». Калі Балоціч прачытаў яго, то шырока расплюшчыў вочы і некаторы момант моўчкі пазіраў на прыяцеля.

— Вось папрабуй разабрацца, дзе праўда, а дзе хітрая выдумка! — у захапленні сказаў ён.

— Паміж праўдаю і выдумкаю, падобнаю да праўды, трудна, мой дружа, правесці мяжу, — заўважыў Лабановіч: — Канву-ж для іх дае само жыццё.

— Завілавата гаворыш, мой браце. Не выпіўшы чаркі добрай настойкі нічога не разбярэш.

Сказаўшы так, Балоціч падаўся да свайго даволі прыгожага і нават утульнага буфеціка, дастаў ёмкую пляшку і паставіў на стол.

— Гэта, браце мой, накшталт польскай старкі. Доўгі час я хаваў яе на ўрачысты выпадак.

— Гэтым самым, дарагі мой Балоцімус, ты даводзіш, што ты мой сапраўдны друг, якім быў і ў семінарыі.

Наліваючы настойку ў чаркі, Балоціч сур'ёзным тонам заўважыў:

— А ведаеш, Лабуня, гэты артыкул зробіць, калі не

пераварот, дык поўнае замяшанне ў галовах судовых чыноўнікаў, а таксама і ў паліцэйскіх, бо «Минский голос» гэта іх сімвал веры.

— Што-ж? — весела азваўся Лабановіч, падняўшы чарку: — Дай, божа, нашаму цяляці воўка зваяваці!

Вечарам, сардэчна развітаўшыся з Балоцічам, Лабановіч накіраваўся да вакзала. Ён захапіў з сабою некалькі экземпляраў «Минского голоса», у якім быў выдрукаваны яго артыкул. Седзячы ў вагоне, ён думаў аб тым, як будуць здзіўлены сябры, зволеныя з настаўніцкіх пасад, калі раптам дачуюцца пра «Кудесника». Нікому і ў галаву не прыдзе, што гэта напісана ім, Лабановічам. Яму было весела і разам з тым смешна. Ён думаў у першую чаргу пра свайго прыяцеля Янку Тукалу, думаў, як латвей апавядаць яму аб сваіх прыгодах.

У Стаўбуны поезд прыбываў каля адзінаццаці гадзін раніцы. Каб не размінуцца з Янкам, Лабановіч рашыў зайсці на яго ранейшую кватэру. Ад вакзала да мястэчка было з поўвярсты. Як-жа здзівіліся і ўзрадаваліся прыяцелі, калі, па шчаслівай выпадковасці, сустрэліся на дарозе, там, дзе яна крыжавалася з паваротказо на вакзал! Яны кінуліся адзін да аднаго.

— Янка!

— Андрэй!

Сябры моцна пацінулі адзін другому рукі і пацалаваліся.

— Як-жа гэтак нечакана апынуўся тут? Адкуль ты ўзяўся? — пытаў з радасным недаўменнем Янка.

— Час майго вандроўніцтва нікім не лічаны, а дарогі мае толькі богам ды жандарамі мераны, — урачыста адказаў Андрэй.

— Ты гаворыш, як нейкі старадаўні прарок, — засмяяўся Янка ў прадчуванні важных навін, аб якіх павінен паведаміць прыяцель.

Андрэй-жа запытаў:

— Ты-ж куды вандруеш?

— Не сам я вандрую: мае ногі нясуць чэрці, — у тон прыяцелю адказаў Янка. — Збіраўся ў Мінск, але калі пабачыў цябе, дык чэрці ад мяне адступіліся — па боку Мінск!

— Добра сказана!.. Ведаеш, Янка: я ўвесь час думаў, як-бы не размінуцца нам. А мы ўзялі ды сустрэліся!

— Калі каму шанцуе, той і ў лапцях танцуе, — прыказкай пацвердзіў Янка. — Выкладай, браце, аб тваім, нікім не лічаным, часе.

Лабановіч абвёў поглядам наваколле і ціха сказаў:

— Кожнай агародніне свой час. Свой час ягадзе і свой час баравіку... Слухай, Янка: давай заскочым у мястэчка, возьмем на дарогу таго, што весяліць сэрца чалавеку. Адыдземся ад вуліц і ад сцен хат і там, у зацішным месцы, расчынім нашы душы і волю дамо нашым словам.

— Вось што значыць пабыць у рэдакцыі! Адразу відаць, што чалавек набраўся розуму! І дурань будзе той, хто стане супраць гэтага пярэчыць.

Прыяцелі накіраваліся ў шынок да цёткі Гені па падмацунак. На першым утульным месцы над Нёманам яны спыніліся.

— Вось тут мы і расчынім вусны нашы, — сказаў Лабановіч. — Садзіся, брат Янка!

Яны селі на зялёнай траўцы за пышным лазовым кустом, што раскінуў тонкія, гнуткія дубцы над самым Нёманам. Патрывожаная лугавая мята разліла навокал востры пах. Унізе, пад зрывістым берагам, несупынна гнала рака празрыстыя хвалі, нібы жывое срэбра.

— Што скажаш, Янка: хораша, утульна, спакойна тут! — сказаў, азіраючыся навакол, Лабановіч.

— Што хораша, то хораша, але не гэта я спадзяваўся пачуць ад цябе, — заўважыў Янка: — Выходзіць, з вялікага грому малы дождж!

Андрэй засмяяўся.

— Ведаеш, брат, я ўсё думаў: як пачаць расказваць пры спатканні з табою, пра ўсё, што здарылася за гэты час. І нібы не знаходжу такога пачатку, які-б задаволіў мяне і цябе.

— Тады адкаркоўвай пляшку, можа, яна развяжа табе язык, — рашуча сказаў Янка і дадаў: — Чуе маё сэрца, што скажаш нешта цікавае.

Лабановіч выцягнуў з кішэні кручок, загорнуты ў паперку кавалак каўбасы і хлеб. Янка ў чаканні не зводзіў вачэй з прыяцеля. Андрэй сказаў:

— Покі я буду накрываць «стол» і ўходжвацца каля яго, ты прачытай вось гэтую нататку.

У руках у Янкі апынуўся «Минский голос». Ён так і ўпіўся вачамі ў артыкульчык. Лабановіч рэзаў каўбасу і ўкрадкам сачыў за прыяцелем. А Янка, у меру таго як чытаў, мяняўся ў твары, збіваўся з тропу, некалькі разоў варочаўся да пачатку артыкула, глядзеў на подпіс, на назву. Нарэшце працёр вочы і доўгім позіркам паглядзеў на Андрэя.

— Што скажаш, Янка, на гэта? — спытаў Лабановіч.

— Браткі мае! Матухны і татухны! — ледзь не вар'яцеў Янка: — Ці дабачваюць мае вочы? Ці не аслеп я! Ці не чорт водзіць мяне ў лузе! — Янка весела перахрысціўся. — Што-ж гэта значыць? — развёў ён рукамі і раптам рвануўся да пляшкі: — Выпіць, выпіць за таго добрага чалавека, што падаў за бяздомных «агаркаў» голас у «Минском голосе»!

— Выпіць! — падтрымаў прыяцеля Андрэй. — А вось пра чарку мы забыліся. З чаго будзем піць?

— Як з чаго? Абыдземся без вяроўкі, — была-б кароўка!

Янка перадаў пляшку Андрэю.

— Гарэлка твая і твая навіна! Благаславіся, ойча Андрэю! Палыкні! З горла ў горла!

Андрэй выбіў з пляшкі корак.

— Дык што, браце Янка: узрадуемся і ўзвяселімся. Няхай адступіцца ад нас ліха, а добра пачатае няхай дабром і скончыцца. Здароў будзь!

Гарэлка забулькала ў роце Лабановіча за частаколам зубоў. Добрую чарку ўліў ён у рот, глынуў.

— Столькі-ж, браце, вазьмі і ты, — перадаў ён пляшку Янку і адмераў пазногцем на шкле, колькі таму належала выпіць.

— Янка ўзяў пляшку, зірнуў у бок Панямоні і Стаўбуноў, потым павярнуўся тварам да Мікуціч, падняў вочы на Дзямянаў Гуз.

— Чуеце вы, мястэчкі і сяло, і ты, Дзямянаў Гуз, і вы, дарогі, па якіх мы хадзілі, ходзім і будзем хадзіць! Здаровы будзьце! Будзь здаровы і ты, добры чалавек, што закінуў за нас добрае слова ў «Минском голосе»!

Няхай табе лёгка ікнецца ў гэты час!.. І ты, Нейгертава, будзь здарова!

Лабановіч пасміхнуўся. Янка глынуў у два захады сваю порцыю, крактануў, абцёр губы, пачухаў нос і заўважыў:

— Мусібыць, яшчэ вып'ем!

— Ды гарэлка яшчэ ёсць, — патрос Лабановіч пляшкаю. — Давай закусім!

Янка паглядзеў на пляшку, прыкінуў на вока, ці столькі ён выпіў, як было адмерана, і заявіў:

— Трошкі перабраў!.. Ведаеш, натура ўжо мая такая: пры рабоце не дабіраю меры, а пры выпіўцы — перабіраю!

— Ну, ты ўжо трохі клеплеш на сябе, Янка.

— Кляплю, бо мне весела, і гарэлка пачынае шаламіць.

Сябры сядзелі над ракою, пад кустом, закусвалі, жартавалі, прыкладаліся да пляшкі. А калі апаражнілі яе, Янка даў поўную волю сваім пачуццям.

— Ці ёсць на свеце такі вяльможа, якому я пазайздросціў-бы сягоння! Ці ёсць такі замак або палац, якія памяняў-бы я на гэты куст над Нёманам! Нічога падобнага няма! — Янка энергічна махнуў рукою.

— Адкуль-жа ў цябе такое шчасце?

— З дзвюх крыніц: адна — артыкул, а другая — вось гэтая пляшка, нажаль, пустая.

— З пустой пляшкі можна зрабіць поўную. Але як-жа ты ставішся да «Кудесника»? Якое, на тваё меркаванне, яго значэнне для нас?

— Ды гэта, браце, дождж у вялікую сухмень!.. — выгукнуў Янка. — Ты, вось, паглядзі на луг, на груды: папаліла іх сонца з вясны. А прайшлі дажджы, яны пачалі ажываць. Відаць, здарыўся і для нас нейкі спагадны паварот.

— Так прыблізна разважае і Косцік Балоціч. Ён сказаў нават болей: «Минский голос» для паліцэйскіх, для папоў і чыноўнікаў тое самае, што «сімвал веры» для прававерных хрысціян.

— Брава! — гукнуў Янка.

— Ведаеш, Янка, — павярнуў гутарку на другое Андрэй, — калі на тое пайшло, дык скокні да Моні —

ён зараз-жа тут за мостам, і вазьмі яшчэ кручок, тады я раскажу табе, як з'явіўся «Кудесник» у чорнасоценнай газеце, і хто такі ён сам.

— На край свету пабягу дзеля гэтага!

Лабановіч хацеў даць грошы.

— Мая капейка таксама не шчарбатая, — адвёў руку прыяцеля Янка і паімчаўся да Моні.

Пад тым-жа лазовым кустом расказаў Лабановіч прыяцелю пра ўсе свае прыгоды — пра выгнанне з Вільні, пра візіт да рэдактара «Минского голоса» і пра вынік гэтага наведвання.

— Ведаю, мой дружа Яне, — сказаў у заключэнне Андрэй: — Праўда, прыкрытая дзяружкаю, цікавей за голую праўду. І мне здаецца, што ты нават расчараваны гісторыяй «Кудесника». Наша рэпетыцыя не прапала дарма.

Янка сказаў у захапленні:

— «Кудесник», ты — хітры стары!

## XXVII

Андрэй і Янка асталяваліся на няпэўны час у гумне дзядзькі Марціна. Гумно было прасторнае, і каб залажыць яго даверху збажыною і сенам, дык гэтага дабра хапіла-б на такія тры гаспадаркі. У застаронні ляжала даволі ёмкая куча леташняй саломы, пагрызенай мышамі. Там, паслаўшы посцілкі і накрыўшыся даматканаю коўдраю, сябры спалі моцным сялянскім сном.

Гумны знарок будаваліся так, каб мела вольны доступ паветра з двара, а таму ў іх звычайна было многа шчылін: і над шырокімі варотамі і ўздоўж усяе страхі. З двух бакоў у шчытку былі нават парныя акенцы без шкла, праз якія ўляталі і выляталі ластаўкі: яны дужа любяць гняздзіцца ў гумнах. Трэба заўважыць, што гуменныя шчыліны аднак пакідалі з такім меркаваннем, каб не засякаў дождж, а зімою вецер не наганяў снегу.

Усходзіла сонца. Абуджалася ясная летняя раніца. Тысячы шчылінак і дзірачак загараліся на сонцы, і ўсё гумно налівалася бліскучымі патокамі святла, зіхцела, жыло і ззяла ў залатых праменнях.

— Трасцу што-небудзь падобнае бачыў калі цар, — сказаў абудзіўшыся Янка і залюбаваўся істужкамі яркіх праменняў, у якіх мітусіліся мільярды пылінак. — Ты чуеш, што я табе кажу? — спытаўся ён, не пачуўшы голасу прыяцеля.

Андрэй-жа глядзеў, як над гнёздамі махалі лёгенькімі крылцамі юркія ластавачкі і так лагодна шчабяталі.

— Вось ведаеш, Янка, я ніколі не бачыў, каб ластавачкі біліся паміж сабою, — заўважыў ён, прапусціўшы міма вушэй сябравы словы, — ён проста не чуў іх.

— Слаўныя птушэнцыі! — падхапіў Янка: — Калі яны пачнуць шчабятаць над гняздом, дык я прыгадваю маладзіц, што збяруцца часамі з вёдрамі каля калодзежа і на ўсе галасы разліваюцца, бо гэта ўжо іх такая патрэба.

У гумно далятаді і штодзённыя песні вясковай працы, і водгулле працоўнага сялянскага дня. Некалькі разоў бразнулі дзверы ў хаце, рыпнулі вароты ў хлеве — гэта маці пайшла даіць карову. Пасля зарыпеў жуавель над калодзежам. Крыху счакаўшы, загрукаў сякач у карыце — гатавалася снеданне свінням. Потым пачуўся незадаволены голас Юзіка, другога Андрэевага брата: ён выганяў на пашу жывёлу, ды не даспаў, быў сярдзіты і сваю злосць спаганяў на каровах. Дзядзька Марцін спыніў Юзіка таксама сярдзітым вокрыкам:

— Што ты хвошчаш пугаю карову? Што яна табе зрабіла? Вось вазьму гэтую пугу ды пацягну па тваёй спіне.

Юзік маўчаў, покуль двор не застаўся ззаду, а тады агрызнуўся:

— Не дастанеш: рукі кароткія! А пуга — вось яна, у маіх руках.

— Глядзі, Дзюбок, каб яна не апынулася ў маіх!

Дзядзька Марцін сядзеў на плашцы і кляпаў касу. Аднастайны стук малатка па жалезнай бабцы, забітай у калодку, уторыў ранішнім гукам, што разносіліся па дварэ. Да ўсіх ранейшых гукаў зараз далучаўся спеў гарластага пеўня.

Лабановіч успомніў, якая зараз гарачая пара: дзядзька Марцін ладзіў касу — надыходзіў час касьбы. Трэба было спяшацца, бо калі русінаўцы скосяць свае шнуры, дык яны адразу і коней пусцяць на пакошу. А застануц-

ца там два шнуркі дзядзькавай сенажаці, дык іх патравяць, патопчуць коні. Сумленне Лабановіча казала, што трэба памагчы Марціну.

Сябры моўчкі ляжалі. Кожны думаў сваё. І раптам Лабановіч перарваў маўчанне.

— Ведаеш, Янка, які афарызм скажу я табе?

— А ну! — ажывіўся Янка, нібы прахапіўшыся.

— Усяму на свеце ёсць канец, — урачыста прамовіў Андрэй.

— Гэта праўда, як праўда і тое, што калі чалавек галодны, дык ён хоча есці, — падпусціў «жука» Янка.

— А калі праўда, дык годзе нам ляжаць. Давай падымацца!

— Падыманне не варта такога афарызма, — усё яшчэ жартаваў Янка, але вылез з-пад коўдры і сеў на саломе, сказаўшы: — І добра-ж, брат, спаць тут! Не спіш, а боскае пітво п'еш!

— Гумно гэта — дача на дачы, рай, які не сніўся Адаму і Еве.

Сябры зараз-жа адзеліся і пайшлі мыцца ў Нёман. На сцежцы, што была пратоптана каля гумна і вяла да ракі, сябры спыніліся і паздароўкаліся з дзядзькам Марцінам. Ён ссунуў з ілба на патыліцу «варшаўскую» шапку. Калісь Марцін насіў яе ў святочныя дні. Цяпер яна састарылася, страціла ранейшы панскі форс, форму і колер, але нават і ў такім выглядзе нагадвала шапкі, якія насілі фальваркоўцы.

— Ну, як спачывалі? — запытаў дзядзька прыяцеляў і смаркануў направа і налева, упёршыся кулаком спачатку ў адну ноздру, а потым у другую.

— Спалі, як пшаніцу прадаўшы, — азваўся Янка.

Андрэй запытаў:

— Ёсць у дзядзькі запасныя косы?

— Чаму-ж няма! Ёсць, і не адна.

— Дык наладзь іх харашэнька: пойдзем разам касіць. А русінаўцы няхай наматаюць сабе на вус: калі занадта ўлягуць у касьбу, то каб не былі ў іх пяты падрэзаны, — сказаў жартам Андрэй.

Дзядзька Марцін засмяяўся. Ён любіў Андрэя і як пляменніка і як выдатнага касца. І ён ведаў, што з такім памочнікам у хвасце не застанешся.

Досвіткам наступнага дня дзядзька Марцін і Андрэй, пабраўшы косы і прыхапіўшы малаток і бабку, пайшлі на касьбу ў Ёлава. Янка з Якубам павінны былі прынесці ім туды снеданне і ўзяць з сабою граблі: работы хопіць для ўсіх.

Андрэй з ранняга дзяцінства любіў Ёлава. Там было многа такіх магутных дубоў, што чатыры чалавекі ледзь-ледзь маглі абняць камель. Дубы пераважна стаялі над ракою, іх верхавіны чарнелі буслінымі гнёздамі. У глыбі лугу рос густы арэшнік, а Нёман так прыгожа павіваўся, утвараў такія лукі, што імі нельга было не залюбавацца.

У Ёлаве быў дужа добры луг, асабліва бліжэй да Нёмана. Луг і зямля, на якой знаходзілася сядзіба дзядзькі Марціна, належалі князю Радзівілу. Яе наўперад арандаваў Моўша Перац, які трымаў у Мікуцічах карчму. Калі Вітэ ўвёў манаполію на гарэлку, Моўша ліквідаваў свае справы і перабраўся ў Панямонь, а скарбовую зямлю заарандаваў дзядзька Марцін.

Ад хутарка дзядзькі Марціна да Ёлава лічылася чатыры вярсты. Нашы касцы прышлі на луг, калі з-за лесу ледзь-ледзь паказвалася сонца. Дзядзька Марцін не зводзіў часу. Ён убіў у дол касу, павесіў на кульку торбу, дзе ляжалі малаток і бабка, а сам пайшоў правяраць граніцы свайго шнура сенажаці. Агледзеў, ці на сваім месцы стаяць па́лі, а потым дробненькімі крокамі пайшоў ад па́лі да па́лі рабіць «брод», каб у часе касьбы не зрабіць перакосу. У людзей было так мала сенажаці, што яны калаціліся за кожную пядзю.

Дзядзька Марцін і Андрэй пастанавілі пачаць касьбу ад лесу, з нізіны, дзе луг быў перамешаны быдлячымі нагамі, сляды якіх заставаліся на доўгі час. У лагчыне дзе-ні-дзе было мокра, але затое і трава расла мяккая, хоць і нецікавая. Дзядзька Марцін правёў «брод» аж да палавіны доўгага і нешырокага шнура. Гэты кавалак падзялілі на дзве часткі. Марцін узяў сабе горшую дзялянку. Намянцілі косы. Перш чым замахнуцца касою, дзядзька, не знімаючы шапкі, перахрысціўся і сказаў: «Госпадзі, благаславі!» Андрэй за гэты час управіўся спрытна махнуць касою разоў пару.

Трава была маладая, ранішняя раса рабіла яе вільготнаю і мяккаю. Добра наклёпаныя і наладжаныя косы

толькі пасвіствалі. Трава лёгка паддавалася і пакорна лажылася ў роўныя пракосы.

Касцы, хоць і былі далекавата адзін ад другога, але стараліся ва-ўсю. Сонца паднялося ўгору і стала прыпякаць. Паскідалі шапкі. На ілбе выступаў пот. Паскідалі і кашулі. Абодва былі мокрыя ад поту, але ніводзін не паддаваўся другому. Ужо заставаліся адны толькі шматкі няскошанай сенажаці, калі Андрэй, менцячы касу, заўважыў Янку, а з ім і Якуба. Углядацца доўга не было калі, бо дзядзька Марцін ужо дакошваў сваю дзялянку. Аднак Андрэй паспеў згледзець над галавой у Янкі сетку-таптуху, нібы шлем старадаўняга багатыра, і збан у руцэ, напэўна, з кіслым малаком — дзядзька Марцін любіў яго. Якуб нёс на плячах пару грабель, а ў руцэ ёмкую торбу з лігомінай, як называлі па-плытніцку харчы. Андрэй і сам не ведаў, чаму яму раптам стала весела.

Хвілін праз дзесяць грабцы падышлі да дзядзькі Марціна.

— Вось якраз у самы час прышлі. Малайцы, хлопцы! Марцін падаўся разам з хлопцамі да Андрэя, які дабіваў астатні пракос. Дзядзька весела сказаў:

— Касі, каса, пакуль раса, раса далоў, касец дамоў!

Усёю грамадою, касцы і грабцы, падаліся пад дуб на бераг Нёмана.

— Вось добра, што ўзялі з сабою сетку! Дай, божа, здароўя таму, у чыю галаву прышла такая выдатная думка, — азваўся Андрэй.

— Гэта Якуб распарадзіўся, — сказаў Янка.

— Якуб — золата, а не хлопец! — сказаў Андрэй.

Дзядзька Марцін дадаў:

— Вы яшчэ не ведаеце, што за галава на Якубавых плячах.

Марцін і сам быў рады, што Якуб дагадаўся захапіць сетку.

## XXVIII

Для Якуба самаю вясёлаю і радаснаю парою года быў час сенакосу. Дый дзе столькі разгону для твае жвавасці, для твайго спрыту, для тваіх забавак, як не на

касьбе! І, сказаць-жа, работа на лузе няцяжкая. Чаго варты пахучыя хвалі скошанай і прывяўшай травы! Ды не аднымі забаўкамі захапляўся малы Якуб: якіх толькі відовішчаў не сустрэнеш на сенажаці! Работа захапляе цябе ўсяго, з галавы да пят.

Якуб пільна прыглядаўся, як спрытна валодае касою дзядзька Марцін. Для хлопца гэта быў лепшы ў свеце касец. Цэлыя гадзіны сядзеў ён каля Марціна, калі той кляпаў касу, і не прапускаў ніводнага дзядзькавага руху. Дзядзька Марцін не заўсёды дагадваўся, што за ім сочыць так уважліва вока пляменніка. Неспадзявана Якуб часамі даваў такія гаспадарскія дарады, што дзядзька толькі здзіўляўся. Часамі ў гэтакіх выпадках ён абнімаў пляменніка, цалаваў ды казаў:

— Ты, брат Якуб, залаты чалавек, і галава твая светлая.

Пакуль дзядзька Марцін і Андрэй падмацоўваліся пад дубам, які стаяў якраз на іх шнуры, Якуб не чакаў загаду, што трэба рабіць. Ён даў Янку граблі, а другія ўзяў сам.

— Пойдзем выграбаць сена з лагчыны і пазносім яго на груд; там яно бадай што да вечара высахне.

Янка не пярэчыў Якубу, бо той гаварыў праўду. Сушэйшага мурагу яны прынеслі па пярэберычу пад дуб: пасля падмацавання захочацца паляжаць на сене ў цяньку. Сам Янка не дагадаўся-б зрабіць гэтага, у чым потым і прызнаўся.

Касцы доўга не ляжалі, хоць хацелася прыдрамаць. Прычына гэтаму была сетка-таптуха, якая стаяла тут-жа пад дубам, кулём угору. Дзядзька Марцін вельмі любіў лавіць рыбу наогул. А тут і месца добрае, і ніхто з рыбакоў яшчэ не патрывожыў прыбярэжных заток. Аб рыбе таксама думалі Андрэй і Якуб. Але ў першую чаргу трэба падагнаць работу. Адзін толькі Янка заставаўся абыякавым у дачыненні рыбы: ён не пазнаў яшчэ асалоды ў лоўлі сеткаю-таптухаю.

Заставалася яшчэ з поўгадзіны часу да заходу сонца, а сена было ўжо ўсё згрэбена і зложана ў копы, каб не рыжэла ад расы. Другі шнур таксама быў скошан на вялікае задавальненне дзядзькі Марціна. Яшчэ дзень-другі

пагоды — і сена будзе прыбрана з лугу і звезена ў гумно.

— Ну, як, хлопцы, пройдземся каля беражкоў з сеткаю? — весела запытаў Марцін сваю рабочую грамаду.

— Цяпер самы час паплюхацца, — стала прамовіў Якуб.

— Даўно пара, — падтрымаў яго Андрэй.

— Ну, то давайце пачнем! Ты, Якубок, будзеш насіць тутун і скручваць нам цыгаркі, бо калі ловіш рыбу, дык асабліва хочацца курыць.

— І асабліва тады, калі яна ловіцца, — заўважыў Андрэй.

Дзядзька аддаваў далейшую каманду:

— А ты, брат Янка, пільнуй адзежу, бо прыдзецца зняць усё, апроч шапак... Не канечне стаяць над ёю крукам, — зрабіў агаворку Марцін, — а з вока спускаць не трэба.

— Рад служыць агульнай справе! — як салдат, азваўся Янка.

Дзядзька Марцін узяў сетку і першы спусціўся ў Нёман. За ім падаўся і Андрэй. Абодва былі голыя, толькі ў адных шапках. Лазіць голаму па вадзе, па жорсткай траве — не дужа прыемная рэч. Зусім іншая справа была-б, каб надзець рыбацкую адзежу. Але яе не ўзялі, бо нязручна было несці ўсё разам.

— Вось давай, брат, патрасём гэту завоінку, — сказаў Марцін.

Завоінай называлася паласа стаячай вады пры беразе. Звычайна яна зарастала розным зеллем, лотаццю, макрыцай, сітняком. З самага дна падымалася доўгая, на ўсю глыбіню, трава, нібы тонкія ніці. Выбіўшыся на паверхню, яна рассцілала на вадзе акруглыя, белаватыя лісцікі. Траплялiся часамі пры беразе чароты і аер. У гэтым вадзяным зарасніку хавалася рыба, адпачывала пасля жыравання ці проста ратавалася ад сваіх заклятых ворагаў, шчупакоў і акунёў.

У рыбацкай справе вёў рэй дзядзька Марцін, як самы сталы і спрактыкаваны па часці лоўлі рыбы. Ён узяўся за адзін бераг абруча сеткі, а памочнік яго — за другі, і абодва ціхенька-ціхенька пачалі выкрадацца да берага.

Сетку лёгенька вялі бліжэй да берага ў вадзе. Бывалі такія выпадкі, калі які-небудзь дурнаваты язь або лешч, уцякаючы «на ваду», трапляў у сетку.

Дзядзька выбіраў месца, дзе магло што-небудзь злавіцца, і каманду свайму памочніку падаваў шэптам.

— Асцярожней, асцярожней! Ну, спускай сетку на дно ціхенька-ціхутка ды глядзі, каб яна не завісала на корані або на купіне, бо рыба пад ніз пойдзе. Ну, стаўляй!

Сетку шчыльна ставілі на дно ў адпаведным месцы. Андрэй стаяў нерухома каля краю сеткі, пакуль дзядзька Марцін, трымаючыся за абруч з процілеглага боку, не заносіў як мага далей нагу і не «замельваў» ёю, паволі гонячы рыбу. Калі такі рух быў зроблены, таксама заносіў нагу і боўтаў Андрэй, каб рыба не заставалася пры беразе. Тады ўдвух падымалі сетку, прычым падымаць трэба было хутка. Так адбываўся першы зачын.

Раптам пры першым зачыне, калі паднялі сетку, з куля бухнуў здаравенны шчупак, высока падскочыў угору, апісаў у паветры дугу і вось-вось быў гатовы пляснуцца ў ваду! Дзядзька Марцін рвануўся, як тыгр, і падставіў сетку, каб падхапіць яго. Збегліся Якуб, вартаўнік-Янка. І якая гэта была агульная радасць, калі шчупак фунтаў з пяць пачаў біцца ў кулі сеткі!

— Не, брат, дудкі! — урачыста прамовіў Марцін.

Удвух з Андрэем неслі яны сетку на бераг, трымаючы вусцем угору, і, толькі адышоўшыся далей ад вады, перавярнулі яе кулём на дол. Ладны шчупак, яшчэ, можа, большы, чым здалося адразу, доўга трапятаўся, падскокваў угору, пакуль не аслабеў.

— Ну, і спрытняк вы, дзядзька Марцін! Каб не вы, плаваў-бы шчупак у Нёмане! — у шчырым захапленні казаў Янка.

— Гэта, брат, рэдкі выпадак, проста пашанцавала, — заўважыў Марцін. — Але калі яму прызначана трапіць у гаршчок або на патэльню, дык тут ужо нічога не папішаш. — Дзядзька Марцін рэдка калі дазваляў сабе выхваляцца спрытам, хоць і быў чалавек дасціпны і спрытны. І ўсё-ж пышны вус Марціна стаяў яшчэ доўгі час на пазіцыі шчаслівай усмешкі.

— Так, брат, і я зраблюся хутка рыбаком, — сказаў Янка.

Выпадак са шчупаком прынёс многа вясёлага ажыўлення. Дзядзька Марцін і Андрэй зараз-жа зноў палезлі ў Нёман. Сонца яшчэ не зайшло, але яго вялізны чырвоны круг ужо апускаўся на паверхню зямлі. Завоіна-ж была амаль уся наперадзе. Рыбакі яшчэ больш асцярожна пасоўваліся ўздоўж берага. Шапталіся, ставілі сетку і падымалі яе. Дзядзька Марцін ціха гаварыў Андрэю:

— Калі пачуеш, як у сетку таўхане што, дык хватай угору: гэта напэўна будзе шчупак.

Амаль у кожны заход траплялася сякая-такая дробная рыбка. Пападалася і ніштаватая. Трывогі рыбакам і наглядальнікам нагнаў язь. Праўда, ён быў фунты два, а лопату ў сетцы нарабіў фунтаў на чатыры. І тым не меней усе былі задаволены, тым болей, што, апроч язя, у сетцы плюхаліся ніштаватыя ляшчы. Часта трапляліся плоткі, акуні, яльцы́. Укаціўся ў сетку малавёрткі мянтуз і адзін дужа паважны і гультаяваты лін. Ён ляжаў у сетцы так спакойна, што дзядзька Марцін спачатку не заўважыў і ледзь быў не выкінуў яго ў ваду.

Надыходзіў вечар, змяркалася. Трэба было вылазіць з вады, але Марцін, што-б там ні стала, захацеў яшчэ раз паставіць сетку каля купінкі аеру. Прылаўчаліся доўга, асцярожна. Нарэшце дзядзька мяльнуў нагою. Патапталіся трохі. Марцін з вялікаю надзеяй падняў сетку. Рыбы не было, затое паважна сядзела дзябёлая зялёная жаба і са здзіўленнем пазірала на незнаёмую абстаноўку. Якуб так і паехаў са смеху.

— Злавілі плотку, што не лезе ў глотку! — рагатаў ён.

Дзядзька Марцін вытрас сетку, а потым выпаласкаў з яе розны бруд і твань на чыстай бягучай вадзе.

Рыбакі старанна вымыліся і палезлі на бераг адзявацца і падлічваць трафеі. Лоўля аказалася болей, чым удачная. Дзядзьку-ж Марціну прышла думка — буйнейшую рыбу занесці заўтра раненька або яшчэ лепей сягоння ў Панямонь. А заўтра якраз пятніца, вечарам заходзіць яўрэйскае свята — шабас. У такі час на рыбу надзвычайна вялікі попыт. Дзядзькаву думку падтрымалі. Дома рыбу перабралі. Драбнейшую пакінулі сабе, адбор-

ную-ж Андрэй і Янка патарабанілі ў Панямонь. За парогам Янка сказаў:

— Плакаў, плакаў, а бог быў аднакаў, пачаў танцаваць, пачало шанцаваць.

— Мы трапілі ў добры струмень, — згадзіўся Лабановіч. — А што прынясе заўтрашні дзень, няхай яно таксама будзе радасным.

— Добра на лузе ў час сенакосу, — прызнаўся Янка.

## XXIX

Часамі, як кажуць, чалавек трапляе ў шчаслівы струмень, што так лагодненька носіць цябе па хвалях жыцця. І ты моцна жадаеш, каб гэты струмень як мага даўжэй калыхаў і песціў, гойдаў цябе, нідзе не страсянуўшы, не падкінуўшы на выбоіне. Але так бывае вельмі рэдка і вельмі нядоўга. Струмень твой раптам расплывецца, развеецца, як лёгкі ранішні туман, і ты застанешся пры тымжа старым, разбітым карыце.

Андрэй і Янка захапіліся рыбацтвам. Ім спачатку шчасціла. На рыбе яны трохі падмацаваліся. Янка гаварыў часамі:

— Чорт яе бяры, настаўніцкую службу! Перавяду стрэлкі на рыбацтва!

Янка нават марыў набыць другую таптуху, бо калі адною сеткаю яны ў сярэднім лавілі па дзесяць фунтаў, дык у дзве зловяць поўпуда.

Андрэй з гэтай прычыны сказаў Янку:

— Аднойчы ішоў я праз мост у Панямонь. Пад мостам ляжала старое рэчышча — нямнішча, заросшае лотаццю і рознаю травою. Там было мелка і гразка. У гэтай азярыне тапталася з браднікам чарада жанчын. Калі яны захоплівалі рыбу, дык шумелі, крычалі, лемантавалі. Адна ўжо немаладая панямонская кабета, трымаючы ў зубах і смокчучы, як суслу, ёмкую папяросу, з захапленнем казала: «Вось налаўлю рыбы і, далі-бог, куплю каня!» — Дык ці не падобен і ты да той жанчыны?

— І нашто-ж ты разбіваеш мае, можа, самыя лепшыя мары? Няўжо-ж чалавек не мае права хоць у думках пабыць шчаслівым? — сказаў Янка.

— І тая жанчына была шчаслівая ў сваіх думках; а вось ці купіла яна каня за налоўленую рыбу, не ведаю. Напэўна — не.

Касьба, шчаслівая пара, тым часам скончылася. Дзядзька Марцін сказаў аднойчы Андрэю:

— Сёлета з сенам ў нас, браце, скупавата. Прыдзецца цялушачку прадаць. А шкада! Удалая цялушка.

Андрэй адказаў:

— Ведаеш, дзядзька, а што калі ўзараць кавалак поплаву каля агарода, дзе капуста, ды засеяць аўсом з вікаю, прыцярушыўшы гноем.

Дзядзька Марцін задумаўся.

— А што ты думаў? — сказаў ён.

Думка гэтая яму спадабалася.

Назаўтра Андрэй з Янкам, прышоўшы з рыбы, убачылі завораны поплаў, старанна выбаранаваны і нават прыгладжаны валікам. Андрэй употайку насіў на засеяную мясціну попел і, не шкадуючы, рассяваў яго, пакуль не пабачыў, як густа і зелена ўсходзілі авёс і віка.

Яшчэ ў часе касавіцы да Лабановіча прышло пісьмо ад Райскага, сакратара неіснуючага настаўніцкага бюро. Ён у вялікім захапленні пісаў: «Ці ведаеш, старына, якая важная навіна? І хто-б мог паверыць! Шмідт, рэдактар «Минского голоса», адвёў месца ў сваёй газеце для артыкула аб нашым няўдачным сходзе, бярэ нас пад абарону! Што-ж гэта ў лесе здохла? Вось табе і Шмідт! Выходзіць, калі не родны, дык хросны бацька!»

Андрэй і Янка весела пасмейваліся, чытаючы гэтае пісьмо, але раскрываць тайну з'яўлення артыкула палічылі непатрэбным і нават шкодным. Яны напісалі Райскаму, шмат выказвалі радасці, надзей на шчаслівы канец і накідаліся на нікчэмства ўсяе чыноўніцкай тармасні вакол настаўніцкага сходу. І ўсё-ж-такі дадалі евангельскія словы, упэўненыя ў тым, што іх пісьмо чыноўніцкіх рук не міне: «Бойся ўсявышняга і не гавары лішняга».

І вось тут шчаслівы струмень перастаў іскрыцца і насіць прыяцеляў па лагодных хвалях.

Новы панямонскі ўраднік — Кашчэй, відаць, падаўся ў адстаўку — прыехаў на добрым кані і на фарсістай брычцы на хутарок, дзе жылі Янка і Андрэй. Ураднік са-

скочыў з брычкі, прывязаў каня, а сам падаўся ў двор. Сябры сустрэлі яго каля весніц.

— Заходзьце, калі ласка, — сказаў Андрэй.

Ураднік паздароўкаўся, нават узяў пад казырок і паціснуў прыяцелям рукі.

— Ставоліч, — назваў ён сябе. — Вы мяне прабачце, але служба ёсць служба... Хто Андрэй Лабановіч? — запытаў ён, быстра акінуўшы позіркам сяброў.

— Я! — сказаў Лабановіч.

Ставоліч выняў з партфеля, такога-ж фарсістага, як і сам урадпік, пакет з паважнаю пячаццю мінскага жандарскага кіраўніцтва.

— Папрашу вас распісацца, — сказаў Ставоліч, паказваючы ў спісе месца для подпісу.

Лабановіч распісаўся. Ураднік развітаўся, зноў узяўшы пад казырок, сеў у брычку і паехаў. Калі брычка схавалася на паваротцы за пышнымі кустамі ялоўца, Лабановіч акуратненька абарваў вузенькую палоску з пакета. Янка стаяў і недаўменна пазіраў на Андрэя. Янку на момант пачулася, што між імі хтось праводзіць мяжу.

— Што піша ротмістр?

Замест адказу Андрэй перадаў Янку паперу. На адной лініі з подпісам ротмістра была прыбіта пячаць.

Жандарскі ротмістр пісаў:

«Гэтым прадпісваецца вам 12 жніўня 1907 г. з'явіцца ў г. Мінск, Падгорная, 16, для дачы паказання па справе настаўніцкага сходу, які адбыўся ў с. Мікуцічы 9 ліпеня 1906 г. У выпадку няяўкі вы будзеце арыштаваны і дастаўлены па этапу».

Подпіс быў невыразны: можна было чытаць і Салтанаў, і як Салтысанаў.

Сябры моўчкі пераглянуліся.

— А чаму-ж не прывезлі пакета і мне? — крыху разгублена запытаў Янка. І выгляд меў такі, нібы яго пакрыўдзілі.

Андрэй ускінуў плячамі і рукі развёў, што азначала: «Не ведаю».

— Я толькі абегла заўважыў у спісе, дзе распісваюцца ў атрыманні пакетаў, сваё прозвішча, прозвішча Уладзіка Сальвэсева і нейкага незнаёмага мне Тургая. Болей нічога не было там.

Янка ў сваю чаргу паціснуў плячамі і ў поўным неўразуменні прамовіў:

— Дык што-ж гэта значыць?

Лабановічу лезлі ў галаву розныя думкі, дагадкі, прыпушчэнні. Але перш чым выказаць іх, трэба было перадумаць, узважыць і ўжо тады гаварыць.

Каб развесяліць Янку, Андрэй расказаў пра адзін выпадак, які нібы меў месца ў практыцы студэнтаў. Прафесар на лекцыі паставіў нейкі дослед. Пасля гэтага, упэўнены, што апарат усё паказвае як належыць, урачыста запытаў: «І што-ж мы бачым?» У апараце нічога не было відаць. Тады прафесар сказаў: «Мы бачым, што мы нічога не бачым, а чаму нічога не бачым, мы зараз пабачым». Дык і я магу сказаць, — дадаў Андрэй, — нічога невядома. А чаму невядома? А таму, што нічога невядома. Пасля допыту буду ведаць. — А потым прыняў паставу артыста на эстрадзе і прадэкламаваў, па-акторску падняўшы руку:

Кто снидет в глубину морскую,
Покрытую недвижно льдом?
Кто испытующим умом
Проникнет бездну роковую
Души... жандармской?

«Жандармской» Андрэй ужыў замест «коварной».

— Ніякай загадкавай тайны няма ў жандарскай душы, бо яна голая, як калена, без ніводнага валаска. Уся-ж сутнасць жандарская месціцца ў словах: «ташчыць і не пушчаць», — сказаў Янка.

Андрэй палажыў руку на плячо Янку і прамовіў евангельска-царкоўным тонам:

— Няма нічога патайнага, што не стала-б яўным, як казаў калісь дзяк Бацяноўскі. Пачакаю трохі: да дванаццатага жніўня застаецца не так ужо многа. А можа, і да гэтага часу што-небудзь адслоніцца.

— Эх, прападзі яны пропадам! І пажыць спакойна не даюць. А жылі мы з табою, як рыбка з вадою. І яшчэ можна было-б палавіць — надвор'е, глядзі, якое добрае!

— Дык што-ж? Давай апранёмся ў рыбацкую адзежу ды пойдзем патрасём азярыны.

Гутарка спынілася: падыходзіла Андрэева маці.

— Скажы, сынок, чаго прыязджаўураднік? — запытала яна. — Які пакет ён табе прывёз?

— Ды ты, мама, не трывожся: проста трэба праз нейкі тыдзень заявіцца да прystава: я-ж пад наглядам паліцыі. Баіцца, каб не збег куды.

Маці ўздыхнула, нічога не сказала і пайшла пыніць сваю работу. Яна зусім заспакоілася, калі хлопцы апранулі рыбацкую адзежу і падаліся ў бок Нёмана.

— Ведаеш што? — сказаў Янка. — Калі будзе багаты наш улоў, дык гэта будзе азначаць, што нічога благога не здарыцца з табою ў жандарскага ротмістра.

— У пэўныя хвіліны мы любім цешыць сябе ўсялякім глупствам, — адказаў Андрэй.

## XXX

Непрыметна праходзіў час.

Амаль кожны дзень Андрэй праводзіў у полі, вязаў ячмень, авёс, памагаў дзядзьку Марціну звозіць збажыну і складаць у гумне. Кожную раніцу або ў іншы вольны час зазіраў ён і на ўзораны поплаў. Авёс і віка раслі так буйна, што проста люба было паглядзець. Нават людзі, праходзячы ўскрай Нёмана, зварочвалі з дарогі, каб палюбавацца, як пышна і дружна падымаецца рунь, і самі сабе ківалі галовамі.

— Вось табе і сіняпёс! А такога аўса з вікаю і ў панскіх дварах не знойдзеш.

— А гэта, кажуць, Андрэй дарадзіў Марціну пасеяць тут авёс з вікаю. І падгнаілі пасеў дый попелам папасыпалі, — не без зайздрасці гаварылі людзі з Мікуціч. — На ўсё ўмельства трэба і практыка, — дадавалі яны глыбокадумна.

Сам дзядзька Марцін сяды-тады наведваўся на паплавец. Калі ён пазіраў на гонкі рост свайго засеву, дык дзядзькаў твар свяціўся, як месяц у поўню, а пышны вус сам сабою ставіўся на пазіцыю задаволення.

Кожную раніцу на досвітку, калі пачалі расці баравікі, Андрэй, захапіўшы кош, бег у хвайнякі па грыбы. Для яго не было болей прыемнага занятку, як хадзіць па баравінах і шукаць баравікі. Нідзе не было іх так многа, як у мікуціцкіх баравінах. Ды што за баравікі!

А якое чыстае і звонкае паветра ў летнюю раніцу! Гукнеш, дык здаецца, што хвойкі пераклікаюцца адна з другою і кожная падае свой голас. А якая радасць для сапраўднага грыбніка, калі насунешся на многалікую сям'ю рознага ўзросту чорных, з адценнем срэбранага налёту на маладых пругкіх шапках, ладных, ні з чым не параўнаных баравікоў! Усё тады забываеш на свеце, нават жандарскага ротмістра.

У Янкі не было ахвоты цягацца з кашом па хвайняках, ён слаба арыентаваўся ў лесе дый вочы меў блізарукія. А таму ён лічыў за лепшае паспаць або проста паляжаць на свежым пахучым сене, падумаць ды паразважаць. Калі-ж Янка перабіраўся ў свет сваіх мар, сваіх запаветных думак, тады ён быў да ўсяго глухі і нямы. Аб чым ён толькі не думаў, не марыў? Але гэта было святая святых, аб гэтым ён нікому не расказваў, нават Андрэю. Дый расказваць было трудна: хіба можна выказаць у словах тыя няўлоўныя лятункі і пачуцці, што напаўнялі яго сэрца і розум? Янку здавалася, калі пачне ён пра ўсё гэта расказваць каму-б там ні было, дык усе яго самыя яркія адчуванні зліняюць, і нічога ад іх не застанецца.

Адзін раз Андрэй, назбіраўшы поўны, пад самую ручку, кош дасканалых баравікоў, зайшоў па дарозе ў гумно праверыць — там Янка ці пацягнуўся куды. Прыяцель ляжаў на свежым пахучым сене.

— Янка, ты тут?

— Тут, браце, — азваўся Янка.

— Што-ж ты качаешся, абібок ты! — па-прыяцельску папікнуў Андрэй. — Злазь, купацца пойдзем!

Янка борздзенька нацягнуў майткі і верхнюю кашулю, хадакі ўзяў у руку і спусціўся на ток.

— Хоць-бы ты пайшоў палавіў рыбы вудаю.

— Дай ты свет! — махнуў рукою Янка. — Тфу! Тфу! — плюнуў ён два разы.

— Што з табою здарылася? — запытаў Андрэй.

— Тфу! — плюнуў яшчэ раз Янка. Не відаць было, каб ён быў хворы.

— Ведаеш, брат, такая прыснілася брыда, што і цяпер яшчэ праціўна ў роце.

— Што-ж ты сніў?

— Сніў, браце, што хадзіў па лузе, збіраў горкі чэмер і еў.

Нельга было без смеху глядзець на Янкаву скрыўленую міну. Лабановіч аж клаўся са смеху, слухаючы прыгоды, што прысніліся яго прыяцелю.

— Можна сказаць, сон біблейскі.

Раздзеўшыся, Янка кінуўся ў Нёман, плыў, набіраў у рот ваду, паласкаў рот і адплёўваўся.

— Багаты будзеш, Янка, раз прысніў такі сон.

— Калі-б гэта была праўда, дык я гатоў яшчэ прысніць яго, — жартаваў Янка. А потым павярнуўся да Андрэя і сказаў: — А можа, і сапраўды пабагацею... Ведаеш, мой дзядзька Сымон, настаўнік Якшыцкай школы, прыслаў пісьмо, каб я прыехаў да яго. Кажа, добры заработак ёсць.

— Вось бачыш: сон табе ў руку. А калі атрымаў ты пісьмо?

— Нядаўна Якуб прынёс, пераслалі з Мікуціч. Як ты мне раіш, ехаць ці не ехаць?

— А чаму-ж не паехаць? Вазьмі толькі дазвол ад паліцыі.

Праз дзень Янка сабраўся ў дарогу, а яшчэ праз дзень маці, дзядзька Марцін, Якуб з сёстрамі праводзілі і Андрэя за вароты двара. Дзядзька хацеў завезці яго да станцыі на падводзе. Андрэй катэгарычна адмовіўся.

— Не ўсё яшчэ сабрана з поля, нашто марнаваць час?

Маці доўга стаяла каля весніц і глядзела ўслед. У яе сэрцы была крыўда: Янка паехаў у вёску да дзядзькі на нейкія заработкі. А чаго-ж Андрэя цягнуць у Мінск? Не на добрае гэта. Яна стаяла, пакуль Андрэй не перайшоў Сярэднюю гару і не знік з вачэй.

Нярадасна было на сэрцы і ў Лабановіча. Па-першае, яму шкада было пакідаць дом і родных. Ён ведаў, як смуткуе па ім маці і ўсе блізкія. Па-другое, непакоіла так-сама і думка, чаму толькі яго і Уладзіка з усёй настаўніцкай грамады выклікаюць да жандарскага ротмістра? Гэты неспакой яшчэ болей павялічыўся, калі Андрэй даведаўся на станцыі Стаўбуны ад аднаго знаёмага аб тым, што Уладзіка Сальвэсева пасадзілі ў бабруйскую турму. Арыштавалі нібыта за пашырэнне пракламацый і

нелегальнай літаратуры. А якая-ж прычына для таго, каб выклікаць яго, Лабановіча? Можа, супрацоўніцтва ў беларускай газеце?

Дарога трохі заспакоіла. Лабановіч спакваля звыкаўся і з самою думкаю аб допыце ў жандарскага ротмістра. Цешыла яго і тое, што дзядзька Марцін і сям'я не будуць сядзець галоднымі, бо з поля ўсё сабралі. Нават і цялушачкі не прыдзецца прадаваць. З такімі думкамі ехаў Андрэй у Мінск.

На Падгорнай вуліцы тагочаснага Мінска было болей дзервяных дамоў, чым цагляных. Домік, у якім змяшчалася канцылярыя і кватэра жандарскага ротмістра, стаяў у глыбі двара. Накрыты, прасторны ганак-веранда амаль губляўся ў густой зелені дзікага вінаграду. На сцяне, на відным месцы, была прыбіта пафарбаваная бляшаная дошка з выразным нумарам дома. Разглядаючыся, Андрэй ціха ўзышоў на абвіты зелянінай ганак. Збоку на сцяне, пры ўваходзе ў жандарскае котлішча, вісела на тоўстым дроце ручка званка. Лабановіч пастаяў трохі, паразважаў, зірнуў на гадзіннік. Была палавіна адзінаццатай, час, калі чыноўнікі сядзяць ужо за сваімі сталамі. Лабановіч пацягнуў за ручку і стаў прыслухоўвацца. Неўзабаве пачуліся павольныя цяжкія крокі. Дзверы адчыніў здаравенны жандарскі вахмістр. Ён акінуў Лабановіча пранізлівымі сярдзітымі вачамі і сурова запытаў:

— Вам што трэба?

Лабановіч моўчкі падаў яму выклік да ротмістра з такім выглядам, нібы і сам ён — важная асоба. Вахмістр узяў пакет, паглядзеў на яго, потым на Лабановіча і яшчэ болей сурова буркнуў:

— Заходзьце!

Ён правёў Лабановіча ў прыёмную, паказаў на жорсткую дзервяную канапу.

— Чакайце тут! — а сам падаўся кудысьці ў глыб дома.

«Відаць, спіць або снедае», — падумаў Лабановіч. Але хвілін праз пяць здалёку пачуўся звон шпораў, і зараз-жа ўвайшоў ротмістр. Не прывітаўшыся, ён адчыніў свой кабінет і, кіўнуўшы галавою ў бок дзвярэй, спакойна сказаў:

— Ступайце за мною!

Ротмістр пайшоў паперадзе, за ім Лабановіч, а вахмістр замыкаў працэсію.

Ротмістр сеў за стол у крэсла. Цяпер Лабановіч разгледзеў яго зблізку. Гэта быў чалавек сярэдняга росту, яшчэ малады, шырокаплечы, акуратна апрануты ў форму афіцэра царскай арміі. Твар у яго быў прыгожы і нават сімпатычны. У кожным руху заўважалася ваенная выпраўка. Ён паказаў Лабановічу рукою на крэсла каля стала, а сам адамкнуў скрынку, дастаў даволі ёмкую папку, дзе ляжалі розныя паперы і дакументы. Знайшоўшы рукапісны аркуш, ён палажыў яго перад Лабановічам.

— Тут запісана паказанне аднаго з вашых калег. Можаце азнаёміцца з ім. — Затым ротмістр дастаў са стала аркуш чыстай паперы. — Напішыце коратка аб вашым удзеле ў настаўніцкім сходзе, што гэта быў за сход? Пастарайцеся ўкласціся ў адну гадзіну. Зможаце?

— Пастараюся.

Ротмістр замкнуў стол і цвёрдаю, хуткаю хадою вышаў з кабінета ў другія дзверы, завешаныя шторaю.

Перш чым брацца за справу, Лабановіч узяў «паказанне аднаго з калег». Уладзік Сальвэсеў пісаў па тым плане, што быў выпрацаваны Лабановічам і Янкам.

Прыём і паводзіны ротмістра дужа здзівілі Андрэя. Жандарскі вахмістр таксама вышаў з кабінета, і Андрэй застаўся зусім адзін. «Што гэта: хітрасць нейкая, пастка?» — пытаў самога сябе Лабановіч. «Напэўна, за мною сочаць з патайнога кутка. Трэба быць асцярожным».

Вызначаны тэрмін яшчэ далёка не сышоў, а сваё паказанне Андрэй напісаў і напісаў акуратна. Пасля гэтага ён стаў разглядаць кабінет, не сыходзячы з месца. На пярэднім плане вісеў партрэт Мікалашкі другога і яго царыцы. І болей нічога не было на сценах.

Заставалася ўжо мала часу да канца тэрміну. «Што-ж далей будзе?» — гэта непакоіла Андрэя. Роўна праз гадзіну прышоў ротмістр. Відаць, ён падмацоўваўся — ад яго патыхала кан'ячком.

— Ну, што? — запытаў ён, сеўшы ў крэсла.

Лабановіч падаў аркуш моўчкі. «Чым меней гаварыць, тым лепей», — зазначыў у думках Андрэй.

Ротмістр пільна прыглядаўся да напісанага. Здавалася, яго болей цікавіў почырк, чым змест.

— А прыгожы ў вас почырк, — сказаў ён.

— Настаўніку ўжо так паложана.

Ротмістр адамкнуў скрынку стала, узяў нейкі рукапісны аркуш, паўглядаўся, перавёў вочы на запіс Лабановіча, а затым і на яго самога. Ротмістр пасміхнуўся і прамовіў:

— Я не прарок, а магу вам сказаць, што ваш почырк адыграе ролю ў вашым жыцці... Можаце быць свабодным. — І ротмістр кіўнуў галавою, даючы знак, што Лабановіч можа ісці.

## XXXI

Апынуўшыся на вуліцы і пераканаўшыся, што ззаду жандараў не відаць, Лабановіч адчуў сябе так, як-бы з яго плячэй зваліўся цяжкі камень і сам ён другі раз нарадзіўся на свет. Усе страхі, што варушыліся ў свядомасці, развеяліся і расплыліся, як хмары ў сухмень. Але на змену страхам прышло пытанне: чаму жандарскі ротмістр так уважна ўглядаўся ў характар рукі Лабановіча? Праўда, гэта магла быць проста выпадковасць, тым болей, што ён і ад сяброў чуў пра свой прыгожы почырк. І ўсё-ж на гэтае пытанне дакладнага адказу не знаходзілася. Але ўжо добра адно тое, што ён вольна ходзіць па вуліцы, зліваецца з людзьмі, што шнуруюць туды і сюды па тратуарах. Як-бы добра было пагутарыць зараз з Янкам! Ды Янка далёка, жыве дзесь на рэчцы Беразіне ў дзядзькі.

Болей блізкага знаёмага, як Балоціч, у Андрэя тут не было. Хвілін праз дзесяць ён пераступіў парог чысценькай кватэры былога сябра.

— А, гэта ты, крамольнік! Ну, рады бачыць цябе. — Такімі словамі, аздобленымі жартам, сустрэў Балоціч Андрэя. — Сядай! — сказаў ён госцю. — А ці-ж скора вас будуць судзіць?

Пытанне, як і ўсе паводзіны Балоціча, не спадабаліся Андрэю. Не падабалася яму прылізанасць і кватэры, і самога гаспадара яе, і падкрэслены парадак ва ўсім.

— Пра суд нам стане ведама тады, калі ўручаць павесткі. Хіба, можа, ты што-небудзь чуў? Ты-ж маеш доступ у «вышэйшыя сферы», а нам туды зачынены дзверы, — даволі суха адказаў Лабановіч.

— А ты ўжо і надзьмуўся! — заўважыў Балоціч. — У «вышэйшых сферах», як ты кажаш, я не бываю. Дый само разуменне «вышэйшыя сферы» неакрэсленае. А вось ад пісарчука аднаго — не ведаю, з якіх ён... «сфераў» — я чуў, што ўся ваша справа, дарэчы сказаць, бязглуздая, пойдзе на скасаванне.

— Што ты кажаш?!

— Тое, што ты чуеш.

— Каб справа пайшла на скасаванне, гэта было-б вельмі добра. Але чаму-ж мяне выклікалі да жандарскага ротмістра для дачы паказання? Вось толькі што вырваўся адтуль!

Балоціч ускінуў плячамі.

— А пра што ў цябе дапытвалі?

— Па сутнасці і допыту ніякага не было. Сказаў жандарскі ротмістр напісаць, як праходзіў настаўніцкі сход і што там было. І нават дазволіў пацікавіцца, што паказвалі мае сябры, даў мне цэлую бібулу папер.

Лабановіч расказаў, як ротмістр хваліў характар пісьма паддопытнага.

— Што-ж, можа, мяркуе ўзяць у справаводы цябе, — заўважыў Балоціч.

— Эх, брат Балоціч! Табе смешкі ды жарты. Каб ты быў на маім месцы, так лёгка я не паставіўся-б да цябе. І скажы, чаму наш сход называеш ты бязглуздзіцаю?

— Ды вельмі проста, у ім няма ніякага сэнсу.

— Чаму?

Балоціч іранічна пасміхнуўся, а потым ужо сур'ёзна, нават злосна адказаў:

— Дзяржаўны лад мануліся разбурыць, цара скінуць і замест аднаго паставіць тысячы цароў у асобе розных камітэтаў, муніцыпалітэтаў, комун, сябрын... І гэта ваша народапраўства?! Моські вы, што брэшаце на слана!

Лабановіч паглядзеў на Балоціча, як-бы не даючы веры, што перад ім былы таварыш. Стрымліваючы во-

струю ўспышку абурэння, ён спакойна і з адценнем суму сказаў:

— Эх, Косцік! Як моцна засеў у цябе князь Мяшчэрскі і ўся закваска чыноўніцка-папоўскай семінарыі! Як усё перамяшалася ў тваёй галаве!

— Не ведаю, у каго болей перамяшалася, — агрызнуўся Балоціч. Відаць, ён быў не ў гуморы.

— Не будзем спрачацца, у чыёй галаве большая мешаніна, — спакойна адказаў Андрэй, — але нашто гаварыць тое, чаго ты не ведаеш і не разумееш? Пэўна-ж, лягчэй, зручней і выгадней спяваць: «Боже, царя храни», чым заступацца за абяздоленых, галодных людзей і мець за гэта штурхялі жандараў і паліцыі ды косыя погляды чорнасоценцаў усіх масцей.

— Даволі я наслухаўся ўсякіх агітатараў і начытаўся розных пракламацый, дык ты мне такіх песень не спявай, — перапыніў Андрэя Балоціч.

Лабановіч паглядзеў на яго, памаўчаў. А потым ціха прамовіў:

— Прабач! Песні ў нас розныя, і нашы дарогі скіраваны ў процілеглыя канцы. Ды хто ведае? Жыццё не стаіць на адным месцы. Адно толькі магу сказаць: па дарозе князёў мяшчэрскіх, дубровіных і гамзеяў гамзеевічаў я не пайду!

— Гэта твая справа. Чалавек есць хлеб траякі: белы, чорны і ніякі.

Лабановіч усміхнуўся.

— Мне здаецца, што ты любіш больш за ўсё белы хлеб.

— Гэта ўжо мая справа. Табе-ж вось што скажу: тая дарога, па якой ты ідзеш, завядзе цябе не туды, куды ты хочаш.

Лабановіч падняўся, каб пакінуць кватэру былога сябра: шмат разоў чуў ён такія гутаркі. На памяць прышоў пісар Дулеба, з якім вялася гэткая-ж спрэчка.

— Вось ты ўжо і надзьмуўся, як мыш на крупы, — пагадліва сказаў Балоціч. — Пасядзі, перакусім!

— Дзякую! Мне трэба ехаць дамоў, зараз адыходзіць поезд, — адмовіўся Андрэй ад пачастунку.

Балоціч недаўменна пазіраў на былога друга, але не ўпрошваў яго застацца. Ужо стоячы на парозе, Лаба-

новіч дакорліва ўсміхнуўся і нечакана для самога сябе сказаў:

— Ніводзін цар не ездзіў каранавацца верхам на свінні. Бывай!

З гэтымі словамі, не падаўшы рукі, Андрэй вышаў за дзверы. Балоціч, застаўшыся адзін, кіўнуў сам сабе галавою.

— З глузду з'ехаў, ці што? Ці розум за розум зайшоў?

## XXXII

Андрэй ішоў на станцыю. У галаве праносіліся розныя думкі. І недарэчны допыт у кабінеце жандарскага ротмістра, і размова з Балоцічам, якая па сутнасці была сваркаю.

Балоціч-жа ў гэты час сядзеў за рабочым столікам, абапёршы галаву на рукі. Ён думаў аб тым, што несправядліва пакрыўдзіў Андрэя... На памяць прышло адно здарэнне, Балоціч прыгадаў выпадак у сваім жыцці. На семінарскіх канікулах, калі Балоціч быў ужо на апошнім курсе, ён пазнаёміўся з дачкою чыгуначнага інжынера, якая канчала гімназію. Балоціч моцна пакахаў Валю, а Валя яго. Гэтае першае, чыстае, нясмелае каханне захапіла Балоціча. Яму цяжка было захаваць пачуццё ў глыбіні свайго сэрца. Трэба было знайсці такога друга, якому ён мог-бы даверыць каханне і падзяліцца сваімі пачуццямі. І лепшага ахоўніка сардэчнай пячаці ён не мог знайсці, апроч Лабановіча. Цэлую ноч, прылёгшы на адзін ложак з Андрэем, расказваў Балоціч пра Валю, якая яна мілая, прыгожая і як кахае яго. А назаўтра ўдзень паказаў дзяўчыніну фатаграфію, чытаў яе пісьмы. Лабановіч свята ахоўваў даручаную яму юнацкую тайну і прыняў удзел у сардэчных справах сябра. Часамі яны разам складалі пісьмы да Валі, гаварылі аб ёй. Усё гэта зблізіла сяброў і парадзіла паміж імі шчырую дружбу. З год перапісваўся Балоціч з Валяй. І вось аднойчы прыслаў Лабановічу пісьмо, поўнае роспачы і сардэчнага смутку: Валя знайшла сабе болей выгаднага і знатнага жаніха і вышла замуж. Лабановіч, як мог і як умеў, су-

цяшаў Балоціча і не асуджаў Валю. Што ёй за пара бедны, малавядомы вясковы настаўнік?

Усё гэта зараз прыгадваў Балоціч. Яго давераная асоба свята ахоўвала тайну друга і ніколі нічым не абражала яе. Але ўсё адышло ўжо ў прошласць і забылася, як першая веснавая навальніца...

Лабановіч таксама адчуў і зразумеў, што Балоціч быў выпадковаю з'яваю ў жыцці, прыяцелем да пары. Дзяўчына адышла. Балоціч падаўся на іншую дарогу. І зараз дарогі іх скіраваны ў процілеглыя бакі. Дык не было падставы гараваць па страце друга, друга да першай крутой паваротки.

У Стаўбунах Лабановіч сышоў з поезда. Ён забег на пошту, апусціў у скрынку пісьмо да Янкі, падрыхтаванае ў дарозе. Андрэй паведамляў аб тым, як лёгка адрабіўся ён у жандарскага ротмістра. Не забыўся і пра тое, што найбольш цікавіла ротмістра ў паказаннях і што гэта з'яўляецца для Андрэя неразгаданаю загадкаю. На пошце было пісьмо і ад Янкі.

«Дарагі мой беспрытульны вандроўнік Андрэй! Кожную часіну думаю аб табе, малюся ветру, сонцу і хмарам, каб яны адганялі ад цябе напасці, якімі ўсеяны нашы дарогі. Сам-жа я жыву, як вол на бровары: ёсць што есці і ёсць што піць. Маю сякія-такія заработкі. Коцяцца да мяне рублікі, а часамі траячкі і пяцёркі. Школа майго дзядзькі Сымона стаіць непадалёку ад Бярозы ў сяле Якшыцы. Слаўная гэта рэчка, хоць, можа, і не такая прыгожая, як наш Нёман. Каля берагоў трапляюцца цэлыя зараснікі розных лапухоў, вадзяной травы. А ў траве так і шворацца акуні, язі, голаватні. Шкада, што няма тут цябе: мы раздабылі-б таптуху і налавілі-б процьму рыбы. Я-ж без цябе сам, як рыба, выкінутая на пясок — ні чорту качарга, ні богу свечка. Пішы мне, як і што з табою. Падмацуй маю душу крылатым словам. Свайму-ж дзядзьку я не пара. Ён усё працуе, скардзіцца, сам сухі, нагадвае тарана, што нашы бацькі купляюць на каляды для поснай верашчакі. Абнімаю цябе, цалую. Твой Янка».

Андрэй некалькі разоў прачытаў пісьмо. Хацелася адказаць адразу-ж, ды лепш пачакаць: няхай прыдзе адказ

на тое, што паслаў ён, прыехаўшы ў Стаўбуны з Мінска.

Дні праз тры Андрэй, пакуль што вольны ў сваіх учынках і паводзінах, пайшоў на пошту ў надзеі атрымаць вестку ад Янкі. І, сапраўды, пісьмо прышло. Як толькі Андрэй апынуўся адзін, ён распячатаў канверт. Янка пісаў:

«Друг мой сардэчны, таракан запечны! Ты—і радасць мая, ты — і смутак мой. Тое, што ты паведаміў, мяне трохі занепакоіла. Пісаць табе пра гэта няма патрэбы, бо тое, што легла табе на сэрца, ляжыць каменем і на маім. Я доўга не спаў — усё думаў ды гадаў. Нарэшце стрэліла ў галаву... Ці памятаеш ты, як аднойчы прышоў я ў тваю «школу»? Тады-ж я сказаў адзін «афарызм»: «Смерць ёсць пачатак новага жыцця». Можа, я не зусім літаральна паўтараю яго, але сэнс такі. Нам чамусь не давялося пагутарыць пра гэта: ці афарызм быў няўдалы, ці нас адцягнулі іншыя думкі. Скажу проста, прыгадай нашу «скарбонку» і пакланіся карчу: ён скажа тое, што я табе сказаць хачу. Будзем простыя і лагодныя, як галубы, і мудрыя, як змеі, ды пальца нам у рот не кладзі. Ёсць мова, зразумелая для ўсіх, і ёсць мова, даступная для нямногіх...»

З Андрэевых вачэй нібы апала заслона: ён успомніў, як Янка прыносіў адозву ад невядомай групы настаўнікаў: яна пачыналася словамі: «Таварышы настаўнікі!» Аб гэтай адозве была ў сяброў грунтоўная гутарка. І, нарэшце, яе занеслі ў патайную скрынку пад выварат. Цяпер Лабановічу стала зразумела, чаму жандарскі ротмістр так пільна ўзіраўся ў почырк яго паказання і параўноўваў, зваряў потайкам з нейкім рукапісным лістком! Гэта-ж і была тая настаўніцкая адозва, адзін экземпляр якой схавалі сябры. А значыць — на Лабановіча падае падазрэнне, што адозву напісаў ён!

Мінуўшы возера і млын, Андрэй раптам спыніўся: прышла новая думка — збочыць з дарогі і наведацца ў Смалярню. Перад вачамі паўстаў выварат, «скарбонка» і адозва ў асмаленай скрынцы. Гэта адозва набывала зараз для Лабановіча зусім іншы сэнс, хацелася самому паглядзець на яе з новага пункту гледжання і параўнаць той почырк са сваім. Ці ёсць-жа падабенства?

Каб не сустракацца з людзьмі, Лабановіч ішоў хмызнякамі і зараснікамі, трымаючы кірунак на Смалярню. Нарэшце ён апынуўся ў Цёмных Лядах, абмінуў лесніковy хату, — з братам зараз яму не хацелася сустракацца. Смалярня і панyры лес вакол яе выглядалі зараз яшчэ болей непрыветна, чым зімою, калі белае адзенне крыху аздабляла і весяліла гэтыя ціхія ваколіцы.

Ні сцежкі, ні нават следу, які-б вёў пад запаветны выварат, тут не было, але Андрэй меў добрую зрокавую памяць і неўзабаве апынуўся на месцы. І гэты корч набыў цяпер новае значэнне: гэта быў не проста выварат, а як быццам лорд-ахоўнік дзяржаўнай пячаткі, як гэта заведзена ў Англіі.

Лабановіч прыпыніўся. Ён зараз-жа знайшоў канцы, за якія трэба ўзяцца, каб дабрацца да «скарбонкі». Яна стаяла ўсё ў тым-жа месцы, як і поўгода назад. Андрэй выцягнуў яе з-пад вывараду і мімаволі падаўся назад: на «скарбонцы» сядзела пухлая, агідная, на кароценькіх лапках, уся ў барадаўках, жаўтавата-шэрая жаба-рапуха!

— Ну ты, цётка, злазь адгэтуль! — сказаў Лабановіч, нахіліў «скарбонку» і строс жабу на зямлю. На вечка скрынкі няўзнакі нацярушыўся пясок і рознае смецце. У самой «скарбонцы» нічога не папсавалася, хоць трохі і паліняла ад часу. Тоненькія брашуркі і пракламацыі захаваліся добра. Сярод іх была і патрэбная адозва — самае важнае, што зараз найболей цікавіла Андрэя. Ён борздзенька акінуў яе вачамі. З першага погляду здавалася, што між характарам рукі, пісаўшай адозву, і почыркам Лабановіча небяспечнае падабенства нібы і было. Ён згарнуў адозву ў чатыры часткі, схаваў у кішэню, каб потым грунтоўна заняцца параўнаннем і зверкаю почыркаў.

Усё астатняе, што хавалася ў «скарбонцы», і сама скрынка цяпер былі ўжо непатрэбны. Лабановіч павыбіраў лісткі і брашуркі і падлажыў пад іх запалку. Папера загарэлася. Андрэй падтрос яе ражончыкам, каб апроч чорнага попелу нічога не засталося. Непаваротная жаба смешна заварушыла кароценькімі лапкамі, уцякаючы далей ад агню. «Скарбонку» Андрэй не паліў, каб не нарабіць шмат дыму, а паламаў яе на шматочкі і параскідаў па лесе. Ён апошні раз паглядзеў на выварат, нібы для

таго, каб развітацца з ім назаўсёды, а сам падаўся ў свой бок.

Не адзін раз, зашыўшыся ў патайны куточак, разглядаў Андрэй кожны радок і кожную літару адозвы. У выніку такіх разглядаў ён неаднойчы казаў сам сабе:

— Ну, дзе-ж тут падабенства? Якому дурню магла ўзбрысці ў мазгаўню такая думка?

Але Лабановіч быў яшчэ маласпрактыкаваны і дасведчаны ў жыцці чалавек. Ды ўсё-ж на памяць прыходзілі гутаркі старых людзей. Яны расказвалі, як адна рэч ператваралася часамі ў другую, белае рабілася чорным. Нарэшце Лабановіч махнуў рукою: няма чаго гадаць ды забягаць наперад. Можа, гэта адны толькі страхі. У выніку такіх разважанняў Андрэй сеў за стол пісаць Янку.

«Дзе ты, мілы, белабрысы? Дзе ты, адгукніся!» — Андрэй пачаў пісьмо словамі песні, як некалі ў Цельшыне. — «Слухай, дружа: я пакланіўся карчу, і ён даў мне тое, чаго мы не шукалі. Ды не мы шукаем бяду, а бяда шукае нас. Так было, напрыклад, з адным чалавекам, што прадаваў смятану. Да яго падышоў акалодачны. «Што продаеш?» — «Смятану». Акалодачны памачыў палец у смятану і аблізаў яго. «Што-ж ты брэшаш? — накінуўся ён на чалавека. — Гэта не смятана, а маслянка!» У акалодачнага знайшліся сведкі, якія таксама паказалі, што чалавек прадае маслянку. Патаргаваўшыся яшчэ трохі, акалодачны паказаў рукою на паліцыю і сказаў: «Калі ты будзеш стаяць на сваім, дык завяду ў акалодак!» І чалавек мусіў згадзіцца, што ён сапраўды прадае голую маслянку, і з гэтай прычыны смятана была канфіскавана. Усё гэта я кажу, каб ты ведаў, што ў пэўных выпадках адны рэчы пераходзяць у другія. Можна, скажам, давесці, што Пятрусь Маргун падобен з твару да архангела Міхаіла, што я — не я і хата не мая. Дык шкада, браце, што ты на Бярозе, а не тут са мною. Будзем жыць надзеяй, што сустрэнемся і станцуем танец «зялёнага асла».

Бывай здаровы!

P. S. Пад вываратам засталася адна шурпатая жабарапуха! «Скарбонка» растрасла свае костачкі па лесе.

Твой Андрэй».

## XXXIII

У чалавека ёсць два жыцці: адно жыццё творыць ён сам, а другое не залежыць ад яго і часта выходзіць за межы яго волі. Другімі словамі сказаць: у чалавека ёсць жыццё яўнае і ёсць жыццё прыхаванае, калі за цябе стараюцца пабочныя людзі, пераважна начальства. Так адчуваў Лабановіч, але замацаваць сваё адчуванне ў пэўнай форме не здолеў. Ён толькі ведаў, што вакол яго нешта накручваецца, як ніткі на верацяне, каб потым з верацяна перайсці ў клубок, а з клубка ў аснову кросен. І кросны звычайна вянчаюць канец, і гэты канец — нешта накшталт чацвёртага акта драмы або камедыі.

У сярэдзіне лета тысяча дзевяцьсот восьмага года ў мясцовых газетах было надрукована паведамленне, цікавае не для аднаго толькі Лабановіча, а і для цэлага раду яго таварышаў:

«Адміністрацыйна-распарадчае пасяджэнне выязной сесіі Віленскай судовай палаты пастанавіла:

1. Справу аб настаўніцкім сходзе ў сяле Мікуцічы спыніць і скасаваць.

2. Настаўнікі, падпісаўшыя так званы пратакол, — у пастанове яны пералічаліся — вызваляюцца ад суда і следства. Яны маюць права заняць настаўніцкія пасады па ўзгадненню з дырэкцыяй народных вучылішчаў Мінскай губерні.

3. Што-ж датычыць Лявоніка Уладзімера Сальвэсева, Лабановіча Андрэя Пятрова і Тургая Сымона Якубава, дык памянёных вышэй асоб прыцягнуць да судовай адказнасці па 126 арт. крымінальнага кодэкса».

Паведамленне глыбока ўсхвалявала Андрэя. Па-першае, ён адчуваў маральнае задаваленне: яго артыкул, змешчаны ў «Минском голосе», бясспрэчна, зрабіў пералом у іх настаўніцкай справе. Па-другое, адчуваўся і нейкі лагодны смутак: таварышам памог, а сам застаўся перад невядомаю і, быць можа, трагічнаю павароткаю ў жыцці.

Што-ж магло быць прычынаю таго, што Лабановіча ставяць перад судом ды яшчэ па такім артыкуле, які прадугледжвае пакаранне катаргаю за звяржэнне дзяр-

жаўнага ладу? Абвінаваўчага акта Андрэю яшчэ не ўручылі. Заставалася думаць і пераконвацца ў тым, што адозва: «Таварышы настаўнікі!» ёсць асноўная таму прычына. Лабановічу прыгадаліся словы жандарскага ротмістра: «Ваш почырк адыграе ролю ў вашым жыцці».

Андрэй чакаў далейшага развіцця падзей. Дзіўным і незразумелым здавалася тое, што ў справу быў замешан нейкі Тургай. Андрэй ніколі не чуў пра яго і ніколі не бачыў у вочы. Як-жа так магло стацца, каб у адну цялежку ўпрэглі такую тройку? Уладзіка арыштавалі і пасадзілі да суда ў Бабруйскі астрог за пашырэнне пракламацый, забароненай літаратуры і за агітацыю супроць існуючага самадзяржаўнага ладу. Тургая, як неўзабаве даведаўся Лабановіч, злавілі ў Карэлічах на пошце і загналі ў Навагрудскі астрог. Апроч усёй іншай «крамольнай» дзейнасці, Тургаю ставілі ў віну і агітацыю сярод вяскоўцаў, каб яны не хадзілі на работу ў панскія двары, бо ўсе маёнткі павінны належаць народу... Шмат было няяснага ў той павуціне, якую выткалі для іх трох царскія юрысты-павукі.

У чаканні падзей і таго ці іншага канца іх Андрэй жыў у сваіх родных на Нёмане. Адлучацца куды-небудзь з дому было зараз нязручна. Ён толькі хадзіў збіраць грыбы, а іх было многа. У лесе было так ціха і нішто не замінала думаць думкі і ствараць у галаве такія малюнкі, ад якіх рабілася весялей, але якія рэдка калі ажыццяўляюцца. Кожны дзень чакаў ён і пісем ад сваіх былых сяброў... Але яны маўчалі. Нават Янка, такі ўжо шчыры, адданы друг, і той не падаваў голасу. Хіба гэта не крыўдна? Не, крыўдзіцца няма чаго! Былыя сябры і самы блізкі з іх, Янка, зараз думаюць, як замацавацца ў якой-небудзь школе — восень не за гарамі. Дык што ім ён, Андрэй! Яны цяпер чыстыя, палітычна надзейныя. Дык навошта мець зносіны з крамольнікам, якога наперадзе чакае суд? Андрэй адчуў вялікую адзіноту, але не паддаваўся паныламу настрою. Проста было крыху смутна на сэрцы.

У гэту ноч Андрэю не спалася. Вільготная зямля і начная цішыня даносілі рознастайныя гукі неўгамоннага жыцця. Вось па дарозе мякка прашумелі ў пяску колы сялянскай цялежкі. Хтось, запазніўшыся, павольна ехаў

у свой двор, у свой дом. За Нёманам мілагучна свіснула нейкая таксама бяссонная птушка. З нізінкі па гэты бок Нёмана заложна, несціхана, аднатонна крактталі жабы. І гэтае кракттанне злівалася ў адну аднастайную і нібы засмучоную песню жальбы... Як усё гэта блізка, знаёма з самага дзяцінства!

Заснуў ён толькі пад раніцу, калі сонца ледзь-ледзь прабівалася скрозь бліскучыя акенечкі недалёкага лесу. Першыя-ж праменні сонца, завітаўшыя ў гумно, дзе звычайна праводзіў ноч Андрэй, пабудзілі яго. Заснуць болей ужо не мог, а варочацца з боку на бок не хацелася. Лепей даўжэй пабыць на прасторнай зямлі, дзе аднак людзям цесна, пад ясным небам, якое таксама засцілаецца хмарамі і шуміць грознымі навальніцамі. Ці не будзе і сягоння навальніцы? Андрэй заўважыў, што перад навальнічнымі дажджамі яго наведвае бяссонне. Ды ён любіў навальніцы: няхай лепш недаспіцца, абы толькі была гучная навальніца. Ён падняўся са свае пахучай пасцелі на мяккім сене, борздзенька адзеўся і падаўся на Нёман, каб у свежай, чыстай, празрыстай вадзе сагнаць сляды стомленасці пасля маласоннай начы. І сапраўды, пасля купання Андрэю стала лёгка: цела нібы налілося новаю сілаю, і мускулы сталі пругкімі. Адзеўшыся, Андрэй прысеў на бераг. У добрае надвор'е ён любіў пабыць тут. Размераная плынь нёманскай вады заспакойвала, навявала такія лагодныя мары. Над зямлёю распасцёрся ясны купал бязданнага неба. Толькі крыху лявей Мікуціч, на поўднёвым захадзе, паказалася тонкая даўгаватая хмарка, нібы нейкі мастак, збіраючыся напісаць малюнак, правёў упэўнена і смела першую цёмную палоску. На палосцы пачалі вынікаць вычварныя, белыя клубочкі, як гарохавінкі, вежы, розныя завітушкі. Яны то раслі, то раставалі, і на месцы растаўшых з'яўляліся новыя, яшчэ болей вычварныя.

Лабановіч сядзеў і любаваўся. Са сваіх назіранняў ён ведаў, што такія хмаркі з'яўляюцца на небе перад навальніцаю. У хуткім часе палоска знікла. Сонца паднялося вышэй. Дыхнуў вецярок, пусты, цёплы. «Поўднёва-заходні, дажджавы», — падумаў Лабановіч. Ён пайшоў у хату. Маці паставіла на стол снеданне.

— Ячмень ляжыць на просце нязвязаны. Ужо і высах.

Каб часамі дождж не пайшоў — нешта прыпарвае, — сказала мімаходзь яна.

Андрэй успомніў, што дзядзька з Якубам паехалі раніцаю на Сямёнаўкі — там засталося з поўвоза сена.

Паснедаўшы, Андрэй узяў пару ёмкіх скруткаў перавясел, загатаваных загадзя, і пайшоў вязаць ячмень, скошаны на працілеглым канцы той палоскі зямлі, на якой стаяла іх сядзіба, непадалёку ад хвойніку. Гадзіны праз паўтары ячмень быў павязаны ў снапы. Андрэй акуратна паклаў іх у капу, на ўсякі выпадак умацаваў жэрдкамі, каб не разбурыў яе вецер у часе навальніцы. Наверх палажыў рэшту перавясел, а на іх — сноп-шапку, расправулены накшталт парасона. Але гэта работа была лішняя: з двара выязджалі драбіны — дзядзька Марцін прывёз сена, а зараз ехаў разам з Якубам забіраць ячмень. Андрэй памог накласці воз, а сам пашыбаваў на Сярэднюю гару, якую любіў з самых юнацкіх дзён. Там было ціха, спакойна, утульна. Адзін схіл гары быў пакрыты жоўтым глыбокім пяском, сям-там пракідаліся чэзлыя кусцікі ялоўцу, убогія купінкі чабору і астраўкі белага баравога моху. Больш за ўсё падабалася Андрэю гара за тое, што з самага высокага пункта яе разгортваўся прыгожы краявід. Асабліва цікава было зірнуць у бок гасцінца, што ішоў праз Панямонь на Нясвіж. У полі каля гасцінца стаяла і тая чароўная хвоя, непадалёку ад якой, незадоўга да паездкі ў Вільню, праходзілі Андрэй з Янкам. Яна вельмі выразна ўзнімала з-за грэбеня занямонскіх узгоркаў кучаравую шапку-вершаліну і дзве магутныя галіны, сіметрычна размешчаныя па абодва бакі. Здавалася, што гэта нейкая казачная жанчына ўвайшла па грудзі ў глыбокую рэчку, развёўшы ў бакі рукі, і вось-вось апусціцца ў ваду і паплыве.

Тым часам з поўднёвага захаду падымалася злавесная хмара. Яна ўсё шырэй і шчыльней засцілала неба. З-за Нёмана даносілася глухое гурчанне далёкага грому. Лабановіч падаўся дахаты. Навальніца набліжалася. Раптам рвануўся вецер і перайшоў у такую буру, што зямля закурылася пылам. Кусты прыпадалі да самага долу. Агнявымі стрэламі ўспыхвалі маланкі. І лінуў такі дождж, што вада праз сцены зацякала ў хату. Хата дрыжала пад націскам ветру і, здавалася, вось-вось перакуліцца.

Бура выкаціла з-пад страхі неакованае дзервянное кола, нейкім чынам паставіла яго на вобад і пакаціла ў поле. Калі навальніца адспявала сваю грозную песню і паплыла далей, Андрэй вышаў паглядзець на сляды, што яна пакінула. Двор увесь быў заліты дажджом. У лужынах плавала салома, вырваная са стрэх. Кола далёка адкацілася ад двара і, трапіўшы ў разору, бездапаможна ляжала на баку. Падымаючы яго з мокрай зямлі, Андрэй азірнуўся навокал, каб ніхто нават не падслухаў думкі, і сказаў сабе самому:

— Ці не пагоніць у поле, як і гэтае кола, мяне варожая сіла?

## XXXIV

Лабановіч ішоў з лесу і нёс кошык баравікоў. Не даходзячы з поўвярсты да хаты, ён пачуў за сабою мяккі грукат калёс. Андрэй азірнуўся. У лёгкай, даволі зухаўской брычцы ехаў ураднік Ставоліч. Сумнення не было: гэты госць ехаў да яго, Лабановіча. Ён сышоў крыху з дарогі і спыніўся. Параўняўшыся, ураднік спыніў каня.

— Дзень добры! — прывітаў ён Лабановіча. — Сядайце, падвязу, хоць, праўда, тут і недалёка.

— Вы, пэўна, з нейкім паведамленнем да мяне? — запытаў Лабановіч, сеўшы ў брычку.

— Угадалі: ёсць такая справа, — адказаў ураднік і змоўк. Маўчаў таксама і Лабановіч: да хаты зусім блізка, там усё стане вядома. Выказваць-жа нецярплівасць перад ураднікам ён не хацеў.

Заехаць у двор ураднік адмовіўся: не меў часу. Ён спыніў каня каля частаколу, закінуў лейцы на шула, узяў партфель і разам з Лабановічам пайшоў у хату. Андрэя вельмі кранулі паводзіны Якуба: ён збегаў у гумно і прынёс жмак лепшага сена для ўраднікавага каня. Гэтым, відаць, хлопец думаў паддабрыць ураднікa, нібы ад яго залежала даць Андрэю палёгку. Занепакоена была і маці: яна ведала, што такія наведванні нічога добрага не прыносяць.

У хаце ўраднік зняў шапку, што крыху здзівіла Анд-

рэя, і сеў за стол. Не спяшаючыся, расчыніў партфель і выняў з яго паперку.

— Вось распішыцеся ў атрыманні, — сказаўураднік, разгарнуўшы разлінованы журнал.

Лабановіч зірнуў на паперку: гэта была позва ад Віленскай судовай палаты з'явіцца на суд пятнаццатага верасня тысяча дзевяцьсот восьмага года аб адзінаццатай гадзіне дня. У позве было прыпісана папярэджанне, што ў выпадку няяўкі ў паказаны час падсудны будзе арыштаваны і дастаўлены ў суд пад канвоем. Лабановіч распісаўся і ўзяў павестку. Прачытаўшы яе яшчэ раз, ён прамовіў, ні да каго не звярачаючыся:

— Каціся, маё кола, пакуль коцішся!

Ураднік не зразумеў, на што ківае Лабановіч, дый для самога Андрэя сказ гэты быў не зусім выразны, хоць у ім быў нейкі сэнс. Відаць, тое кола, што нядаўна выкаціла бура з двара ў поле, навяло на такое выказванне.

— Ведаеце што? — сказаў ураднік. — Давайце паедзем у Панямонь. Чаго вам заставацца тут аднаму? Праветрыцца трэба.

Андрэй здзівіўся: ураднік яму спачувае і хоча адвесці ад сумных думак... Вось табе і ўраднік, паліцэйскі чын! А можа, тут якія хітрыкі? Лабановіч падзякаваў.

— Баюся, што затрымаю вас; я не снедаў яшчэ, — адмаўляўся ён.

— Якая-ж гэта затрымка, снеданне! Можаце пацярпець з поўгадзіны? А за гэты час мы будзем на хутарку — там і паснедаем. Паедзем?

І сапраўды: чаму-ж не паехаць?

Яны селі ў брычку, праехалі Мікуцічы, адтуль цераз Нёман, уброд, выбраліся на дарогу, праехаўшы паўз Нейгертава, дзе жыў Янка Тукала. Андрэю стала сумна, і ён падумаў: «Эх, Янка! Ці гадаў ты, што я паеду з ураднікам каля тваёй хаты і не зайду ў яе? Але цябе тут няма, і ты маўчыш, не прамовіш мне ніводнага слова! Няўжо-ж ты памёр для мяне?»

Думкі перабіў ураднік.

— У чым-жа вас абвінавачваюць? — запытаў ён. — За што судзяць? Чаму ўсіх вызвалілі з-пад суда, а вас не?

Лабановіч усміхнуўся і сказаў:

— У народнай казцы расказваецца так. Ішоў кот ле-

сам, сустрэў яго воўк. «Куды ідзеш, кот?» — «Іду судзіцца». — «А ў чым твая крыўда?» пытае воўк. «Як-жа не крыўда, — адказвае кот, — нашкодзіць кошка, а віну ўскладаюць на ката». Дык вось так і са мною: хтось напісаў адозву да настаўнікаў, а мяне за яе судзіць будуць.

— Як-жа гэта так? — здзівіўся ўраднік.

Лабановіч растлумачыў, як стаіць справа і чаму так вышла.

Ураднік слухаў, верыў і не верыў, а потым азваўся:

— Калі не вы пісалі, дык за што судзіць вас? Хіба тут, можа, яшчэ што замешана?

— Вось гэтага не ведаю, а калі замешана, дык не па маёй віне і не з майго боку, — адказаў Лабановіч і падумаў: «А ўрэшце чорт яго ведае: можа, падгледзелі, як я з Янкам прыбіваў да крыжа пракламацыю? Не, тады і Янку ўзялі-б на цугундзер».

Тым часам з-за ўзгорка выплыў хутарок, сядзіба дробнага арандатара. Сюды і павярнуў каня ўраднік. Пры ўездзе ў двор стаяла высокая брама, над архітэктураю якой, відаць, ламалі галовы мясцовыя архітэктары, а можа, і сам гаспадар. Брама складалася з двух дзябёлых дубовых слупоў, роўных, старанна выгаблеваных, на якія была паложана таксама дубовая шапка. Адступіўшы з аднаго і другога боку шапкі на аршын, на ёй прымацавалі яшчэ чатыры бярвенцы: кожнае вышэйшае сіметрычна ўкарочвалася і было з канцоў счэсана наўскасяк. У верхняе, самае кароценькае бярвенца быў упушчаны стаячок, завостраны ўгары, як іголка.

— Вось выштукаваў сабе браму Язэп Глынскі, — прамовіў ураднік, спыняючы каня.

Андрэй выскачыў з брычкі, праз веснічкі ўвайшоў у двор, каб адчыніць вароты, але ў гэты час вышаў з хаты сам гаспадар, лысы, сярэдніх гадоў чалавек, у расшпіленай камізэльцы. Глынскі быў шляхціц і хоць чым-небудзь імкнуўся адрозніваць ад простага мужыка.

— Калі ласка! Калі ласка! — борздзенька гаварыў Глынскі, расчыніўшы вароты. Калі брычка спынілася, ён падбег да ўрадніка і патрос яго руку абедзвюма рукамі.

— Дзень добры! Дзень добры! А як-жа вы ў часе заехалі! Якраз на полудзень!.. Пойдзем-жа ў хату!

Лабановіча ён не заўважаў, хоць і ведаў яго, і рукі не падаў. Глынскі не любіў Лабановіча за тое, што той «забастоўшчык» і гатовы адбіраць зямлю ад паноў і арандатараў. А такія людзі — лайдакі, па думцы Глынскага. Лабановіч адстаў ад арандатара і ад ураднiка і ўжо меркаваў, дзе-б яму схавацца. Але якраз ураднік азірнуўся і падаў голас:

— А вы што-ж, Андрэй Пятровіч? Хадзем у хату!

Тады ўжо і гаспадар змяніў свае паводзіны ў дачыненні да «забастоўшчыка». Ён падбег да Андрэя, узяў яго пад руку і павёў да дзвярэй.

— Калі ласка! Калі ласка, заходзьце! Колісь мы з вашым нябожчыкам бацькам былі добрыя знаёмыя.

Глынскі павёў гасцей у чыстую палавіну. Там стаяла многа вазонаў, кветак, дужа пашыраных у сялянскім абыходку. У хаце была прахладзь, стаяў своеасаблівы пах і наогул чыстае паветра. Паміж фікусаў утульна прымайстраваўся стол, засланы белым абрусам.

Глынскі папрасіў гасцей садзіцца, а сам адамкнуў буфецік і дастаў ёмкую бутлю вішнёвай настойкі на чыстым спірытусе. Потым, папрасіўшы прабачэння, адлучыўся ў другую палавіну хаты. Вярнуўся ён разам з гаспадыняй, яшчэ маладой і дужа прывабнай кабетай. Яна хораша прывіталася з гасцямі, рассыпаючы самыя прыязныя ўсмешкі. У дзверы ўсунулі галовы сын і дачка гаспадароў. Лабановіч толькі на кароткі момант мог заўважыць, што дачка падобна да маткі, а сын да бацькі. А Глынскі зараз-жа загадаў ім пайсці ў сад, дзе было многа вішань, і назбіраць каробку для «пана ўрадніка».

Тым часам на стале з'явіліся відэльцы, нажы і талеркі і следам паплылі сакаўныя вэнджаныя кілбасы, цэлая талерка па-мастацку нарэзаных скрылікаў паляндвіцы, чырвоных, як пялёсткі вяргіні, сыр свежы, запраўлены смятанай і чорненькімі кропкамі кмену, і сыр, крыху падсушаны. Адным словам, багаты пачастунак.

Ураднік, уважлівы, далікатны кавалер, звярнуўся да прыгожай гаспадыні, пані Анэлі:

— Сядайце, пані, за стол: без вас не будзе парадку.

Гаспадар наліў ёмкія чаркі настойкі і сказаў цэлы тост. А гаспадыня пераводзіла вочы то з мужа на ўрадніка, то наадварот. Лабановіча абмінала. Глынскі казаў:

— Вып'ем за дарагога нашага госця, Герасіма Паўлавіча. Няхай бог паможа яму лавіць злодзеяў, канакрадаў і ўсякіх забастоўшчыкаў, што становяцца ўпоперак дарогі начальству.

— Добра сказалі, пане Юзаф, — пахваліў Андрэй, — толькі-б трэба было дадаць і «казнакрадаў».

— Гэта само сабою разумеецца, — азваўся гаспадар.

Вылучыўшы зручную хвіліну, Андрэй падзякаваў, папрасіў прабачэння і вышаў з-за стала.

— Пане Лабановіч, — сказаў Язэп Глынскі, — прашу вас зайсці ў мой садок ды пашчыпаць вішань, колькі выстарчае вашай душы.

Такіх спелых, буйных вішань Лабановіч ніколі ў жыцці не бачыў.

Калі банкет скончыўся, і брычка выехала з хутара, ураднік запытаў Лабановіча:

— Не каецеся, што паехалі са мною?

— Не, не каюся! Наадварот, вельмі дзякую.

Брычка ўзяла кірунак на Панямонь.

## XXXV

Не так ужо далёкі суд змусіў Лабановіча паехаць у Мінск. Ён прыгадаў адваката Семіпалава, да якога накіроўвалі яго ў свой час рэдактары Уласюк і Стафан Ліскоўскі.

Семіпалаў як раз быў дома. Гэта быў яшчэ малады чалавек, ён толькі што рабіў сваю адвакацкую кар'еру. Адвакат выказаў жывы ўдзел у справе Лабановіча і ў яго лёсе.

— Па якім-жа артыкуле закону вас прыцягваюць да судовай адказнасці? — запытаў Семіпалаў і зыркімі шэрымі вачамі зірнуў на Лабановіча.

— Па 126-м, па першай частцы, — адказаў Лабановіч.

— І што канкрэтна ставіцца вам у віну? — цікавіўся далей адвакат, перабіраючы пальцамі сваю акуратную

цёмнарусую бародку, падстрыжаную знізу пад завострany колік.

— Абвінаваўчага акта я не маю, ён дзесь вандруе па паліцэйскіх інстанцыях, але па ўсім відаць, што мне прыпісваюць аўтарства ў складанні адозвы да настаўнікаў.

— Але гэта вашы дагадкі? — не адступаўся адвакат.

— Так, дагадкі, але яны маюць пад сабою грунт.

Лабановіч расказаў Семіпалаву пра допыт у жандарскага ротмістра. Адвакат памаўчаў, падумаў, а потым, хітра ўсміхнуўшыся, запытаў:

— А вы-ж маеце якое-колечы дачыненне да аўтарства, як сказалі вы? — Пасля ён дадаў: — Мне вы можаце гаварыць праўду: у вашых інтарэсах гэта мае значэнне. Пракурору і следчаму можна салгаць, абы толькі гладка, — зусім прыязна ўсміхнуўся адвакат.

Візіт закончыўся на тым, што Семіпалаў паабяцаў у гэты-ж дзень азнаёміцца з матэрыяламі следства і ўжо тады даць пэўную параду.

— А пятай-шостай гадзіне вечара зайдзіце да мяне, — сказаў адвакат і падаў руку Лабановічу.

Марудна цягнуўся час да вечара. А такіх добрых знаёмых, да якіх можна было-б зайсці, каб прабавіць час, Лабановіч цяпер не меў. Дружба з Балоцічам скончылася, ды ісці да яго ў такіх абставінах было проста нязручна. Лабановіч пайшоў вандраваць па вуліцах старога, пераважна драўлянага Мінска. Нарэшце зайшоў у танненькі рэстаранчык, каб падмацавацца. Тым часам набліжалася і запаветная пара: было пяць гадзін вечара.

З пачуццём некаторага хвалявання Лабановіч пайшоў да Семіпалава. Адвакат ужо быў дома. Ён весела зірнуў на свайго кліента і павёў яго ў кабінет.

— Сядайце! — Семіпалаў паказаў на крэсла каля стала і сам сеў. — Вашы прыпушчэнні аказаліся слушнымі, — прамовіў адвакат. — Вам сапраўды ставяць у віну напісанне адозвы да настаўнікаў. Такое заключэнне далі эксперты.

— Гэтакім экспертам не экспертызы рабіць, а носам зямлю рыць! — сказаў абурана Лабановіч.

Адвакат засмяяўся.

— Мажа, ваша і праўда, — заўважыў ён, — аднак факт застаецца фактам і з ім прыходзіцца лічыцца. Але

паколькі вы адозвы не пісалі, дык абарона ваша мае законнае права патрабаваць ад суда назначэння новай экспертызы. Ды гэта акалічнасць няхай вас дужа не радуе. Калі нават другая экспертыза абвергне першую, гэта яшчэ не значыць, што вы чысты перад судом. У суда ёсць свае меркаванні, і ён часта больш кіруецца палітыкаю, чым законам. Апрача таго, у суда можа быць і так званае сваё ўнутраное пераконанне.

Семіпалаў гаварыў пераканаўча, важка, і трудна было пярэчыць яму.

— Ну, што-ж? — азваўся Лабановіч, — засудзяць, дык засудзяць — за чужы грэх!

— Так песімістычна глядзець на рэчы не варта, — сказаў адвакат, але тут-жа дадаў: — З другога боку не шкодзіць падрыхтаваць сябе псіхалагічна і да горшага. А наконт абароны вам трэба падумаць. Каго-б вы хацелі мець сваім адвакатам?

Лабановіч крыху памаўчаў.

— Праўду сказаць, я і сам не ведаю. Прасіў прысяжнага паверанага пана Урублеўскага. А калі ён не згодзіцца, дык можа-б вы былі ласкавы ўзяць на сябе маю абарону? — нясмела звярнуўся Лабановіч да Семіпалава.

Адвакат адразу пасур'ёзнеў.

— Я дужа ўдзячны вам за давер'е. Ды ўсё-ж-такі я ў поўнай меры падтрымліваю ваш выбар — звярніцеся да Урублеўскага. Ён вядомы сярод усіх юрыстаў Расіі, і з ім пракурор мусіў-бы сур'ёзна лічыцца. Пракуроры-ж звычайна і асабліва пракуроры па палітычных справах падбіраюцца злыя, пякучыя, языкатыя, адным словам, прайдзісветы.

— А калі Урублеўскі па якіх-небудзь прычынах не зможа ўзяць на сябе абарону мяне і маіх сяброў, з адным з якіх я зусім і не знаёмы?

— Нават гэтак? — здзівіўся крыху Семіпалаў.

Адвакат і яго кліент памаўчалі.

— Вось што, давайце зробім так: даручыце мне весці перамовы ад карпарацыі прысяжных паверaных горада Мінска з панам Урублеўскім. Вы ў гэтых справах ненапрактыкаваны.

Лабановіч устаў з месца.

— Я вельмі і вельмі ўдзячны за дапамогу, якую вы абяцаеце мне.

— Ну, вось і добра, — сказаў Семіпалаў: — Так ці іначай ваша абарона ў судзе будзе забяспечана.

Адвакат запісаў адрас Лабановіча, абяцаў неўзабаве зрабіць усё, што трэба і што можна зрабіць, а потым аб усім паведаміць. Лабановіч горача пацізнуў руку Семіпалаву і развітаўся з ім. Ідучы на вакзал, Андрэй прыгадваў паслужлівага юрыста, што вызваліў яго ад клопату і турбот, ад лішніх выдаткаў на паездкі да адвакатаў. Здавалася ўсё ідзе добра. Аднак, паразважаўшы глыбей, Андрэй мусіў прызнаць адно: не ўсё яно так добра, як здалося ў першыя хвіліны. Папярок дарогі станавіліся эксперты і іх заключэнне. Аказваецца, яшчэ мала абвергнуць паказанне першай экспертызы. Андрэй прыгадаў важкія словы Семіпалава: суд — асноўны эксперт і ўсё вырашае псіхалагічная пераконанасць саміх суддзяў. Мала ўцехі ў такой пераконанасці знарок падабраных прыхільнікаў царскага самаўладства.

Але турботныя і невясёлыя думкі ў дарозе развеяліся. Аптымізм, уласцівы натуры Лабановіча, вера ў лепшае ў жыцці ўзялі верх над прыкрымі развагамі і ён у добрым гуморы вярнуўся дамоў.

Семіпалаў аказаўся сумленным і праўдзівым чалавекам. Роўна праз тыдзень Лабановіч атрымаў пісьмо. Семіпалаў паведамляў, што суд задаволіў хадайніцтва адваката Казіміра Адамавіча Петруневіча назначыць новых экспертаў для праверкі першай экспертызы. Урублеўскі, пісаў Семіпалаў, ахвотна ўзяў-бы ўдзел у абароне на судзе Лабановіча і яго сяброў, калі-б не быў заняты на другім працэсе. Вось чаму ён дагаварыўся з прысяжным паверaным Петруневічам і даручыў абарону яму. Лабановіч чуў, што Петруневіч лічыўся адным з лепшых адвакатаў у Мінску.

«Чаго-ж большага жадаць, — разважаў Андрэй: — Экспертыза забяспечана, адвакат ёсць. Але-ж бывае, што хворага чалавека лечыць самы добры доктар, а ён возьме ды памрэ. Так можа здарыцца і тут: захочуць суддзі засудзіць, дык і засудзяць. Лепш не думаць аб гэтым. Праз нейкі тыдзень усё стане вядомым».

Да суда заставалася некалькі дзён. Маці, дзядзька Марцін, Якуб, Андрэевы сёстры — усе дагаджалі Андрэю, як вялікаму, хоць яшчэ невядомаму пакутніку.

Дні за тры да суда Лабановіч узяў кошык, з якім звычайна хадзіў у грыбы. Хацелася паглядзець на свае грыбныя абходы і развітацца — хто ведае? быць можа, надоўга — з тымі мясцінамі, якія давалі яму столькі ўцехі і радасці. Грыбоў, праўда, было ўжо малавата, але той баравік, што пападаецца радзей і знаходзіцца трудней, робіць большае ўражанне.

Андрэй узышоў на Сярэднюю гару і спыніўся, развітальным поглядам абводзячы дарагія прасторы зямлі. Вось перад ім Мікуцічы. Гучна было тут улетку. Цяперка настаўнікі параз'язджаліся па школах. Напэўна і Янка Тукала ўвайшоў ужо ў настаўніцкую каляіну. І вось-жа да гэтага часу не падаў голасу.

Правей ад Мікуціч, за Нёманам, далёка на небасхіле сіняя палоска лесу, нібы піла, паложаная на зямлі зубамі ўгору, выплывае з празрыстай вераснёўскай сінечы. Правей выступаў Дзямянаў Гуз і занямонскія палеткі, сярод якіх туліліся невялічкія пасёлкі, вёсачкі і хутаркі. Не абмінула Андрэева вока і пышнай хвоі, што ўзнімала вяршаліну над далёкімі пагоркамі...

Шмат знаёмых малюнкаў разгортвалася перад вачамі заварожанага Андрэя! Налюбаваўшыся імі, ён павольна рушыў у бок маладых сасоннікаў. Сярод сыпучага жоўтага пясочку выглядалі часамі закінутыя пагоркі, зараста ўшыя маладым хвойнікам, прыземістымі кустамі калючага ялоўцу і белага моху.

Да вечара снаваў Андрэй па грыбных баравінах, падняў дзесяткі два пругкіх, крэпкіх баравікоў. Потым пайшоў на луг: хацелася паглядзець на адзінокую хвою непадалёку ад Нёмана, на каржакаваты прысадзісты дубок — яны так добра былі знаёмы Андрэю з самага ранняга дзяцінства. На схіленай вяршаліне хвоі красавалася старадаўняе буслава гняздо.

«Ну, што-ж? Бывайце, мілыя, дарагія сябры!» — у мыслях прамовіў Андрэй і лугам пашыбаваў дахаты.

## XXXVI

Доўгі-доўгі час у вачах Андрэя стаяла гаротная постаць маці. Яна выйшла з двара і стала паводдаль ад хаты, каб правесці сына ў невясёлую дарогу. Андрэй з дзядзькам Марцінам ад'ехаліся ўжо далёка, а маці ўсё стаяла і пазірала ў той бок, дзе дарога, падняўшыся на горку, схавалася за выступам зямлі, каб ужо болей не паказацца. Тады маці глыбока ўздыхнула, абцерла хусткаю слёзы і пайшла ў хату.

Дзядзька Марцін падвозіў Андрэя на вакзал. Перад самаю станцыяй фурманка спынілася. Сядок і фурман злезлі з воза. Дзядзька Марцін доўга не выпускаў Андрэевай рукі з свае рукі, цвёрдай і шурпатай ад цяжкай сялянскай працы. Потым уважна і пільна паглядзеў у вочы пляменніку. У маленькіх шэрых дзядзькавых вачах стаялі слёзы.

— Ну, мой родны, дарагі, бывай здаровы! Няхай бог цябе ацаліць. Вяртайся хутка і шчасліва.

Яны моцна абняліся, пацалаваліся. Як ні трымаў сябе ў руках Андрэй, але і ў яго вачах бліснула слязінка.

Раніцаю ў дзень суда Лабановіч быў у Мінску. Ён сядзеў на лаўцы ў скверыку насупраць будынка земскай управы, дзе меўся адбыцца суд. Пасяджэнне было назначана на адзінаццаць раніцы, заставалася чакаць яшчэ паўтары гадзіны.

«І чаму так цягне мяне гэты будынак? — думаў Лабановіч: — чаго мне чакаць ад яго — гора ці радасці? Вось-жа ёсць нейкая ліхая, ды ўладная сіла, што прывязала мяне да яго».

Зала суда была даволі prасторная і не дужа прывабная, асабліва для такіх асоб, як Лабановіч, каму прыходзілася тут выступаць у якасці падсудных. У канцы залы ўзвышаўся памост накшталт тэатральнай сцэны, адгароджаны ад публікі моцным, хоць і няскпёпістым бар'ерам. У ім было некалькі праходаў: для падсудных, для сведак і для розных асоб судовага персаналу. Пакой для суддзяў знаходзіўся за сцэнаю.

Калі Лабановіч прышоў, у зале было амаль пуста. Патроху пачыналі сходзіцца людзі — мужчыны, жанчыны, для якіх суд, асабліва над палітычнымі, быў такім-

жа відовішчам, якім для тэатральных гледачоў з'яўляўся спектакль.

Лабановіч сеў бліжэй да бар'ера, адкуль можна было наглядаць за ўсім, што будзе адбывацца на судзе і ў зале. Найбольшую ўвагу Лабановіча прыцягваў памост, які ён у думках назваў Галгофаю, што значыць — месца пакуты. Пасярэдзіне памоста красаваўся вялікі стол, засланы залёным сукном. Тут-жа стаялі крэслы для адвакатаў і пракурора. Адвакаты Петруневіч і Мяцёлкін сядзелі сярод публікі непадалёку ад бар'ера.

У зале стаяў стрыманы шумок. І раптам пачуўся гучны голас:

— Устаць! Суд ідзе!

Гэта выгукнуў судовы прыстаў.

Усе, хто быў у зале, паўставалі. З расчыненых за памостам дзвярэй паказаўся гурт суддзяў і саслоўных прадстаўнікоў. Уперадзе важна выступаў старшыня суда, член Віленскай судовай палаты, шырокі, сівабароды, грамозны чалавек. Барада яго была раздзелена на дзве палавіны і рабіла такое ўражанне, быццам пад сківіцамі ў старшыні былі прымацаваны два караткаватыя венікі, звязаныя з белага курчавага баравога моху, дзе любяць расці чорныя баравікі. Гэта быў вядомы ў той час сярод палітычных падсудных сапраўдны стацкі саветнік Бабека, чалавек, бязлітасны да сваіх ахвяр. Недарма сярод засуджаных ім хадзіла такая прымаўка: «За сталом сядзіць Бабека, той, што губіць чалавека».

За Бабекам таксама спаважна дыбалі суддзі — Бужынскі, Кіслоўскі, Верхаводаў. Усе яны былі ў парадных сініх сурдутах, у накрухмаленых белых манішках, строгія, непрыступныя, нібы яны неслі з сабою па кавалачку «божага памазаніка» — цара, якому прысягалі служыць верна. За суддзямі, таксама захоўваючы саслоўныя градацыі, ішлі: напышлівы прадстаўнік дваранства, мінскі губернскі маршалак Ромава-Рымша-Сабур, член управы Янцэвіч, які прыбыў замест гарадскога галавы. Замыкаў працэсію прадстаўнік ад сялян, валасны старшыня Пахальчык, апрануты ў бравэрку з простага даматканага сукна, у валёнзных ботах, даўно няголены і, відаць, добра «падмацаваны». Бабека заняў самае віднае месца ў цэнтры і сеў у самае высокае крэсла,

Пахальчык прымасціўся з краю стала ў групе саслоўных прадстаўнікоў. Асобнае месца заняў на памосце пракурор, чалавек ужо немалады, з невялічкаю сівізною, сярэдняга росту, панурага выгляду, даволі ёмкі ў целе. Кончыкі яго вушэй крыху выступалі наперад, як завітушкі барановых рожак. Са свайго назірання Лабановіч устанавіў, што людзі з такімі вушамі маюць здольнасць да красамоўства. Пракурор ні на кога не глядзеў, сядзеў моўчкі, нібы зазіраў у сваё нутро, і ледзь прыметна пажоўваў пярэднімі зубамі, як быццам на іх быў кавалачак арэхавага зерня. Адвакаты селі бліжэй да лавы падсудных. Петрункевіч, яшчэ малады, відны мужчына, з добрым абліччам, надзеў фрак, што аздабляла яго фігуру. Мяцёлкін, шмат старэйшы за свайго калегу, быў у скромным, але строгім сурдуце.

У зале стала ціха. Старшыня суда велічна ўзняўся з крэсла. Два венікі яго барады крыху падаліся ўгору. Ён абвясціў, што разгляду палаты падлягае справа аб сялянах Андрэю Лабановічу, Уладзімеру Лявоніку, Сымону Тургаю і Мацвею Астраўцу. Прозвішча чацвёртага падсуднага Лабановіч пачуў упершыню таксама, з абвінаваўчага акта. Бабека пералічыў усе артыкулы і пункты, на падставе якіх палата будзе судзіць памянёных асоб. Пасля гэтага ён спакойна і важна аддаў загад судоваму прыставу прывесці ў залу падсудных, што знаходзіліся пад вартаю. З малапрыметнай бакавушкі зараз-жа паказаліся салдаты-канвойнікі, а ў іх строгім атачэнні — Уладзік і Тургай, якога Лабановіч толькі цяпер пабачыў. Абодва падсудныя былі бледныя: доўгае знаходжанне ў астрозе да суда налажыла на іх свой адбітак. Канвойнікі вялі арыштаваных сурова, ступáлі цвёрда і моцна грукалі па памосце цяжкімі салдацкімі ботамі. Арыштаваных пасадзілі на лаву падсудных, самі канвойнікі пасталі ззаду і па канцах лавы, трымаючы напагатове стрэльбы і шаблі. Падсудныя спакойна і нават весела пазіралі на публіку. Андрэй не зводзіў з іх вачэй, нібы просячы поглядам зірнуць у яго бок. Уладзік згледзеў Андрэя, ледзь прыметна ўсміхнуўся і ўкрадкам падміргнуў яму.

Як вымагаў судовы парадак, старшыня запытаў падсудных, ці ўручылі ім копіі абвінаваўчага акта, спісы

суддзяў і саслоўных прадстаўнікоў. Затым суд учыніў паверку сведак. Паказанні сведак, адсутных па законных прычынах, суд пастанавіў агаласіць у свой час. Пасля гэтага Бабека абвясціў, што згодна пастановы палаты суд будзе адбывацца пры зачыненых дзвярах.

«Значыць, справа швах», — падумаў Лабановіч.

Судовы прыстаў выдаліў публіку з залы, а сведак завёў у асобны пакой. Калі ўсё гэта было зроблена, Бабека, седзячы на сваім троне, прыступіў да чытання абвінаваўчага акта. Чытаў ён аднатонна і нудна, і сам акт быў нудны і занадта доўгі. Нічога новага не пачуў у ім Андрэй. Суддзі і саслоўныя прадстаўнікі ўпотайку, прыкрываючы рот, пазяхалі так, што, здавалася, разарвуцца сківіцы.

Прадстаўнік ад сялян, Пахальчык, заснуў моцным сном. Лабановіч і падсудныя раптам заўважылі, як прадстаўнікі іншых саслоўяў крутнулі насамі і паціхеньку пачалі адсоўвацца далей ад Пахальчыка. Дух дайшоў і да Бабекі. Але таму трэба было захоўваць паважнасць і вытрымку. Лабановіч і яго сябры ледзь стрымлівалі смех, заўважыўшы такую праяву ў судзе, што вёўся па загаду яго імператарскай вялікасці. Бабека толькі шпарчэй стаў чытаць. Калі чытанне акта было скончана, Пахальчык прачнуўся. Яму здалося, што, заснуўшы, ён адсунуўся ад сваіх калег, і прадстаўнік ад сялян стаў патрошку падсоўвацца да іх. Гэта было яшчэ смяшней.

Бабека тым часам запытаў наўперад Лабановіча, а затым і астатніх, ці прызнаюць яны сябе вінаватымі ў тых «злачынствах», аб якіх гаварылася ў акце.

Лабановіч адказаў упэўнена і выразна:

— Не!

Уладзік, хвалюючыся, прызнаў сябе вінаватым у тым, што даваў свайму знаёмаму, нейкаму Пятрушу, літаратуру, у тым ліку аповесці Гогаля: «Шынель», «Прапаўшая грамата» і іншыя. Ён катэгарычна адмаўляў свой удзел ва Усерасійскім саюзе настаўнікаў, гаворачы, што толькі меў намер уступіць.

Сымон Тургай прызнаўся, што ўваходзіў ва Усерасійскі саюз настаўнікаў і напісаў адозву аб байкоце. Другія-ж адозвы пісаў не ён. Таксама пісаў і не Андрэй

Лабановіч: усе іншыя адозвы былі напісаны трэцяю асобаю. Гаварыў Тургай смела, упэўнена і пераканаўча.

— Хто-ж гэта трэцяя асоба? — запытаў пракурор.

— Я не сведка на гэтым судзе, а падсудны, — з годнасцю адказаў Тургай і дадаў: — Калі-б я і ведаў «трэцюю» асобу, дык закон дае мне права на некаторыя пытанні не адказваць.

— Другіх запытанняў не маю, — сказаў старшыні трохі абсечаны пракурор.

Андрэй падзівіўся смеласці Тургая і яшчэ болей упадабаў яго.

Па прапанове старшыні суда пракурор і адвакаты азнаёміліся з «доказамі» па справе. Гэтых «доказаў» было не так багата: настаўніцкі пратакол, захоплены ў Мікуцічах, статут Усерасійскага саюза настаўнікаў і дзеячоў народнай асветы, адозва «Да ўсіх настаўнікаў і настаўніц», складанне якой прыпісвалася Лабановічу, зварот да настаўнікаў аб байкоце і іншая дробязь.

Пачаўся допыт сведак, якіх прывёў да прысягі нейкі невядомы папок. Найболей цікавымі былі паказанні новых экспертаў. З напружанай увагай слухаў іх Лабановіч.

Новы эксперт, Гоман, выкліканы судом па хадайніцтву абароны, катэгарычна заявіў:

— Гаспадзін старшыня! Гаспада суддзі! Я дзіўлюся, як магла ранейшая экспертыза на падставе зверкі почыркаў сцвярджаць, што адозву «Да ўсіх настаўнікаў і настаўніц» напісаў Андрэй Лабановіч. Ніякага падабенства ў характары пісьма абсалютна няма!

І Гоман пачаў падрабязна, літара за літараю, абвяргаць заключэнне ранейшай экспертызы.

Пракурор яшчэ больш нахмурыўся: сук, на якім сядзеў ён, каб кідаць шышкі ў падсуднага Лабановіча, аказаўся падсечаны. І горш за ўсё, што і ранейшы эксперт, Ярмін, адрокся ад падпісанага ім заключэння.

— Як-жа гэта так: вы-ж падпісвалі экспертызу? — сурова заўважыў пракурор.

— Экспертызу рабіў нябожчык Асмольскі. Ён падсунуў яе мне, я паверыў яму і падпісаў. Цяпер-жа, калі я сам сваімі вачамі пабачыў, якія там почыркі, дык мае сумленне не дазваляе мне ўзводзіць паклёп на нявінна-

га чалавека. Не хачу браць грэх на душу! — рашуча закончыў Ярмін.

Здавалася, заключэнне новых экспертаў і асабліва словы Ярміна зрабілі ўражанне на пракурора і на суд. Зусім абыякава паставіўся да гэтага Бабека. Ён звярнуўся да пракурора і да адвакатаў:

— Ці маеце запытанні да сведак, або, можа, хочаце дадаць што-небудзь?

Пракурор і адвакаты запытанняў не мелі. Для абвінаваўчай прамовы старшыня даў слова пракурору.

Як напрактыкаваны ў гэтых справах чалавек, пракурор павольна звярнуўся да суда. Голас яго спачатку быў ціхі, але выразны, ён паступова павышаў тон.

— Вы чулі абвінаваўчы акт, у якім грунтоўна, лагічна, аб'ектыўна пададзена перад вамі, гаспада суддзі і гаспада саслоўныя прадстаўнікі, уся мярзотная дзейнасць злачыннай групы, паставіўшай перад сабою мэту — разбурыць, звергнуць вякамі ўсталёваны дзяржаўны лад. Злачынцы, частка якіх сядзіць на лаве падсудных, а частка яшчэ знаходзіцца ў гэтай зале на становішчы свабодных людзей, не грэбавалі ніякімі спосабамі для ажыццяўлення сваіх злачынных мэт. Яны страцілі сумленне, забыліся аб сваім доўгу, аб сваёй ролі, якая адведзена ім: «сеяць разумнае, добрае, вечнае».

Чым далей, тым болей распаляўся пракурор, хоць гэты запал быў штучны, акцёрскі. Гаварыў ён доўга, не прамінуў ніводнай рысачкі з таго, што было адзначана ў абвінаваўчым акце, і аздабляў усё самымі згубнымі, бязлітаснымі ўкрасамі. Кожнаму падсуднаму ён даў асобную характарыстыку. Асабліва даставалася Тургаю і Уладзіку. Адносна Лабановіча пракурор заўважыў, што гэты падсудны, хоць і мала фігуруе ў абвінавачанні, але, як гаворыць народная прыказка, — па абліччы апостал, а па зубах сабака. Хоць заключэнні экспертаў разыходзяцца, але самым аўтарытэтным экспертам ёсць суд.

— Усе мы — людзі граматныя, — сказаў пракурор, — нам даводзілася чытаць розныя почыркі. Няхай суд скажа тут сваё слова.

У заключэнне пракурор патрабаваў вышэйшай меры кары, што азначана ў артыкулах, па якіх адбываўся суд.

З грунтоўнай прамовай, без выкрунтасаў, але і не без шпілек, выступіў адвакат Петруневіч. Ён абараняў Тургая і Лабановіча. Петруневіч пачаў з пахвалы «натхнёнаму» выступленню пракурора.

— Гэта — узор красамоўства, — сказаў адвакат. — Нажаль, толькі пракурор згусціў фарбы. Вы паглядзіце, гаспада суддзі і гаспада саслоўныя прадстаўнікі, на падсудных: усё гэта — зялёнае юнацтва, веснавая паводка, што не тоўпіцца ў берагах. Не трэба мець злачынную душу і злачыннае сэрца, каб падпасці пад уплыў тых ці іншых асоб, тых ці іншых ідэй і зрабіць памылку. Пракурор у сваёй прамове спасылаўся на залатыя словы паэта-народніка — сеяць «разумнае, добрае, вечнае». Дазвольце і мне спаслацца на генія рускай паэзіі, на бяссмертнага Пушкіна:

И долго буду тем любезен я народу,
Что чувства добрые я лирой пробуждал,
Что в мой жестокий век восславил я свободу
И милость к падшим призывал.

Апошні радок Петруневіч прадэкламаваў, як артыст, вымаўляючы кожнае слова асобна і робячы на ім лагічны націск.

— Юнацтву ўласціва кіпенне, бурленне, — казаў далей абаронца: — Колькі юнакоў-студэнтаў прымала ўдзел у дэманстрацыях, у выступленнях, у бунтах супроць таго ці іншага грамадскага парадку, супроць закону! Хіба можна называць іх злачынцамі? Паводка ўваходзіла ў берагі, і бунтары канчалі ўніверсітэты, паступалі на дзяржаўную службу, рабіліся старыннымі чыноўнікамі і дзеячамі ў розных галінах жыцця. Яны былі адданымі суддзямі, таленавітымі следчымі і пракурорамі, асабліва ў палітычных справах.

Бабека заварушыўся.

— Прытрымлівайцеся межаў кодэкса і матэрыялаў суда, — заўважыў ён Петруневічу.

— Прымаю да ведама, гаспадзін старшыня, але не магу не адзначыць таго, што і ў сцверджанні пракурора па адрасу падсуднага Лабановіча — па аблічччы апостал, а па зубах сабака — заключана нейкая юрыдычная функцыя.

Пракурор пагладзіў сівавата-рыжы вус, але змоўчаў. А Петруневіч правіў сваё адвакацкае права і скончыў прамову зваротам да суда з просьбаю — прыняць пад увагу маладосць падсуднага Сымона Тургая і панесеную ім ужо кару — паўтара года зняволення ў астрозе. Што-ж датычыць падсуднага Лабановіча, то адзінае абвінавачанне, выстаўленае супроць яго, пабудавана на хісткім грунце і, як давялі эксперты, рассыпалася, а таму падсудны Лабановіч павінен быць апраўданы.

Мяцёлкін сказаў кароткую, лагодную прамову і, па прыкладу Петруневіча, прасіў суд уважыць і маладосць падсуднага і яго пакаранне да суда — зняволенне на год з чвэрцю. Астраўца Мяцёлкін прасіў апраўдаць: падсудны ні ў чым не выявіў свае незаконнае дзейнасці.

Бабека запытаў кожнага з падсудных, ці хочуць яны сказаць сваё слова суду. Падсудныя адмовіліся. Тады старшыня зачытаў суддзям некалькі пытанняў, на якія суд павінен быў сказаць: вінаваты або не вінаваты. Пасля гэтага Бабека абвясціў перапынак на дзве гадзіны. Суд пайшоў у спецыяльны пакой на нараду, прасцей сказаць — на абед, бо спрактыкаваны старшыня ўжо меў у партфелі прыгавор.

## XXXVII

Лабановіч вышаў з залы суда з такім адчуваннем, нібы ў яго галаве ляжала цэлая куча намалочанай, але не правеянай збажыны. Так многа было супярэчлівых думак, пачуццяў, вобразаў, уражанняў.

Было ўжо каля шасці гадзін вечара. Зранку Лабановіч нічога не еў і накіраваўся ў рэстаран. Яго прывабіла шыльда «Каўказ». Але нічога каўказскага ў тым рэстаране не было, і нават гаспадар яго мала чым з выгляду адрозніваўся ад Бабекі: тая-ж раздвоеная барада, толькі не сівая, а цёмнарусая, і сам рэстаратар быў шчуплейшы.

Андрэй заказаў сабе чарку гарэлкі і катлет. Усё адно: засудзяць — піць не давядзецца, апраўдаюць — заробіць і на выпіўку і на закуску. Думка аб тым, за-

судзяць яго ці апраўдаюць, была асноўнай. Праўду сказаць, Лабановіч быў упэўнены, што яго апраўдаюць. Гэту ўпэўненасць падтрымаў і адвакат Петруневіч, калі ў перапынку падышоў да Андрэя і сказаў: «Можаце не трывожыцца — вас павінны апраўдаць».

Выпіўшы чарку гарэлкі і закусваючы катлетаю, без меры салёнаю, Андрэй успомніў крыху раскісшага Уладзіка і моцнага духам Сымона Тургая. «Засудзяць хлопцаў», — думаў Андрэй. І вялікае спачуванне да іх радзілася ў сэрцы яго. І сапраўды: як-жа так? Ён, Андрэй, будзе апраўданы! Перад ім расчыніцца шырокі свет, а іх з суда ізноў павядуць у астрог, пазбавяць волі на невядомы час. Дык лепей няхай і яго, Андрэя, засудзяць разам з імі. І на сэрцы было-б спакайней і меўбы праўдзівае ўяўленне аб турме, аб тым, як жывуць у высылцы. Адна справа чуць пра гэта з пабочных крыніц, з мастацкай літаратуры, і іншая справа — перажыць, адчуць на сабе ўсе царскія «літасці» да забітага народа. Толькі-б не на доўгі час засудзілі і не разлучылі-б з сябрамі.

У Лабановіча было правіла — не пазніцца. Пасілкаваўшыся і расплаціўшыся за падмацунак, Андрэй павольна падыбаў у суд.

Самага важнага суд яшчэ не сказаў. І Бабека, відаць, быў упэўнены, што пакінуты на волі падсудны Лабановіч нідзе не дзенецца, прыдзе выслухаць прыгавор. Нават крыўдна было ад такіх думак. А што калі-б узяць ды павярнуць аглоблі ў другі бок, далей ад гэтага зласнага будынка? Пайсці глухімі завулкамі за межы горада, у поле, і накіраваць ступакі свае куды-небудзь на Заслаўе, на Барысаў або на Ігумен? Пачалі-б чытаць прыгавор, прачыталі, Бабека адчуў-бы сябе ў становішчы дурня. Так летуценіў Андрэй, а ногі неслі яго ўсё бліжэй да будынка земскай управы.

Пры дзвярах стаяў гарадавы.

— Рана яшчэ! — начальніцкім тонам прамовіў ён.

Лабановіч толькі акінуў гарадавога кароткім строгім поглядам і сказаў:

— Можа, каму і рана, а мне якраз упору. — І рашуча сунуўся ў дзверы.

Гарадавы збянтэжыўся: можа, які сышчык або на-

чальства якое? І прапусціў Лабановіча. Праз поўгадзіны ў залу пачала сходзіцца публіка. Цяпер уваход быў вольны для ўсіх.

Бабека быў чалавек пунктуальны. Роўна без дваццаці восем вечара зноў пачуўся громкі голас:

— Устаць! Суд ідзе!

З таго-ж самага пакоя і ў тым-жа парадку, як і наўперад, ішлі суддзі і саслоўныя прадстаўнікі на чале з Бабекам і маршалкам Ромава-Рымша-Сабурам. Бабека быў яшчэ болей важны, чым раней. Уладзік і Тургай былі своечасова прыведзены і сядзелі на лаве падсудных. Лабановіч сядзеў сярод публікі на ранейшым месцы.

У зале адразу-ж запанавала цішыня. Не спяшаючыся, важна ўзняўся з свайго трона Бабека і, трымаючы ў руках ліст паперы, прыступіў да чытання рэзалюцыі суда, — тое самае, што і прыгавор, толькі ў болей кароткай форме. Спачатку глухавата, а далей усё грамчэй чытаў Бабека:

«1908 года, верасня 15 дня.

Па ўказу яго імператарскай вялікасці Віленская судовая палата, па крымінальнаму дэпартаменту, у публічным судовым пасяджэнні ў складзе (пералічаліся суддзі, саслоўныя прадстаўнікі, пракурор і сакратар), выслухаўшы справу аб сялянах (пералічаліся падсудныя, апроч Астраўца), прыгаварыла сялян Лабановіча, Лявоніка і Тургая заключыць у крэпасць на тры гады кожнага. Судовыя выдаткі па гэтай справе ўскласці на асуджаных пароўну і за кругавою іх адказнасцю, а пры нястатнасці ўсіх іх прыняць на кошт казны. Рэчавыя па справе доказы пакінуць пры справах. Селяніна Мацвея Астраўца лічыць апраўданым па суду».

Як толькі чытанне рэзалюцыі было скончана, Бабека, як арол, акінуў вачамі залу і трубным голасам аддаў загад:

— Асуджанага Лабановіча Андрэя Пятрова зараз-жа ўзяць пад варту!

Лабановіч і не апамятаваўся, як да яго падбег зусім яшчэ малады і плюгавы на выгляд акалодачны і схапіў за руку.

— Чаго ты скачаш, як пеўнік, і хапаешся за мяне?

Я-ж не ўцякаю. — Лабановіч спакойна, але з сілаю вызваліў руку. — Арыштаваць не ўмееш — служака! — з насмешкаю прамовіў ён.

У гэты час падышоў плячысты гарадавы. Ён злёгку штурхануў Лабановіча.

— Ну, ідзі! — па-начальніцку скамандаваў ён.

— Вось гэта слова! — азваўся Лабановіч і пад канвоем гарадавога пакінуў залу.

У гэты-ж час канвойнікі вывелі Тургая і Уладзіка. Лабановіча далучылі да іх, але гарадавы ад яго не адступаўся. Уоддалі тырчаў акалодачны, болей салідны, чым той, што арыштаваў Андрэя.

Уся працэсія накіравалася ў бок астрога, а ён стаяў якраз насупраць земскай управы. Гаварыць паміж сабой арыштаваным забаранялася. Яны толькі абменьваліся каароткімі позіркамі і сяброўскімі ўсмешкамі.

Андрэю здалося, што яго сябры засталіся задаволенымі прыгаворам суда. Цяпер ужо не прыходзілася гадаць, зазіраць у будучыню, які налучыць лёс. Адбыць тры гады, а там пачнецца новае жыццё.

Хвілін праз дзесяць працэсія спынілася, падышлі да астрога. Высачэзная жалезная брама знізу, метры на два з палавінаю, была зроблена з суцэльнага жалеза, а да самага верху ішлі тоўстыя металічныя штакецін з вузкімі прасветамі. Яна адгароджвала будынак астрога і кантору ад знешняга свету. Прабрацца праз браму без належных прыстасаванняў было немагчыма.

Старшы канвойнай каманды пастукаў кулаком. У жалезнай сцяне брамы адчыніліся дзверцы, таксама жалезныя. Адтуль выглянуў вусаты панура твар астрожнага прываротнага. Зірнуўшы на канвой і на арыштаваных, ён моўчкі прыадчыніў вароты і прапусціў іх у кантору. Там сядзеў Рагоза, дзяжурны памочнік начальніка турмы. Ён прыняў арыштаваных, распісаўся. Канвойнікі выйшлі. Цяпер прыведзеныя ў астрог засуджаныя называліся проста арыштантамі.

— Абыскаць! — загадаў рыжавусы Рагоза з чырвоным ад гарэлкі тварам.

Два наглядчыкі прывычнымі рукамі і спрактыкаванымі пальцамі абмацалі ўсе кішэні і вопратку ад галавы да пят. У Лабановіча забралі складаны ножык, нязменнага спа-

дарожніка грыбных паходаў, бумажнік, у якім хавалася рублёў пятнаццаць грошай. Таксама залезлі ў кашалёк, дзе было з поўрубля дробязі. Бумажнік і кашалёк павытрасалі, грошы палажылі на стол. Усе адабраныя рэчы запісалі ў асобную кнігу.

— Адседзіш свой тэрмін, пры вызваленні атрымаеш, — растлумачыў Рагоза Лабановічу.

— Завесці ўсіх у першую камеру на другім паверсе, — аддаў загад старшы наглядчык Дожджык, падобны з выгляду да вядомага генерал-губернатара Мураўёва.

— Ну, пайшлі! — скамандаваў наглядчык, якому быў дадзен загад весці арыштантаў.

Пераступіўшы парог канторы і праціснуўшыся праз другія вузкія варотцы ў браме, сябры апынуліся на турэмным двары і пачуліся вальней.

— Што, не спадзяваўся? — запытаў Андрэя Сымон Тургай, і паціснуў яму крэпка руку.

— І спадзяваўся і не спадзяваўся. Ну, ды чорт іх бяры! Абы разам з вамі і на адзін тэрмін, — адказаў Лабановіч.

— Правільна гаворыш, Андрэй! — азваўся весела Сымон.

Ужо было цёмна. Пануры астрог цьмяна асвятляўся газоўкамі, ад гэтага вокны здаваліся сляпымі. На жалезных прутах віселі торбы, клуначкі з арыштанцкім скарбам. Заўважаліся ў вокнах і твары жыхароў гэтага жудаснага дома, аднак здавалася, нібы гэта мітусіліся не людзі, а іх цені. Жыхары цёмнага астрога пазналі прыбыўшых.

— Сымон! Уладзік! — чуліся галасы з розных акон за жалезнымі кратамі. — Колькі далі?

— Драй! — адказаў чамусьці па-яўрэйску Сымон.

Каб папасці на другі паверх у камеру, трэба было прайсці яшчэ адны жалезныя дзверы. Яны расчыніліся з рэзкім бразгатам. Па жалезных прыступках, скупа асветленых начнымі лямпамі, падняліся на першы, а потым і на другі паверх, павярнулі налева. Насустрач ішоў калідорны наглядчык у чорным шынялі. Усё тут было чорнае: і жалезная брама, і вароты, і адзенне наглядчыкаў і калідор.

— Адчыняй першую камеру! — сказаў наглядчык, што вёў засуджаных з канторы.

Калідорны наглядчык, не спяшаючыся, уляжыў ёмкі ключ у замок камеры, адамкнуў, паглядзеў на прышоўшых.

— З прыбыткам прышлі! — з насміханнем прамовіў ён, акінуўшы вокам Лабановіча.

— Не выскаляйся, Бакіноўскі, пускай у камеру, — строга сказаў Тургай.

— Што, хіба хутка пакідаеш яе? — не сунімаўся Бакіноўскі. Ён шырока расчыніў дзябёлыя, акутыя жалезам дзверы, і хлопцы ўвайшлі ў камеру.

— Ну, вось мы і дома, дзякуй богу, — пажартаваў Уладзік. З гэтай камеры яго і Сымона павёў канвой на суд.

## XXXVIII

Малюнак, што паўстаў перад вачамі Лабановіча, ашаламіў яго. Камера была біткам набіта людзьмі, бледнымі, худымі, як шкілеты. Пры цьмяным асвятленні кура́вай лямпы камера здавалася бруднай трушчобай, куды сходзяцца нанач цёмныя людзі, аматары глухіх завулкаў і дарог. Даўно беленыя сцены брудна-рыжаватага колеру выглядалі жудасна, прыгняталі. Насельнікі камеры, якіх за доўгі час перабывала тут тысячы, забівалі ў сцены цвікі, каб павесіць свае манаткі. У дзірках каля цвікоў тоўпіліся кучы клапоў са шматлікім патомствам. Пры сцяне каля дзвярэй стаялі збітыя з грубых дошчак паліцы. На іх ляжаў хлеб, арыштанцкія «пайкі», лыжкі і розныя дазволеныя рэчы астрожнага ўжытку. Угары над дзвярамі красаваўся «каляндар», нарысаваны вугалем чатырохкутнік, падзелены на сем клетак. У кожную клетку ўпісвалася чысло, а калі дзень канчаўся, яго перакрэслівалі. Так рабілі, пакуль не праходзіў тыдзень, а потым пісалі новы каляндар. На другой сцяне ва ўсю даўжыню значыўся таксама напісаны вугалем лозунг: «У барацьбе здабудзеш ты права свае!» «Цікава, як гэта эсэры здабываюць тут правы?» — пасміхнуўся Лабановіч.

У камеры сядзелі людзі розных узростаў, нацыянальнасцей і сацыяльнага становішча. Тут былі прадстаўлены

ўсе катэгорыі арыштантаў: крымінальнікі і палітычныя, або, як называлі іх у турме, палітыкі. Былі засуджаныя на катаргу, у высылку, у арыштанцкія роты, у крэпасць, як Лабановіч і яго сябры. Былі і такія, што чакалі яшчэ суда. Засуджаныя на катаргу былі апрануты ў арыштанцкае адзенне і закуты ў кайданы, злучаныя доўгім, цяжкім жалезным ланцугом. Каб зручней было хадзіць, ланцуг, згарнуўшы папалам, звычайна падвязвалі да раменнага пояса.

Усё рознамасцёвае насельніцтва камеры гаманіла, гуло, часамі там-сям чуўся закацісты рогат. Многія ў зацятым маўчанні снавалі ў праходзе паміж двух нараў ад дзвярэй да акна і назад. Некаторыя стаялі каля дзвярэй і пазіралі на астрожны калідор праз жалезныя ёмкія пруты, устаўленыя адзін ад аднаго на такой адлегласці, што можна было прасунуць між іх руку. Крыху ніжэй прутоў у дзвярах быў прароблен ваўчок, круглая дзірка, каб варта магла бачыць, што робіцца ў камеры. З розных камер на калідоры таксама далятаў прыглушаны шум, чуўся звон і бразгат ланцугоў-кайданаў. Усе камеры былі замкнуты на замок, бо ўжо адбылася паверка, і парашы займалі пачэснае месца каля дзвярэй.

Позна вечарам астрог угаманіўся. Адзін за адным пачыналі класціся людзі на сваіх шчупленькіх казённых сеннічках, умошчваючыся плячо ў плячо на цвёрдых і брудных нарах. Хто клаўся моўчкі, панура, а хто, уладзіўшыся ў сваім берлажку, казаў што-небудзь жартлівае.

— Эх, брат, дзе рай, дык рай! Лажыся спаць, калі хочаш, уставай, калі зажадаецца, або калі пакліча параша, а то і зусім не ўставай. І ахоўваюць цябе, як генерал-губернатара!..

Перад Лабановічам паўстала пытанне: як прымасціцца на ноч? Сымон і Уладзік прышлі на дапамогу: яны ссунулі свае нішчымныя сеннікі ўсутыч і ўлегліся ўсе трое.

— Не дрэйф, Андрэй, заўтра ўладзімся лепей, — падбадзёрваў яго Сымон Тургай.

Уціснуўшыся паміж сяброў, ляжаў Лабановіч на кавалачку сенніка. Скаціцца не было куды: і справа і злева шчыльна ляжалі людзі. У галаве ўсё перамяшалася. Які

доўгі быў дзень! Колькі ўражанняў! Часамі здавалася, што гэта — цяжкі пачварны сон, ад якога Андрэй абудзіцца і ўсё знікне. Ён прыгадаў той момант, калі Бабека чытаў прысуд. Тады тры гады зняволення ў крэпасці вялікага ўражання не зрабілі. Андрэй памятае, як ён зірнуў на сяброў і пасміхнуўся. А цяпер, лежачы на цвёрдых нарах, сціснуты жывымі чалавечымі целамі, ён уявіў сабе тры гады: тысячу дзевяноста пяць дзён і начэй! Ён адчуў іх жыва, рэальна. Тры гады сядзець у гэтых брудных сценах, тры гады насіць на сабе кляймо пазбаўленага волі арыштанта! Тры гады быць адарваным ад жыцця, ад народа, ад усяго, з чым зжыўся і што табе міла і дорага!

На нейкі момант стала цяжка-цяжка, нібы апала сэрца. Але Андрэй прыгадаў, што ў гэтай камеры ёсць людзі, пазбаўленыя ўсякіх чалавечых правоў, закутыя ў кайданы і засуджаныя на доўгія гады ў катаргу. З якою радасцю памяняліся-б яны на лёс Лабановіча! Гэта разважанне прынесла крыху заспакаення Андрэю. Але заснуць ён не мог: як на ліха, клапы ўчулі свежага чалавека і сталі кусаць часта і моцна.

Павалі камера заспакоілася. Прыціх звычайна шумны астрог. Па-ранейшаму цьмяна гарэлі лямпы. Зрэдку па калідоры крочыў турэмны наглядчык, падыходзіў да ваўчка камеры, прыглядаючыся, што робіцца ў ёй. Найчасцей яму даводзілася бачыць, як які-небудзь арыштант, зняўшы кашулю, садзіўся каля лямпы і пачынаў распраўляцца з паразітамі.

Цяжка варочаліся на нарах катаржнікі, пазвоньваючы кайданамі. «Навошта гэты здзек, гэта дзікасць і гвалт над чалавекам? — думаў, выбіўшыся са сну, Лабановіч.

— Ды не! — запярэчыў ён сам сабе. — Некаму гэта патрэбна. Вось-жа і мяне ўпяклі ў астрог, нават не паклапаціўшыся падперці прысуд доказамі. Нездарма казаў Семіпалаў, што ўсё дыктуе палітыка. Так яно і ёсць: зараз спатрэбілася скінуць з царскай дарогі небяспечных людзей, а заадно і такіх, што ў пэўны момант могуць стаць небяспечнымі».

Лабановіч папрабаваў павярушыцца, але гэта было трудна зрабіць, не патрывожыўшы сяброў. Сон абняў усю камеру, можна было вольна разважаць далей.

«Значыць, самаўладства баіцца, — думаў Лабановіч. — Чыноўнікі, салдаты, закон, на варце якога стаіць суд, жандары, паліцэйскія кручкі і шпікі. Здавалася-б, грамозная махіна, аднак і ёй можна нагнаць страху. Спалохаліся, што недзе ходзіць па волі беспрацоўны «агарак»! Выходзіць, што і «агарак» — сіла!» Ад гэтай думкі Лабановіч пачуў сябе мацней і ўсміхнуўся. «У чымжа сіла такіх, як я? — запытаў сам сябе. На гэта ён адказаў, крыху счакаўшы: — Калі ты сам убачыў, што лад жыцця несправядлівы, і адкрыў сяму-таму вочы, дык так пакрысе і ўсе людзі стануць відушчымі. А гэта і ёсць жывая пагроза царызму».

Лабановіч прыгадаў Аксена Каля з Высокага, што так старанна вучыўся грамаце, потым Шуську і Ратkевіча на палявой сцежцы ў Мікуцічах. Далей успомнілася, як чакаў ён Вольгу Віктараўну ў Пінску, як пазнаёміўся з таварышамі Глебам і Грышам. Што з імі цяпер?

Лабановіч абвёў вачамі зняволеных, што пóкатам ляжалі на нарах, цяжка храпучы і ўскрыкваючы цераз сон. «Пэўна, і тут ёсць людзі, што ведаюць глыбіні і далечы рэвалюцыі. Знойдзецца з кім таварышаваць і павучыцца».

Ва ўяўленні ўсплыла постаць соцыял-дэмакрата Кастогіна ў доме на мінскай ускраіне. «Вось каб давялося яшчэ сустрэцца...»

Перад Лабановічам паўстаў велічны вобраз грознай, хоць і залітай крывёю нядаўняй рэвалюцыі. Паветра дыхала навальніцай, полымя магло ўзгарэцца...

«Значыць, барацьба будзе. Трэба больш гарнуцца да людзей. Тады...»

Што будзе тады, Лабановіч выразна не ўяўляў, але адчуў, што пакіруе сваё жыццё неяк інакш. Такі настрой рашучасці ўзняў яго дух.

Толькі пад самую раніцу моцна заснуў Андрэй, і сон падмацаваў яго. Аднак абудзіўся ён рана, калі Уладзік і Тургай яшчэ спалі. Пры святле дня і камера і насельніцтва яе выглядалі, здавалася, весялей. Лабановіч ляжаў моўчкі, наглядаў за ўсім, што рабілася тут: было цікава прыгледзецца да жыцця, да людзей у новых абставінах. Тым часам то той, то другі паварушваўся на нарах, абуджаўся. Шмат хто з жыхароў камеры пачынаў

дзень завілаватаю лаянкаю, ні да каго не адрасаванаю, пасля чаго парадкаваў сваё ложа ды ішоў умывацца. Умываліся над парашаю, бо ўмывальнікі знаходзіліся ў прыбіральні і трэба было чакаць, пакуль адамкнуць камеру. Звычайна к гэтаму часу ўставалі ўсе, апроч самых заядлых лежабокаў.

— Ну, як, старына: выспаўся? — добрадушна і хітравата запытаў Андрэя Уладзік.

— Дзе тут выспішся, калі ты ўночы скрыгічаш зубамі так, нібы табе на іх трапіў Бабека! — адказаў жартаўліва за Андрэя Сымон Тургай, які ляжаў з другога боку.

— Нічога, Уладзік: трохі паспаў... Жыць можна, — махнуў рукою Лабановіч.

— Будзем падымацца, чорт ім тата! — прамовіў Тургай і прысеў на нары.

Як вымагаў камерны парадак, заведзены самімі зняволенымі, сябры падгарнулі свае сеннікі бліжэй да сцяны і накрылі грубымі казённымі коўдрамі, зробленымі нямаведама з якога матэрыялу.

Тым часам наглядчык адамкнуў камеру і выпусціў усіх «на апраўку». У камеры былі свае дзяжурныя — вынесці на дзень і прынесці на ноч парашу. Асобны дзяжурны быў для падмятання камеры і для нагляданне за агульным парадкам у ёй. Дзяжурылі па чарзе, прычым дзяжурны меў пэўную ўладу. Напрыклад, калі ён падмятаў праход паміж нарамі, дык мог загадаць сесці на нары, каб не заміналі. І ўсе павінны былі слухацца яго, хто-б ён там ні быў.

Разам з усім насельніцтвам камеры Лабановіч выйшаў на калідор, які цягнуўся праз увесь будынак астрога. Усе астатнія камеры былі зачынены, людзей выпускалі па чарзе. Невялікія акенцы ў адным і ў другім канцы калідора давалі мала святла. Ад таго, што сцены былі афарбаваны напалавіну ў чорны колер, здавалася яшчэ цямней.

Уладзік і Сымон, як «старыя арыштанты», былі кансультантамі і паведамілі прыяцелю шмат цікавага з астрожнага побыту, напрыклад, пра камеры ў вежах. На астрожнай мове яны называліся «дваранскімі». Туды

звычайна саджалі людзей важных: чыноўнікаў, пачынаючы з калежскіх асэсараў, паноў, калі ім даводзілася пападаць у астрог. Траплялі туды таксама і палітыкі, калі яны мелі вагу і не пустыя кішэні. У «дваранскіх» камерах было святлей і весялей. І рэжым там іншы: увесь дзень дзверы былі адчынены. Замест цвёрдых нар стаялі выгодныя тапчаны, паліліся печы, дзе можна было гатаваць сабе смачную страву, грэць чай і наогул песціць сваю асобу. Папасці ў такую камеру звычайнаму смяротнаму было цяжка. Для гэтага трэба было мець заруку за сценамі астрога, каб добра дагадзіць адміністрацыі, або такія сродкі, якія расчынілі-б дзверы ў «дваранскую» камеру. На гэтым грунце, як апавядалі «старыя арыштанты», вынікалі часамі смешныя праявы.

Неяк у адну з «дваранскіх» камер, дзе было вольнае месца, імкнуліся папасці два прэтэндэнты: эсэр і анархіст. Паміж імі пачалося змаганне. Адміністрацыя не спяшалася аддаваць каму-небудзь перавагу. Яна проста брала «падаткі» з аднаго і другога да таго часу, пакуль хто-небудзь не перакрываў у значнай меры свайго канкурэнта. У першай камеры, дзе ўсё гэта было вядома, з цікавасцю сачылі за барацьбой кандыдатаў у «дваране». Па камеры праносілася чутка:

— Барыс (эсэр) сягоння даставіў у кантору тры фунты масла.

На гэта адказвалі:

— Што там тры фунты масла! Анатоль (анархіст) заслаў туды з поўпуда мёду.

Масла і мёд падхватваліся на языкі і служылі тэмаю для жартаў і смеху. Украінскую песню «Узяў-бы я бандуру» перайначылі і спявалі:

Узяў-бы дзежку мёду,
Ды ў кантору даў,
Скажуць арыштанты —
Дваранінам стаў.

Верх узяў Барыс. Праз некаторы час ён пераносіў свае манаткі на новае месца, а з другіх камер выгуквалі:

— Дваранін! Дваранін!

— Барыс, колькі каштавала табе дваранства?

## XXXIX

За два-тры тыдні Лабановіч азнаёміўся з астрожным жыццём у агульных рысах. Адгароджанае ад усяго свету высокімі сценамі, паўздоўж якіх удзень і ўночы хадзіла варта, загнанае ў цесны, смуродны астрог, акуты ў жалеза, гэтае жыццё было нецікавае, аднастайнае. Заведзены парадак не парушаўся ў сваіх асновах. Раніцаю, у пэўныя гадзіны, адбывалася паверка. Дзяжурны наглядчык з шумам расчыняў дзверы камеры і камандаваў:

— Смірна! Устаць на паверку!

У камеру ўваходзіў дзяжурны памочнік начальніка астрога, старшы наглядчык Дожджык, які здаўся Лабановічу з першага погляду падобным да Мураўёва-вешальніка.

На паверку падымаліся не адразу. Спачатку каманду дзяжурнага наогул не слухалі. Толькі той-сёй з самых адпетых падлізнікаў, хочучы падслужыцца да начальства, станавіўся навыцяжку, як салдат, пасярод камеры. Пасля таго, як адбывалася паверка, камеры па чарзе адмыкаліся, арыштанты выходзілі на калідор, ішлі ўмывацца, прыводзіць сябе ў парадак. Вечарам, зрабіўшы паверку, наглядчыкі замыкалі камеры на ўсю ноч да наступнай раніцы.

У пэўны час прыносілі з пякарні хлеб. Пякарня была свая, арыштанцкая. Хлеб загадзя рэзалі на «пàйкі» ў прысутнасці другога старшага наглядчыка, Алейкі: ён сам кідаў «пáйкі» на вагу. Кавалак хлеба, стукнуўшыся ў талерку вагі, цягнуў яе ўніз, быццам-бы «пáйка» важыла болей нормы — два з палавінаю фунты. Алейка быў спрытны махляр і нажываўся на арыштанцкім хлебе, гароху, капусце і сале.

У турме быў устаноўлены штат арыштантаў: разносчыкаў хлеба, кіпню і гарачай стравы ў абед. Хлебапёкамі, кухарамі, калідорнымі, падмятайламі былі толькі крымінальнікі, пераважна кароткатэрміновыя. Кожны крымінальнік лічыў вялікай радасцю і гонарам папасці ў гэты штат. Адна толькі пасада, пасада падмятайлы, не дужа карысталася павагаю з боку арыштантаў. На спра-

ве-ж падмятайлу было шмат весялей мець справу з венікам і памяцельнікам, з ачысткаю прыбіралень, чым сядзець увесь дзень у камеры. Апроч таго, падмятайла меў болей шырокія зносіны з людзьмі, з тымі-ж арыштантамі, мог зрабіць ім сякую-такую паслугу і сам здабыць што-колечы.

Ды які цяжкі ні быў астрожны парадак, як ні абмежавана была воля астрожнікаў, загнаных, як звяры, у цесныя клеткі, усё-ж і тут жыццё, чалавечыя пачуцці і імкненні выбіваліся на свае прасторы.

Сярод крымінальнікаў быў малады, крэпкі, як дуб, чалавек, поўнаўладны гаспадар у сваёй камеры. Уперадзе яго чакалі блуканні па перасыльных астрогах і доўгія гады катаргі. Але на яго твары ніколі не адбівалася і ценю пакуты, горкай развагі. Часамі на яго находзіла такая хвіліна, калі чалавеку хочацца разгарнуцца ва ўсю шырыню натуры. Не стрывае душа, нейкая бура падхопіць яе, і ён, расчысціўшы сабе месца ў камеры, пускаецца ў скокі. Ногі закуты ў цяжкія кайданы, а ён скача лёгка, прыгожа, выкрунтасіста. У гэтым была для яго асаблівая асалода, натхненне. Ён так умеў падзвоньваць сабе самому ланцугамі, падбіраць тоны, што гэты звон замяняў яму музыку, адпавядаючы ўласнаму настрою. І калі чалавек скакаў, яго рухі захаплівалі ўсіх. Размераны і нават музычны звон і бразгат ланцугоў разлягаўся па калідоры, далятаў у іншыя камеры. Да ваўчка падыходзілі дзяжурныя наглядчыкі, глядзелі, любаваліся бурнымі, нястрымнымі рухамі катаржніка Івана Гудзілы. Быць можа, ён выказваў гэтым свой пратэст супроць няволі і несправядлівасці грамадскага ладу, які зрабіў з чалавека злачынцу.

Вечарамі, калі камеры замыкаліся на ўсю ноч, зняволеныя праробляли розныя цікавыя штукарствы, напрыклад, падыманне чалавека кончыкамі пальцаў, або падыманне самога сябе на нары. Для гэтага трэба было падацца ўсім целам пад нары, а рукамі трымацца за іх край. Гэты нумар быў даволі трудны, і мала каму ўдавалася прарабіць яго. Падымалі чалавека кончыкамі пальцаў так. Пасярэдзіне камеры станавіўся хто-небудзь са зняволеных, пажадана чалавек ёмкі. Да яго падыходзілі

пяць чалавек: двое падкладалі пальцы пад наскі, двое — пад локці і пяты — пад бараду. Па камандзе «падымай!» усе браліся гуртом, узнімалі чалавека досыць высока і насілі яго па камеры.

Каб насмяяцца з неспакушанага новапрыбыўшага чалавека, які на арыштанцкай мове называўся лабуком, рабілі так. Адзін чалавек клаўся ніцма на сяннік на нарах, другі лажыўся на яго спінаю. Наверх укладалі трэцяга, таго, з каго і хацелі паздзекавацца. Той, хто ляжаў пасярэдзіне, хапаў ахвяру за рукі, а нагамі заціскаў ёй ногі. Тады падыходзіў які-небудзь спец па часці стаўлянbackня «банек», агаляў верхняму жывот і ставіў «банькі»: біў дзервяною лыжкаю па адцягнутай скуры.

Забаўляліся людзі, як умелі, як маглі і як дазвалялі абставіны. Той год, калі Лабановіч прышоў у турму, асабліва апошнія месяцы, быў годам узмацнення рэакцыі. Усе прывілеі, якімі на першых часах карысталіся зняволеныя, пастунова касаваліся. Астрожная адміністрацыя пачынала ўводзіць жорсткі рэжым, часта рабіла вобыскі, адбірала розныя рэчы, патрэбныя ў штодзённым абыходку, як самавары, нажы. Забіралі і кнігі, калі яны мелі хоць у найменшай ступені прагрэсіўны характар. Зняволеных вылучалі па катэгорыях і размяшчалі па асобных камерах.

Разам з групай іншых засуджаных у крэпасць у асобную камеру трапілі і нашы сябры. Зняволеных там было няшмат, чалавек сем-восем. Але гэты лік мяняўся: адны прыбывалі, другія выходзілі на волю, адбыўшы свой тэрмін. На агульны турэмны кацёл «крапаснікоў», як іх называлі, не залічвалі і харчоў не выдавалі. Замест гэтага на кожнага адпускалі па дзесяць капеек у суткі.

Перабраўшыся на новае месца, Уладзік па-гаспадарску акінуў камеру вокам і сказаў да сяброў:

— Тут, браткі, і занятак знайсці сабе можна: падвучыцца і па выхадзе на волю здаць экзамен на атэстат сталасці.

— Маладзец, Уладзік, што не дрэйфіш і пазіраеш далёка наперад, — пахваліў яго Сымон Тургай і з хітраватай усмешкай звярнуўся да Лабановіча: — Праўда, Андрэй: Уладзік цвяроза глядзіць на рэчы?

На гэта Лабановіч адказаў:

— Уладзік быў і застаўся чалавекам справы і мудрай жыццёвай практычнасці. І мне хочацца ў сувязі з гэтым расказаць пра адно здарэнне. Нейкія вандроўнікі падышлі да глыбокай рэчкі. Ні броду, ні моста не было. Плаваць яны не ўмелі і вады баяліся. На беразе ляжалі кругрякі. Адзін з вандроўнікаў, найболей кемны, скаціў кругляк у рэчку, потым зняў камашы, сеў верхам на бервяно, а ногі прывязаў да бервяна, каб не з'ехаць у ваду. На сярэдзіне рэчкі кругляк перакруціўся, плавок бухнуўся галавою ў ваду, а ногі са шкарпэткамі задраліся ўгору! Спадарожныя стаялі на беразе, пазіралі і казалі: «Глядзі ты, які змыслы наш Яшка: рэчкі не пераплыў, а панчохі ўжо сушыць».

Уладзік заўважыў:

— Я, брат, з кругляка не з'еду! А там, глядзіш, пражыў дзень, і воля бліжэй. Вось канчаецца, дзякаваць богу, месяц, значыць — адну трыццаць шостую часць няволі і скінулі з плячэй. Так, ці не так?

— Так, так, Уладзік! — пацвердзілі Сымон і Андрэй.

— А калі так, давайце падумаем, як латвей арганізаваць наша жыццё ў астрозе.

Уладзік запрапанаваў стварыць комуну, каб усе грыўні былі ў адных руках і каб адзін чалавек меў права са згоды ўсіх іншых распараджацца гэтымі грашамі.

Усё насельніцтва новай камеры абмеркавала Уладзікаву прапанову і пастанавіла: Уладзіка выбраць за аконама, каб ён вёў харчовую справу — выпісваў праз Дожджыка прадукты. Заставалася выбраць і свайго кухара. Па турэмнаму статуту «кухару» ад асуджаных у крэпасць дазвалялася хадзіць на астрожную кухню і гатаваць абеды. Кухарам назначылі Сымона Тургая: ён быў калідорным старастам, але ахвотна згадзіўся ўзяць на сябе і новую ролю, набыўшы такім чынам і другую пасаду.

Так пачалося новае жыццё асуджаных у крэпасць, адбываўшых сваю кару ў мінскім астрозе.

## XL

Аднастайнасць астрожнага побыту крыху ажыўлялася, калі ў камеру прыбывалі новыя засуджаныя. Траплялі сюды людзі розных прафесій і соцыяльнага стану: дробныя чыноўнікі, пісарчукі, чыгуначнікі і іншыя так званыя інтэлігенты. Аднойчы прывялі нават канакрада з-пад Ракава, нейкага Касперыча, маладога, малапісьменнага, але хітрага лодара. Ідучы ў раздабыткі па часці канакрадства, Касперыч браў з сабою пракламацыі. Калі ён пападаўся на кражы, яго спачатку моцна білі, а потым вялі ў паліцыю. Пры вобыску выяўлялася, што Касперыч не канакрад, а «палітык». Канакрада судзілі за пракламацыі, як палітычнага злачынцу, а яму толькі гэта і трэба было. Апошні раз Касперыча замест доўгатэрміновай катаргі засудзілі ў крэпасць на дзевяць месяцаў. Касперыч выклажыў сваю праграму дзейнасці перад жыхарамі камеры, весела пасмейваючыся з уласнай хітрай выдумкі.

— Да якой-жа палітычнай партыі належыш ты? — запытаў яго з сур'ёзным выглядам Сымон Тургай, ледзь стрымліваючы смех.

— Мая партыя — ратуй сам сябе, — адказаў Касперыч, пазіраючы на Тургая маленькімі свінымі вочкамі.

— Значыць ты — аднабокі анархіст-індывідуаліст? — заўважыў Уладзік.

— А мне ўсё роўна які, хоць-бы сабе і аднабокі, — азваўся Касперыч.

У комуну яго не прынялі, дый сам ён да яе не гарнуўся і жыў на сваю грыўню. Крыху разгледзеўшыся і арыентаваўшыся ў нязвыклай абстаноўцы, Касперыч аднойчы запытаў Уладзіка:

— Колькі чалавек можа з'есці сырога сала?

Уладзік засцярожліва паглядзеў на Касперыча, спадзеючыся нейкага падвоху. А для «старога» арыштанта даць ашукаць сябе лічылася ганьбаю.

— Галоднай куме хлеб на ўме? — хітра пасміхнуўся Уладзік.

— Можа, і так, — абыякава прамовіў Касперыч і паўтарыў пытанне: — Не, не на жарты: колькі чалавек здужае з'есці сырога сала?

— Гледзячы, які чалавек і якое сала, — адказаў Уладзік: — Я, напрыклад, выгаладаўшыся, з'еў-бы фунтаў са два.

— Два фунты! — зняважліва адклікнуўся Касперыч: — А я магу з'есці сем фунтаў!

— А не разарве цябе? — не паверыў Лабановіч і сказаў Сымону Тургаю: — «Палітык» бярэцца з'есці сем фунтаў сырога сала!

Сымон хадзіў па камеры і не звярачаў увагі. Пасля запытання Лабановіча ён спыніўся.

— А чорт яго ведае, які ў «палітыка» трыбух.

Касперыч рашуча сцвярджаў сваё і гатовы быў ісці ў заклад.

Каля Уладзіка і Касперыча сабраўся цэлы гурт. Нават Аляксандар Галубовіч, пераважна сур'ёзны, маўклівы, замкнёны ў сабе чалавек, піцерскі рабочы, большэвік па сваіх палітычных пераконаннях, далучыўся да грамады таварышаў па камеры.

— Калі нават і з'есць, дык вырве з яго, — сказаў Галубовіч.

Спрэчка ўсё больш разгаралася.

— Дык што, хлопцы, рызыкнём хіба? Як, Уладзік, рызыкнём? — звярнуўся Тургай да сяброў і да «аконама».

Уладзік выдаў кавалак сала з агульных запасаў. Сымон Тургай адважыў на кухні сем фунтаў і аддаў Касперычу. Той узяў з паліцы невялікі кавалак хлеба, сеў на нары і пачаў есці. Ён еў прагавіта: адрываў, як воўк, зубамі ёмкія порцыі сала, разам з кавалачкам хлеба. І сала і хлеб прападалі ў пашчы Касперыча. Ён варушыў сківіцамі, як жорнамі, малоў сала і хлеб, а потым, таксама па-воўчы, глытаў іх. І вочы яго блішчалі, як у воўка. З кожным разам сала заставалася ўсё меней і меней.

— Усё змеле! — расчаравана сказаў Уладзік.

І сапраўды, Касперыч залажыў у рот апошні кавалак хлеба і сала, не спяшаючыся пачвакаў, глынуў з выглядам пераможцы і нават засмяяўся.

— О, — сказаў ён, — цяпер аж да заўтрашняга можна трываць!

Тургай гучна зарагатаў.

— Ось прожар, дык прожар!

А Касперыч, як і нібыта таго, пагульваў па камеры і пасміхаўся.

Касперыч адседзеў свае дзевяць месяцаў і вышаў на волю. У памяці аб ім толькі ўсяго і засталося, што сем фунтаў сырога сала ды свіныя вочкі і сківіцы, якія варушыліся, як камяні ў жорнах.

Сярод кароткатэрміновых зняволеных часамі пападаліся аматары, што любілі шмат гаварыць і наплесці з тры кашалі рознай хлусні. Свае выдумкі для ўзвелічэння саміх сябе яны падносілі, як сапраўднасць. Іх слухалі, нават заахвочвалі, каб даць разалгацца яшчэ болей. Па-астрожнаму такіх людзей проста называлі залівакамі, ад выразу — залівацъ кулі, што значыць ілгаць.

Да залівак належаў нядаўна прыведзены ў камеру Зыгмусь Зайкоўскі. Гэта быў просты чалавек гадоў трыццаці, сталяр па прафесіі. Асвойтаўшыся ў камеры, Зайкоўскі садзіўся каля стала на нары, скручваў ёмкую цыгарку з грамадскай махоркі, а яна стаяла ў памястоўнай скрынцы, смачна зацягваўся і расказваў аб сваіх прыгодах.

Адно такое апавяданне запомнілася Лабановічу.

Аднойчы Зыгмуся, так расказваў ён, затрымалі несвядомыя сяляне за агітацыю супроць царскіх парадкаў і пасадзілі ў пусты свіран. Сядзець там Зайкоўскі не хацеў. Вось і пачаў ён снаваць з кутка ў куток. Спачатку было цёмна, а потым вочы прыгледзеліся і сёе-тое можна было разабраць. Абмацаў Зыгмусь усе дошкі ў падлозе. Яны былі тоўстыя і шчыльна прыбіты плінтусам. Не было за што зацяць не толькі рук, але і пальцаў. План узадраць падлогу і зрабіць падкоп адпадаў. Але Зыгмусь цвёрда пастанавіў выбрацца. Ён зладзіў падмостак, узлез на яго, агледзеў столь. Падмостак быў нетрывалы, уперціся ў яго, каб плячамі ўзадраць дошку, было немагчыма. На шчасце ў свірне стаяла дзябёлая дубовая кадушка. Зыгмусь павярнуў яе дном угору, узлез, зрабіў спробу: угнуў галаву, а хрыбецінай і плечуком налёг на дошку. Дошка падалася і зарыпела. Зыгмусю аж страшна стала: а што, як пачуюць? Але навокал было ціха. Зыгмусь падняў дошку яшчэ вышэй. З гары за ка-

рак пасыпаўся пясок і розная дрэнь. Ну, ды ліха з імі! Праз хвіліну Зайкоўскі быў ужо на гары. Паслухаў — ціха. Тады ён прадраў страху і праз дзірку шуснуў на зямлю, а там яго толькі і бачылі.

Скончыўшы расказваць, Зыгмусь сам першы громка зарагатаў.

— І ўцёк?! — у вялікім здзіўленні і з робленым захапленнем выгукнуў Сымон Тургай.

— Ну-ж і лаўкач! — абазваўся Уладзік.

— Ды ты-ж асілак: узадраў хрыбецінаю дошку! — таксама здзівіўся і Лабановіч.

— А ты што думаў! — узнёсла прамовіў Зыгмусь і яшчэ з большым пыхам дадаў: — Ды гэта яшчэ не ўсё!

— Што ты кажаш?! — выгукнулі ўсе разам.

— А вось слухайце. Апынуўся гэта я на зямлі, азірнуўся, прыгнуўся і — шусь у каноплі! Разорамі, загуменнямі, выбраўся з вёскі і напраслкі — у хмызняк! І — на дарогу. Наперадзе, бачу, лес, ды далекавата. Бегчы на ўсю шпаркасць не выпадае: згледзяць, адразу дагадаюцца. Трэба-ж і кемлівасць мець. І што вы думаеце? Азірнуўся я — смаліць за мною верхам на кані кудлаты мужык без шапкі, толькі касмыкі на галаве трасуцца. Дагоніць, не дабягу да лесу! Дух займае, бягу, а пагоня ўсё бліжэй. Ззаду-ж за коннікам з пяць мужыкоў! Чэшуць навыперадкі! Што рабіць?

— Ой! Гэта проста трагічна! — спачувальна ўздыхнуў Тургай. — Кажы, што далей!

Зыгмусь правёў пальцамі па вусах.

— Бачу — густы лазовы куст пры дарозе. Я — у куст! І не ведаю, што будзе далей. Мужык, думаю, у куст з канём не ўедзе. Умомант разгледзеўся: ад куста канаўка ў бок дарогі. А паўздоўж дарогі яна і шырэйшая і глыбейшая і ўся зарасла травою! Я з куста — у канаву! Папоўз. Дапоўз да дарогі. Кудлаты мужык спыніў каня, закінуў яму на шыю павады, а сам — на зямлю! Спыніўся, махнуў мужыкам рукою: — тут, бач, злачынец! А я вось-вось каля кудлатага мужыка. Ён асцярожна абыходзіць куст. Конь хрумстае траву на ўзбочыне дарогі каля саменькага мяне. Павады з'ехалі з шыі — ледзь не на галаву мне! Я — хоп за павады! Конь спу-

жаўся, а я — скок на яго ды наўскапыта ў лес! Толькі і бачылі мяне!

— Ну, Зыгмусь! Герой ты, далі-бог, герой! — не ўтрываў Сымон і міргнуў сябрам. А гэта быў знак — выкрыць і высмеяць самахвальства Зайкоўскага.

Выкрыванне і высмейванне вяліся тым-жа парадкам, якім карысталіся «залівакі»: гаварыць самыя неверагодныя рэчы ды ў яшчэ большых памерах.

— Такія прыгоды рэдка з кім здараюцца, — нібы з зайздрасцю пачаў Уладзік. — Ды не ў прыгодах справа, самае важнае, як будзе трымацца чалавек. Кемлівасць, вынаходніцтва — вось што ўратавала Зыгмуся... Мне таксама хочацца расказаць пра адно здарэнне. Пайшоў я неяк пад восень збіраць грыбы. Зайшоў у лес. Бачу — старая хвоя, а ў хвоі дупло. Узлез на хвою: што там у дупле робіцца? Засунуў руку, а мяне за палец — цоп нейкі звярок! Аж кроў пайшла. Я абматаў руку торбачкаю ды ізноў у дупло! Злавіў за хіб нейкага звярка і цягну яго. Выцягнуў — куніца! Я яе мордачкаю аб хвою — стук! стук! — ды на дол. Засунуў руку ізноў — другая куніца! Я і яе такім-жа манерам — стук аб хвою ды ўніз. І ведаеце? Шэсць куніц выцягнуў з дупла! Звязаў я іх за хвасты, перакінуў праз плячо ды патарабаніў дамоў. Па тры з палавінаю рублі шкурку прадаў! Што скажаш, Зыгмусь?

Зыгмусь даўжэй зацягнуўся махоркаю і апусціў вочы, гадаючы, што адказаць на запытанне і як наогул паставіцца да апавядання Уладзіка. Ды Лабановіч папярэдзіў Зыгмуся.

— Ты — аконам, і прыгоды твае аконамскія, — сказаў ён Уладзіку. — Са мною не такі быў выпадак, праўдзівей са мною і з маім бацькам. Бацька мой быў пчаляр. На лета завёз ён пяць вулляў бліжэй да лесу, каб зручней было пчолам насіць мёд. І вось аднойчы, надвячоркам, чую: раве нешта, ды так, што аж зямля гудзе. Зірнуў я — бачу бацька трымае за хвост вялізнага звера і цягне да сябе. Я дагадаўся, што гэта мядзведзь прышоў паласавацца мёдам. Бацька цягне мядзведзя назад, а ён тужыцца наперад. І чую я — гукае бацька: «Андрэй! бяры лейцы ды бяжы сюды!» Я заскочыў у сенечкі, схапіў лейцы ды на пчольнік! Прыбег — бацька цягне мядз-

ведзя за хвост. Мядзведзь упіраецца і арэ лапамі зямлю, як сахою. «Закідай пад жывот лейцы!» — крычыць бацька. Я спрытна закінуў лейцы, зрабіў пятлю, каб не скінуліся. «Цягні!» — камандуе бацька. Ён цягне мядзведзя за хвост, а я за лейцы. Пачуў гэта мядзведзь ды як рванецца! Адарваў хвост! Бацька з хвастом на спіну паваліўся і ногі задраў. Я адзін трымаю звяругу. А ён яшчэ мацней рвануўся. Я нагамі па калені ў зямлю закапаўся. І раптам лейцы — трэсь! Толькі кончыкі ў маіх руках засталіся. Сарваўся мядзведзь і паджгаў у лес. Замест хваста пару ляйчын павалок з сабою. Падняўся бацька з зямлі, паківаў галавою: шкада, што мядзведзя выпусцілі. А потым кажа мне: «Ну, сынок, цяпер мядзведзь па мёд хадзіць не будзе».

Дзед Юзафовіч, белавусы, сямідзесяцігадовы чалавек, сапраўдны аконам, засуджаны ў крэпасць на адзін год, ляжаў на нарах, залажыўшы рукі за галаву, слухаў ды пасмейваўся.

Іван Сарока, спрытны мужычок з-пад Астрашыцкага Гарадка, не зварачаў увагі на ўсе гэтыя плявузготы, сядзеў каля падаконніка і шавецкім нажом — нож узычыў яму шавец Лазар Мардуховіч, малады хлапец, засуджаны ў крэпасць на паўтара года — рэзаў скарынкі хлеба на дробненькія кавалачкі, каб пакарміць галубоў. Яны зляталіся на падаконнік цэлымі чародамі.

— Ось, чэрці шарачковыя! — азваўся Тургай на расказы сяброў. — Што-ж мне сказаць пасля гэтага? Хіба пра свайго дзеда? Мой дзед важыў адзін пуд і адзін фунт... Што вы смеяцёся? Далі-бог, праўда: адзін пуд і фунт! Баба мая, бывала, возьме яго падпаху і нясе, як абмалочаны аўсяны сноп. А спачатку дзед быў чалавек ёмкі, дужы. Калі-б Андрэеў бацька паклікаў не Андрэя, а майго дзеда, дык яны мядзведзя не выпусцілі-б. Ды вось якое ліха здарылася з дзедам. Паснедаў ён на Сёмуху ды пайшоў пад вішню ў халадок адпачыць. А ўстаў, пачуў, што нешта не далягае ў вуху. І пачаў ён з таго дня сохнуць. Сох, сох, аж покі ад яго не застаўся адзін пуд і адзін фунт. На галаву скардзіўся дзед: баліць і шуміць у галаве. Павезлі дзеда ў бальніцу. Агледзелі яго дактары, выслухалі, а потым кажуць: «Аперацыю трэба рабіць: у мазгах нешта завя-

лося». Зрабілі дзеду аперацыю: падрэзалі накрыватку на галаве, чэрап, ну, як на кавуне скарынку. Як толькі паднялі накрыватку, з дзедавых мазгоў — скок жаба! Не верыце? — Тургай стукнуў сябе кулаком у грудзі і з самым сур'ёзным выглядам пабажыўся, што гэта праўда. — Аказалася вось што, — тлумачыў далей ён: — Калі дзед ляжаў у халадку, яму ў вуха залезла малюсенькая жабка. З вуха перабралася ў мазгі, смактала іх і гадавалася.

Аляксандар Галубовіч, шнуруючы з аднаго канца камеры ў другі, з прытоенаю ўсмешкаю прыслухоўваўся да неверагодных падзей, аб якіх расказвалі Андрэй і Уладзік. А калі Сымон Тургай пачаў апавяданне пра свайго дзеда, Галубовіч прыпыніўся каля слухачоў і прысеў разам з імі. Пасля нечаканага фінала, якім скончыў Тургай сваё апавяданне, Галубовіч громка зарагатаў. Дый нельга было не смяяцца, гледзячы на сур'ёзную Сымонаву міну, з якою выдаваў ён лухту за праўду.

— Не звяліся яшчэ цуды на нашай зямлі, — гаварыў, рагочучы, Галубовіч.

— Закасаваў ты, брат Сымон, усіх нас: і Зыгмуся, і Уладзіка, і мяне, — сказаў Лабановіч, таксама не могучы ўтрымацца ад смеху.

Сябры весела смяяліся. Да агульнай весялосці далучыўся сам Зыгмусь Зайкоўскі і шмат хто з таварышаў.

Жыхары камеры асцерагаліся потым хадзіць сцежкамі Зыгмуся Зайкоўскага.

## XLI

Аляксандар Галубовіч займаў своеасаблівую пазіцыю. Ён мала калі прымаў удзел у забаўках сяброў па камеры. Часам цэлымі гадзінамі ляжаў на нарах з кніжкаю ў руках. Кнігі ён літаральна глытаў, даставаў іх шмат. Па ўсім было відаць, што ён мае сувязі за сценамі астрога.

Калі да Галубовіча звярачаўся хто-небудзь з сяброў з запытаннем, ён лагодна і жычліва адказваў, тлумачыў незразумелае, а за жарт плаціў дасціпным добрадушным жартам.

Падняўшыся з нараў, Галубовіч браўся за свой абыклы занятак — мераў крокамі камеру, мусіць, разважаў над прачытаным. На твары яго клаўся адбітак нейкай неспакойнай думкі. Потым аблічча яго праяснялася, Аляксандар развясельваўся, падыходзіў да Уладзіка, ці да Сымона, або да Андрэя — гэта была самая знітаваная чацвёрка ў камеры.

— Ну, што, дружок? Пусцім дымок? — казаў Галубовіч, лагодна ўсміхнуўшыся.

Сябры садзіліся каля тутуновай скарбонкі і закурвалі. Яны не распытвалі Галубовіча, чаму ён часамі такі маўклівы і сур'ёзны. А Галубовіч, нахадзіўшыся, пакурыўшы, трохі пажартаваўшы, садзіўся на нары і доўга запісваў нешта ў ёмкі сшытак.

Андрэй аднойчы ўбачыў, што Аляксандар Галубовіч вырваў напісанае са сшытка, улажыў у пераплёт кнігі і перадаў яе на пагулянцы аднаму з крымінальнікаў.

Андрэя цягнула да гэтага чалавека. Галубовіч таксама ставіўся да яго больш уважліва, хоць выразна гэтага не паказваў, а часцей звярачаўся да Уладзіка і добрадушна падсмейваўся з яго.

Уладзік-жа строга прытрымліваўся ім самім заведзенага ладу. Кожны дзень раніцаю ён займаўся гімнастыкаю «па Мюлеру». Гімнастыка гэта была зручна тым, што ёю можна было займацца і ў астрозе. Складалася яна з цэлага раду розных практыкаванняў. Пачыналася з таго, што гімнаст станавіўся пасярод камеры, шырока расстаўляў ногі, а рукі клаў на пояс. Наўперад ён нагінаўся, пругка трымаючы паясніцу, потым адкідаўся назад, затым нахіляўся налева і направа. Другое практыкаванне складалася з таго, што, не знімаючы рук з пояса, Уладзік пакручваўся вакол свае восі то ў правы, то ў левы бок, наколькі хапала змогі. Далей у ход пускаліся рукі і ногі. Кульмінацыйны пункт гімнастыкі заключаўся ў тым, што гімнаст клаўся на падлогу, выцягнуўшыся ва ўвесь рост, абапіраўся на пальцы рук і на наскі. На кончыках пальцаў трэба было падымацца і апускацца дванаццаць разоў. Гэта лічылася рэкордам. Выконваючы такое практыкаванне, Уладзік моцна ўдыхаў і выдыхаў паветра носам. Прарабіўшы

ўвесь комплекс гімнастыкі, ён стамляўся, пасля чаго казаў:

— А цяпер папіць кіпяточку.

Сырой вады Уладзік, ахоўваючы здароўе, не піў, у яго заўсёды была ў запасе гатаваная.

Стары Юзафовіч, лежачы на нарах, наглядаў, як мардаваўся Уладзік. Часамі ён не вытрымліваў і лагодна, па-бацькоўску, казаў:

— Эх, сынку, маеш кроплю здароўя і сілы, дык шануй іх, бо гэтак доўга не надыхаеш.

Пасля ранішняй зарадкі і снедання Уладзік прымошчваўся каля стала, браў падручнікі па латынскай мове і па алгебры. Пазаймаўшыся старанна з гадзіну, Уладзік завучваў некалькі латынскіх слоў, сказаў, скланаў, пасля чаго рабіў перапынак і пытаў дзеда Юзафовіча:

— Скажы, дзед, што значыць: «Dentibus crepitavit»?

Дзед адмоўна круціў галавою.

— А бог яго ведае, сынку! Можа, ксёндз адказаў-бы на гэта.

— А гэта, дзеду, значыць, — з выглядам прафесара тлумачыў Уладзік: — Зубамі скрыгіча!

— Я во і гляджу, што ты, сынку, скрыгічаш уночы зубамі! — адказвае дзед Юзафовіч. — Кінь, дзеткі, і гэта сваё мардаванне і гэту навуку — здаравейшы будзеш!

Уладзік сапраўды часта ўночы скрыгітаў зубамі.

У хуткім часе захапленне латынню прайшло. Засталося ад яе ў памяці Уладзіка ўсяго некалькі слоў і сказаў, якімі ён карыстаўся ў некаторых выпадках. Калі, напрыклад, трэба было сказаць, што ўсё на свеце нетрывала, што ўсё праходзіць або забываецца, дык ужываўся сказ: «Sic transit gloria mundi» — так праходзіць слава зямлі.

Таксама як і Сымон Тургай, Уладзік пачаў болей захапляцца матэматычнымі навукамі. Да іх на некаторы час далучыўся і Андрэй Лабановіч. Адносна латыні Сымон і Андрэй прытрымліваліся слоў Пушкіна: «Латынь из моды вышла ныне», хоць ад Уладзіка і самі непасрэдна з падручніка перанялі некалькі латынскіх выслоўяў.

Кожны з насельнікаў камеры меў свой занятак і праводзіў час так, як лічыў для сябе найбольш мэтазгодна.

Іван Сарока не толькі цэлымі гадзінамі сядзеў каля закованага ў жалеза акна і крышыў для галубоў счарсцвелы арыштанцкі хлеб. Сарока лічыўся майстрам на ўсе рукі: дома ён быў добрым гаспадаром і нават аграномам. Усім цікавіўся, да ўсяго даходзіў сам, сваёю галавою. Калі галубы былі накормлены так, што ўжо болей не ляцелі на падаконнік, Сарока знаходзіў сабе іншы занятак. Ад людзей, галоўным чынам тых, што сядзелі ў астрозе, пераняў ён умельства вылепліваць з хлеба мастацкія фігуры і пешкі для гульні ў шахматы, вельмі трывалыя і моцныя. Паламаць іх было цяжка, можна было разбіць хіба толькі палажыўшы на кавадла і б'ючы ёмкім малатком. Сакрэт моцы заключаўся ў тым, што перад вылепліваннем хлеб трэба было пераважаваць і вымесіць спецыяльным спосабам, пасля чаго ён рабіўся гнуткім і клейкім. Вылепіўшы і адштукаваўшы фігуры і пешкі, Іван Сарока афарбоўваў іх у адпаведныя колеры, і тады ўжо выраб атрымліваў пуцёўку ў жыццё. Попыт на шахматы быў вялікі. Ад астрожных майстроў яны часамі пераходзілі на волю, у горад, а ў камеры амаль не сходзілі са стала. Каля пары шахматыстаў, якія зрэдку мяняліся, заўсёды стаяў невялікі гурток аматараў шахматнай гульні. Нагуляюцца бывала так, што калі пакладуцца вечарам спаць, дык і шахматная дошка, і фігуры і заматованы кароль доўга стаяць у вачах.

Адзін толькі Лазар Мардуховіч не прымаў удзелу ў шахматнай гульні і не цікавіўся ёю. Ён лічыў, што гэта не дастойна рабочага чалавека. Зранку пасля паверкі Лазар ішоў пад канвоем у турэмную шавецкую майстэрню шыць і рамантаваць абутак. Хадзіў туды па сваёй волі, бо не было такога права, каб прымусіць засуджанага ў крэпасць да той ці іншай працы. Перад вячэрняю паверкаю яго прыводзілі ў камеру. Лазар, закончыўшы рабочы дзень, старанна ўмываўся, надзяваў свой лепшы гарнітур, падмацоўваўся хлебам і каўбасою. Пасля гэтага з поўгадзіны хадзіў па камеры ўзад і ўперад, потым клаўся на сваё месца на нарах і спяваў песні.

Голас у яго быў праз меру танклявы, дый песні падбіраў ён жаласныя, пераважна астрожныя.

Говорила сыну мать —
Не водись с ворами:
В Сибирь-каторгу сошлют,
Скуют кандалами.

З вялікім натхненнем спевака заліваўся Лазар, надаючы свайму голасу самую тонкую лірычнасць. Спяваў ён выключна для самога сябе і ў спевах знаходзіў найвышэйшую асалоду. Як ставіліся жыхары камеры да песень, Лазара мала цікавіла. На дзеда Юзафовіча, як і на шмат каго з карэнных жыхароў камеры, Лазаравы спевы рабілі самае непрыемнае ўражанне. Але навошта псаваць чалавеку настрой, калі ў песнях забываў ён астрожную няволю?

— А бадай ты захлынуўся гэтаю сваёю песняю! — ціха бурчаў дзед Юзафовіч, але так, каб пачуў Уладзік.

Дзед любіў Уладзіка і кампанаваў з ім болей, чым з іншымі. Калі часамі Уладзіку нядужылася, дзед накрываў яго нанач сваёю бравэркаю. Назаўтра Уладзік уставаў здаровы.

— Ну, дзеду, у вашай бравэрцы захована лекавая сіла, — казаў Уладзік, аддаючы Юзафовічу вопратку. — Прапацеў, і як рукой зняло!

Дзед быў рады, што яго пацыент адчуваў сябе добра і што бравэрка адыграла ў гэтым дадатную ролю.

На дзедава абурэнне песнямі Лазара Уладзік казаў:

— Сапраўды, гэта не спевы, а скуголенне сабакі, які не прывык яшчэ да ланцуга. Ды няхай спявае. Цешся, ліска, вяселле блізка — каўбасы з'ясі.

Але часамі абураўся і Уладзік.

— Кінь ты, Лазар, цягнуць лазара! Слухаць моташна!

— Дык ты не слухай, — адказваў спакойна Лазар. — І што гэта за жыццё? За што-ж я змагаўся на волі? Тут, брат, астрог, і я раблю, што хачу.

— Дуй, дуй, брат Лазар! — ці то сапраўды, ці то ў насмешку заступаўся за Лазара Сымон Тургай. — Тваe спевы і твой голас такія, што слухаеш і сэрца замірае, і вочы на лоб лезуць.

Лазару было цяжка пярэчыць. Крыху памаўчаўшы, здавалася толькі для таго, каб percатравіць сваю крыўду на людскую несправядлівасць, ён з яшчэ большым захапленнем спяваў:

О, ночь темна! О, ночь глуха!
О, ночь последняя моя!
Я отдал всё и кровью смыл
Позор, позор страны родной!

Лабановіч не ўмешваўся ў канфлікт. Ён сядзеў каля нараў на казённым сенніку і пісаў пісьмо Сымону Тургаю. З некаторага часу, будучы ў адной камеры, яны пачалі пісаць адзін аднаму пісьмы, нібы іх раздзялялі цэлыя сотні вёрст. Пачатак гэтай перапісцы паклаў Лабановіч. Аднойчы ён заўважыў: летам у гарачы дзень падае снег! Гэта цвілі таполі, і іх белы пух плаваў на ветры. Андрэй, каб павесяліць сябра, пісаў:

«Дарагі мой Сымоне! Перакідалі мы і другую зіму. Вось зараз выпусцяць нас на пагулянку. Я пакажу табе цікавую з'яву. У ясны летні дзень ты ўбачыш, як у паветры кружацца сняжынкі. Упаўшы дзе-небудзь каля сцяны на зямлю, яны не растаюць на гарачым сонцы... Як жывеш ты, мой дружа? Аб чым ты больш за ўсё думаеш? Напішы мне, будзь ласкаў. Моцна абнімаю цябе, цалую. Мой адрас: 7-я камера. Паштовая скрынка — чамаданчык пад нарамі. Навекі твой Андрэй».

Скончыўшы пісьмо, Андрэй заадрасаваў яго і потайкам падкінуў у Сымонаў чамадан, што таксама стаяў пад нарамі.

У той-жа дзень Сымон, выцягнуўшы з-пад нараў чамаданчык, угледзеў пісьмо, прачытаў яго, нічога не сказаў Андрэю і сеў адказваць негаданаму карэспандэнту. Так і пачалася перапіска.

— Трэба на пошту зазірнуць. — І то той, то другі лез пад нары і знаходзіў у чамаданчыку пісьмо.

Аднойчы Сымон прызнаўся Андрэю, хто пісаў адозву да настаўнікаў: гэта быў добра знаёмы яму настаўнік, па прозвішчу Жук. І вось што прыдумалі сябры: напісаць Жуку такое пісьмо, каб ніхто, апроч аўтара адозвы, не ўразумеў яго сэнсу.

Аднаму астрожнаму рысавальшчыку сябры далі тэму:

нарысаваць звычайнага чорнага жука, даць яму ў лапку ручку з пяром. Жук выводзіць словы: «Таварышы настаўнікі!» Цэнтральнаю фігураю рысунка быў малады чалавек, адзеты, як адзяваліся летам вясковыя настаўнікі. На плячах у яго ляжаў вялізны дзервяны крыж. Пад цяжарам чалавек сагнуўся, адразу было відаць, што яму цяжка. Унізе пад рысункам былі напісаны словы з прарока Ісайі: «Той грехи наши понесе, и язвою его мы исцелихомся».

Рысунак сябрам спадабаўся. Яны палажылі яго ў канверт і адправілі пісьмо Жуку нелегальна. Ці атрымаў яго адрасат і як паставіўся да рысунка, сябры не дазналіся.

## XLII

І радасна і сумна набліжэнне канца.

Сумна, калі канец кладзе сабою мяжу і аддзяляе ад усяго таго, чым ты жыў, у чым знаходзіў сэнс, прыемнасць, захапленне. І наадварот, мы цешымся, калі набліжаемся да такой мяжы, што пакідае за сабою бязрадасны, цяжкі і пакутлівы кавалак жыцця, і пераходзім у другі яго круг — ясны, прываблівы, жаданы.

На мяжы такога канца, напярэдадні волі стаялі зараз Лабановіч, Тургай, Лявонік і Галубовіч. Надыходзіла трэцяе лета астрожнай пакуты. І дзіўная справа! Калі нашы нявольнікі акідалі ўнутраным зрокам без малога тры пражытыя ўжо гады, дык гады гэтыя зліваліся ў адну малавыразную пляму, у якой дні і ночы, месяцы, вёсны і зімы мала чым адрозніваліся адны ад другіх — суцэльная аднастайнасць, нібы перад вачамі пралегла мёртвая пустэля. І трэба было напружваць памяць, каб ажывіць тую ці іншую з'яву або малюнак з астрожнага побыту.

— Два месяцы і поўмесяца! Ты разумееш гэта, Уладзік? — трос Лявоніка за плечы Сымон Тургай.

— Разумею і адчуваю, — адказаў Уладзік, пазіраючы праз клеткі жалезных прутоў у акне на зяляніну садоў. адкуль чуліся маладыя песні, вясёлыя галасы і смех бестурботнага юнацтва, хлопцаў і дзяўчат.

— Прастор, прастор і воля там, але не нам яны, не нам! — падражніў Уладзіка Андрэй.

— Хацеў-бы ты, Уладзік, пабыць там? — пытаў Сымон і паказваў на сад, адкуль даносіліся галасы.

— Думаю, што і ты не адмовіўся-б ад гэтага,— азваўся Уладзік.

— Не дрэйф, Курачкін: будзеш на волі! — такая прымаўка бытавала тады ў турме.

Тым часам насельніцтва камеры патроху змяншалася. Выпусцілі Івана Сароку, Мардуховіча. За імі на чарзе быў дзед Юзафовіч. Праз некаторы час і яго паклікалі ў кантору, сказаўшы, каб забіраў манаткі. Хоць дзед і чакаў гэтага часу, але ўсё-ж дужа ўсхваляваўся. Нескладаныя дзедавы пажыткі ўжо ляжалі на нарах. Наглядчык адамкнуў дзверы камеры і ўрачыста сказаў:

— Ідзі на волю, дзед!

Дзед Юзафовіч узрушыўся яшчэ болей. Ён схапіў з нараў клунак, а потым паклаў яго назад. З паспешлівасцю, колькі дазвалялі яму семдзесят гадоў, ён кінуўся да Тургая, да Лабановіча, моцна і доўга паціскаў ім рукі.

— Дзякую, дзякую вам за вашу дабрату, за ўвагу да мяне, старога.

Развітваючыся з Уладзікам, дзед абняў і горача пацалаваў яго.

— Няхай табе, сынку, дае бог шчасця!

Болей ён гаварыць не мог: на сівыя вусы, як срэбра, скаціліся буйныя кроплі слёз.

— Трымайся, дзеду, у тваёй бравэрцы шмат захавана лекавай сілы! — жартаваў Уладзік.

У дзвярах дзед звярнуўся да жыхароў камеры:

— Бывайце, дзеткі, здаровы! Дай, божа, і вам шчасліва дачакацца часу вызвалення.

Крыху стала сумна, калі дзед Юзафовіч старэчаю паходкаю спускаўся з другога паверха астрога ўніз і схаваўся за жалезнымі варотамі.

— Папрастарнела ў камеры, нібы ў лесе, калі ў ім ссякуць старое дрэва, — з сумам у голасе заўважыў Лабановіч.

Сымон Тургай, каб павярнуць настрой у другі бок, прамовіў:

— Ты не зважай на «старое дрэва»! Яно яшчэ падкоціцца да свае бабкі! Пайшоў на волю наш дзед!

Аляксандар Галубовіч, які ўвесь час маўчаў, падаў свой голас:

— А за дзедам і я следам.

Яму заставалася яшчэ дзён дзесяць пабыць з таварышамі, з якімі зблізіў трохгадовы побыт у астрозе.

Лабановічу хацелася паразважаць аб жыцці, аб людскім лёсе.

— Людзі, як хвалі ў рэчцы: ідуць ды ідуць адна за другою, пакі не закалыша іх цішыня, — сказаў ён.

— Калі людзі — хвалі рачныя, дык няхай не закалыхвае іх людская цішыня, — многазначна заўважыў Галубовіч. На слова «людская» ён зрабіў націск і ўзяў Андрэя пад руку. Яны доўга шнуравалі па камеры, а потым прыселі на нарах, паціху ведучы гутарку, якая захапіла іх, а затым прадоўжылі яе ў часе чарговай пагулянкі.

— Такі стан рэчаў не можа цягнуцца дзесяцігоддзямі, — казаў Андрэй Галубовічу, ходзячы на турэмным двары: — Рэвалюцыйны рух прыдушаны, але не спынены — ён жыве. І хіба можна паставіць такую сцяну, праз якую не перайшлі-б чалавечыя думкі! Рэвалюцыйны рух — жывая вада, што тоіцца ў нетрах зямлі, у сэрцы і пачуццях народа. Яна выб'ецца на паверхню, пралажыць сабе дарогу і пазносіць усё, што скоўвае незлічоныя сілы людскія.

— Іначай і быць не можа, — пераконана пацвердзіў Галубовіч. — А для гэтага не трэба, каб «людская цішыня закалыхвала рачныя хвалі»... Дарэчы, да якой палітычнай партыі ляжыць тваё сэрца?

Аляксандар закрануў якраз тое пытанне, што даўно займала Андрэя. Лабановіч падумаў, паківаў галавою.

— Эх, дружа мой! — сказаў ён. — Калі-б мы мелі такія вагі, дзе можна было-б узважваць добрае і благое! Тады паставілі-б на дарогах слупы з напісамі: налева — праўда, направа — хлусня. І так лёгка-б стала хадзіць па свеце, затое, відаць, было-б нудна і нецікава.

— Гатовай праўды захацелася? — прамовіў Галубовіч. — Не, брат, праўду трэба здабываць з боем. А гэта не так проста, як малююць балбатуны-анархісты: шах-

мах — скінулі цара, і кожны сам сабе сіла і права. Можа, табе гэта да спадобы?

Лабановіч рашуча адмовіўся.

— Па шчырасці сказаць, я — на ростанях, — загаварыў ён, — не вырашыў, куды далучацца...

— Пара, брат, пераступіць гэты парог, — сказаў Галубовіч. — Спадзяюся, што ты зробіш верны крок. Правільна, зараз такі час, калі рэвалюцыйны рух прыцішыўся. Але ты сам нядаўна слушна казаў, што гэты рух — жывая вада, якая тоіцца ў сэрцы людзей. Жыццё не спыняецца і на месцы не стаіць — такая дыялектыка.

— А як прымаеш ты сацыялістаў-рэвалюцыянераў? Пытаюся так таму, што мне найчасцей прыходзілася сутыкацца з імі.

— І яны табе па душы? — запытаў Галубовіч.

— Не, гэтага я не сказаў-бы. Я не бачу ў іх таго жывога, глыбокага струменю, што выводзіць рэчку на вялікія прасторы.

— Хоць гэта трохі і туманна, але ў асноўным верна, — адказаў Галубовіч. — Эсэры вабяць інтэлігентаў — выхадцаў з сялян. І вы-ж хацелі ўвайсці ва Усерасійскі настаўніцкі саюз. А на гэтую арганізацыю ўплывалі эсэры. Яны казыраюць сваёю аграрнай праграмаю. Але-ж гэта не праграма, а тупік, бо эсэры, заігрываючы з сялянствам, перабольшваюць яго магчымасці. Патрэбен цвёрды саюз сіл — пралетарыяту і сялянства. Тады рэвалюцыя пераможа. На такім пункце погляду і стаяць сацыял-дэмакраты.

— Але-ж партыя эсэраў не з'яўляецца адзінай, строга злітнай арганізацыяй, — заўважыў Лабановіч. — У яе радах ёсць розныя плыні.

— Тым горш, — адсек Галубовіч. — Гэта толькі сведчыць, што эсэры — дробнабуржуазная партыя, якая не мае пад сабой надзейнай асновы.

Лабановіч пасміхнуўся.

— Такі аргумент гаворыць і не ў карысць сацыялдэмакратаў, бо і сярод іх ёсць дзве плыні. Ты-ж сам казаў мне аб гэтым.

— Калі я гаварыў — сацыял-дэмакраты, дык меў на ўвазе бальшэвікоў, — прамовіў Галубовіч.

Аляксандар крыху задумаўся, а потым з ясным, прасветленым тварам пачаў:

— Адзінае вернае і правільнае вучэнне аб рэвалюцыі і аб законах, па якіх развіваецца грамадства, гэта — марксізм, марксісцкае светаразуменне. Ад усяго сэрца раю табе: азнаёмся, глыбока засвой гэту навуку — яна будзе для цябе не верставым слупам, а маяком, які паказвае дарогу. Сіла большэвікоў у тым, што яны цвёрда трымаюцца марксізма.

Галубовіч ускінуў вочы на Андрэя.

— Не палічы гэта за нейкую пропаведзь. Я звяртаюся да цябе, як да чалавека, якому веру. Большэвікі адкідаюць прыгожыя словы, мы не цураемся самай чорнай работы ў імя рэвалюцыі. Трэба абудзіць народ, выхаваць, згуртаваць і павесці на рашучы і ўжо астатні штурм царызма. Ты не павінен застацца ў баку ад гэтага штурму.

Галубовіч узяў Андрэя за плечы і пільна паглядзеў яму ў вочы.

— Дазволь мне верыць, Андрэй, што ты ніколі не адступішся ад народа. Я не сумняваюся ў гэтым, бо ты і так моцна з ім звязаны. А таму — уступі ў цесную сувязь з марксістамі, з большэвікамі. На гэтай дарозе, спадзяюся, мы з табой сустрэнемся. Калі не знойдзеш ты мяне, я адшукаю спосаб напамянуць табе гэтую гаворку.

Нагулянка скончылася. Наглядчыкі пачалі падганяць зняволеных вяртацца ў камеры. Ідучы па сходах, Галубовіч гаварыў далей:

— Хацелася-б мне сказаць колькі слоў і аб нашых таварышах, аб Тургаю і Лявоніку. На Тургая я таксама моцна пакладаюся, ён не збочыць з дарогі. А вось Лявонік — у ім я не ўпэўнены. Першае выпрабаванне, першая бура, змяўшыя часова яго жыццё, адвярнулі яго ад рэвалюцыі, ад народа, ён будзе шукаць у далейшым спакою і абывацельскага прытулку.

Усё, што казаў Галубовіч, западала ў душу Андрэя. Чалавек гэты, крыху старэйшы за Лабановіча, шмат перажыў, шмат перадумаў і цвёрда ішоў па шляху рэвалюцыйнай дзейнасці, быў пераконаным большэвіком.

Сардэчная размова зацягнулася на ўвесь вечар і заняла добрую палову астрожнай ночы.

## XLIII

У свой час, сардэчна развітаўшыся з сябрамі, Галубовіч вышаў з астрога. Андрэй крыху правёў яго па калідоры.

— Да сустрэчы! — яшчэ раз паціснуў руку Галубовіч.

Вярнуўся ў камеру Андрэй з невыразным пачуццём. Ён быў рад, што сябар вышаў на волю. У той-жа час было шкада, што перарвалася сяброўства. І камера здалася пустою. Але вобраз малапрыметнага, удумлівага, разважлівага таварыша не выходзіў з памяці.

Час праходзіў сваёю чаргою. З кожным днём набліжаўся тэрмін вызвалення.

— Ну, хлопцы, — сказаў аднойчы Сымон Тургай Уладзіку і Андрэю, — тыдні праз два і я вылятаю ў вырай: адпраўляюся па этапу ў сваю Навáгрудскую турму на вызваленне.

— Хоць і шкада будзе разлучацца з табою, але мы парадуемся і тваёю і нашымі радасцямі, — адказаў Лабановіч. Ён яшчэ хацеў штось сказаць прыяцелю, але дзверы ў камеру расчыніліся, увайшоў суровы Дожджык. Ён хітравата зірнуў на Андрэя.

— Ідзіце ў кантору: да вас прышлі на пабачэнне.

Да Лабановіча амаль кожны тыдзень прыходзіў у адведзіны хто-небудзь з блізкіх або старых знаёмых. Таварышы па няволі яму часамі з гэтай прычыны зайздросцілі. Але сягонняшні дзень не быў днём наведвання. Хто-ж-бы гэта мог быць?

Лабановіча прывялі ў пакой, дзе звычайна адбываліся спатканні. Там было даволі цёмна. Апроч таго, асоб, што прыходзілі з волі, адгароджвала ад зняволеных падвойная драцяная сетка. Ад аднаго яе крыла да другога было не меней як аршын. Спатканні звычайна адбываліся ў прысутнасці турэмнай варты.

Лабановіч заняў месца па адзін бок сеткі. З процілеглага боку стаяла жанчына. Андрэй паўглядаўся ў рысы яе твару і сумеўся. Насупроць яго стаяла Ліда, ды не тая вучнёўка-падлетак, а расцвіўшая ва ўсёй красе, зграбная, стройная, свежая, бы майская кветка, дзяўчына! Андрэй не зводзіў з яе вачэй і маўчаў, нібы ў зняменні.

Ліда ўсміхнулася.

— Не пазнаеце мяне?

— Ліда! Лідачка! — вырвалася з грудзей Андрэя.

— А вы так змяніліся, сталі такім бледным да яшчэ бараду запусцілі. Каб я сустрэла вас у горадзе, дык і не пазнала-б.

— Бледны, Лідачка, таму, што сяджу пад замком, без свежага паветра. А сваёй барадзе я не гаспадар.

— Што, вас прымушаюць запускаць бараду? — здзівілася Ліда.

— Не, — засмяяўся Андрэй і зірнуў на наглядчыка Рутовіча, якому Дожджык загадаў быць пры спатканні. Наглядчык адышоўся далей.

— Мая барада належыць комуне, таварышам па камеры. У барадзе я хаваю грошы і складаны нож у часе вобыскаў, бо гэтага нам не дазваляецца мець на руках.

— У барадзе? Грошы і нож?! — здзівілася Ліда. Яна яшчэ ўважлівей ускінула цёмныя авалы вачэй на былога настаўніка і весела засмяялася. А потым на яе твары адбіўся сум.

— І многа вас... такіх няшчасных у камеры?

— А чаму «няшчасных»? Часамі нам бывае і дужа весела. Часу многа, на службу хадзіць не трэба. Жывем успамінамі аб мінулым, гадаем пра сваю будучыню, пра волю, а яна ўжо блізка. Усюды, Лідачка, жыць можна, нават і ў астрозе. А вы як жывеце, Лідачка? Я вельмі рад, што ты ўспомніла мяне, наведала, бо думаў, што вы навекі страчаны для мяне.

Лідзін твар спахмурнеў. Вясёлая і такая чароўная ўсмешка пагасла. Ліда апусціла галаву, утупіла на момант вочы ў дол. Потым падняла іх на Андрэя.

— Можа, яно так і ёсць, — ціха і журботна прамовіла яна.

Лідзіны словы балюча адгукнуліся ў сэрцы Лабановіча. Ён адчуў сэнс іх і не распытваў дзяўчыну, што яны значаць. Ды Ліда сама растлумачыла:

— Я выходжу замуж.

Лабановіч авалодаў сабою і сваім хваляваннем.

— Ну, што-ж? Жадаю вам быць шчаслівай у замужстве... За каго-ж выходзіш, Ліда?

Лабановіч зварачаўся да яе то на «вы», то на «ты». Ліда выходзіла замуж за памочніка начальніка станцыі,

на якой яна сама была тэлеграфісткаю. Горкая крыўда, быць можа, беспадстаўная, сціснула сэрца. Андрэй зараз не цікавіўся, хто гэты памочнік і на якой станцыі служаць яны. А калі ўвайшоў Дожджык і сказаў канчаць пабачэнне, Андрэй не пашкадаваў, што яно скончылася. На развітанне ён кіўнуў галавою. Ліда доўгім поглядам глядзела на Лабановіча. Яму здалося, што ў гэтым поглядзе было многа пакуты і жалю. А можа, яму проста здалося.

Ён амаль не спаў усю ноч і ўсё думаў, лежачы на астрожным матрацы, пра Ліду, пра яе чароўную постаць, пра апошні развітальны пагляд, пра ўсё, што гаварыла яна на гэтым недарэчным пабачэнні. Чаго прыходзіла яна? Няўжо для таго толькі, каб абудзіць у сэрцы тое, што даўно перажыта, перачута? Нашто было прычыняць яму новы, яшчэ болей востры боль? А можа, і іншыя думкі і пачуцці кіравалі ёю? Можа, ён, Андрэй, нячула паставіўся да яе? І чаму не ўзяў у яе адраса? Ды нашто? Вобраз Ліды неадступна стаяў у вачах. І што найболей глыбока запала ў сэрца, гэта — апошні яе погляд.

«Ну, што-ж? Калі-б у чалавека не было горкіх разваг і прычын, выклікаўшых гэтыя развагі, дык не было-б і належнай вастрыні для ўспрыняцця жыцця і яго з'яў», — падвёў падрахунак Андрэй сваім бяссонным думкам.

З радасцю і ў той-жа час з жалем развітваўся Андрэй з Сымонам Тургаем, лепшым другам, якога набыў ён сабе ў астрозе. Сымон Тургай браў кірунак на свой Навáгрудак, каб там выйсці на волю.

— Раскідалася наша «тройца», — журботна сказаў Лабановіч, абнімаючы на развітанне Сымона.

— Дарма, Андрэй: не будзе тройцы, дык будзе двойца, — жартам адказаў Сымон. — Пішы, не забывай!

Андрэй з Уладзікам праводзілі Сымона да дзвярэй камеры. Дзверы замкнуліся, і хлопцы засталіся ўдвух з астрожных старажылаў.

— «Ах, братцы, мало нас! Голубчики, немножко!» — прыгадаў Уладзік выслоўе, вычытанае яшчэ ў пачатковай школе, і запытаў:

— Ну, што ты думаеш пра Янку Тукалу? Ён-жа такі быў шчыры, прыязны. А вось пісьма так ні разу і не прыслаў.

— І я пра яго думаю. І ведаеш, хачу знайсці Янку! Не можа быць, каб ён так і прапаў.

— А як ты яго знойдзеш?

— Па памятных кніжках Мінскай губерні. У іх ёсць усе школы. Натраплю дзе-небудзь на след і непрыменна знайду і паеду да яго, пагляджу, што за чалавек ён цяпер.

Чым бліжэй падыходзіў час вызвалення, тым болей хваляваліся Уладзік і Андрэй. Але гэта хваляванне было радасным, жаданым. Турбавала зараз адно: як уладзяцца яны ў новым жыцці, на волі?

Нарэшце настаў той дзень, якога так прагна чакалі тры гады. Нічым асаблівым не адзначыўся ён, гэты дзень. Незадоўга да паўдня пятнаццатага верасня тысяча дзевяцьсот адзінаццатага года адамкнуліся дзверы ў камеру. Увайшоў той самы Рутовіч, што вартаваў Лабановіча ў часе пабачэння з Лідаю. У руках у яго быў ліст паперы з прозвішчамі Андрэя і Уладзіка.

— Ну, збірайцеся ў добры час!

У турэмнай канторы Лабановіч атрымаў рэчы, адабраныя ў яго тры гады назад: складаны ножык, «неразлучны спадарожнік грыбных паходаў», і грошы. Усяго грошай з тымі, што перадавалі з волі на імя Андрэя, набралася без малога сотня. Іх па-таварыску падзялілі.

Уладзіка і Андрэя павёў за вароты астрога Рутовіч. Каб мець поўную волю, трэба было яшчэ заявіцца ў сыскны аддзел. З далікацтва і з пачуцця чалавечнасці, а галоўным чынам у надзеі атрымаць на поўкварты, Рутовіч ішоў побач з вызваленымі, але па другім баку вуліцы, каб людзі не дагадваліся, што Уладзік і Андрэй — арыштанты, выпушчаныя з астрога. Завёўшы сяброў у сыскны аддзел, Рутовіч развітаўся з імі і, вясёлы, з рублём у кішэні, накіраваўся ў першы шынок, які трапіўся па дарозе. А сяброў яшчэ доўга трымалі ў сыскным аддзеле. Чыноўнік, ад якога залежала адпусціць іх, таксама чакаў хабару. Уладзік ужо гатовы быў даць таксама рубель.

— Не смей, Уладзік, рабіць гэтага! Сядзелі тры гады, пасядзім і тры гадзіны.

Так і зрабілі. Страціўшы надзею на хабар, чыноўнік запісаў іх у кнігу злачынцаў, даўшы строгі наказ з'явіцца да павятовага спраўніка. Спраўнік, чалавек немалады, з сіняватым носам, даў сябрам навучанне, як павінны яны

трымаць сябе ў жыцці: не забываць бацькі-цара, веры і айчыны. Прачытаўшы натацыю, ён кіўнуў галавою, даючы гэтым знак сябрам, што яны цяпер вольныя людзі і могуць ісці, куды хочуць.

Калі яны апынуліся на вуліцы «вольнымі людзьмі», Уладзік сказаў:

— Не верыцца, Андрэй, што мы на волі, што за намі няма нагляду, канвойнікаў... Віншую, брат!

Сябры паціснулі адзін аднаму рукі.

— Куды, Уладзік, падасіся?

— Наўперад паеду ў Мікуцічы да бацькоў, пажыву трохі, агледжуся, а там—бог бацька. Ты-ж куды пакіруеш «стопы своя»?

— Насустрач жыццю і яго прыгодам,—адказаў Андрэй.

Ён успомніў Сымона Тургая і запавет Галубовіча. Гэты запавет і стаўся асноваю жыцця і дзейнасці Андрэя Лабановіча ў далейшым вандраванні па новых дарогах.

*1948 — 1954 гг.*

ЗМЕСТ

*Частка першая.* Верхань. . . . . . 4

*Частка другая.* На крыжовых дарогах 149

На белорусском языке
*Якуб Колас*
**НА РОССТАНЯХ**
**Трилогия**
***Том 2***
***Книга третья***
Государственное издательство БССР
Минск 1955